БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

# ЗАПІСЫ

## Кніга 5

Мюнхэн 1970

WEISSRUTHENISCHES INSTITUT FÜR KUNST UND WISSENSCHAFT, e. V.
WHITERUTHENIAN (BELORUSSIAN) INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

# Wissenschaftliche Schriften
# Annals

Band /Volume 5

München 1970

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
WEISSRUTHENISCHES INSTITUT FÜR KUNST UND WISSENSCHAFT, e. V.

# Scoriniana
# 1517—1967

München 1970

## ЗЬМЕСТ



---

Рэдактар / Schriftleiter: Dr. St. Stankievič

---

ЗАПІСЫ выдаюцца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Адрыс: Weissruthenisches Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland).

# INHALTSVERZEICHNIS



Das Jahrbuch WISSENSCHAFTLICHE SCHRIFTEN wird von dem Weissruthenischen Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland), herausgegeben.

Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, München 19, Bothmerstr. 14

## CONTENTS




ANNALS is a publication of the Whiteruthenian (Belorussian) Institute of Arts and Sciences, 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland).

## АД РЭДАКЦЫІ

*Зацікаўленьне доктарам Франьцішкам Скарынам і ягоным вялікім значаньнем у гісторыі друку, пісьменства й культуры Беларусі, ды й усёй усходняй Эўропы, зарадзілася яшчэ ў XVIII стагодзьдзі й з гэтае пары яно ўвесь час узрастае. Сяньня асобай, жыцьцём і шматкірунковай нязвычайнай дзейнасьцяй Скарыны цікавяцца ня толькі навукоўцы, але й пісьменьнікі, мастакі, культурныя ды грамадзкія дзеячы, а ці раз навет і палітыкі.*

*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ад колькіх ужо гадоў вядзе сыстэматычны збор і вывучэньне ўсіх, датычных да жыцьця, дзейнасьці й літаратурна-выдавецкай спадчыны доктара Скарыны актаў, дакумэнтаў, фактаў. Сабрана ўжо даволі шмат каштоўнага архіўнага матар'ялу, выяўлена ці мала й зусім новага. Вядзецца, адначасна, рэгістрацыя скарынаведнай літаратуры ды ўсёй, раськіданай на працягу блізу пяці стагодзьдзяў, «скарыніяны» наагул — ад часоў Скарыны й аж да нашых дзён.*

*Абапіраючыся на выніکі праводжаных дасьледваньняў ды пры нагодзе 450-х угодкаў выхаду першае надрукаванае Скарынам кнігі, што прыпадалі 6 жнівеня 1967 году, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва й наважыў выдаць гэты зборнік. Карыстаючы з кнігі важна ўсьведамляць, што складзены зборнік не паводле нейкае задуманае схэмы, а дадзеныя ў ім матар'ялы з тых галінаў і тых тэмаў, што былі якраз у працэсе навуковага распрацаваньня.*

*Дзеля абмежаваных фінансавых магчымацьцяў у кнігу, нажаль, не магло ўвайсьці колькі гатовых ужо да друку працаў. Дзеля тых самых прычынаў і друк падрыхтаванага яшчэ на пачатку 1967 году зборніка можна было распачаць толькі пры канцы году 1968-га. Спазьненьне гэтае, ізноў-жа, выклікала патрэбу адзначыць у кнізе ўсё істотнае, што ў галіне скарыніяны прынёс юбілейны 1967 год ды дапоўніць бібліяграфію рэгістрацыяй у ёй важнейшых публікацыяў 1967—69 гадоў.*

*Рэдакцыя спадзяецца, што й у сваіх, як на ўгодкавае выданьне, сьціплых памерах, зборнік будзе карысным усім тым, што жыцьцём і спадчынай доктара Франьцішка Скарыны цікавяцца. Асабліва грунтоўна апрацаваная «Бібліяграфія скарыніяны» можа паслужыць добрым дапаможным даведнікам пры далейшай дасьледнай працы над раскрыцьцём ува ўсёй шырыні ды велічы багатай духовай спадчыны й дзеяў жыцьця ды творчай дзейнасьці выдатнага выдаўца, пісьменьніка, лекара й вучонага Беларусі пары Рэнэсансу.*



ДОКТАР ФРАНЬЦІШАК СКАРЫНА
*Мастак — ПЁТРА МІРАНОВІЧ. Алей, 1967.*

# Доктар Франьцішак Скарына
# 1485?–1540

*Сымон Брага*

За жыцьцяпіснымі ведамкамі аб доктару Францішку Скарыну разглядаліся дасьледнікі ад самых зачаткаў навуковага зацікаўленьня Скарынавымі выданьнямі. Карціла пазнаць асяродзьдзе ды абставіны зь якіх вырас выдатны вучоны-гуманісты, перакладнік і выдавец аднае зь першых славянскіх Бібліяў, Бібліі беларускай, аўтар цікавых да іх прадмоваў і паясьненьняў. Рупіла глыбей унікнуць у сацыяльныя, нацыянальныя ды сямейныя абставіны ў якіх складаўся той глыбока хрысьціянскі, шчырапатрыятычны ды народна-дэмакратычны сьветагляд, якім азначаецца ўся літаратурная спадчына выдатнага Палачаніна. Хацелася нешта даведацца й пра ягоныя культурна-духовыя сувязі з краямі захаду Эўропы, пра ўплывы на ягоны сьветагляд вышэйшае ўнівэрсытэцкае асьветы ды гуманістычных ідэяў пары Рэнэсансу.

Ды вестак пра жыцьцёвы шлях доктара Скарыны аж да другое палавіны XIX стагодзьдзя было вельмі мала. Даўжэйшы час адзінаю крыніцай біяграфічных ведамак былі толькі выдадзеныя ім кнігі. Зь іх-жа было ведама, што доктар Скарына паходзіў з Полацка, што меў грунтоўную, завершаную двумя дактаратамі — навукаў вызваленых і мэдыцыны — вышэйшую асьвету, што выдаваў у гадох 1517—1519 у Празе, а каля 1525 году ў Вільні, кнігі, ды што ў выдавецкай дзейнасьці меў дапамогу з боку віленскіх багатых купцоў — найстаршага бурмістра Вільні Якуба Бабіча ды райцы места Багдана Онкава. На гэтым вестк**і**, зачэрпнутыя з прадмоваў ды дапісак да кнігаў, і канчаліся.

Нястача дакумэнтаваных, навукова праверавых біяграфічных дадзеных пакідала шырокае поле для здогадаў, з чаго шмат якія аўтары й скарысталі, асабліва тыя, што да асобы Скарыны падыходзілі з тае ці іншае канцэпцыі ды жыцьцяпіс ягоны намагаліся скласьці згодна з сваім, згары прынятым, задумам. У выніку біяграфія доктара Скарыны й абрастала вялікім лікам дапушчэньняў, здогадаў, ды ні на чым неабгрунтаваных лягендаў.

Толькі ад палавіны XIX стагодзьдзя пачынаюць урэшце паяўляцца публікацыі архіўных актавых матар'ялаў датычных да доктара Скарыны, якія паступова й раскрываюць усё новыя й новыя балонкі бурнага, бага-

тага ў драматычныя прыгоды, жыцьця гэтага выдатнага дзеяча беларускага Адраджэньня, выяўляюць новыя палітычна-культурныя асяродкі Эўропы кранутыя Скарынавай актыўнасьцяй ды ўсё новыя й новыя галіны шматкірунковых зацікаўленьняў і дзейнасьці доктара Скарыны.

Выяўленьне архіўных матар'ялаў ішло аднак-жа вельмі паволі. Калі Пётра Валадзіміраў у 1888 годзе выдаваў сваю манаграфію «Доктор Франциск Скорина», ведаў ён толькі сем датычных да Скарыны актавых запісаў. І два з іх — кракаўскія ўнівэрсытэцкія запісы — складаліся ўсяго з чатырох-пяці словаў кажны. Толькі зразумела, што й дадзены Валадзіміравам жыцьцяпіс доктара Скарыны быў вельмі эскізны, эпізадычны. Цяпер-жа, 80 год пасьля паявы Валадзіміравай кнігі, у зборах скарыніяны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва сканцэнтраваныя тэксты каля пяцьдзесяці актавых ды летапісных запісаў і дакумэнтаў пра доктара Скарыну ці ягоны род.

Не зважаючы на выяўленьне, апошнімі якраз гадамі, паважнага ліку актавага ды летапіснага матар'ялу пра доктара Скарыну, у якім вельмі шмат важных новых біяграфічных ведамак, а навет і на тое, што паважная іх частка была ўжо й друкаваная, і сучасныя, ня толькі журналістычныя, але часта й пісаныя навукоўцамі, жыцьцяпісныя нарысы пра доктара Скарыну ўсё яшчэ поўныя недакладнасьцяў ды ні чым не абгрунтаваных здогадаў, што падаюцца за зусім пэўныя факты. Вынікае гэта часта з тае ці іншае тэндэнцыі паасобных аўтараў, зь якою яны падыходзяць да асобы й біяграфіі выдатнага дзеяча беларускае культуры. Другая прычына — малая веда нававыяўленых дасьледнікамі біяграфічных ведамак дзеля цяжкасьці іх у патрэбе знайсьці. Хоць пераважна яны й былі друкаваныя, ды раськіданыя па розных, у розных мовах ды розных краёў выданьнях, ды ў часе на працягу колькідзесяці год, і знайсьці іх ды сабраць у патрэбе — заданьне ня гэткае й лёгкае.

Гэты кароткі жыцьцяпісны нарыс і пісаны з мэтаю ўзяць на ўвагу ўсе важнейшыя дасягненьні скарынаведных дасьледваньняў апошніх дзесяцігодзьдзяў, з накіраваньнем асаблівае ўвагі на пытаньні сяньня ўжо раскрытыя, выясьненыя, у межах ужо ня здогадаў, а фактаў. Друкуецца гэты кароткі біяграфічны нарыс з надзеяй, што ён стане карыснаю дапамогаю тым, хто будзе шукаць найнавейшых правераных фактаў ды вестак пра ход жыцьця й дзейнасьці выдатнага Палачаніна, да пары, пакуль грунтоўны, усебакова распрацаваны, жыцьцяпіс доктара Скарыны будзе напісаны й выдадзены.

## У РОДНЫМ ПОЛАЦКУ

**Ніякіх сумляваньняў што да месца паходжаньня й нараджэньня Францішка Скарыны ніколі ня было, бо ў кажнай з сваіх кнігаў Скарына сам падаваў, што ён «з слаўнага града Полацка». Затое й да сяньня не ўстаноўленыя ні дата, ні навет год ягонага нараджэньня. Можна толькі сказаць, што напэўна не нарадзіўся ён у годзе 1490-м, як некаторыя аўтары падаюць дзеля памылковае інтэрпрэтацыі азначэньня П. Валадзімірава, што Скарына нарадзіўся «каля 1490 году». У БССР у 1965 годзе на гэтай падставе былі навет адзначаныя й «475-я ўгодкі нараджэньня Скарыны».**

Валадзіміраў 1490-ты год падаў як межавы толькі год найпазьнейшага магчымага часу нараджэньня Скарыны, а не як сам год ягонага нараджэньня. І выходзіў пры гэтым ён з факту, што Кракаўскі ўнівэрсытэт, на які Скарына быў запісаны ў 1504 годзе, прыймаў студэнтаў не маладзейшых 14 год. Не адзін, а колькі жыцьцяпісных фактаў паказвае на тое, што Францішак Скарына мусіў нарадзіцца год колькі раней пададзенага найпазьнейшага межавога году, і хіба будзем блізкія праўды, калі ўмоўна за прыблізны год нараджэньня, да часу выясьненьня пытаньня, прымем сярэдзіну 1480-х год, ці год 1485(?)[1]

Ня існуе сяньня ніякіх паважных сумляваньняў што да сацыяльнага паходжаньня доктара Скарыны. Вышаў ён з купецкага, і даволі заможнага, роду. Як з полацкіх актаў 1535 году вынікае, бацька Францішка, Скарына Лукаш, меў у Полацку на замку й зямельную маемасьць. Пасьля ягонае сьмерці зямля гэтая перайшла ў спадчыне на ягоных двух сыноў, Івана ды Францішка. Каля 1492 году Лукаш Скарына меў канфлікт з купцамі Маскоўшчыны, з чаго трэба думаць, што быў зь імі ў нейкіх гандлёвых дачыненьнях. Брат-жа доктара Францішка, Іван Скарына, вёў пазьней гандлёвыя справы з купцамі Вільні, Рыгі, Львова, Пазнаня, Варшавы. У Гданску жыў — «служыў у немцаў» — ягоны сын Раман. У Пазнані была вялікая гандлёвая база й склады скураў Івана Скарыны. Брату Івану да Пазнаня доктар Скарына дастаўляў у большай колькасьці лёнскае сукно. Дык род Скарынаў на пачатку XVI стагодзьдзя быў увязаны ў шырокі, гуртовы гандаль міжнароднага характару й засягу, гандаль, што сваімі апэрацыямі ахопліваў колькі краёў і дзяржаваў цэнтральнае ды ўсходняе Эўропы. Бясспрэчна, што матар'яльны дабрабыт, ды частыя купецкія кантакты з культурнымі асяродкамі Эўропы абумовілі ў вялікай ступені й факт накіраваньня маладога Францішка Скарыны на вышэйшую ўнівэрсытэцкую навуку.

Скарына напэўна не паходзіў з шляхоцкага стану, як раней часам дапушчалі некаторыя аўтары, выходзячы з факту ўжываньня ім гэрбовага знаку — маладзіка ў сонцы. Знак гэты не геральдычнага паходжаньня й значаньня — гэткага гэрбу на землях Беларусі геральдыка ня знае. Гэта толькі Скарынаў друкарска-выдавецкі знак, падобны тым, якія шырака тады ўжо ўжывалі паважнейшыя выдаўцы-друкары Эўропы, і знак гэты зусім ня сьветчаньне нейкага шляхоцкага паходжаньня Скарыны. У актавых падуанскіх запісах, у якіх пры прозьвішчах дактарызаваных словам nobile зазначалі заўсёды іх шляхоцкае паходжаньне, слова гэтае ніколі не пастаўленае пры прозьвішчы доктара Скарыны. Ды й сам факт, што Скарына студыяваў мэдыцыну й быў лекарам, дастатковы довад ягонага не шляхоцкага паходжаньня. Ані магнаты, ні нават менш заможныя шляхціцы, сыноў сваіх у тую пару на мэдыцынскія факультэты не кіравалі, на лекароў ня вучылі, бо прафэсыю гэтую ўважалі нясумяшчальнай з сваім клясавым гонарам.

---

[1] Шырэйшы разгляд усіх біяграфічных фактаў, што паказваюць не на год 1490-ы, як год нараджэньня Францішка Скарыны, дадзены ў адмысловай працы «Калі нарадзіўся й памёр доктар Скарына?», якая, дзеля нястачы месца, нажаль не магла быць надрукаваная ў гэтым зборніку.

Ды й ува ўсіх Скарынавых выданьнях не знайсьці ніякіх азнакаў ягонага ня то шляхоцкага паходжаньня, але й якоенебудзь бліжэйшае сувязі з пануючым тады сацыяльна шляхоцкім ці магнацкім станам Беларусі. Наадварот — там кансэквэнтнае ігнараваньне гэтае сацыяльнае клясы ды выразнае няпрыхільнае да яе стаўленьне, што ў Скарыны, выхадца купецка-меставога асяродзьдзя, толькі зразумела. І мэцэнатамі ягонае выдавецкае справы былі не шляхта, не магнаты, а купцы.

Няма ніякіх сумляваньняў і што да нацыянальнага паходжаньня доктара Скарыны. Месца нараджэньня, беларуская мова, якою ён выдаваў свае кнігі, з адначасным зазначэньнем, што робіць гэта дзеля таго, што яго «з таго языка міласьцівы Бог на сьвет пусьціў», частае падчырківаньне сваіх патрыятычных пачуцьцяў да народу гэтае мовы й яго краю, сьветчыць дастаткова пра беларускасьць палачаніна Скарыны. У мове перакладаў Скарыны, і асабліва ў прадмовах да кнігаў, побач невялікага ліку чэхізмаў, некаторых палянізмаў, ды захаванага ў паважнай колькасьці царкоўнаславянскага моўнага элемэнту, знаходзім толькі беларускую моўную стыхію. Ніякіх расейскіх, для прыкладу, моўных асаблівасьцяў ў Скарыны ніхто з моваведаў не знайшоў.

Не зважаючы на бясспрэчнасьць беларускага паходжаньня, раней, пакуль жыцьцяпіс доктара Скарыны быў менш ведамы, а мова ягоных выданьняў была слабей вывучаная, здараліся некаторыя польскія аўтары, што залічалі Скарыну да Палякаў, а расейскія — да Расейцаў. Сяньня, калі ідзе пра паважнейшых аўтараў, гэта бадай не трапляецца.

Калі праблема нацыянальнасьці Скарыны цяпер паважна сярод навукоўцаў не аспрэчваецца, дык інакш із справаю Скарынавага веравызнаньня. У гэтым пытаньні й сяньня, як і ў мінулых стагодзьдзях, навет і нейкае прыблізнае адналітасьці паглядаў няма. У залежнасьці ад аўтара, уважалі Скарыну за праваслаўнага, за каталіка, за вуніята, за пратэстанта, за гусыта, за рэлігійна індыфэрэнтнага, а апошнім часам некаторыя падсавецкія аўтары намагаюцца прыпісаць Скарыну й «вальнадумства» ды навет атэізм. Калі сяньня бадай ужо няма нікога, хто-б залічаў паважна Скарыну ў вуніяты, пратэстанты ці гусыты, ды калі яўна беспадстаўныя намаганьні выводзіць яго ў атэісту ці «вольнадумца», дык у пытаньні, належыў ён да праваслаўнага ці каталіцкага веравызнаньня, існуе падзел паглядаў і сярод тых навукоўцаў, што глыбей унікалі ў факты біяграфіі ды вывучалі ягоную літаратурна-выдавецкую спадчыну, паколькі сам Скарына ніколі й нідзе свае аўтарытэтнае заявы ў гэтым пытаньні ня даў.

У справе веравызнаньня Скарыны найбольш дасьледнікаў бянтэжыць факт, што хоць некаторыя выдадзеныя ім кнігі маюць бясспрэчна праваслаўны характар, ды ягонае імя, Франьцішак, не праваслаўнае, а каталіцкае. Ведамая шырэй паваенная падсавецкая спроба супярэчнасьць гэтую кардынальна «разьвязаць» шляхам «перахрышчэньня» Скарыны з Франьцішка ды ў расейскага «Георгія». Паколькі ўся навуковая беспадстаўнасьць такога сучаснага «перахрышчваньня» выдатнага дзеяча беларускае культуры XVI стагодзьдзя разгледжаная вычэрпваюча ў вадмысловай пра гэта працы, няма патрэбы адводзіць на гэта месца тут.[2] Даволі

[2] Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (Запісы, кн. 4. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1966, б. 184—215). Таксама адбітка, 1967, 40 б.

адцеміць, што апошнім часам і ў БССР узьнімаецца апор супроць гэткае беспадстаўнае «геаргізацыі» Скарыны ды ў друку наглядаецца спантанічны наварот да Франьцішка, як адзінага імя, якім Скарына, праз усё жыцьцё, сам сябе заўсёды толькі называў.

Як уся літаратурна-выдавецкая дзейнасьць Скарыны паказвае, рос ён і гадаваўся напэўна ў праваслаўных старавечных традыцыях Полацка ды з маленства іх глыбака ўспрыняў. Сьветчыць пра гэта ягоная веда праваслаўных малітваў, сьпеваў ды абрадаў, ды й тое замілаваньне, якое праяўляецца да іх у ягонай «Малой падарожнай кніжцы». Пра тое самае сьветчыць і дасканальная веда ў пісьме мовы ня толькі беларускай, але й царкоўнаславянскай, здабыць якую ён мог толькі ў сваім родным Полацку па праваслаўнай рэлігійнай літаратуры, а ня нейдзе пазьней на захадзе Эўропы ў часе свае унівэрсытэцкае навукі.

У пытаньні веравызнаньня доктара Скарыны можна сказаць, што якая-б ягоная мэтрыка ня была — каталіцкая ці праваслаўная, — па сваіх перакананьнях ён найперш быў глыбока веруючым хрысьціянінам з тыповым для пары Рэнэсансу шырокім талеранцыйным, Эразмавага складу, сьветаглядам, безь ніякога рэлігійнага фанатызму ці варажыні хоць да якое іншае, не свае, формы веры. Ува ўсей літаратурнай спадчыне Скарыны нідзе ня знойдзем нейкага асуджэньня ці аняхаяньня якоенебудзь веры, ніякое сэктанскае рэлігійнае абмежанасьці, ці фанатызму, што былі характэрныя для Эўропы пары й Сярэднявечча, і пары Рэфармацыі, ды, заўсёды, для Маскоўшчыны. Ягоны сьветагляд талеранцыйны, гуманістычны. Скарыну, дзеля гэтага, уважаць можна за дзеяча хрысьціянскае «экумэнічнае» мэнтальнасьці, калі ўжыць гэтак папулярнага цяпер пайма.

## НА КРАКАЎСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Франьцішак Скарына пакінуў родны Полацак, ды надоўга, у 1504 годзе. У кнізе запісаў новапаступіўшых на Кракаўскі ўнівэрсытэт студэнтаў у зімовым сэмэстры гэтага году ёсьць гэткія словы: Franciscus Luce de Ploczko 2 gr — «Франьцішак, сын Лукаша з Полацка, 2 грошы (упіснога заплаціў)». Пры запісе ні дня, ні месяца не пададзена, але на зімовы сэмэстр запісвалі заўсёды ў восені. Дык найпазьней ад восені 1504 году малады Франьцішак «з слаўнага града Полацка» знайходзіўся ўжо ў Кракаве, быў студэнтам.

Хоць прыймалі на ўнівэрсытэт тады юнакоў і ў веку чатырнаццаці толькі год, ды няма падставаў дапушчаць, што якраз у гэтым, наймаладзейшым магчымым веку, бацькі паслалі сына на навуку да чужога, далёкага Кракава. Запісаўся «Франьцішак, сын Лукаша з Полацка» на філязафічны факультэт, «сямі навукаў вызваленых». Факультэт гэты ўважаўся тады за агульнаадукацыйны, і шмат хто з студэнтаў канчала яго, каб пазьней кіравацца на адзін з трох тагачасных факультэтаў спэцыяльных — тэалёгію, права, мэдыцыну.

У актавай кнізе філязафічнага аддзелу ўнівэрсытэту захаваўся пра Скарыну й два гады пазьнейшы запіс, запіс ужо датаваны, з 13 сьнежаня 1506 году. Зь яго даведваемся, што разам зь 15 іншымі студэнтамі ўнівэрсытэту тады навуковую ступень бакаляўра здабыў і Fran. de Poloczko, Litphanus. Ступень бакаляўра надавалася пасьля заканьчэньня навукі трох першых прадметаў сямі навукаў вызваленых, гэтак званага trivium, якое абымала граматыку, лёгіку й рыторыку. З факту, што першую групу прад-

метаў Скарына закончыў у найхутчэйшым магчымым часе, бо за два гады, відаць, што яшчэ з Полацка меў ён належную папярэднюю падгатову, і асабліва добрую з мовы лацінскай, адзінае тагачаснае мовы вышэйшага навучаньня. Веду лацінскае мовы здабываў ён найхутчэй ад тамашніх манахаў-бэрнардынцаў.

Запісам пра атрыманьне ступені бакаляўра й абрываюцца сьціплыя актавыя ведамкі пра кракаўскую ўнівэрсытэцкую навуку Скарыны. Зь ягоных пазьнейшых прыпісак да выдаваных ім кнігаў ведама, што факультэт «сямі навукаў вызваленых» Скарына ня толькі закончыў, але ягоў заканчэньне завяршыў яшчэ й здабыцьцём дактарату ў гэтай галіне. Канчаў «навукі вызваленыя» Скарына найхутчэй у тымсамым Кракаве. Ці там здабываў і дактарат — пра гэта ня маем ніякіх дакумэнтаваных паказаньняў.

Кракаўскі ўнівэрсытэт у Скарынаву пару меў добрую ды шырокую славу ў тагачасным навуковым сьвеце, меў выдатных прафэсароў, і пад уплывам новых ідэяў гуманізму знаходзіўся на ўзвышшах свайго красаваньня. Гадоў дзесяць перад Скарынам на Кракаўскім унівэрсытэце вучыўся якраз выдатны Мікалай Капэрнік. Адцеміць пры нагодзе важна, што не зважаючы на колькігоднюю навуку й жыцьцё у Кракаве, на мове Скарыны не адчуваецца нейкага паважнейшага польскага ўплыву. Паясьняецца гэта тым, што навука на ўнівэрсытэце ў Кракаве, як і на ўсіх тагачасных унівэрсытэтах, вялася вылучна палацінску, сярод-жа мяшчанаў Кракава пераважалі тады немцы, было іх шмат і сярод студэнтаў унівэрсытэту. А галоўнае — польская літаратурная мова тады яшчэ не існавала, яшчэ рабіліся толькі першыя нясьмелыя спробы пісаць папольску. Гэта ўсё склалася на тое, што польскія моўныя ўплывы ў літаратурнай спадчыне доктара Скарыны вельмі сьціплыя.

## ПАДУАНСКАЯ ДАКТАРЫЗАЦЫЯ

Пасьля кракаўскага запісу канца 1506 году пра здабыты Скарынам бакаляўрат, чародныя весткі да ягонага жыцьцяпісу, але аж з лістапада 1512 году, знаходзім у Італіі, у архівах Падуі. Да Падуі Скарына прыбывае для дактарызацыі ў галіне лекарскіх навукаў. Даўжэйшы час ня было ніякіх вестак пра тое, дзе быў ды што рабіў Скарына ў часе між гадамі 1506—1512. Толькі з выяўленага ў 1960-м годзе запісу падуанскага біскупскага палацу можна было дазнацца, што да свайго прыезду да Падуі Скарына быў «сакратаром караля Даніі» — secretarii regis datiae. Паколькі з раней ведамых унівэрсытэцкіх актаў Падуі ведама, што да Падуі Скарына прыехаў ужо з навуковай годнасьцяй доктара «навукаў вызваленых» — artium Doctor, — ды з пройдзеным напэўна ўнівэрсытэцкім курсам мэдыцынскае навукі, даводзіцца зрабіць выснаў, што да прыезду да Падуі Скарына вучыўся мэдыцыны найхутчэй там, дзе быў і каралеўскім сакратаром у Даніі, на ўнівэрсытэце Капэнгагі.[3]

[3] Першы раз у друку пытаньне сакратарства доктара Скарыны ў караля Даніі ўзьнятае ды шырэй абмяркаванае ў працы: Брага, Сымон. Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны (Запісы, кн. 3. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1964, б. 9—33). Таксама адбітка.




# 450 YEARS OF BYELORUSSIAN PRINTING
## 1517–1967

A SLAVONIC DIVISION EXHIBITION

THE NEW YORK PUBLIC LIBRARY
Fifth Avenue and 42nd Street

У актавай кнізе падуанскага ўнівэрсытэту 5 лістапада 1512 году занесены пратакольны запіс пра адмысловае паседжаньне прафэсароў калегіі «артыстых і мэдыкаў» Падуі, на якім, на прапанову віцэпрыёра (дзекана) калегіі Тодара Муссаты разглядалася справа дапушчэньня да дакторскага экзамену ў галіне мэдыцыны «Франьцішка, сына нябошчыка Лукаша Скарыны з Полацка, Русіча», доктара навукаў вызваленых, вучонага вельмі, але беднага юнака. Пасьля апытаньня прысутнымі кандыдата ды абмяркаваньня справы, сябры калегіі аднагодна пастанавілі да экзаменаў яго дапусьціць. У гэтым пратакольным запісе, як і ўсіх іншых падуанскіх актах, пра бацьку Скарыны згадваецца як пра ўжо памерлага, што, відавочна, і было прычынаю матар'яльных нястачаў юнака.

Першы, пробны экзамен, адбыўся ўжо назаўтра, перад камісіяй з 14-ці прафэсароў. Скарына на экзамене зь нязьвычайнай эрудыцыяй разьвіваў свае тэзы ды адказваў на пастаўленыя пытаньні, ды ў выніку аднагодна й гэтым разам быў калегіяй дапушчаны да экзамену дакторскага, які й адбыўся праз тры дні, у аўторак 9 лістапада. Цяпер экзамен ішоў перад людной аўдыторыяй у палацы падуанскага біскупа ды перад калегіяй з 24-х прафэсароў пад ганаровым старшынствам духовага апякуна акадэміі кардынала Сыкста дэля Ровэрэ, а ў прысутнасьці біскупа Паўлы Забарэльлі ды віцэрэктара Франьцішка Фульманэльлі з Вэроны.

Як актавыя запісы й унівэрсытэту, і біскупскага палацу аднагодна сьцьвярджаюць, Скарына й гэтым разам зрабіў нязвычайна добрае ўражаньне на ўсіх сяброў калегіі й сьветлым розумам, і шырынёй ды глыбінёй веды, і сваім дастойным у часе экзаменаў захаваньнем, ды сябрамі калегіі, без аніводнага голасу супроць, быў прызнаны годным ступені доктара мэдыцынскіх навукаў, што кардынал Сыкст афіцыйна й апавесьціў. Прафэсар-прамотар, Баўтрамей Барысон, пасьля гэтага ўсклаў на Скарыну азнакі дакторскае мэдыцынскае годнасьці. Шырэй гэты, нязвычайна яскравы, эпізод Скарынавага жыцьця тут не разглядаецца, паколькі гэтаму пытаньню адведзены адмысловы нарыс.[4]

Падуанскай дактарызацыяй Скарына закончыў ды завяршыў сваю ўнівэрсытэцкую адукацыю. Хоць ведама, што моладзь зь земляў Беларусі, сыны магнатаў ды багатых мяшчанаў, выяжджалі здаўна на навуку на ўнівэрсытэты захаду, ды гісторыя ўсё-ж не дае пэўных паказаньняў на тое, каб гэтым часам, ці й перад гэтым, хоць адзін Скарынаў суродзіч здабыў навуковую годнасьць доктара, а тымбольш — два дактараты. Грунтоўная ўнівэрсытэцкая адукацыя ставіла палачаніна Скарыну ў шэрагі інтэлектуальнае авангарды ўсяе тагачаснае Эўропы. Як Аўхім Карскі калісьці заўважыў, «у васобе Скарыны мы бачым нязвычайна адукаванага чалавека свайго часу, што нічым не саступаў заходняэўрапейскім дзеячом ні па сваім розуме, ні па энэргіі й сваіх высокіх задумах».

## ПРАСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА

Пасьля актавых ведамак пра бліскучае завяршэньне вышэйшае адукацыі другім, падуанскім, дактаратам, блізу пяць далейшых год пра Скарыну ізноў ніякіх вестак. Чародны разьдзел жыцьцяпісу доктара Скарыны

---

[4] Глядзі нарыс «Скарына ў Падуі» ў гэтым зборніку.

раскрываюць 6 жніўня 1517 году ўжо не архіўныя акты, а балонкі, выдадзенае ім у Празе кнігі — ПСАЛТЫРЬ. У гэтым самым годзе ў беларускім перакладзе зь ягонае праскае друкарні паяўляюцца біблійныя кнігі СВЕТОГО ИОВА, ПРИСЛОВИЯ ПРЕМУДРАГО САЛОМОНА, ИСУСА СЫНА СИРАХОВА. У наступным, у 1518 годзе, выходзяць ЕККЛЕСИАСТЕС, ПЕСНЬ ПЕСНЯМ, ПРЕМУДРОСТИ БОЖЕЙ САЛОМОНА, чатыры КНИГИ ЦАРЬСТВ, ИСУСА СЫНА НАВИНА. У годзе 1519 адна за

ЦАРЬСТВЪ

Царь Дедъ играеть въ гусле несл Кивотъ гдень; царицаже Михоль видя и погорде и бе неплодна



ВТОРЫЙ КНИГИ ЦАРЬСТВЪ ПОЧИНАЮТЬ
СЯ · ЗУПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНЫ НАРУСЬ
КИЙ ЯЗЫКЪ · ДОКТОРОМЪ ФРАНЪЦИ
СКОМЪ СКОРИНИНЫМЪ СЫНОМЪ СПОЛОЦЬКА

*Загаловачная балонка Другое Кнігі Царстваў Франьцішка Скарыны з дрэварытам «Цар Давід іграе ў гусьлі».*

аднэй друкуюцца КНИГИ ІУДИТ ВДОВИЦИ, БЫТЬЯ, ИСХОД, ЛЕУВИТ, ЧИСЛА, ВТОРАГО ЗАКОНУ, ПЛАЧУ ЕРЕМІИНА, ДАНИИЛА ПРОРОКА, ЕСТЕРА ЦАРИЦИ, РУТ ПРАБАБЫ ДАВИДОВА, і, 15 сьнежаня, апошняя — СУДЕЙ ИЗРАИЛЕВЫХ.

Дык на працягу ня поўных трох год у Празе доктар Скарына выдаў 23 біблійныя кнігі, агульнага ліку звыш 1200 балонак (2400 бачынаў) друку, фармату ў чацьвярціцу (кварту). Толькі ПСАЛТЫР фарматам быў крыху меншы. З друкарскага гледзішча Скарынаў праскі пачын наскрозь пія-

нерскі. Шрыфт для друкарні даводзілася самому праектаваць і ён мае свой арыгінальны, эстэтычны выгляд. За аснову для формаў літараў узятыя Скарынам літары тагачаснага беларускага, і найперш полацкага, рукапіснага паўуставу. Для патрэбаў друку выгляд шмат якіх літараў быў, на ўзор друкаваных літараў лацінічных, закруглены, упрошчаны, «азаходнены».




*Загаловачная балонка кнігі «Юдыт удовіцы» выданьня Франьцішка Скарыны.*

Ды рыхтаваць даводзілася не адны друкарскія шрыфты. Прыдбаць трэ было й усю іншую патрэбную друкарскую снасьць. Да гэтага неабходна было падрыхтаваць гурт тэхнічных супрацоўнікаў для набору й друку кнігаў, бо сам Скарына, абцяжаны перакладной, рэдакцыйнай ды карэктарскай працай, рабіць усяго сам напэўна ня мог, асабліва пры гэткім шпаркім поступе друку — у сярэднім адна кніга кожных шэсьць тыдняў. Ня простая справа была раздабыць і патрэбныя вялікія грашовыя сумы на друкарню й друк, бо выдавецкая справа ў тыя часы была вельмі ка-

штоўная, сама папера тады была нязвычайна дарагая. З паробленых рукою дапісак на колькіх першых, выдадзеных Скарынам у Празе, кнігах, ведама, што, найменш спачатку, фінансавацъ праскія выданьні памагаў яму багаты купец-фінансіер, райца места Вільні, Багдан Онкаў (Анкевіч). Ня дзіва, што ўклаўшы гэтулькі захадаў і працы для стварэньня свае першае друкарні, на выдадзеных памастацку кнігах доктар Скарына горда,



ВЗОРЪ МОРЫ ИЛИ ЎМЫВАЛНИЦИ МЕДЯНОЕ

*Дрэварыт з Скарынавае Трэцяе Кнігі Царстваў «Узор мора ілі ўмывальніцы медзянае».*

і заслужана, ставіў заўсёды сваё імя й прозьвішча, адзначаў сваю навуковую адукацыю й дактараты, згадваў заўсёды месца свайго нараджэньня — «слаўны град Полацак», а ў некаторых кнігах, прыкладам у КНІЗЕ СЫРАХА, ЦАРСТВАЎ, БЫЦЬЦЯ, зьмясьціў і свой вельмі цікавы дрэварытны партрэт.[5]

Графічнае афармленьне кнігаў у Скарыны на нязвычайна высокім узроўні. Ні кракаўскі выдавец Фэоль, ні чарнагаранін ереманах Макар перад Скарынам, ды, нейдзе аж да палавіны XVIII стагодзьдзя й пасьля яго, ніхто гэтак мастацка кірылічных выданьняў не афармляў. На высокі гра-

---

[5] Пра партрэты Скарыны ў ягонай Бібліі: Брага, Сымон. Партрэты доктара Скарыны (Конадні, кн. 7. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк—Мюнхен, 1963, б. 138—150). Таксама ў вадным з разьдзелаў памешчанага ў гэтым зборніку «Скарыніяны» нарысу «Скарына ў Падуі».

фічны ўзровень складаліся, апрача самога выгляду шрыфта, дасканальная трывалкая папера, вялікі лік, каля 50-ці, дрэварытных ілюстрацыяў, арыгінальная ломка набору з функцыйным тарнаваньнем высокамастацкіх вялікіх і малых заставіцаў, сотак, аздобленых рысункамі, вялікіх літараў — ініцыялаў.

У васнову свайго перакладу доктар Скарына паклаў тэкст лацінскае Біблії «Вульгаты». Карыстаўся ён і Бібліяй чэскага перакладу 1506 году. Некаторых кнігаў меў пад рукамі й рукапісныя тэксты царкоўнаславянскія. Перад тэкстам кажнае біблійнае кнігі Скарына даў і свае ўводныя, вельмі цікавыя, прадмовы. На бялюгох сустракаюцца часта паясьненьні незразумелых словаў, «ґлёсы». Пры канцы кнігі дадзеныя замыкальныя прыпіскі, «каляфоны», з датаю й месцам яе выхаду, ды імем і прозьвішчам выдаўца.

У Скарынавых прадмовах адбітыя высокаідэйныя матывы ягоных выдавецкіх задумаў ды ягоны шырокі гуманістычны сьветагляд. Насычаныя яны глыбокаю хрысьціянскай верай, любоўю да свайго народу, шчырым патрыятызмам. І самыя кнігі Скарыны прызначаныя для народу, а не для царквы ці духавенства, як гэта было зь кірылічнымі багаслужэбнымі выданьнямі кракаўскага Фэоля, ераманаха Макара, ці пазьнейшых паўдзённаславянскіх выдаўцоў. Кнігі Скарыны не для багаслужбы, а для «дабра й пажытку люду паспалітага», для яго асьветы, духовага й маральнага падтрыманьня.

Пра трыгадовую, у гадох 1517—1519, выдавецкую дзейнасьць доктара Скарыны ў Празе ў праскіх архівах, якдагэтуль, ня знойдзена аніводнага дакумэнту, аніводнага актавага запісу. Пра выдавецкую ягоную працу расказваюць нам тымчасам толькі самыя, гэтак раскошна, памастацку выдадзеныя кнігі. Гэта зь іх мы можам мяркаваць, што й час перад выхадам першае праскае кнігі доктар Скарына мусеў скарыстаць на прыдбаньне сабе патрэбных, і найперш царкоўнаславянскіх рукапісных, кнігаў. Даводзілася працаваць над перакладам, трэба было праектаваць і адліваць шрыфты ды здабываць і іншую, патрэбную для друкарні снасьць. Гэта ўсё заняло хіба ня мала часу. Вось гэтаю арганізацыйна-падрыхтавальнаю працай быў у вялікай меры й заняты час доктара Скарыны пасьля слаўнае падуанскае дактарызацыі, ці гады 1513—1516.

## КАНФІСКАТА КНІГАЎ У ВРОЦЛАВЕ?

З выхадам апошняе ведамае друкаванае кнігі Скарыны ў Празе, КНІГІ СУДЗЬДЗЯЎ, якая датаваная 15 сьнежанем 1519 году, з бліжэй ня ведамых прычынаў, а найхутчэй дзеля грашовых цяжкасьцяў, праская выдавецкая дзейнасьць доктара Скарыны абрываецца. Ведама толькі, што па нейкім часе Скарына быў ужо ў Вільні.

Апошнім якраз часам, у 1965 годзе, зьвернутая была ў друку ўвага на факты, што паказваюць на праўдападобную канфіскату праскіх выданьняў Скарыны ў Вроцлаве падчас іх перавозу з Прагі да Вільні.[6] Яшчэ пры

---

[6] Першы раз у друку пытаньне гэтае ўзьнятае ў працы: Брага, Сымон. Ґеаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны, тамсама, б. 25—28. Таксама адбітка, б. 23—26.

канцы XIX стагодзьдзя дырэктар бібліятэкі места Вроцлава прафэсар Маркграф, у вокладцы кнігі Liber procuratorum, у якой вяліся запісы пракуратуры ад 1535 году, знайшоў больш лік аркушоў аж васьмі розных Скарынавых праскіх кнігаў, — САЛЯМОНАВЫХ ПРЫСЛОЎЯЎ, ЕКЛЕЗІЯСТЫ, ПЕРШАЕ ды ЧАЦЬВЕРТАЕ КНІГІ ЦАРСТВАЎ, КНІГІ ІСХОД, ЛЕВІТ, ЛІЧБЫ ды ПРАРОКА ДАНІЛЫ. Важна пры гэтым тое, што некаторыя аркушы кнігаў знайшліся ў вокладцы ў падвойным, а навет па-


ЦАРЬСТВЪ
ЕПГ
Навхеносор Царь Вавилонский добывае Ерусалима
Книги четвертыи црствъ починаютъ ся. Зуполне выложены на рускии языкъ, доктором Франциском Скориниными сыномъ с Полоцька

*Загаловачная балонка Чацьвертае Кнігі Царстваў з дрэварытам «Навуханасор цар бавілёнскі дабывае Ерусаліма»*

чворным ліку. Гэта паказвае на тое, што інтраліґатар, які апраўляў Liber procuratorum, меў пад рукамі ня сшытыя кнігі, а сьцірты надрукаваных, але ў кнігі не пераплеценых аркушоў Скарынавых праскіх выданьняў.

Як гэта аркушы Скарынавае праскае Біблії апынуліся ў вроцлаўскага інтраліґатара — канкрэтных паказаньняў пакульшто няма. Трэба думаць, што ў Вроцлаве кнігі былі дзеля нейкіх прычынаў затрыманыя падчас іх перавозу з Прагі да Вільні й здарылася гэта найхутчэй пасьля спыненьня працы праскае друкарні, у 1520 годзе. Калі-ж разглядацца за прычы-

намі, дык зьвярнуць трэба ўвагу на тое, што гэтым часам, і ўжо ад трох год, Нямеччына кіпела ўзьнятым Марцінам Лютэрам бунтам супроць папы. Наступ на непахісны, як здавалася перад гэтым, аўтарытэт каталіцкае царквы й яе догмаў быў ведзены найперш пры дапамозе друку. Дзеля гэтага й увага каталіцкае інквізыцыйнае цэнзуры на новадрукаваныя, і асабліва рэлігійныя, выданьні, была моцна завостраная. У 1520-м якраз годзе папа Лявон X выдаў супроць «гарэтычных памылак» Лютэра сваю славутую бульлю Exsurge Domine, якую Лютэр адразу па атрыманьні публічна спаліў. У бульлі быў заклік да нішчэньня ўсіх ды ўсякіх выданьняў, што «гэрэтычныя» думкі Лютэра пашыралі.

Вось у атмасфэры нарастаючых рэлігійных змаганьняў і адбываўся пераезд доктара Скарыны з Прагі да Вільні. З сабою вёз ён тады хіба й друкарскую снасьць, шрыфты, ды й тую частку сваіх кнігаў, якая раней да Вільні, ці на землі Беларусі наагул, яшчэ ня была перасланая. Зусім магчыма, што падарозе тады, у Вроцлаве, кнігі былі й затрыманыя, як западозраныя ў Лютэравай, гусыцкай, ці іншай «ерасі», ды перададзеныяворганам пракуратуры. Колькі-ж год пазьней, пакольні канфіската з кнігаў ня была зьнятая, а для пракуратуры зайшла патрэба для сваіх актавых запісаў апрвіць новыя кнігі, сканфіскаваныя аркушы Скарынавае Бібліі й былі перададзеныя для гэтага інтраліґатару, які імі й высьцілаў вокладкі апраўляных кнігаў. Пры нагодзе канфіскаты кнігаў, зразумела, маглі быць затрыманыя й перавожаныя шрыфты ды друкарская снасьць. А гэта, магчыма, і прычына таго, што ў Вільні доктару Скарыну давялося праектаваць ды адліваць зусім новы, адрозны ад праскага, друкарскі шрыфт.

Што ды як зайшло ў Вроцлаве, сяньня дакладней мы пакульшто ня ведаем. Бясспрэчным аднак-жа фактам застаецца, што кнігі Скарыны там, ды ў большым ліку, былі затрыманыя ды трапілі пазьней, як макулятурная ўжо папера, у рукі інтраліґатара. Для належнага раскрыцьця Вроцлаўскіх драматычных падзеяў, ад якіх пацярпелі Скарынавы праскія кнігі, патрэбны ўважны перагляд матар'ялаў Вроцлаўскіх архіваў з году 1520-га ды блізкіх да яго гадоў.

## «ВА СЛАЎНЫМ МЕСЬЦЕ ВІЛЕНСКІМ»

Пасьля пераезду да Вільні доктар Скарына сваю другую з чаргі друкарню, а першую на землях беларускіх ды ўсяе ўсходняе Эўропы, наладзіў не пазьней 1524 году. Мясьцілася яна ў доме «найстаршага бурмістра вялікаслаўнага места Віленскага» Якуба Бабіча. Ведамыя дзьве кнігі, якія вышлі з гэтае друкарні: АПОСТАЛ, кніга фармату ў васьміцу (актаву), балонак 351 (702 бачыны), датаваная сакавіком 1525 году, і МАЛАЯ ПОДОРОЖНАЯ КНИЖКА, фармату меншага ($12^0$), балонак звыш 430 (звыш 860 бачынаў); усе захаваныя яе экзэмпляры не камплетныя й дзеля гэтага дата ды год выхаду ня ведамыя.

У скарынаведнай літаратуры прынялося ўважаць, што гэта АПОСТАЛ быў першым Скарынавым віленскім выданьнем ды што АПОСТАЛ — першы друк на беларускай зямлі, а год 1525 — гістарычная дата пачатку друку на беларускай тэрыторыі, ды што МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖ-

КА вышла пасьля АПОСТАЛА. Ды апошнімі гадамі зьяўляюцца мяркаваньні аб тым, што не АПОСТАЛ, а якраз МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА была першай, і калі гэтак, дык і пачатак друку на землях Беларусі трэба аднесьці найменш на год назад — на 1524 год. Пагляд гэткі, міжіншым, на падставе вывучэньня стану дрэварытных заставіцаў на арыгіналах АПОСТАЛА ды МАЛОЙ ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКІ, выказала ня гэтак даўно ведамая маскоўская дасьледніца кірылічных старадрукаў А. С. Зярнова,[7] хоць высnаваў сваіх, нажаль, яна й не падмацавала публікацыяй у фотарэпрадукцыі канкрэтных, знойдзеных на гэта, довадаў. Было-б важна тэзу А. С. Зярновай уніклівым пераглядам заставіцаў абодвух Скарынавых віленскіх выданьняў спраўдзіць ды вынікі, з канкрэтнымі довадамі, падаць у друку для агульнага ведама.

І віленскі АПОСТАЛ Скарыны, не зважаючы на зьмест, выданьне таксама не для патрэбаў царкоўна-багаслужэбных, не для духавенства, а для прыватнага карыстаньня. Таму й фармат кнігі не «напрэстольны», не багаслужэбны, а малы, падручны. Тое самае датычыць, ды яшчэ ў большай меры, і МАЛУЮ ПАДАРОЖНУЮ КНІЖКУ, якая, як у яе загалоўку й адзначана, складзеная ды выдадзеная для практычнага ўжытку падарожнаму праваслаўнаму, і найперш купцу. Сваім прызначэньнем, фарматам і загалоўкам яна падобная да тагачасных заходняэўрапейскіх «падарожных» выданьняў, якія мелі назоў Liber viaticus. Дык і абодвы віленскія выданьні адбіваюць аснаўную выдавецкую ідэю Скарыны — даць кнігі для дабра й пажытку «люду паспалітаму», для свайго народу. Гэта выданьні хоць і рэлігійнага зьместу, але не царкоўныя.

МАЛАЯ ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА ўкладу й рэдакцыі самога Скарыны. Складаецца яна з 25-ці меншых кніжак, 22 зь якіх маюць сваю нумарацыю балонак, а тры — без нумарацыі наагул. Пасьля памешчанага на пачатку кнігі ПСАЛТЫРА, далейшы зьмест «Падарожнай кніжкі» згрупаваны ў чатырох большых разьдзелах — ЧАСОСЛОВЕЦ, АКАФИСТЫ И КАНОНЫ, ШЕСТОДНЕВЕЦЬ, СВЕТЦЫ КРАТКИЕ (каляндар).

Цікавы асабліва Скарынаў каляндар. Гэта першы друкаваны каляндар на ўсім усходзе Эўропы. У ім ня толькі сьпіс сьвятаў, сьвятых ды пасхалія, але й каляндар астранамічны, сьвецкі. Апрача назоваў дванаццаці месяцаў, дадзеных пацаркоўнаславянску й пабеларуску, у ім гадзінамі й мінутамі паказаная даўжыня дня й ночы ў розныя дні месяцаў, даецца даведка пра найдаўжэйшыя й найкарацейшыя дні й ночы году, пра час веснавога ды асеньняга зраўнаньня дня з ночай, пра рух сонца праз дванаццаць сузор'яў задыяка, пра час «зацямненьня сонцава» ды пра «месяцаву гібель». Дык Скарынаў каляндар практычны сьвецкі, прызначаны, ізноў-жа, найперш для народу.

## ПАДАРОЖЖА ДА МАСКВЫ

Пасьля надрукаваньня віленскіх кнігаў, у часе бліжэй не азначаным, але нейдзе ў гадох 1525—1533, адбылося й няўдалае падарожжа доктара Скарыны да Масквы, якое прынясло яму вялікія матар'яльныя страты,

---

[7] Зернова, А. С. Обзор выставки книг кирриловской печати, посвященной 375-летию со дня смерти Ивана Федорова (Труды Государственной Библиотеки СССР им. В. И. Ленина, т. III. Москва, 1959, б. 215).

ды, магчыма, было й беспасярэдняю прычынай спыненьня выдавецкай дзейнасьці. Архіўны дакумэнт, дзе драматычныя падзеі маскоўскага падарожжа згадваюцца, копія дыпляматычнае інструкцыі караля й вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, быў апублікаваны яшчэ ў 1862 годзе ў Вене. Першым з дасьледнікаў, што падарожжа гэтае ўжо ў 1888 годзе з асобаю доктара Скарыны зьвязваў, паколькі ў самым дакумэньце прозьвішча Скарыны не названае, быў чэскі гісторык Язэп Пэрвольф. Ды ягоныя высновы тады нейк засталіся не заўважанымі. Пытаньне гэтае ў скарынаведнай літаратуры нанава ўзьняў, ды ўжо шырэй яго да ведама падаў год 50 пасьля Пэрвольфа гісторык Антон Фляроўскі.

На аснове ўважнага разгляду згаданае вышэй дыпляматычнае інструкцыі сяньня можна напэўна сказаць, што доктар Скарына павёз да Масквы свае, праскага й віленскга друку, кнігі для іх там пашырэньня. Ды на загад вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча кнігі Скарыны былі ў Маскве сканфіскаваныя ды публічна спаленыя. Гістарычныя абставіны гэтае драматычнае падзеі шырэй на культурна-духовым фоне пары разгледжаныя ў вадмысловай, друкаванай у 1963 годзе, працы й дзеля гэтага няма неабходнасьці тут даўжэй над гэтым спыняцца.[8] Варта зьвярнуць толькі ўвагу на тое, што калі доктар Скарына ехаў да Масквы з сваімі кнігамі, дык узяў з сабой не адну-дзьве кнігі, а большы іх лік. Дык канфіската іх у Маскве ды спаленьне напэўна адна з паважных прычынаў сучаснага невялікага ліку захаваных Скарынавых кнігаў.

## ВІЛЕНСКІЯ СУДЫ

Ведамая, ды ўжо дакладна й годам азначаная, другая падзея з часоў прабываньня доктара Скарыны ў Вільні — ягоныя суды з жончынымі сваякамі за дом. У Літоўскай Мэтрыцы захаваўся актавы запіс апошняе судовае пастановы ў гэтай справе з 1529 году. З тэксту пастановы вынікае, што гэтым часам доктар Скарына быў жанаты з удавой па райцы віленскім Юрым Адзьверніку, Маргарэтай. Маргарэта-ж, у спадку па матцы Дароце, мела ў Вільні «пры рынку» дом. Вось гэтага дому сваякі Маргарэты Скарыны судом ад яе й даходзілі.

У першай інстанцыі справу разглядаў віленскі «войт з бурмістрамі й райцамі водле права майтборскага». У другой — Ян «з князёў літоўскіх» біскуп віленскі, той самы, у якога пазьней, у годзе 1532-м, доктар Скарына быў сакратаром і надворным лекарам. Суд трэці, апошні, адбыўся перад каралём і вялікім князем Жыгімонтам ды Панамі Рады Вялікага Княства Літоўскага. Усе тры інстанцыі дом прызналі жонцы доктара Скарыны Маргарэце. Пастанова-ж вялікага князя Жыгімонта з Панамі Рады дом ды іншую, бліжэй не азначаную рухомую й нярухомую маемасьць Скарынавае цешчы Дароты ня толькі замацоўвала за Маргарэтай Скарынай ды яе дзяцьмі, але й сваяком ейным, што аж тры разы настойліва ўзьнімалі ў гэтай справе суды, загадвала «ў тым вечнае маўчаньне мецi»,

---

[8] Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве (Запісы, кн. 2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1963, б. 9—36). Таксама адбітка, 32 б.

ці перасякала ўсякія магчымасьці нейкіх новых судовых прэтэнсыяў у гэтай справе на будучыню.

Пры нагодзе варта адзначыць, што ўсе даўнейшыя й сучасныя мяркаваньні некаторых аўтараў аб тым, быццам у выніку судоў за дом у Вільні, і гэты дом, і іншая маемасьць доктара Скарыны, былі сканфіскаваныя, ня маюць ніякога абгрунтаваньня ў судовым запісе. Зь яго, наадварот, вынікае ясна, што ўсе суды за дом у Вільні, і даволі лёгка, доктар Скарына выграў на той простай падставе, што цешча Дарота яшчэ за свайго жыцьця зрабіла афіцыйнае, запісанае ў кнігі места ды ўрадава пацьверджанае, асьветчаньне аб перадачы дому ды свае іншае маемасьці па сьмерці дачцы Маргарэце. Гэтага вось афіцыйнага юрыдычнага маемаснага запісу й не далі рады судовым шляхам скасаваць сваякі Маргарэты Скарыны.

## СЬМЕРЦЬ БРАТА ІВАНА

У ліпені тагосамага 1529 году, у якім Скарына закончыў поўнаю перамогай суды за жончын дом у Вільні, у Пазьнані памёр ягоны брат Іван. Гэта з часам, хоць і не адразу, прынясло доктару Скарыну новыя судовыя клопаты. Як з актаў пазнанскіх меставых архіваў вынікае, Іван Скарына ў Пазнані меў вялізны гуртовы склад, афіцыйным вопісам па ягонай сьмерці на якім было знойдзена 47 468 скураў рознае вялічыні, якасьці й цаны, у гэтым 10 скураў рысіных, 258 вялікіх юхтовых, 500 меншых «чымчавых", ды 46 700 «звычайных».

Як хутка выявілася, Іван Скарына меў і вялікія даўгі й адразу па ягонай сьмерці крэдытары склалі афіцыйныя заявы, падмацаваныя сваяручнымі расьпіскамі нябошчыка, з дамаганьнем зьвярнуць ім доўг з пакінутае Іванам Скарынам маемасьці. Цікава адзначыць характэрную для эпохі драбніцу, што расьпіскі Івана Скарыны, якія для меставых уладаў Пазнаня на довад свае належнасьці прадставілі крэдытары, у тым ліку й расьпіска купца ды райцы места Пазнаня Кляўза Габэрлянда, пісаныя былі in vulgari Ruthenico scriptam — пабеларуску.

Дзеля заяваў крэдытараў, улады места наклалі на склады Івана Скарыны арышт, а колькі месяцаў пазьней, 23 кастрычніка 1529 году, у прысутнасьці Іванавага сына Скарыны Рамана ды доктара Францішка Скарыны, правялі на складох афіцыйны пратакольны ўлік скураў, зрабілі іх ацэну, ды падзялілі паміж судова зарэгістраванымі крэдытарамі нябошчыка, сярод якіх, міжіншым, была й жонка доктара Скарыны Маргарэта ды й ён сам, дзеля непакрытае яшчэ належнасьці за дастаўленае калісьці брату Івану ліёнскае сукно.

## СКАРЫНА Ў ПРУСАХ

Колькі месяцаў пасьля таго, як доктар Скарына спарадкаваў у Пазнані справу братавых даўгоў, вясною 1530 году ён прыяжджае да Каралеўца (Кенігсбэрг, цяперашні Калінінград) да герцага прускага Альбрэхта. Герцаг, захоплены ягонымі нязвычайнымі здольнасьцямі ды шматбаковай высокай адукацыяй, прыймае Скарыну на свой двор для нейкіх, даклад-

ней неазначаных, абавязкаў. Існуюць здогады, што прыезд доктара Скарыны да Каралеўца мог быць зьвязаны ці зь нейкімі выдавецкімі плянамі герцага для прапаганды пратэстантызму, ці, магчыма, і з тым, што ад восені 1529 году ў Прусах шалела пошасьць нейкага «ангельскага поту» — „englischer Schweiss“ — найбаржджэй цяжкое грыпы, ад якое шмат хворых памірала, і герцагу былі вельмі патрэбныя лекары.

У Прусах, праўдападобна, дайшло й да сутычнасьці доктара Скарыны з выдатным дзеячом Рэфармацыі, першым пратэстанцкім біскупам Прусаў, Паўлам Спэратам. Сьведчыць пра гэта тое, што ў сваёй бібліятэцы біскуп Спэратус меў Скарынаў віленскі, з Малой Падарожнай Кніжкі, Псалтыр. Зусім магчыма, што падараваў яго выдатнаму пратэстанцкаму




*Экзэмпляр віленскага Псалтыра выданьня доктара Скарыны з экслібрысам першага пратэстанцкага біскупа Прусіі Паўлы Спэрата.*
*By courtesy of the Trustees of the British Museum.*

дастойніку пры сустрэчы сам доктар Скарына. У Псалтыры гэтым, які цяпер перахоўваецца ў бібліятэцы Брытанскага Музэю ў Лёндане, уклеяны экслібрыс Паўлы Спэрата.

Ды ў герцага Альбрэхта, у Каралеўцы, прабыў Скарына ня доўга. 16 травеня тагасамага 1530 году ён дастае ад герцага рэкамэндацыйныя лісты — да рады места Вільні, да віленскага ваяводы Гаштаўта, і, трэці, «дарожны ліст», ды едзе, нібы толькі часова для заладжаньня сваіх важных справаў, назад да Вільні. Хутка выясьняецца, што пакідаў Скарына Каралевец не часова, а назаўсёды, ды пры гэтым папаліў за сабою й усе масты пава-

роту, бо бяз згоды й веды герцага, тайком, забраў з Каралеўца да Вільні нейкага лекара Жыда ды друкара. Герцаг за гэта моцна абураўся ды 26 травеня напісаў да ваяводы Гаштаўта ліст з скаргаю на доктара Скарыну ды з дамаганьнем, каб Скарына вярнуў і Жыда-лекара, і друкара назад да Каралеўца.

Дзеля ня высненых і дагэтуль мэтаў падарожжа доктара Скарыны да Каралеўца, як і прычынаў хуткага стуль яго павароту да Вільні, у скарынаведнай літаратуры можна часта сустрэць пагляд, што выезд гэты быў зьвязаны зь вялікім пажарам Вільні 1530 году, калі згарэлі дзьве трацiны места. У гэтым пажары згарэў быццам і Скарынаў дом, друкарня ды кнігі. У выніку цяжкіх матар'яльных стратаў доктар Скарына быццам і паддаўся да герцага ў Прусы ў пошуках нейкага даходнага занятку ці становішча.

Ніхто з аўтараў, што гэтак пісалі, а часта пішаць яшчэ й цяпер, нейк не парупіўся супаставіць даты ды праверыць храналёгію падзеяў. Факты-ж кажаць, што пажар Вільні 1530 году здарыўся 2-га ліпеня, ці ня *перад* выездам доктара Скарыны ў Прусы, а нейкіх тыдняў пяць *пасьля* ягонага стуль павароту. Выехаў Скарына з Каралеўца назад да Вільні ці 16 травеня, ці колькі дзён пасьля, але не пазьней 25 травеня. З гэтых вось датаў ясна, што пажар Вільні ня меў ніякога дачыненьня ні да справы выезду доктара Скарыны да Каралеўца, ні раптоўнага стуль ягонага павароту.

Другая, таксама на фактах не абгрунтаваная, але часта паўтараная лягенда Скарынавага жыцьцяпісу зьвязаная з тымсамым пажарам Вільні 1530 году, гэта прыйманьне за факт пэўны, што ў пажары гэтым, у доме Якуба Бабіча, згарэла й друкарня Скарыны, кнігі ды ўся друкарская снасьць. Дзеля гэтага віленская выдавецкая дзейнасьць доктара Скарыны быццам і абарвалася.

Як паказваюць, тымчасам, дасьледваньні над выданьнямі віленскіх беларускіх друкарняў канца XVI стагодзьдзя, ды найперш выданьняў Сьвятатраецкае брацкае друкарні, пры друку сваіх кнігаў яны карысталіся з арыгінальных Скарынавых шрыфтоў ды дзеравяных клішаў заставіцаў, тых самых, якія Скарына скарыстоўваў пры друку Апостала ды Малой Падарожнай Кніжкі. З гэтага вынікае, што пажар Вільні 1530 году Скарынавае друкарні, ані яе снасьці, не крануў, ды што й дзеравяныя клішы й шрыфты ягонай друкарні былі рупна перахоўваныя пры віленскай Сьвятатраецкай царкве да пары, калі ад 1595 году пры ей наладжана была брацкая друкарня. Тады іх і скарысталі ізноў пры друку кнігаў.

## ПАЗНАНСКАЯ ВЯЗЬНІЦА Й СУД

Як зь перагляду актавых кнігаў места Пазнаня 1532 году вынікае, Іван Скарына меў і больш крэдытараў, апрача тых, што свае прэтэнсіі заявілі ў першыя тры месяцы пасьля ягонай сьмерці ды належнасьць якім была пакрытая скурамі зь ягоных складоў. 412 польськіх злотых, суму, як на тую пару, вялікую, Іван Скарына быў вінаваты яшчэ й варшаўскім купцом Лазару ды Масею, сыну й зяцю нейкага багатага купца-фінансіера Масея Старога. Паколькі ўся пазнанская маемасьць Івана Скарыны была ўжо раздадзеная для пакрыцьця раней заяўленых даўгоў, а сын Івана, Раман, знайходзіўся за межамі, у Гданску, дык варшаўскія крэдытары пачалі дама-

гацца ад доктара Скарыны, каб ён сплаціў доўг за свайго брата. А каб да гэтае сплаты ў патрэбе яго й прымусіць, яны з каралеўскае канцылярыі ў Кракаве раздабылі мандат на ягоны арышт за нясплату доўгу.

Вясною 1532 году доктару Скарыну давялося прыехаць да Пазнаня ў справах віленскага біскупа, сакратаром ды надворным лекарам якога ён тады быў. Гэтую нагоду Жыды-крэдытары й скарысталі на тое, каб запатрэбваць ад уладаў места ягонага арышту, чаго й дабіліся. Нейдзе пад канец сакавіка Скарына й быў арыштаваны ды праседзеў пад арыштам тыдняў дзесяць, пакуль выкліканы з Гданска браценьнік Раман, Іванаў сын, ня выстараўся ад караля загаду пра звальненьне дзядзькі. Раман заявіў, што арышт беспадстаўны, бо толькі ён, як сын, адказвае за бацькавы даўгі ды гатовы іх і сплаціць.

17 чэрвеня 1532 году перад радаю места Пазнаня адбыўся судовы разгляд справы доўгу Івана Скарыны, на якім доктар Франьцішак Скарына дамагаўся ад варшаўскіх крэдытараў брата 6000 копаў літоўскіх грошаў кампэнсаты за прычыненыя яму й віленскаму біскупу маральныя й матар'яльныя шкоды беспадстаўным арыштам. У лістападзе таго самага году доктар Скарына едзе ў Кракаў да караля сам, каб атрымаць дзьве важныя прывілейныя граматы. Аднэю, выстаўленаю 21 лістапада, кароль звальняў яго ад усякае адказнасьці за даўгі памерлага брата, паколькі юрыдычна адказны за іх Іванаў сын Раман, ды забараняў трывожыць доктара Скарыну за падобныя даўгі й на будучыню. Другою, выстаўленай 25 лістапада, кароль браў Скарыну пад сваю беспасярэднюю апеку ды юрыдычную ахову. Кароль выймаў яго з-пад улады ваяводаў, гараднічых, старастаў ды іхных урадоўцаў. У будучыні доктар Скарына мог падлягаць толькі ўладзе ды суду самога караля й вялікага князя.[9]

Калі справа доўгу брата Івана й прынясла доктару Скарыну ня мала клопатаў ды давяла навет да ягонага арышту, ды й зь яе ён усё-ж урэшце вышаў пераможна. Як акты паказваюць, ніякой ягонай маемасьці за братавы даўгі ніхто, навет і часова, не сканфіскаваў. З гэтага вынікае, што й яшчэ адну ўпорыстую лягенду Скарынавае біяграфіі аб тым, быццам за братавы даўгі ягоная маемасьць была сканфіскаваная, пара адкінуць, як не абгрунтаваную на фактах.

Калі прывілейнымі каралеўскімі граматамі доктар Скарына й завяршыў сваю перамогу над назойлівымі варшаўскімі купцамі й на падставе гэтых граматаў ён здабыў навет высокаўпрывілеяваную ў дзяржаве юрыдычную пазыцыю, ды дазнаныя крыўды й паніжэньні з прычыны беспадстаўнага арышту, хіба ўсё-ж кранулі моцна ягоную чалавечую годнасьць. Мелі яны напэўна свой уплыў і на колькі год пазьнейшую навагу доктара Скарыны пакінуць Вільню, і сваю Літву, ды з усей сям'ёй выехаць на чужыну.

---

[9] Лацінскія тэксты гэтых прывілейных граматаў, зь іх перакладам на беларускую мову д-ра П. Татарыновіча, надрукаваныя ў гэтым зборніку. Там шырэй і пра пазнанскі арышт доктара Скарыны ды абставіны выстаўленьня прывілейных граматаў.

## КАРАЛЕЎСКІ САДОЎНІК НА ГРАДЧАНАХ

Ніякіх дакумэнтаваных вестак пра справы й дзейнасьць доктара Скарыны ў гадох 1533—1534 ня маем. Ёсьць некаторыя паказаньні на тое, што каля году 1533 ён быў праездам у Вітэмбэрґу, ды сустрэўся там зь Пілiпам Мэлянхтонам і Марцінам Лютэрам. Ды паказаньні гэтыя вымагаюць яшчэ грунтоўнага перагляду мэмуарнае, архіўнае ды летапіснае нямецкае літаратуры датычнае да доктара Марціна Лютэра, каб іх пацьвердзіць, ці — адкінуць.[10] Толькі ў полацкім актавым запісе судовае справы 1535 году двух зяцёў Івана Скарыны за радавую зямлю Скарынаў на полацкім замку як адзін з сууласьнікаў гэтае зямлі згадваецца й доктар Франьцішак Скарына, ды як той, што прабывае гэтым часам нейдзе далёка ад Полацка. Сяньня ведама, што доктар Скарына тады знайходзіўся ўжо ў Празе на становішчы каралеўскага садоўніка.

Кароль Аўстрыі, Чэхіі ды Вугоршчыны, Фэрдынанд I, для ўцехі свае жонкі каралевы Ганны зь Ягайлавічаў, наважыў заснаваць у Празе, пры каралеўскім замку на Градчанах, рэпрэзэнтацыйны парк. Грунт пад парк быў прыдбаны ды ачышчаны яшчэ ў восені 1534 году. Зь вясною-ж году наступнага пачалася праца над закладзінамі парку. Ішла адначасна ў ім і будова каралеўскае летняе рэзыдэнцыі «Летоградку». Пры пабудове палацу працавалі італіянскія майстры будаўнікі, а над справай закладзінаў парку дбаў каралеўскі садоўнік «Містр Франціско» — Maister Francisco — доктар Скарына. Гэтак паўставаў адзін зь першых рэнэсансавых паркаў цэнтральнае Эўропы. У дынастычных сувязях караля Фэрдынанда праз жонку Ганну зь Ягайлавічаў з пануючым домам Ягайлавічаў у Польшчы ды Ліцьве хіба трэба шукаць і прычынаў таго, што калі доктар Скарына наважыўся пад канец жыцьця пакінуць сваю бацькаўшчыну, дык накіраваўся ў Чэхію, ды што справа закладзінаў каралеўскага парку на Градчанах была даручаная яму.

Праца над разбудовай і парку, і палацу, ішла не бяз клопатаў і перашкодаў, галоўна дзеля хранічнае пусьціні скарбу чэскай каралеўскай каморы, абавязкам якое было даваць грошы на пакрыцьцё ўсіх патрэбных на гэта коштаў. Вялікія сумы ішлі найперш на ваенныя выдаткі, зьвязаныя ці зь нясупыннымі войнамі караля Фэрдынанда з турэцкім султанам Сулейманам Пышным за Вугоршчыну, ці дзеля ня менш частае патрэбы вайсковае дапамогі Фэрдынандаваму брату, нямецкаму імпэратару, Карлу V. Ці раз ня было чым плаціць і найманым для разбудовы й дагляду парку работнікам, і самому каралеўскаму садоўніку. Ведама, што вясною 1539 году праская каралеўская камора вінаватая была садоўніку «Містру Франьцішку» паважную суму, бо 200 гульдэнаў, ды дапытвалася ў караля лістом скуль узяць грошы на пакрыцьцё гэтага доўгу. Ды, не зважаючы на ўсе перашкоды, парк быў заснаваны, уладжаны, засаджаныя ў ім краскі й дрэвы расьлі, і ўжо на пачатку год 1550-х пра яго багацьце ды красу зь вялікай пахвалой пісалі чэскія аўтары.

---

[10] Шырэй пра магчымую сустрэчу ў Вітэмбэрґу доктара Скарыны зь Пілiпам Мэлянхтонам ды Марцінам Лютэрам у працы: Брага, Сымон. Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны, тамсама, б. 23—25. Адбітка, б. 21—23.



Wierzigy list Symeona Rusa

My Ferdynand etc. Oznamugem tymto listem wssem. Jakoz gest niekdy Doktor ffrantissek Russ o korynspolecyho zahradnyk nass w tomto kralowstwj Czieskem, yza Czyzozemecz z tohoto swieta sessel, a po sobie syna Symeona Rusa, a niekderey statek, listy, dluhy a gine swe sprawedlnosti zanechal. V prosyl gest nas dotcziený Symeon za list otewrzeny a rozkaz wubecz, kdezby se tak yakeho statku dotczieneho niekdy otcze sweho doptal, aby mu wydan byl a dopomožieny se stalo. Na takowau slussnau a pomzienau prozbu geho, wssem Rychtarzuom nassym, purgmistruom a konsseluom w miestech y ginym wssem poddanym nassym w kralowstwi czieskem, tymto listem poraucžieti račžime, kdezby gmenowany Symeon Rus yakeho koli statku, listu dluhuow, knieh, y ginych wieczy, temuz niekdy doktoru ffranczowi otczy geho nalezicžych doptal, a z toho napominal neb winil, abysste gemu yakozto diedicy a synu to wydali, a zaplatili, y skutecžne k sprawedlnosti geho bez dalssich odkladuow dopomohli, gynacžie necžinicze. Dan na hradie nassem Prazskem, we cztwrtek po Swatych ffabianu a ssebestianu. Letha od narozeny Syna Bozyho, tisyczeho pietisteho padesateho Druheho, a kralowstwy nassych, Rzimskeho dwamezcytmeho, a ginych Sestmezcytmeho.

*Адкрытая грамата караля Фэрдынанда I дадзеная 29 студзеня 1552 году ў Празе Скарынаваму сыну Сымону.*
*(Зъ мікрафільму дасланага Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва прафэсарам А. В. Флароўскім).*

У ліставаньні чэскае праскае каморы з каралём Фэрдынандам каралеўскі садоўнік апошні раз як жывы згадваецца яшчэ 10 чэрвеня 1540 году. Ды праз год, у вопісе чэскага храністага Вацлава Гаека зь Лібочан вялікага пажару Прагі 2 чэрвеня 1541 году, знайходзім кароткую вестку аб тым, што «На праскім замку ў вагні загінулі . . . у доме сьвятара Яна з Пухава, казаньніка, кухарка Магдалена, ды хлопчык Францішак, сын колішняга доктара Руса».

З гэтае вось ведамкі, заўважанае першы раз А. Флароўскім, трэба зрабіць выснаў, што калі здарыўся пажар Прагі, доктара Скарыны, і даўжэйшы ўжо час, у жывых ня было. З гэтага вынікае, што памёр ён яшчэ ў годзе 1540-м, але не раней 10 чэрвеня таго году. Ня жыла тады ўжо й ягоная жонка Маргарэта, і дзеля гэтага асірочанага сына ў сваім доме й прыхінуў сьвятар праскае замкавае катэдры сьвятога Віта, ведамы чэскі культурны дзеяч Ян з Пухава. У ягоным доме Скарынаў сын Францішак 2 чэрвеня 1541 году трагічна ў вагні й загінуў. Дык доктар Францішак Скарына памёр у 1540 годзе ў Празе, там ён нейдзе й пахаваны. Магіла ягоная пакульшто ня знойдзеная.

Як тойсамы А. Флароўскі выявіў, другі сын доктара Скарыны, Сымон, па прозьвішчы Рус, калі дайшоў у 1552-м годзе да юрыдычнага паўналецьця, выстараўся ў караля Фэрдынанда I пачэску пісаны адкрыты ліст, якім кароль загадваў усім урадам і ўсім сваім падданым у каралеўстве Чэскім даваць яму ўсякую патрэбную дапамогу пры ягоных росшуках ды спагоне бацькавае маемасьці ды кнігаў. А яшчэ праз 25 год, у годзе 1577, чэскі летапісец зрабіў запіс аб тым, што «Паляк Сымон, па прозьвішчы Рус, з Полацка» — выяўна тойсамы Сымон Рус Скарына — практыкаваў тады як лекар на паўдні Чэхіі, у Крумлёве.

## У СЬВЯТЛЕ ФАКТАЎ І ГІСТОРЫІ

Ведама, што ў архівах Эўропы ляжаць, некранутыя яшчэ рукою дасьледнікаў, гурбы матар'ялаў пра доктара Франьцішка Скарыну. Ды, калі й сяньня ня ўсё мы яшчэ пазналі й ведаем пра ход жыцьця й дзейнасьці выдатнага Палачаніна, калі ў ягонай біяграфіі сьвецяцца ўсё яшчэ не малыя «белыя плямы», ды жыцьцяпіс доктара Скарыны цяпер далёка ня гэткі фрагмэнтарны, ня зьлеплены з мала із сабой павязаных эпізодаў, якім ён быў пры канцы XIX стагодзьдзя, у часы П. Валадзімірава, ці яшчэ й сорак год таму, калі ў Менску выдаваўся скарынінскі юбілейны зборнік «Чатырохсотлецьце беларускага друку».

Ведамага, цікавага й важнага пра доктара Скарыну сяньня даволі й для вялікага біяграфічнага палатна. Здарэньняў і падзеяў, драматычных прыгодаў і ідэйна-сьветаглядных канфліктаў, што разгортваліся на прасторы блізу ўсяе Эўропы — ад Італіі й Скандынавіі на захадзе, да Маскоўшчыны на ўсходзе — у ягоным жыцьцяпісе дастаткова, і няма патрэбы ствараць фікцыйныя здарэньні ці лягенды, што толькі дэфармуюць і хвальшуюць ведамую біяграфічную й гістарычную праўду. Хопіць для гэтага прыгадаць хоць-бы яскравы слаўны падуанскі эпізод, праскія ды віленскія ўзвышшы й занапады літаратурна-выдавецкай дзейнасьці, раптоўны загадачны кеніґсбэрскі паварот, пазнанскае зьняволеньне, ці той драматычны канфлікт нясумяшчальных ідэяў і сьветаглядаў — духа вольнае дэмакратычнае думкі ды фанатычнага дагматычнага дэспатызму — яскраваю выяваю якога было публічнае спаленьне кнігаў Скарыны ў Маскве.

З раскрыцьцём апошнімі гадамі новых балонак жыцьця ды новых галінаў і месцаў дзейнасьці, духовая постаць доктара Скарыны ўзрасла, змагутнела, і стала перад намі куды больш складанай, багатай і велічнай, як яна выглядала калісьці нашым папярэднікам. Гэта постаць з аднаго боку шчырых, глыбокіх хрысьціянскіх пераконаньняў, а з другога — наважанага гуманістычнага сьветагляду, бязь і ценю канфэсыйнае абмежанасьці ці артадаксыйнае сэктанскае самазамкнутасьці. У дзейнасьці доктара Скарыны ніякіх сьлядоў рабскага дагматызму ці сьляпога агрэсыўнага фанатызму. З гэтага гледзішча Скарына верны сын духу свае рэнэсансавее пары ды свае Полацкае й усяе беларускае зямлі, дзе традыцыі дэмакрацыі й талерантнасьці вяліся ад стагодзьдзяў, ды асабліва жывыя былі ў ягоную якраз пару.

Уражае ў доктара Скарыны заўсёды тое, што хоць ён і нязвычайна высокае на сваю пару ўнівэрсытэцкае адукацыі ды грамадзянін усяе Эўропы ў поўным значаньні гэтага слова, ды ён ніколі не забываўся й на сваю зямлю, свой народ, але жыў іх якраз справамі й патрэбамі. Здабытыя ўзвышшы эўрапейскае думкі й навукі не адарвалі яго ад роднае глебы й традыцыяў. Шчыры дэмакратычны патрыятызм вязалі моцна Скарыну зь ягоным «людам паспалітым» праз усё жыцьцё. Гэта яго справамі й доляй ён жыў, гэта яны былі крыніцаю тае духовае сілы, што піхала яго да ахвярнае вытрывалае дзейнасьці для «добрага паспалітага». Грамадзка-патрыятычныя матывы — галоўная ідэйная пружына ўсяе літаратурна-выдавецкае дзейнасьці Скарыны. Дабро грамады, дабро агулу, дабро народу Скарына ставіў вышэй справаў прыватных, асабістых. Ён казаў: «Ня толькі самі сабе нараджаемся на сьвет, но болей ка службе Божай і паспалітага добрага».

Свой глыбокі патрыятызм і вынікаючыя зь яго маральна-грамадзкія абавязкі да свайго краю й народу доктар Скарына выказаў найяскравей у прадмове да Кнігі Юдыты сваім, слаўным ужо, пастулятам, каб мы «ўсякага труду й скарбаў для паспалітага добрага й для айчыны свае не шкадавалі, бо ад прыраджэньня зьвяры, што ходзяць у пустыні, знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць па паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры й у рэках, чуюць віры свае; пчолы й тым падобнае, бароняць вульляў сваіх; — тако-ж і людзі, дзе зрадзіліся й ускормленыя суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку й маюць».

Ня ў пляне гэтага кароткага жыцьцяпіснага нарысу разглядаць вялікае культурна-гістарычнае значаньне дзейнасьці доктара Скарыны. Прывесьці можна толькі правільнае бясспрэчна яго агульнае асэнсаваньне, дадзенае памерлым нядаўна выдатным гісторыкам і скарыністым Антонам Васілевічам Флароўскім:

«Дзейнасьць Скарыны — складаная й шматгранная. Яго жыцьцёвы шлях ня быў просты. Адзін пералік ягоных зацікаўленьняў паказвае, які гэта быў адукаваны чалавек, наколькі разнабаковыя былі ягоныя захапленьні й магчымасьці . . . Тое, што ён зрабіў, вылучае яго ў шэрагі самых выдатных дзеячоў кніжнай справы. Вялізарны яго ўклад у разьвіцьцё эўрапейскага кнігадруку . . . Па сіле розуму, па размаху яго асьветнай і кнігавыдавецкай дзейнасьці, рэдка каго зь дзеячоў пачатку XVI стагодзьдзя можна параўнаць з Франьцішкам Скарынам . . . Скарына паказаў вялікі прыклад самаадданага служэньня роднаму народу. Служыць „добраму паспалітаму" завяшчаў ён і нашчадкам».




*Партрэт доктара Франьцішка Скарыны ў Sala dei Quaranta Падуанскага ўнівэрсытэту. Маляваў Giacomo dal Forno.*

# Скарына ў Падуі

*Вітаўт Тумаш*

O, Padua, you nursery of fine arts!
*William Shakespeare*

Мяркаваньні, што вышэйшую асьвету Францішак Скарына здабываў ня толькі на Кракаўскім, але й на нейкім іншым унівэрсытэце, — найбаржджэй на адным з унівэрсытэтаў Італіі, — выказваліся яшчэ перад тым, як былі знойдзеныя архіўныя на гэта довады. Наводзілі на гэткую думку некаторыя факты самога Скарынавага жыцьцяпісу. Ведама было, прыкладам, што Скарына меў два дактараты — «навукаў вызваленых» і «навукаў лекарскіх». Разоў колькі адзначае ён гэта сам у кнігах Бібліі свайго выданьня, як у кнізе Ісуса Навіны — «в науках вызволеных и лекарствех доктор», ці ў Кнізе Руты «в лекарстве и науках доктор».

Знаем тымчасам, што на Кракаўскім унівэрсытэце Скарына студыяваў толькі «навукі вызваленыя», філязофію. Няма-ж ніякіх дадзеных на тое, каб вучыўся ён там і мэдычнае веды. Ды гэта й мала праўдападобна, бо навучаньне мэдыцыны ў Кракаве ў тую пару было на даволі нізкім узроўні. На мэдыцынскім факультэце існавалі там тады ўсяго дзьве катэдры, калі на праве было 7, на тэалёгіі 12, а «вызваленыя навукі» мелі іх аж 22.[1] Цяжка й дапушчаць, каб пасьля праслуханьня лекцыяў толькі гэтых дзьвёх кракаўскіх мэдыцынскіх катэдраў Скарына змог пасьлей — і нязвычайна бліскуча — скласьці дакторскія экзамены на найслаўнейшым тагачасным мэдыцынскім факультэце, на падуанскім.

Калі вельмі непраўдападобна, каб мэдыцыну Скарына студыяваў у Кракаве, дык дактарат у гэтай галіне здабыць там яму было й немагчыма, бо ў гады Скарынавых акадэмічных студыяў дактаратаў з мэдыцыны ў Кракаве яшчэ не давалі. Абсальвэнты кракаўскага мэдыцынскага факультэту па дактарат мусілі ехаць тады за межы. Першая ведамая дактарызацыя мэдыкаў у Кракаве адбылася толькі 28 лютага 1527 году, у часе рэктарату прафэсара мэдыцыны Лукаша Наскоўскага, ці 15 год пасьля таго, як Скары-

[1] Barycz Henryk. Historja Uniwersytetu Jagiellońskiego w epoce humanizmu. Kraków, 1935; б. 191, 215 ды іншыя.

на сваю вышэйшую адукацыю завяршыў ужо дактаратам з галіны мэдыцыны.[2]

На думку, што Скарына студыяваў і на ўнівэрсытэтах Італіі, наводзіла дасьледнікаў ягонага жыцьцяпісу найперш сьведамасьць таго, што ў Скарынаву пару, пры канцы XV й на пачатку XVI стагодзьдзяў, моладзь зь Вялікага Княства Літоўскага, дзеці магнатаў, замажнейшае шляхты ды меставога патрыцыяту, па акадэмічную асьвету, апрача польскага Кракава й чэскае Прагі, кіравалася найчасьцей на вышэйшыя школы Італіі, звычайна на ўнівэрсытэты Балёніі ды Падуі. Зьмянілася гэта толькі ад другой палавіны XVI стагодзьдзя, у пару пашырэньня рэфармацыйнага руху на землях Беларусі, калі гэтая моладзь, пратэстанцкага, пераважна, веравызнаньня цяпер сама, хлынула масава на навуку на пратэстанцкія ўнівэрсытэты Нямеччыны. Вось, улічаючы гэта, Пётра Валадзіміраў у сваёй манаграфіі пра Скарыну 1888 году й пісаў, што дактарат у лекарскіх навуках мусіў ён здабыць «у Нямеччыне, у Італіі (найхутчэй у Балёніі), ці ў Празе».[3] Валадзімірава дапушчэньне аб Італіі, як магчымай краіне лекарскае дактарызацыі Францішка Скарыны, неспадзеўкі хутка, бо праз чатыры ўжо гады, было пацьверджанае архіўнымі знахадкамі. Выявілася, праўда, што дактарызацыя гэтая адбылася не, як гадаў Валадзіміраў, у Балёніі, а ў Падуі.

Абставіны выяўленьня й публікацыі, яшчэ пры канцы мінулага стагодзьдзя, гэтых, для біяграфіі Скарыны вельмі важных архіўных дакумэнтаў, разгляд іх зьместу, факт нядаўнага адкрыцьця новага актавага запісу ў Падуі з новымі важнымі жыцьцяпіснымі ведамкамі пра доктара Скарыну, рэпрадукцыя ўсіх гэтых актавых запісаў, лацінскія іх тэксты ды беларускія пераклады, і складаюць зьмест гэтага нарысу пра «Скарыну ў Падуі».

## ЗНАХАДКА ДОКТАРА ВІНДАКЕВІЧА

З даручэньня Польскае Акадэміі Навук у Кракаве доктар Станіслаў Віндакевіч пры канцы XIX стагодзьдзя праводзіў перагляд актаў і дакумэнтаў італіянскіх старасховаў для выяўленьня ведамак пра тых палякоў, што студыявалі калісьці ў Італіі. У выніку гэтых росшукаў, у 1892 годзе, у выданьні Польскае Акадэміі Навук, паказалася публікацыя «Матар'ялы да гісторыі палякаў у Падуі». У гэтай працы Ст. Віндакевіч падаў, між іншага, да ведама, што ў ваднэй з актавых кнігаў факультэту «Артыстых і мэдыкаў» падуанскага ўнівэрсытэту, у кнізе Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum, пад 1512 годам, ёсьць актавыя запісы й пра Францішка Скарыну з Полацка, запісы датычныя ягоных экзаменаў на годнасьць

---

[2] Conclusiones Universitatis Cracoviensis ab anno 1441 ad annum 1589. Wydał Henryk Barycz. Polska Akademja Umiejętności. Archiwum Komisji do dziejów Oświaty i szkolnictwa w Polsce, Nr. 2. Kraków, 1933; б. 172.

[3] Владимиров Петр Владимирович. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатныя издания и язык. Общество Любителей Древней Писменности. Том XC. Санктпетербург, 1888; б. 56.

доктара лекарскіх навукаў. Віндакевіч даў і кароткія выпіскі з гэтых запісаў.[4]

Здарылася гэтак, што зь Віндакевічавай працай, і, відавочна, яшчэ перад яе публікацыяй, змог пазнаёміцца выдатны славісты, прафэсар бэрлінскага ўнівэрсытэту, Аляксандра Брукнэр. Пра цікавую архіўную знаходку ў кажным выпадку ён ужо ў 1891 годзе, ці яшчэ перад друкам Віндакевічавага паведамленьня, спамянуў у гутарцы з дацэнтам пецярбурскага ўнівэрсытэту, гісторыкам расейскае літаратуры, Ільлёй Шляпкінам. Заінтрыгаваны справаю, Шляпкін улетку таго самага году пасьпяшаўся да Падуі, расшукаў тамака ў архіве актавыя запісы пра Скарыну, парабіў пры дапамозе прафэсара Антонiё Савары зь іх водпісы, ды ў годзе 1892-м апублікаваў лацінскія тэксты трох актавых дакумэнтаў у красавіковым ужо нумары пецярбурскага часапісу «Журнал Министерства Народного Просвещения». Публікацыю сваю Шляпкін прысьвяціў Пётру Валадзіміраву, аўтару друкаванае колькі год перад гэтым, у 1888 годзе, манаграфіі пра доктара Скарыну, тады ўжо прафэсару Кіяўскага ўнівэрсытэту.[5]

Дык у тымсамым годзе, як у межах тагачаснае Аўстрыйскае імпэрыі, у Кракаве, зьяўлялася Віндакевічава праца з паведамленьнем пра знаход Скарынавых падуанскіх актаў, у тагачаснай сталіцы імпэрыі Расейскай, у Пецярбурзе, друкаваліся ўжо тэксты гэтых актаў. Гэта адзін з яскравых прыкладаў ведамае рывалізацыі расейскіх і польскіх дасьледнікаў XIX стагодзьдзя на полі навуковага вывучэньня Беларусі, рывалізацыі, што давяла да публікацыі цэлае чарады важных навукова матар'ялаў і каштоўных беларусаведных працаў найперш з галіны гісторыі ды этнаграфіі Беларусі.

Публікацыя Шляпкіным тэкстаў трох падуанскіх актавых запісаў пра Скарыну была важным дапаўненьнем да кароткага Віндакевічавага паведамленьня пра факт самога іх выяўленьня, хоць была яна й не без загана ў з гледзішча навуковага. Калі супаставіць тэкст апублікаваны Шляпкінам з тэкстам фатаадбіткаў актавых арыгіналаў, дык можна заўважыць паважныя недакладнасьці й памылкі, што паўсталі пры нялёгкім адчытваньні лацінскага скарапісу запісу. Дапушчаныя былі й неапраўдальныя з навуковага гледзішча пропускі. Прыкладам, імі й прозьвішчы тых 24-х прафэсароў Сьвятое Калегіі, што складалі экзаменацыйную камісію падчас Скарынавага дакторскага экзамену ў Падуі, а якія пададзеныя пры канцы трэцяга запісу, Шляпкін у сваёй публікацыі збыў, як малаважную драбніцу, словамі: «24 подписи присуствующих». Тымчасам гэтыя «24» ня нейкія прыпадкова прысутныя пасыўныя сьведкі падзеі, а 24 прафэсары падуанскага ўнівэрсытэту, праз крыжавы агонь запытаў якіх Францішку Скарыну трэ было пераможна перайсьці на тое, каб здабыць ступень доктара ў галіне лекарскіх навукаў. Памылкова Шляпкін кажа й аб «подпісах». Пад тэкстам запісу ніякіх подпісаў няма. Там толькі пратакольны, зроблены рукою сакратара, паіменны пералік прысутных на экзамене прафэсароў Калегіі. Свае подпісы яны, магчыма, паклалі на арыгінале дакумэнту

---

4 Windakiewicz St. Materyały do historji Polaków w Padwie. Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. Tom VII. Kraków, 1892; б. 158.

5 Шляпкин И. К биографии Франциска Скорины. «Журнал Министерства Народного Просвещения», № 4. Санктпетербург, 1892; б. 382—385.

дактарызацыі, на дыплёме, што, хіба-ж, быў уручаны новаму доктару, а які, відавочна, не захаваўся.

Ды, не зважаючы на ўсе свае хібы й недахопы, Шляпкінава публікацыя была важнаю дакумэнтнаю падмогаю дасьледнікам для выяўленьня таго, як праходзіла дактарызацыя слаўнага Палачаніна, ды чым важнаю была Падуя на жыцьцёвым шляху найвыдатнейшага дзеяча беларускае культуры XVI стагодзьдзя.

## МІНАТАЎ ЗБОР, ДОРЫҐЭЛЬЛЯВЫ СЬПІС

Калі славістыя Эўропы першы раз з публікацыяў Віндакевіча ды Шляпкіна, і толькі ў 1892 годзе, дазналіся пра факт прабываньня ў Падуі й дактарызацыі Францішка Скарыны ды пра існаваньне ў тамашніх архівах датычных гэтага актавых запісаў, дык гэта ня значыць, што ніхто ня бачыў гэтых запісаў перад гэтым. Былі італіянскія навукоўцы, што гарталі й чыталі іх ужо 150 год перад Віндакевічам, яшчэ ў першай палавіне XVIII стагодзьдзя. Пакінулі яны аб гэтым і свае пісаныя сьветчаньні.

Першы, пра якога ведама, што ён знаў падуанскія запісы пра доктара Скарыну, гэта Джузэппэ Марыя Мінато — Giuseppe Maria Minato — ад 1737 году канцлер Universitas artistarum падуанскае акадэміі. Важная для ўнівэрсытэту заслуга Мінато была тая, што каля 1740 году ён сабраў і спарадкаваў раськіданыя перад тэтым старыя акты й дакумэнты падуанскага ўнівэрсытэцкага архіву. Гэтак паўстаў 37-томны «Мінатаў збор» — Raccolta Minato.[6] Сваю працу Мінато завяршыў інвэнтарызацыйным, зробленым у італіянскай мове, сьпісам сабраных дакумэнтаў паводле паасобных справаў — Indice generale per materiam. У сваім сьпісе актаў «Калегіі мэдыкаў і філязофаў» — Memorie sopra lo Studio e Collegio di Medici e Filosofi, 1150—1591, fol. J. 646, Мінато адзначыў і актавыя запісы пра Скарыну, падаў дату (памылкова «8 лістапада» заміж лістапада 9-га), імя й прозьвішча дактарызаванага (прозьвішча таксама з памылкай — Porina заміж Skorina), месца паходжаньня, нацыянальнасьць, становішча, пералічыў імі й прозьвішчы пяці прамотараў, ды даў паказаньне, дзе гэтыя запісы ў актавых кнігах знаходзяцца. Вось зь Мінатавага рэестровага сьпісу Ст. Віндакевіч пры канцы XIX стагодзьдзя й даведаўся пра існаваньне актавых дакумэнтаў аб Скарыну ў Падуі. Каб ня Мінатаў збор і даведка ў ім пра Скарыну, пратаколы Скарынавых падуанскіх экзаменаў, магчыма, яшчэ й сяньня ляжалі-б, нікім незаўважаныя, у старасховах Падуі.

Другі, хто ў тымсамым яшчэ стагодзьдзі, што й Мінато, знаў пра Скарынавы запісы ў Падуі, гэта падуанскі абат Францэско Дорыґэльлё — Francesco Dorighello (1731—1815). У другой палавіне XVIII стагодзьдзя Дорыґэльлё займеў нялёгкае заданьне: наважыўся ён скласьці храналягічны сьпіс усіх дактароў, падуанцаў і не падуанцаў, што былі прамаваныя на Падуанскім унівэрсытэце за звыш паўтысячы тады ўжо год яго існаваньня. Ягоная рукапісная, пісаная паіталіянску, праца, мае назоў Elenco di laureati in questa Universita, di Padova e non Padovani. Дорыґэльлявы рукапіс перахоўваецца цяпер у бібліятэцы Падуанскага ўнівэрсытэту (Ма-

---

[6] Favaro Antonio. L'Universita di Padova. Venezia, 1922;б. 97.

noscritto, 43, II, f. 272).[7] Дорыґэльлё ў сваім запісе падаў важнейшыя весткі з актавых экзаменацыйных пратаколаў пра Скарыну, згадаў пра першы пробны экзамен Скарыны й пра другі прамацыйны, ды дадаў ад сябе паясьненьне, што Полацак, зь якога паходзіў Скарына, гэта «места ў Ліцьве» — «civita nella Lituania».

Ні Джузэппэ Мінато, ні Франчэско Дорыґэльлё, пэўна-ж, нічога ня знаалі пра тое, які быў далейшы лёс нязвычайнага юнака з далёкага паўночнага Полацку, што сваёю ведай, красамоўнасьцяй, тактам, зьдзівіў калісьці вучоных мужоў Сьвятое Калегіі Артыстых і Мэдыкаў Падуі. Яны ня ведалі пра ягонае важнае значаньне ў гісторыі пісьменнасьці й друку й свае бацькаўшчыны, і ўсяе ўсходняе Эўропы. Ні Мінато, ні Дорыґэльлё не ўсьведамлялі таго, што «бедны юнак», які ў восені 1512 году прыбыў у Падую за «чатыры, ці мо й болей тысячаў міляў», датрымаў дадзенае Сьвятой Калегіі прырачэньне, што за допуск яго «з ласкі Божае» да экзаменаў на годнасьць доктара лекарскіх навукаў, ён пастараецца прынесьці гонар і для ўнівэрсытэту, і для Падуі. Дзеля гэтага і іхнае зацікаўленьне Скарынам і экзаменацыйнымі аб ім запісамі й ня ішло далей самае рэгістрацыі актаў ды адзначэньня важнейшых фактаў цікавае падзеі.

Хоць і неапублікаваныя друкам, рукапісныя рэестровыя запісы Мінато й Дорыґельлё сталі пазьней вельмі важнаю дапамогай навукоўцам пры выяўленьні факту падуанскае дактарызацыі Скарыны. Былі яны першымі ар'ентацыйнымі ніткамі, па якіх дасьледнікі з часам дайшлі й да самых актавых пратакольных запісаў, у якіх гэтак яскрава апісаны ход Скарынавых экзаменаў. Фатарэпрадукцыі запісаў Мінато й Дорыґэльлё, даслоўныя іх тэксты й беларускія пераклады, памешчаныя пры канцы гэтага нарысу.[8]

## ПАДУАНСКІ ЎНІВЭРСЫТЭТ

Перад тым, як перайсьці да разгляду зьместу падуанскіх актавых запісаў пра дактарызацыю Францішка Скарыны, мэтазгодным будзе даць некаторыя даведкі аб самым унівэрсытэце Падуі, яго гісторыі, арганізацыйнай тагачаснай структуры, агульнаэўрапейскай важнай ролі. Гэтыя інфармацыі памогуць зразумець лепш факты пададзеныя ў актавых запісах ды ўсьведаміць, як праходзіла сама дактарызацыя.

Пасьля ўнівэрсытэтаў Парыжа (год заснаваньня 1110), Балёніі (1158), Оксфарда (1167), Монтпэльле (1181) і Кэмбрыджу (1209), шосты па чарзе паводле часу свайго паўстаньня ўнівэрсытэт Падуанскі быў у сваю пару адным з найвыдатнейшых. Заснаваны яшчэ ў 1222 годзе, у часе Скарынавай на ім дактарызацыі ён меў за сабою ўжо блізу 300-годнюю традыцыю акадэмічнага навучаньня. Падуя, даўжэйшы час незалежная, ад пачатку XV стагодзьдзя падпала пад уладу магутнае суседняе купецкае рэспублікі

---

[7] Віндакевіч карыстаўся рэестровымі запісамі й Мінаты, і Дорыґэльлё (тамсама, б. 157). Шляпкін (тамсама, б. 382) прывёў італьянскі тэкст запісу Дорыґэльлё.

[8] Пачатковыя радкі запісу Мінаты й увесь запіс Дорыґэльлё былі рэпрадукаваныя ў часапісе „Žnič“, Rym, Nr. 62—63, 1961; b. 10; і Nr. 64—65, 1962, b. 12.

Вэнэцыі. Унівэрсытэт з гэтага толькі скарыстаў, бо вэнэцыянскія доджы й сэнатары разумелі важнае ня толькі культурнае, але й палітычнае значаньне падуанскае акадэміі ды шчодра ёю апекаваліся. У выніку, унівэрсытэт матар'яльнымі выгадамі мог прыцягваць найвыдатнейшыя навуковыя сілы Італіі. У рупнасьці пра ўнівэрсытэт Вэнэцыя ў 1407 годзе забараніла навет сваім падданым студыяваць права на іншым, не падуанскім, унівэрсытэце. Маючы ў сваей залежнасьці ды пад сваёй апекаю недалёкую, ледзь 30 км ад Вэнэцыі адлеглую ды слаўную на ўвесь сьвет Падуанскую акадэмію, Вэнэцыя ня мела патрэбы закладаць вышэйшую навуковую ўстанову ў сябе й Падуя стагодзьдзямі спаўняла ролю ейнага ўнівэрсытэцкага гарадка.

Побач гойнае матар'яльнае апекі багатае купецкае рэспублікі сьвятога Марка, для красаваньня ўнівэрсытэту вялікае значаньне мела й лібэральная акадэмічная атмасфэра, што традыцыйна панавала на падуанскай акадэміі. Гэтая акадэмічная свабода красаваць магла таксама найперш дзякуючы пратэкцыі магутнае Вэнэцыі, якая не баялася стаць часта наперакор і найвышэйшага царкоўнага аўтарытэту, папы, дый ці раз была й у вадкрытым мілітарным змаганьні з войскамі рымскага «намесьніка Хрыста». Вэнэцыя магла тады пазволіць сабе на тое, каб на прасторах сваіх валаданьняў сілу папскае цэнзуры й інквізыцыі зьвесьці да кансультатыўнае толькі ролі.

Для лібэральнае атмасфэры на ўнівэрсытэце, таляранцыйнасьці й свабоды думкі, вялікае значаньне мела й сама рэлігійная палітыка Вэнэцыі, што вынікала з гандлёва-купецкае мэнтальнасьці й дзяржаўнасьці ды асаблівага геапалітычнага палажэньня гэтае інтэрнацыянальнае тады мэтраполіі на скрыжаваньні гандлёва-камунікацыйных шляхоў між Захадам і Усходам. Мелі для гэтага сваю вагу й чыста практычныя мяркаваньні — патрэба прыцягваць, а не адштурхваць ад сябе чужых студэнтаў. У выніку, падуанская акадэмія красавала, ейны аўтарытэт рос, слава ішла далёка за межы Італіі, а Падуя ад XVI стагодзьдзя стае адным з найбольш актыўных цэнтраў навукі, месцам фэрмэнтацыі новых паглядаў і сьмелых ідэяў, ды важным вогнішчам поступу эўрапейскае думкі.

Па сваёй арганізацыйнай структуры падуанская акадэмія ў Скарынавы часы дзялілася на два ўнівэрсытэты: юрыстых, ці легістых — Universitas iuristarum, і «артыстых» — Universitas artistarum. Унівэрсытэт «артыстых» складаўся з трох факультэтаў: тэалёгіі, філязофіі й мэдыцыны. На філязофіі, якую, як ведама, Скарына студыяваў у Кракаве, навучаньне абымала «сем навукаў вызваленых». Тры першыя зь іх, граматыка, лёгіка й рыторыка, складалі гэтак званае trivium, музыка-ж, арытмэтыка, геамэтрыя й астраномія групу другую — quadrivium. Навука на філязафічным факультэце ўважалася за агульна-адукацыйную й, звычайна, трактавалася як прыгатова да далейшых студыяў на іншых, спэцыяльных факультэтах. І Францішак Скарына спачатку закончыў, з дактарскім тытулам, «навукі вызваленыя», філязофію, і толькі пасьля студыяваў мэдыцыну ды дактарызаваўся ў галіне навукаў лекарскіх.

Апрача навучальнага падзелу, існаваў на акадэміі яшчэ й нацыянальны падзел студэнтаў, таксама на два ўнівэрсытэты. Першы, Universitas citramontanorum, абыймаў студэнтаў, што паходзілі ізь земляў на поўдзень ад Альпійскіх гораў, ці «перадгаран» — citramontani. Былі гэта італіянцы. Пе-

радгаране гуртаваліся ў «правінцыі». Другі — Universitas ultramontanorum, гуртаваў студэнтаў, што паходзілі із земляў на поўнач ад Альпаў, «загаран» — ultramontani. Загаране тварылі арганізацыі па нацыянальнасьці, ці «нацыі». Калі студэнтаў нейкае нацыі было шмат, сярод ясе паўставалі яшчэ й згуртаваньні паводле «правінцыяў».

Век тагачасных студэнтаў мог быць ад 17-ці й аж да 40-ку год. Завяршэньнем закончанае акадэмічнае адукацыі было здабыцьцё навуковае ступені доктара. Дактарат даваў права на самастойнае навучаньне ў дадзенай галіне іншых. Акадэмічны год на падуанскім унівэрсытэце ў часы Скарыны пачынаўся 1-га лістапада. Гэтым тлумачыцца, чаму Скарынавы экзамены адбываліся таксама на пачатку лістапада.

Калі ідзе пра мэдыцынскі факультэт, дык побач самое лібэральна-касмапалітычнае атмасфэры ўнівэрсытэту ў Падуі, моладзь Эўропы ахвотна гарнулася туды й дзеля вольнага праводжаньня там анатамічных сэкцыяў, з чым ня ўсюды было тады проста й лёгка. Ужо ў Скарынавы часы падуанскі мэдыцынскі факультэт меў славу найлепшага на ўсю Эўропу, а крыху пасьлей, у часе дзейнасьці на ім сусьветнае славы анатома Андрэя Вэзалія, аўтара векапомнага анатамічнага атляса De humani corporis fabrica (1543), мэдыцынскі факультэт Падуі дасягнуў узьвышшаў свайго красаваньня й славы.

Апрача самое славы Падуанскага ўнівэрсытэту, як найлепшага ў тую пару, магло быць і колькі іншых прычынаў на тое, што для завяршэньня свае лекарскае адукацыі Франьцішак Скарына накіраваўся якраз на падуанскую акадэмію. Ужо сваім геаграфічным палажэньнем на скрыжаваньні міжнародных гандлёва-палітычных і культурных сувязяў, сувязяў найперш між землямі Італіі ды Грэцыі, Балканаў і Усходам Эўропы, Падуя й ейны ўнівэрсытэт былі натуральным прыпынішчам для прагнае навукі й веды моладзі краёў эўрапейскага ўсходу, а ў тым ліку й Вялікага Княства Літоўскага.

Важным было асабліва тое, што праз Вэнэцыю й Падую да Італіі й усяе заходняе Эўропы стагодзьзямі струменіла вялікая духовая спадчына антычных грэкаў — клясычная грэцкая пісьменнасьць, мова, мастацтва — ня чужыя й Скарынавай праваслаўнай Беларусі. У Скарынавы часы навокала слаўнага вучонага-гуманісты й выдаўца Альда Мануцiя ў Вэнэцыі гуртаваліся выдатныя вучоныя й пісьменьнікі з ўсяе Эўропы дый далі зачатак «Новае Акадэміі». Адным з важных заданьняў Акадэміі было здабываньне й рыхтаваньне да друку найвыдатнейшых твораў грэцкіх клясыкаў. Выдавецтва Альда Мануцiя абслугоўвала вучоных усяе Эўропы аўтарытэтна адмыслоўцамі адрэдагаванымі й дасканальна выдадзенымі грэцкімі тэкстамі твораў Герадота, Сафокля, Эўрыпіда, Плятона, Арыстотэля, Піндара, Плютарха.

Пры выбары Скарынам Падуі для лекарскае дактарызацыі істотнае напэўна значаньне меў і згаданы вышэй факт, што падуанскі ўнівэрсытэт у тую пару славіўся сваей лібэральнай атмасфэрай. У адварот-насьць хоць-бы слаўнаму таксама ўнівэрсытэту парыскаму, дзе панаваў строгі сярэднявечны рэжым ды абавязвала бяскрытычная вера ў старыя навуковыя аўтарытэты, у Падуі заўсёды красаваў творчы скэптыцызм, недавер, ды дапушчалася крытыка й прызнаных аўтарытэтаў. Хоць і тут, як тады усюдых, займаліся найперш інтэрпрэтацыяй паглядаў Арыстотэ-

ля, ды Падуя нейк усьцератлася схалястычнага застою здэгэнэраванага арыстотэлізму й заўсёды выяўляла імкненьне да свабоды крытыкі й даволі значнага лібэралізму. Тут заўсёды больш увагі й прызнаньня знайходзілі новыя думкі й сьмелыя ідэі. У Падуі навет і «гарэтыкаў» за іх грэшныя перакананьні не палілі, як тады здаралася, а абаранялі ды ахоўвалі.

Маючы вышэй сказанае на ўвеце, ня будзе дзіўным, што й для Францішка Скарыны, які вырас з народу й краю, дзе рэлігійная, нацыянальная й палітычная свабода й талеранцыя былі старавечнаю ўжо традыцыяй, духовая атмасфэра падуанскага якраз унівэрсытэту мусіла быць блізкою й свойскай, і ён меў падставы спадзявацца, што калі дзе, дык тут будзе чуцца «як у сябе дома».[9]

## УНІВЭРСЫТЭЦКІЯ АКТАВЫЯ ЗАПІСЫ

Выяўленыя ў 1892 годзе Ст. Віндакевічам падуанскія ўнівэрсытэцкія актавыя запісы пра дактарызацыю Францішка Скарыны занесеныя ў кнігу Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum, 1512—1523. Кніга перахоўваецца ў Старым Архіве падуанскага ўнівэрсытэту — Archivio antico della Universita di Padova. Усіх запісаў пра Скарыну ў кнізе тры. Фатарэпрадукцыі гэтых запісаў, лацінскія тэксты арыгіналаў, беларускія пераклады ды паясьненьні, памешчаныя пры канцы гэтае працы. Гэтта даецца кароткі пераказ іхнага зьместу.[10]

Першы запіс, гэта пратакол паседжаньня Сьвятое Калегіі «Артыстых і Мэдыкаў» Падуі ў справе дапушчэньня Францішка Скарыны да дактарскіх экзаменаў з мэдыцыны. Паседжаньне, скліканае віцэпрыёрам Калегіі, прафэсарам Тодарам Муссаты, адбылося ў царкве сьвятога Урбана, у пятніцу 5 лістапада, а 17-ай гадзіне папаўдні. На ім віцэпрыёр рэфэраваў сябром Калегіі справу, дзеля якое паседжаньне было склікане, гэткімі словамі:

«Найдастойнейшыя Спадары Дактары! Прычына скліканьня Вашых Дастойнасьцяў гэткая: Ёсьцека тут адзін вельмі вучоны бедны юнак, Доктар навукаў, што прыбыў зь вельмі далёкіх — чатыры можа тысячы, ці й болей міляў ад гэтага праслаўнага места краёў, — для зьвялічэньня славы й гонару яго, ягонага красуючага суспольства ды Сьвятое Калегіі нашай, і жадаў-бы сабе прызнаньня, з Божае ласкі, і ўдзяленьня гэтаю Сьвятою Калегіяй годнасьці ў галіне лекарскіх навукаў. Калі Вашыя Дастойнасьці дазволіце — прадстаўлю яго самога. Гэты, вышэй згаданы юнак і Доктар, гэта спадар Францішак, сын нябошчыка Спадара Лукаша Скарыны з Полацка, Русіч».

Пасьля гэтага ўведзены быў і прадстаўлены Калегіі Францішак Скарына, які сам прасіў ласкавага прызнаньня сабе годнасьці ў галіне лекар-

---

[9] Больш ведамак пра Падуанскі ўнівэрсытэт можна знайсьці ў згаданай вышэй кнізе А. Фаваро, а таксама ў артыкуле: Егораў Зьмітра — Падуанскі Унівэрсытэт у XV—XVI сталецьцях (Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926; б. 23—38).

[10] Фатарэпрадукцыі арыгіналаў, лацінскія тэксты, беларускія пераклады, памешчаныя таксама ў часапісе „Žnič", Rym. Nr. 61, 1961, b. 6—7; 62—63, 1962, b. 10; Nr. 64—65, b. 12.



*Актавая кніга Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum Падуанскага ўнівэрсытэту ў якой запісы пра экзамен Франьцішка Скарыны.*

скіх навукаў ды прыракаў шырыць за гэта ўсюды «славу й чэсьць Сьвятое Калегіі ды кажнага яе доктара паасобку». Пасьля пярэпытаў сябрамі Калегіі юнака, між прафэсарамі адбылася абмена паглядаў у справе просьбы Скарыны. Па дыскусіі віцэпрыёр Муссаты правёў галасаваньне. Хто быў за гэтым, каб дапусьціць юнака да экзаменаў з мэдыцыны, пры захаваньні ўсіх, вымаганых рэгулямінам унівэрсытэту, правілаў, павінен быў кінуць свой голас у вурну пацьвярджальную, чырвоную — rubra afirmante. Хто-ж быў-бы супроць гэтага, голас меў кінуць у вурну адмоўную, зялёную — viridi negante. Праведзенае гэтак галасаваньне ня выказала аніводнага голасу супроць і Скарына да экзамену быў дапушчаны.

Другі ўнівэрсытэцкі запіс, гэта пратакол «пробнага» экзамену з мэдыцыны «знакамітага доктара навукаў, спадара прафэсара Францішка», які адбыўся ўжо назаўтра, у суботу 6 лістапада, і таксама ў царкве сьвятога Урбана ды даволі позна пароЙ, бо а 22-ой гадзіне. Скарыну цяпер экзаменавалі паводле пунктаў тае-ж раніцы ім-жа самым сабе вызначаных. Апытвала Скарыну чатырнаццаць прафэсароў Сьвятое Калегіі на чале з віцэпрыёрам Тодарам Муссаты. Прамотарамі ягонымі былі прафэсары Баўтрамей Барысон, Францішак дэ Ноаліс, Францішак дэ Эстэ, Геранім Мульлё й Геранім дэ Урбіно.

Як кажа пратакольны запіс, Скарына з памяці й удала разьвіваў свае «пункты», трапна вельмі падсумоўваў і зьбіваў фактамі супраціўныя довады ды трымаўся ў часе экзамену нязвычайна дастойна. У выніку гэтага ўсімі прысутнымі на экзамене прафэсарамі, без аніводнага вынятку, быў ён прызнаны адпаведным і годным, каб быць дапушчаным да дакторскага экзамену з мэдыцыны. Пры канцы другога актавага запісу дадзены пералік імяў і прозьвішчаў прысутных на экзамене 14 «Спадароў Прафэсароў» — «Domini Magistri» — сяброў Сьвятое Калегіі.

Другі, дакторскі экзамен, быў вызначаны на тры дні пазьней, на аўторак 9 лістапада. Гэты экзамен адбыўся нязвычайна ўрачыста й ужо не ў царкве сьвятога Урбана, а ў падуанскім біскупскім палацы. Ход яго апісаны ў трэцім унівэрсытэцкім запісе. Ганаровым старшынём экзаменацыйнага паседжаньня Калегіі быў кардынал Сыкст, падуанскі царкоўны адміністратар і духовы апякун акадэміі. Віцэстаршынём — віцэпрыёр прафэсар Тодар Муссаты. У прэзыдыюме былі яшчэ біскуп аргелісенскі Паўла Забарэльлі ды віцэрэктар Universitas Artistarum Францішак Фульманэльлі з Вэроны. Сьвятая Калегія «Артыстых і Мэдыкаў» Падуі зьявілася цяпер у пашыраным складзе, бо прысутных было 24-х прафэсароў.

Як кажа актавы запіс, гэтым разам «выдатны доктар навукаў Спадар Францішак . . . быў экзаменаваны . . . строга паводле пунктаў тае-ж раніцы яму вызначаных». Скарына й гэтым разам трымаўся «дастойна й слаўна» й у часе рэфэраваньня дадзеных яму Калегіяй пунктаў, і пры адказваньні на стаўляныя яму запыты. Дзеля гэтага ўсімі прафэсарамі Калегіі, без аніводнага вынятку, быў ён прызнаны годным дакторскае ступені. Пасьля гэтага кардынал Сыкст апавесьціў, паводле традыцыйна прынятае формы, Францішка Скарыну доктарам лекарскіх навукаў. Прафэсар-жа прамотар Баўтрамей Барысон перадаў Скарыну азнакі нададзенае дакторскае годнасьці. Пры канцы трэцяга пратакольнага запісу пералічаныя імі й прозьвішчы 24-х прысутных на экзамене прафэсароў, сяброў Калегіі.

## СКАРЫНІЯНА Ў ПАДУІ

Да 1960 году пра Скарыну ў Падуі было ведама толькі тое, што пададзена ў трох, выяўленых С. Віндакевічам, унівэрсытэцкіх запісах. У гэтым-жа годзе, на просьбу Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва й пры ласкавай дапамозе а. др. Пётры Татарыновіча, з Рыму да Падуі езьдзіў сп. Янка Садоўскі з мэтаю адшукаць ды сфатаграфаваць для Інстытуту гэтыя акты, а адначасна разглянуцца ў Падуі й яе архівах за магчымаю іншай там «скарыніянай».

Як у часе сваіх кароткіх наведзінаў вясною 1960 году Падуі сп. Я. Садоўскі высьсьніў, царква сьвятога Урбана, у якой у пятніцу 5 лістапада 1512 году на паседжаньні Сьвятое Калегіі Франьцішак Скарына аднагалосна быў допушчаны да дактарскіх экзаменаў у галіне лекарскіх навукаў, і дзе назаўтра, у суботу, складаў першы «пробны» экзамен, — зуб часу сьцёр з паверхні зямлі, яна сяньня ня існуе. Затое біскупскі палац у якім вельмі ўрачыста адбываўся апошні «строгі» экзамен Скарыны, захаваўся, хоць за мінулыя стагодзьдзі разоў колькі яго й перабудоўвалі. У выніку, у актавай залі палацу із Скарынавых часоў засталася толькі рэнэсансавая багата аздобленая, столь, асмужаная па сумежнай паласе сьценаў арабэскамі.

Апрача трох актавых запісаў пра Скарыну, якія перахоўваюцца ў Старым Архіве Унівэрсытэту, у «Залі сараку» — Sala dei Quaranta — унівэрсытэт мае й Скарынаў партрэт. У залі гэтай калісьці выкладаў слаўны Галілео Галілей. Ягоная, з звычайных дошак зьбітая катэдра, перахоўваецца ў залі й сяньня. На ей — гіпсавы бюст Галілея. На сьценах вось гэтай залі, у два рады, разьмешчаныя партрэты сараку найбольш выдатных мужоў сусьветнае навукі й культуры, што сваю веду й навуковыя годнасьці здабывалі ў падуанскай акадэміі на працягу звыш сямісотгодняга яе існаваньня. Партрэт Скарыны маляваны тэмпэраю мастаком Giacomo dal Forno. Скарына на партрэце паказаны на ўвесь рост, з адкрытаю ў профіль галавой, ахінены ў дакторскую тогу, у чорных рукавічках. На партрэце ўгары напіс паіталіянску: FRANCISCUS SKORYNA DE POLOCZKO, RUTENO, 1512. Праваруч Скарыны памешчаны партрэт ведамага польскага паэты Яна Каханоўскага з напісам: GIOVANNI KOCHANOWSKI, POLACCO, 1530—1584, леваруч партрэт першага расейскага доктара мэдыцыны Пётры Васілевіча Постнікава з напісам: PETR VASILJEVIĆ POSTNIKOV, RUSSO, 1694.

Партрэт Скарыны ў Падуі — довад на тое, што ўнівэрсытэт ганарыцца сяньня тым, што ў ягоных гэта мурох Скарына калісьці завяршыў дактаратам сваю мэдыцынскую веду. Гэта, адначасна, паквітавальнае пасьветчаньне з боку акадэміі таго, што Скарына датрымаў дадзенае Сьвятой Калегіі абяцаньне ўславіць унівэрсытэт і Падую за дапушчэньне да экзаменаў і навуковую годнасьць доктара.[11]

Найважнейшае, аднак-жа, што сп. Я. Садоўскаму ў часе пошукаў «скарыніяны» ў Падуі паручыла выявіць, гэта нідзе перад гэтым непублікаваны й у скарынаведнай літаратуры няведамы, яшчэ адзін пратакольны запіс пра экзамен Скарыны. Занесены ён у актавую кнігу падуанскага

---

[11] Вопіс партрэту й ягоная рэпрадукцыя ў: Сымон Брага — Партрэты доктара Скарыны (Конадні, кн. 7, Ню-Ёрк—Мюнхен, 1963; б. 149—151).

біскупскага палацу. У кнізе гэтай, пачынаючы ад 1510 году, запісваліся ўсе выдатнейшыя падзеі й урачыстасьці, што ў палацы адбываліся, найчасьцей — урачыстыя дактарызацыі. Гэтая кніга перахоўваецца цяпер у Старым Архіве падуанскае біскупскае курыі — Archivio antico della Curia Vescovile di Padova. Архіўнае абазначэньне кнігі — Doctoratum, vol. 49. Запіс пра Скарыну ў ей на 122 балонцы. Нававыяўлены актавы запіс пра доктара Скарыну тады-ж, вясною 1960 году, быў мікрафільмаваны для Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Новаадкрыты актавы запіс цікавы вельмі з розных гледзішчаў і важны найперш сваймі новымі весткамі да жыцьцяпісу доктара Скарыны. Хоць пра актавы запіс біскупскага палацу ніхто з дасьледнікаў жыцьцяпісу доктара Скарыны ня ведаў, ды яго напэўна бачыў і чытаў 230 год перад гэтым, каля 1740-га году, згаданы раней канцлер факультэту «Артыстых» падуанскага ўнівэрсытэту Джузэппэ Мінато. Гэта вынікае з выпіскі, што знаходзіцца ў Мінатавым каталёзе старога ўнівэрсытэцкага архіву, зробленае яўна не з актавай кнігі ўнівэрсытэту. Відаць гэта з Мінатавай ссылкі на «122 балонку» — гэта нумарацыя балонкі з пратакольным запісам пра Скарыну ў актавай кнізе падуанскага біскупскага палацу.

## ЗАПІС У АКТАВАЙ КНІЗЕ БІСКУПСКАГА ПАЛАЦУ

Актавы запіс аб экзамене Франьцішка Скарыны 9 лістапада 1512 году ў кнізе Doctoratum, vol. 49, старога архіву Падуанскае біскупскае курыі даволі кароткі. Займае ён верхнюю палавіну 122-ое балонкі кнігі. Запіс зроблены палацінску, тагачасным скарапісам, зь вялікім лікам тытлаў-лігатураў і скаротаў. Увесь запіс мае 20 радкоў. У радку першым азначэньне часу: год, месяц, дзень. Сем далейшых радкоў, гэта тэкст пратакольнага запісу. У 12-ёх канцавых радкох — пералік імяў і прозьвішчаў пяці прафэсароў прамотараў ды пяці іншых сьветкаў верагоднасьці апісанае ў пратаколе падзеі, прафэсароў, студэнтаў. Апрача самога экзаменаванага Скарыны, запіс біскупскага палацу згадвае яшчэ адзінаццаць іншых прысутных на экзамене, і, што асабліва важна, падае імі й прозьвішчы асобаў, якіх не згадвае пратакольны ўнівэрсытэцкі запіс аб гэтым самым экзамене. Фатарэпрадукцыя гэтага запісу, перадрук лацінскага тэксту й беларускі яго пераклад, дадзеныя пры канцы гэтага нарысу.[12]

Калі прыраўнаць новазнойдзены запіс да запісу датычнага тае самае падзеі — экзамену Скарыны ў біскупскім палацы ў аўторак 9 лістапада 1512 году — зробленага ў унівэрсытэцкіх актавых кнігах, дык можна пераканацца, што ўнівэрсытэцкі запіс абшырнейшы й дакладнейшы. Ягоны тэкст займае 43 радкі — два разы больш, як запіс курыі. З гэтага два радкі пачатковыя даюць азначэньне часу й месца падзеі, 30 далейшых — пра-

---

[12] Паведамленьне аб знаходзе актавага запісу пра доктара Скарыну ў: Сымон Брага — Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны (Запісы, кн. 3. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1964, б. 19—21). Таксама адбітка: Нью-Ёрк—Мюнхен, 1965, б. 17—19. Рэпрадукцыя арыгіналу (без апошняга радка, які на клішы абрэзаны), лацінскі тэкст, беларускі пераклад, былі друкаваныя ў часапісе „Žnič“, Rym, 1960. Nr. 56. b. 8.

такольнае апісаньне яе прабегу. Пры канцы-ж запісу, у трох стоўпіках, пададзеныя імі й прозьвішчы 24-х прафэсароў падуанскае Калегіі «Артыстых і Мэдыкаў».

З прысутных на экзамене ўнівэрсытэцкі запіс дае імі й прозьвішчы, уключна із Скарынавым, 28 асоб. Калі дадаць да іх 5 новых прозьвішчаў, што пададзеныя ў запісе біскупскае курыі, дык атрымаем імі й прозьвішчы 33-х асобаў зь ліку прысутных на апошнім, урачыстым дактарскім экзамене Францішка Скарыны ў падуанскім біскупскім палацы, прысутных ці то ў ролі актыўных удзельнікаў дактарызацыі — прэзыдыюму, сяброў Сьвятое Калегіі, ці то пасыўных гасьцей-сьветкаў, аўдыторыі, — прафэсароў, студэнтаў, мяшчанаў Падуі й Вэнэцыі.

Раўнуючы запіс курыі да трох запісаў унівэрсытэцкіх, з самога характару іх пісьма можна зрабіць зусім пэўны выснаў, што пісаныя яны дзьвюма рознымі асобамі. Дык на дактарскім экзамене ў біскупскім палацы Сьвятая Калегія Артыстых і Мэдыкаў падуанскага ўнівэрсытэту мела свайго сакратара, а біскупская курыя свайго. Абодва яны сачылі за ходам экзаменаў і прамоцыі, і кажны пасвойму перадаў бачанае ў сваім пратаколе. Дык запісы — сьветчаньні аб тойсамай падзеі дзьвюх асобаў.

Не зважаючы на ляканічную кароціню, новавыяўлены запіс вельмі істотна пашырае й дапаўняе ведамкі аб самым ходзе Скарынавых экзаменаў у Падуі, і, што асабліва важна, ён раскрывае й некаторыя раней ня ведамыя, факты із Скарынавага жыцьцяпісу. Запіс біскупскае курыі аб Скарынавым экзамене важны й сваім паўтарэньнем фактаў пададзеных у ўнівэрсытэцкіх актавых запісах, бо гэтым ён іх пацьвярджае, і сваім характэрным ігнараваньнем і прамоўчваньнем некаторых зь іх, і, найбольш, — усім тым, што ён дае новага, чаго няма ў запісах унівэрсытэцкіх.

Падчыркнуць найперш трэба важны факт, што абодва запісы нічым сабе не пярэчаць. Наадварот, паўтарэньнем галоўных здарэньняў падзеі яны адзін другога пацьвярджаюць. Аднazгодныя яны, найперш, у перадачы нязвычайна ўдалага для Скарыны ходу экзаменаў. У абодвух запісах яскрава адбітае захапленьне сяброў Калегіі глыбокай ведай, красамоўнасьцяй і дастойным падчас экзаменаў захаваньнем Скарыны. У абодвух падчырківаецца аднагоднасьць сяброў Калегіі ў справе пазытыўнае ацэны выніку экзаменаў ды прызнаньня дактарскае годнасьці Францішку Скарыну.

Што да прамоўчваньняў у запісе курыі, дык яны кідаюць цікавае сьвятло на рознае асэнсаваньне падзеі прадстаўніком царкоўнае ўстановы, сакратаром курыі, і прадстаўніком установы навучальнае, унівэрсытэту, сакратаром Калегіі. Запіс курыі выразна куды менш увагі прыдзяляе Калегіі й яе прафэсаром-сябром, як запіс унівэрсытэту. Калі ўнівэрсытэцкі запіс пералічае пры канцы паіменна кажнага прысутнага сябру Сьвятое Калегіі ў ліку 24-х прафэсароў, а ў тэксьце падчырківае важную, яўна арганізацыйна-кіраўнічую ролю на экзамене віцэпрыёра Тодара Муссаты, дык у запісе курыі, пры ягоным канцы, дадзеныя толькі імі й прозьвішчы пяці прафэсароў-прамотараў. Усіх-жа іншых запіс збывае ветліваю, але вельмі агульнаю фразай: «Праслаўная Калегія Спадароў Артыстых Падуі . . . экзаменавала». Уражае асабліва, што ў запісе курыі ігнаруецца, не згадваецца зусім, ні па прозьвішчы, ні па сваім становішчы, яўны, як вы-

нікае із запісаў унівэрсытэту, spiritus movens усяе дактарызацыі Скарыны — віцэпрыёр Тодар Муссаты.

З унівэрсытэцкіх, прысутных на экзамене, дастойнікаў, у запісе курыі пададзенае толькі імя й прозьвішча аднаго, найвышшага становішчам, — віцэрэктара ўнівэрсытэту Артыстых і Мэдыкаў, Франьцішка Фульманэльлі з Вэроны. Няма, чамусьці, у запісе курыі ніякое згадкі й аб прысутнасьці на экзамене біскупа аргелісенскага Паўлы Забарэльлі. І яго, як і Муссаты, сакратар курыі чамусьці зігнараваў, хоць у запісе ўнівэрсытэцкім адведзенае яму найбольш пачэснае месца — ягоная прытымбытнасьць адзначаная там на самым пачатку, перад пералікам іншых прысутных выдатных асобаў — кардынала Сыкста, віцэпрыёра Муссаты, віцэрэктара Фульманэльлі. На першым месцы ў запісе курыі, як усім тады добра ведамы й так, не названы па імі, а па сваіх высокіх духоўных тытулах і становішчах, прэзьбітар унівэрсытэту й гаспадар біскупскага палацу ды старшыня дактарызацыйнае ўрачыстасьці — кардынал Сыкст.

Новае ў нававыяўленым запісе найперш тое, што ў ім пералічаныя імі й прозьвішчы 5-ці прысутных на экзамене, якіх не згадвае запіс унівэрсытэцкі. Асобы гэтыя пададзеныя, як сьветкі падзеі, пры канцы запісу, пасьля імяў і прозьвішчаў пяці прафэсароў-прамотараў, даслоўна гэтак:

«Достойныя сьветкі, дактары навукаў, спадары прафэсары
Алёйзы Зухатус Гуісінус, і,
Даніель дэ Фороюлiё, падуанін.

Выдатныя студэнты навукаў, Спадары
Міхал Зартібонус, сын нябошчыка Якуба, месьціч Вэнэцкі; і
Ґаспар дэ Ґабрыеліс, сын спадара Пётры, месьціч падуанскі,
Спадар Валеры дэ Лярґіс, клерык падуанскі».

Дык, калі ўнівэрсытэцкі запіс абмяжоўваецца пералікам толькі асобаў, што прыймалі ўдзел у ходзе экзаменаў — ці то ў ганаровым прэзыдыюм, як біскуп Забарэльлі, кардынал Сыкст, віцэпрыёр Муссаты, віцэрэктар Фульманэльлі, — ці то сяброў Сьвятое Калегіі, прафэсароў, дык запіс курыі выяўляе цікавую дадатковую акалічнасьць, што прысутнымі былі й асобы з працэсам экзаменаў беспасярэдня не зьвязаныя, назіральнікі-госьці, аўдыторыя, — прафэсары, студэнты, мяшчане Падуі й Вэнэцыі. І, выглядае, што іх было шмат больш, чым тых колькі, якіх, для большае юрыдычнае верагоднасьці запісу, як сьветкаў у сваім пратаколе падаў сакратар біскупскае курыі.

Дык, на падставе запісу курыі вынікае, што Скарынаў экзамен у Падуі на годнасьць доктара лекарскіх навукаў ня быў нейкай зачыненай падзеяй, як можна было-б думаць на падставе самога ўнівэрсытэцкага запісу, дзе згадваюцца толькі асобы прэзыдыюм ды прафэсары Калегіі. Падзея гэтая была публічная й шматлюдная, на якой, побач экзаменацыйнае Калегіі з прэзыдыюмам, былі й шматлікія гледачы й слухачы, прадстаўнікі ўнівэрсытэцкіх і царкоўных кругоў тагачаснае Падуі.

## «САКРАТАР КАРАЛЯ ДАЦЫІ»

Хоць новавыяўлены ў Старым Архіве біскупскай курыі актавы запіс пра доктара Скарыну шмат чым дапаўняе ведамыя ўжо папярэдня факты аб Скарынавых экзаменах у Падуі, ды ня гэтым ён найбольш цікавы дасьледнікам Скарынавага жыцьцяпісу. Найважнейшае ў ім новае, раней няведамае, гэта інфармацыя аб працы Скарыны перад ягоным прыездам у Падую на становішчы каралеўскага сакратара.

Уводны тэкст запісу курыі, у якім пэрсанальныя дадзеныя аб экзаменаваным, кажа: Privatum examen in medicinis Eximii viri Domini magistri franc. q. d. lucae scorina de poloczko rutheni, secretarii regis datiae. Вось тры апошнія словы гэтага сказу — secretarii regis datiae, «сакратара караля Дацыі», — выяўляюць нам новую галіну шматбаковае й так дзейнасьці Скарыны ды даюць ведамку пра яшчэ адну краіну Скарынавага прабываньня. Пры канцы XV, на пачатку XVI стагодзьдзяў «Дацыяй» у Эўропе палацінску называлася сучасная Данія. Назоў Regnum Dacie сустракаецца часта на тагачасных картах Эўропы, у дыпляматычнай перапісцы, на пячацях данскага караля, на манэтах. Калі доктар Скарына складаў свае экзамены ў Падуі, валадаром Даніі, а адначасна Нарвэгіі й Швэцыі, быў кароль Ганс (Ян). На ягоных пячацях ён мянуецца Rex Dacie, ці Rex Datiae.

Што доктар Францішак Скарына апынуўся аж на двары караля Ганса й на становішчы сакратара, ня будзе гэтак і дзіўна, калі ўсьведамім, што гандлёва-эканамічныя й палітычна-дыпляматычныя інтарэсы тагачаснае Даніі ахоплівалі ня толькі краі самое Скандынавіі, але й паўдзённага пабярэжжа Балтыйскага мора — Прусыю, Польшчу, Вялікае Княства Літоўскае, Маскоўшчыну. Дзеля гэтага ў канцылярыі караля Даніі патрэбны быў і сакратар, які ведаў мовы гэтых краёў ды добра арыентаваўся ў дачыненьнях на прыбалтыйскіх славянскіх прасторах. Цікава адцеміць, што ў сваім афіцыйным тытуле кароль Ганс менаваў сябе, як гэта відаць з напісу на ягонай пячаці, і каралём «Славянаў»: Sigillium maiestatis Johannis, dei gratia Dacie, Svecie, Norvegie, Slavorum, Gotorumque regis.[13]

Палітычныя дачыненьні між Капэнгагай і Кракавам у тую пару былі прыязныя й пераезду доктара Скарыны з Кракава да Даніі вельмі спрыяльныя. Якраз улетку 1509 году з Кракава да Капэнгагі езьдзіла пасольская дэлегацыя караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча для дамовы аб угодзе між Рэчыпаспалітай і Даніяй. 24 жнівеня 1509 году ўгода гэтая аб «узаемнай дружбе, дапамозе й абароне» й была ў Капэнгазе падпісаная. Зусім магчыма, што, карыстаючы з нагоды, разам з пасольствам Жыгімонта Казімеравіча з Кракава да Капэнгагі пераехаў і Скарына, студыі якога на філязафічным факультэце Кракаўскага ўнівэрсытэту, пачатыя ў 1504 годзе, гэтым часам павінны былі якраз кончыцца. Да сваіх сакратарскіх абавязкаў у канцылярыі караля Даніі Ганса Скарына, пасьля экзаменаў у Падуі, праўдападобна больш не вярнуўся, бо кароль Ганс у хуткім часе, 20 лютага 1513 году, памёр.

Выяўленьне факту прабываньня доктара Францішка Скарыны на двары караля Ганса насоўвае пытаньне аб тым, што магчыма й свае студыі ў галіне лекарскіх навукаў адбываў ён на ўнівэрсытэце ў Капэнгазе. Сянь-

---

[13] Danmarks Riges Historie, vol. 3. Kobenhavn, 1897—1907, б. 21.

ня ведама, што ў Кракаве Скарына студыяваў «навукі вызваленыя», філязофію, але ніякіх няма дадзеных на тое, каб вучыўся ён там і мэдыцыны. На якім унівэрсытэце пазнаваў ён тайны тагачаснай мэдычнай веды — пра гэта, пакульшто, няма ніякіх ведамак. У Падуі мэдыцыны Скарына напэўна ня вучыўся. Туды ён паехаў, пасьля адбытых нейдзе студыяў, каб здабыць экстэрнам дактарскую годнасьць слаўнага тады на ўсю Эўропу ўнівэрсытэту, і, асабліва, ягонага мэдыцынскага факультэту. Тымчасам у Капэнгазе ўнівэрсытэт існаваў ужо ад 1479 году. З фактаў, што перад сваім прыездам да Падуі Скарына быў на становішчы сакратара караля Даніі, можна дапушчаць, што й мэдыцыну студыяваў ён на мэдычным факультэце ў Капэнгазе. Дык ці не ў выніку адбытых там студыяў ён пасьля бліскуча гэтак і здаў дактарскі экзамен у Падуі.

Мала праўдападобна, каб доктар Скарына, чужынец у Даніі, займаў пры каралі нейкае высокае ды адказнае сакратарскае становішча. Найхутчэй быў ён толькі адным з шматлікіх сакратароў, сакратаром, магчыма, да справаў якраз усходніх, славянскіх. Хіба, таксама, прасілі яго да каралеўскае канцылярыі толькі час-ад-часу, у меру патрэбы. Толькі гэтак мог ён адначасна й студыяваць на ўнівэрсытэце ды прыехаць да Падуі добра падрыхтаваны да экзаменаў з мэдыцыны. Калі-б сакратарскія абавязкі займалі яму ўвесь ягоны час, было-б тады незразумелым, калі й дзе мог-бы ён вучыцца мэдыцыны. На ўсе свае вышэйшыя студыі ад паступленьня ў 1504 годзе на ўнівэрсытэт у Кракаве да падуанскіх экзаменаў 1512 году, Скарына меў часу ледзь 8 год, ці мінімум часу на заканчэньне двух факультэтаў, філязофіі й мэдыцыны, і ніводнага лішняга году больш, каб магчы заняцца нейкім сталым сакратарствам.

На хутчэй прынагодныя, а не пастаянныя сакратарскія абавязкі паказвае й фінансавы «крызыс» Скарыны ў часе ягоных падуанскіх экзаменаў. Віцэпрыёр Муссаты прадстаўляе яго на паседжаньні Калегіі, як «нязвычайна вучонага», але «беднага юнака». Даводзіцца з гэтага зрабіць высноў, што абавязкі каралеўскага сакратара ня шмат яму давалі прыбытку, і што было гэта становішча больш тытулярнае, якое давала яму права карыстацца ганаровым тытулам «каралеўскага сакратара», але ня прыносіла багацьця, што й знайшло свой адбітак у актавых падуанскіх запісах.

Цікава адзначыць, што першым, каму кінуліся ў вочы словы актавага запісу пра Скарыну, як Secretarii regis datiae, быў згаданы раней канцлер падуанскага ўнівэрсытэту першае палавіны XVIII стагодзьдзя Джузэппэ Мінато. Пры ягонай, зробленай каля 1740 году, выпісцы з актаў пра экзамены Скарыны, дадзеная з боку дапіска: Rutheni, secretarii regis Datis.

Дык нававыяўлены запіс раскрывае важны факт, што засяг шырокае тэрытар'яльна й так дзейнасьці доктара Скарыны ахопліваў і Скандынаўскую поўнач Эўропы. Вынікае з гэтага й неабходнасьць спраўдзіць старасховы Даніі тае пары, каб спробаваць выявіць больш дакладныя ведамкі пра характар тамашняе дзейнасьці «сакратара караля Дацыі» — доктара Франьцішка Скарыны з Полацка.[14]

---

[14] Першы раз пра Скарыну, як «сакратара караля Дацыі» ў згаданай вышэй працы: С. Брага — Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны, б. 17—19.

## У ПАЛАЦЫ ПАДУАНСКАГА БІСКУПА

Ад 1509 году, году няўдалае аблогі Падуі войскамі імпэратара Максыміліяна й папы Юліяна II у ходзе іхнае вайны супроць Вэнэцыі, нармальная дзейнасьць падуанскага ўнівэрсытэту дзеля ваеннае завірухі ў Італіі на доўгія гады, бо аж да году 1517, спынілася. Ды некаторыя прафэсары гэтым часам усё-ж чыталі лекцыі й, як акты паказваюць, унівэрсытэцкія калегіі зьбіраліся на паседжаньні, і ў кажным з гэтых год адбываліся дактарскія прамоцыі.[15] Як відаць з запісу ў кнізе біскупскае курыі, шэсьць дзён пасьля прамоцыі Франьцішка Скарыны, 15 лістапада, у тым-жа біскупскім палацы адбыўся экзамен і прамоцыя на доктара «абодвух правоў» і нейкага Міколы Гозія із Сыракузаў. Дык падуанскі ўнівэрсытэт, незважаючы на ваенныя падзеі й перашкоды, у нейкай меры быў усё-ж дзейным ды прызнаваў навуковыя ступені.

Калі доктар Скарына наважыўся ў 1512 годзе ехаць да Падуі, каб здабыць там свой другі дактарат, дактарат з мэдыцыны, дык ён відаць ведаў, што акадэмічны год у тыя часы там пачынаўся 1-га лістапада. Дзеля гэтага й прыбыў ён да Падуі асеньняй парой, найпазьней хіба ў кастрычніку. Трэба-ж было паказацца ў віцэпрыёра Сьвятое Калегіі Артыстых і Мэдыкаў прафэсара Тодара Муссаты, прадставіць яму довады свае папярэдняе лекарскае адукацыі, ды уручыць, пэўна-ж, рэкамэндацыйныя лісты тых прафэсароў у якіх ён здабываў мэдычную веду. Трэ было заручыцца зразуменьнем, прыхільнасьцяй і падтрыманьнем Муссаты й у справе самога допуску да дактарскага экзамену. Не адбылося, хіба-ж, і без наведзінаў іншых сяброў Калегіі, каб паказацца й ім ды здабыць іхную прыхільнасьць для справы свайго дактарату, і найперш прафэсароў тых, што разам з Баўтрамеем Барысонам згадзіліся быць ягонымі прамотарамі.

Сяньня ведама, што доктар Скарына паходзіў з даволі заможнага купецкага роду, роду, што па сваёй сацыяльнай пазыцыі належаў да полацкага патрыцыяту. Калі, аднак-жа, у восені 1512 году да Падуі доктар Скарына зьяўляецца як «вучоны, але бедны юнак», як яго прадстаўляў для Калегіі Муссаты, дык да гэтага дайшло ў выніку таго, што ягоны бацька, Лукаш Скарына гэтым часам памёр. У кажным з чатырох падуанскіх актавых запісаў адзначаецца, што ён сын «нябошчыка спадара Лукаша Скарыны». Дык з дому, з Полацку, Скарына тады, відавочна дапамогі ці ня меў, ці меў яе ня шмат. Ягоны старшы брат Іван быў ужо жанаты, меў колькі дзяцей, і меў даволі сваіх і сямейных, і гандлёвых клопатаў, каб можна было спадзявацца, што ён мог шмат рупіцца пра дапамогу свайму, далёкаму ад дому, малодшаму брату студэнту Франьцішку. Дарабіцца-ж сваіх грошаў і нейкае маемасьці доктару Скарыну таксама ня было яшчэ калі, бо праз год восем да прыезду да Падуі ён увесь час вучыўся, быў студэнтам, спачатку на факультэце філязафічных «навукаў вызваленых» у Кракаве, пасьля на мэдыцынскім факультэце няведамага пакульшто ўнівэрсытэту. Цяжкое, засьветчанае ў актавым запісе, фінансавае палажэньне Скарыны ў 1512 годзе пацьвярджае таксама факт, што

---

15 Favaro Antonio. Die Hochschule Padua zur Zeit des Coppernicus. Ins Deutsche übertragen von Maximillian Curtze (Mitteilungen des Coppernicus-Vereins für Wissenschaft u. Kunst zu Thorn, III Heft. Thorn, 1881; б. 39).

ягонае становішча «каралеўскага сакратара» перад прыездам да Падуі хоць і давала яму ганаровы тытул, ды ня шмат прыбытку. Трэба тут адзначыць, што з актавых падуанскіх запісаў усё-ж не вынікае, каб Скарына, хоць і «бедны юнак», прасіў Калегію дапусьціць яго да дакторскіх экзаменаў бясплатна, як гэта звычайна ў літаратуры пра Скарыну, за І. Шляпкінам паўтараецца, які слова актавых запісаў «gratie» уважаў за раўназначнае з «бясплатна», хоць яно там мае значаньне «ласка», «ласкавае ўдзяленьне», «ласкавае прызнаньне».

Калі ня ведама пакульшто, дзе студыяваў мэдыцыну Скарына ды якія прадметы ён там вывучаў, дык знаем затое, што вымагаў ад кандыдатаў на доктара мэдыцыны тагачасны падуанскі ўнівэрсытэт. Статут акадэміі з 1495 году кажа, што каб быць дапушчаным да прамацыйных экзаменаў у галіне мэдыцыны, кандыдат павінен мець «найменш тры гады студыяў, з выслуханьнем усіх абавязваючых студэнта лекцыяў, ды найменш год заняткаў практычных і пастаяннага наведваньня хворых пад наглядам якоганебудзь ведамага доктара».[16]

Што да лекцыяў, дык паводле гэтага самага статуту, яны спачатку мелі даць асновы мэдыцыны тэарытычнай на падставе твораў Авіцэны (арабскага лекара XI стагодзьдзя), афарызмаў Гіпакрата (грэцкага лекара з V стагодзьдзя да Хрыста) ды твораў Галена (грэцкага лекара II стагодзьдзя нашае эры). Практычная веда павінна была абымаць навуку «пра гарачкі, пра паасобныя хваробы ад галавы да сэрца, самога сэрца й хваробаў ніжняе часткі цела», ды хірургію.[17]

Вось гэтыя вымаганьні падуанскае акадэміі мусеў Скарына й здаволіць, каб быць дапушчаным да дакторскага экзамену. Найперш мусеў ён прадставіць аўтарытэтныя сьветчаньні прафэсароў унівэрсытэту сваіх студыяў пра тое, што курс мэдыцынскае навукі быў пройдзены належна й камплетна. Каб-жа дастаць самую ступень доктара, ён мусеў падчас экзаменаў выказацца дастатковаю тэарытычнаю ведаю, здабытаю найперш з твораў вышэй згаданных, прызнаных тады, аўтарытэтаў мэдыцынскае веды — Авіцэны, Гіпакрата, Галена.

На віцэпрыёра Тодара Муссаты доктар Скарына яўна зрабіў добрае ўражаньне, што відаць з тае прыхільнае зычлівасьці, зь якою той прадставіў Калегіі вучонага, але беднага юнака на паседжаньні ў царкве сьвятога Ўрбана ў пятніцу 5 лістапада. Без адвалокі, ужо назаўтра, у суботу 6 лістапада, было склікана 14 прафэсароў Калегіі на першы, «пробны» экзамен Скарыны. А праз тры дні адбыўся й сам «адмысловы й строгі» дакторскі экзамен ды ўрачыстая прамоцыя ў біскупскім палацы Падуі. Дык увесь працэс Скарынавае дактарызацыі прайшоў вельмі-ж хутка, за пяць дзён. Як на абсальвэнта мэдыцынскага факультэту не падуанскага, а нейкага іншага унівэрсытэту, час гэта нязвычайна кароткі. Паказвае ён на тое, што ўся справа дактарызацыі была загадзя належна, і, хіба, найперш віцэпрыёрам Муссаты, прыгатаваная ды яшчэ перад пастановай аб ёй на першым паседжаньні Калегіі, і паседжаньне было толькі канечнаю, афіцыйна пацьвярджаючай, фармальнасьцяй. А гэта, ізноўка, кажа аб тым, што доктар Скарына ў сваіх першых сустрэчах з прафэсарамі Падуі

---

[16] Тамсама, б. 59.
[17] Тамсама.

зрабіў на ўсіх добрае ўражаньне й асабіста, і сваёю эрудыцыяй, і ў сяброў Калегіі ня было ўжо сумляваньняў аб тым, што па сваёй адукацыі, ведзе й здольнасьцях ён мае поўныя падставы на атрыманьне годнасьці доктара лекарскіх навукаў.

Дзякуючы нававыяўленаму запісу падуанскае біскупскае курыі сяньня можна мець куды паўнейшую ўяву аб тым, як адбываўся Скарынаў дакторскі апошні экзамен у ваўторак 9 лістапада 1512 году. Актавая заля падуанскага біскупскага палацу запоўненая была прафэсарамі акадэміі, духавенствам, запрошанымі гасьцьмі, студэнтамі. Усе прысутныя прафэсары Калегіі былі ў сваіх традыцыйных акадэмічных уборах — дакторскіх тогах, бірэтах. Духоўныя дастойнікі ў біскупскіх і кардынальскіх фіялетах, віцэпрыёр і віцэрэктар у афіцыйным урачыстым уборы — раскошных пурпуровых тогах.

Дзякуючы пратакольным запісам унівэрсытэту й біскупскага палацу сяньня ведамыя імі й прозьвішчы 33 прысутных на экзамене асобаў, хоць было іх там напэўна шмат больш. У цэнтры пачэснага прэзыдыюму знайходзіўся гаспадар палацу кардынал Сыкст. Як зь іншых, не датычных Скарыны, запісаў актавай кнігі палацу відаць, меў ён прозьвішча «дэ Рувэра» — тое самае, што й тагачаснага папы Юліяна II. Род De Ruvera, ці, паіталіянску, Della Rovere, выдатны ўплывовы род у царкоўным і палітычным жыцьці Італіі XV—XVII стагодзьдзяў. Зь сялянскага стану да вяршыняў магутнасьці род гэты ўзьняўся ў другой палавіне XV стагодзьдзя, калі Франчэско дэля Ровэрэ стаў папам Сыкстам IV. У гадох 1503—1513 рымскі пасад «намесьніка Хрыста» займаў другі папа з роду Дэля Ровэрэ, ведамы мэцэнат выдатных мастакоў італіянскага Адраджэньня Рафаэля й Мікельанджэльлё, папа Юліян II. Гэта ён у 1507 годзе ўзьняў у кардыналы свайго пляменьніка біскупа Сыкста дэля Ровэрэ, а колькі гадоў пазьней назначыў яго й сваім віцэканцлерам. Як вынікае з падуанскіх актавых пратакольных запісаў 1512 году аб экзамене Скарыны, кардынал Сыкст быў тады «нязьменным адміністратарам» падуанскае Царквы ды духовым апякуном, прэзьбітарам, Падуанскага ўнівэрсытэту. Урачыстая дактарызацыя Скарыны дзеля гэтага й адбывалася ў біскупскім палацы ды пад старшынствам кардынала Сыкста дэля Ровэрэ й гэта ён, пасьля ўдалага экзамену, урачыста апавесьціў Франьцішка Скарыну доктарам лекарскіх навукаў. Побач кардынала Сыкста знаходзіўся й другі духоўны дастойнік — біскуп аргелісенскі Паўла Забарэльлі. Ці дзеля ягонага веку, ці павагі й аўтарытэту, унівэрсытэцкі запіс выдзяляе яго як найбольш пачэснага з прысутных ды згадвае першым. Па боку двух высокіх царкоўных дастойнікаў знайходзіўся нейдзе й той сакратар падуанскае біскупскае курыі, што рабіў пратакольны запіс падзеі ў актавай кнізе палацу.

Найвышшую ўнівэрсытэцкую ўладу ў прэзыдыюм урачыстасьці рэпрэзэнтаваў віцэрэктар «Унівэрсытэту Артыстых і Мэдыкаў» Падуі прафэсар Франьцішак Фульманэльлі з Вэроны. Побач яго быў віцэпрыёр Сьвятое Калегіі Артыстых і Мэдыкаў, прафэсар Тодар Муссаты, галоўны арганізатар урачыстасьці й прыязны Скарынаў пратэктар. Запіс унівэрсытэту ладчырківае, што ягоным гэта загадам была скліканая Сьвятая Калегія на ўрачыстае экзаменацыйнае паседжаньне, ды што экзамен адбываўся пад ягоным «віцэстаршынствам». Нейдзе па боку Тодара Муссаты мусеў быць і той сакратар, што ход экзаменаў запратакалаваў у актавую кнігу Сьвятое Калегіі.

На пачэсным відным месцы разьмешчаная была, пэўна-ж, і Сьвятая Калегія Артыстых і Мэдыкаў Падуі, усіх разам з прафэсарам Муссаты, 24-х прафэсароў акадэміі. Як можна бачыць з тытулаў перад іхнымі прозьвішчамі, складалася яна з 22 прафэсароў сьвецкіх і 2 духоўных, тэалёгаў. Сярод іх былі й прафэсары-прамотары, усіх пяць, на чале з галоўным, Баўтрамеем Барысонам. Гэта прафэсар Барысон, пасьля апавешчаньня кардыналам Сыкстам прызнаньня Франьцішку Скарыну дакторскае ступені, перадаў новаму доктару азнакі — insignia — навуковае годнасьці. Па-



*Дыспут кніжнікаў. Дрэварыт з кнігі Сыраха Скарынавага перакладу й друку.*

колькі азнакі гэтыя ў дадзеным часе былі заўсёды тыя самыя й усім добра ведамыя, дык падуанскія пратакольныя запісы іх і не называюць. Із захаванае інструкцыі падуанскае акадэміі 1502 году пра спосаб даваньня гэтых insignia ведама аднак, што на гэты, завяршальны, акт прамоцыі складаліся чатыры дзейнасьці.[18] Найперш прафэсар-прамотар даваў новаму доктару, на памяць гэтак важнае часіны ягонага жыцьця нейкую каштоўную, з дадзенае галіны веды кнігу. Пры дактаратах мэдыцыны была гэта найчасьцей кніга Гіпакратавых «Афарызмаў». Па гэтым прафэсар на галаву новага доктара ўскладаў круглы дакторскі бірэт — biretum rotundum — звычайна чырвонага колеру, а на ягоны палец — залаты сыгнэт із сымбалямі мэдыцынскае прафэсіі. Акт надаваньня insignia завяршаўся заўсёды традыцыйным пацалункам прафэсара-прамотара, якім той вітаў свайго вучня з новаздабытай высокай навуковай годнасьцяй, а адначасна

[18] Тамсама.

й разьвітываўся зь ім ды благаслаўляў яго на далейшы, самастойны ўжо, жыцьцёвы шлях вучонага мужа.

Побач прэзыдыі ды сяброў Сьвятое Калегіі, трэцюю групу прысутных на экзамене, і хіба найбольшую лікам, тварылі пасыўныя гледачы ды слухачы, госьці. Як вынікае із запісу курыі, сярод іх былі прафэсары ўнівэрсытэту, студэнты, мяшчане Падуі й Вэнэцыі. Інтэлектуальную эліту ўнівэрсытэцкае Падуі на ўрачыстасьць дактарызацыі гэтым разам прыцягнула няштодзенная, відаць, постаць дактаранта, што прыбыў з далёкага, мала ведамага паўночна-ўсходняга краю, погаласка пра нязвычайныя здольнасьці й вялікую вучонасьць якога відавочна разышлася ў унівэрсытэцкіх колах Падуі. Актавы запіс курыі дае імі й прозьвішчы пяці зь ліку прысутных гасьцей — двух прафэсароў і трох студэнтаў, якіх сакратар пратаколу падае як сьветкаў праўдзівасьці вопісу дактарызацыі.

І вось, перад пачэсным прэзыдыюмам пад старшынствам кардынала Сыкста, перад Сьвятою Калегіяй вучоных дактароў Падуі ды перад люднаю аўдыторыяй, давялося выступаць маладому, з далёкае чужыны, вучонаму, беднаму на грошы ды багатаму ведаю, доктару навукаў вызваленых, Францішку, сыну нябошчыка Лукаша Скарыны «із слаўнага града Полацка», каб у публічным дыспуце давесьці праўду сваіх тэзаў ды абараніць права на навуковую ступень доктара лекарскіх навукаў.

Характэрная, між іншага, і розьніца ў уводнай даведцы пра маладога дактаранта, якую можна зацеміць прыраўнаўшы запіс Калегіі да запісу курыі. У актавых запісах унівэрсытэту падчырківаецца найперш як істотны й важны факт высокая папярэдняя акадэмічная адукацыя дактаранта — doctissimus iuvenis, artium doctor — «вельмі вучоны юнак, навукаў доктар». Сакратар-жа курыі пра гэта наагул ня згадвае. Для курыі, установы не навуковае, а царкоўнае, выглядае, больш важным быў тытул, што паказваў на высокую грамадзкую пазыцыю Скарыны, з чым трэба найперш лічыцца — «сакратар караля Дацыі».

Запісы ўнівэрсытэту й біскупскага палацу адназгодныя ў тым, што вучонага юнака не зьбянтэжыла прысутнасьць высокіх царкоўных ды ўнівэрсытэцкіх дастойнікаў, шматлікая калегія вучоных Падуі ды ўся шматлюдная аўдыторыя актавай залі палацу. Ён, з уражаючай усіх эрудыцыяй, красамоўнасьцяй і тактам разьвіў свае думкі, пераконліва абгрунтаваў тэзы ды абараніў праўду сваіх паглядаў, а разам і гонар свой, свайго роднага й «слаўнага града Полацка», свае бацькаўшчыны.

## ПРЫСУТНЫЯ НА ПРАМАЦЫЙНЫМ ЭКЗАМЕНЕ СКАРЫНЫ

Дзякуючы запісам сакратароў унівэрсытэту й падуанскага палацу, зь вялікага ліку ўнівэрсытэцкіх і царкоўных дастойнікаў, прафэсароў Калегіі, студэнтаў, гасьцей, што былі прысутнымі на экзамене й прамоцыі Францішка Скарыны ў палацы падуанскага біскупа 9 лістапада 1512 году, ведаем сяньня імі, прозьвішчы, акадэмічную ці царкоўную годнасьць, а ў некаторых выпадках навет і месца паходжаньня, 33 прысутных. Сам іх пералік дае добрую ўяву аб вялічыні й урачыстай навуковай атмасфэры таго афіцыйнага акту, якім была завершаная Скарынава дактарызацыя ў галіне лекарскіх навукаў. Цікава адзначыць, што звычай право-

дзіць акты ўрачыстае прамоцыі дактароў у біскупскім якраз палацы існаваў ня толькі ў Падуі. Было гэтак і ў іншых унівэрсытэцкіх асяродках Італіі. Прыкладам, прамоцыя Міколы Капэрніка 31 травеня 1503 году на доктара кананічнага права ўнівэрсытэту Фэррары адбылася таксама ў біскупскім палацы.[19]

Было-б цікава знайсьці нейкія весткі пра тых галоўных асобаў урачыстага паседжаньня, найперш сяброў прэзыдыюм і Калегіі, у крыжавым агні запытаў якіх Скарына здабываў свой падуанскі дактарат. Ужо ў 1892 годзе патрэбу гэтага адчуваў І. Шляпкін, ды тады ён натрапіў на каротную ведамку пра аднаго толькі з прамотараў Скарыны, Франьцішка дэ Ноалі, які, разам з братам Баўтрамеем, навучаў на падуанскім унівэрсытэце філязофію й мэдыцыну.[20]

Гэтта пададзены, на падставе актавых запісаў, зводны сьпіс усіх ведамых прысутных 9 лістапада 1512 году ў біскупскім палацы Падуі — сяброў прэзыдыюму, Калегіі, гасьцей. Імі й прозьвішчы дадзеныя тут у арыгінальнай лацінскай актавай форме. Калі прозьвішча ў актах сустракаецца й у іншым напісаньні, гэта паказана ў дужках. Літары D. M., што стаяць перад імём і прозьвішчам сяброў Калегіі, гэта скарочанае Dominus Magister — «Спадар Прафэсар». R. D. — Reverendus Dominus — «Дастойны Спадар», значыцца сьвятар.

ПРЭЗЫДЫЮМ

1. Sixtus (de Ruvera), кардынал.
2. Paulus Zabarello, episcopus Argelisensis, біскуп.
3. Franciscus Fulmanelli (Fumanelli) de Verona, віцэрэктар.
4. Thadeus Mussatus, віцэпрыёр.

ДАКТАРАНТ

5. Eximius artium doctor, Dominus Franciscus, quondam domini Luce Scorina de Poloczko, Ruthenus . . . Secretarius regis Datiae . . .

СЬВЯТАЯ КАЛЕГІЯ АРТЫСТЫХ І МЭДЫКАЎ ПАДУІ

Прафэсары прамотары:

6. D. M. Bartholomeus Barisonus.
7. D. M. Franciscus de Noali (de Nouali).
8. D. M. Franciscus de Este (Estensi).
9. D. M. Hieronymus a Mullo
10. D. M. Hieronymus de Urbino.

Іншыя сябры Калегіі:

11. D. M. Bartholomeus a Volta.
12. D. Presbiter Jacob de Curte.
13. D. M. Hieronymus de Satbaneis.

---

19 Тамсама, б. 47.

20 Gymnasium Patavinum Jacobi Philippi Tomassini, Episcopi Aemoniensis, 1654, б. 280

14. D. M. Nicolaus de Janua.
15. D. M. Baptista a Galta.
16. D. M. Nicolaus de Noali.
17. D. M. Aurelius Beneto.
18. D. M. Hieronymus Rubeus.
19. R. D. Bartholomeus de Sancto Vito.
20. D. M. Hieronymus Maripetro.
21. D. M. Franciscus Porretinus.
22. D. M. Carolus de Janua.
23. D. M. Antonius de Soncino.
24. D. M. Paulus a Sole.
25. D. M. Petrus de Noali.
26. D. M. Andrea de Aliotis.
27. D. M. Marcusantonius de Janua.
28. D. M. Christophorus a Ligorante.

ГОСЬЦІ

Прафэсары, дактары навукаў:

29. Aloisius Zuchatus Huisinus.
30. Daniel de Feroiulio, patavus.

Студэнты навукаў вызваленых:

31. Michael Zartibonus, quondam domini Iacobi, civis Venetus.
32. Gaspar de Gabrielis, filius domini Petri, civis paduanus.
33. Valerius de Largis, clericus paduanus.

## СКАРЫНА ЛЕКАР

Яскравы падуанскі эпізод жыцьцяпісу доктара Франьцішка Скарыны належыць да мала дасьледжанае тымчасам галіны ягонае дзейнасьці — лекарскае. У гісторыі культуры Беларусі й усей усходняй славяншчыны доктар Скарына ведамы галоўна як перакладнік і выдавец кнігаў Біблії, як аўтар прадмоваў да іх і камэнтароў, ды як піянер беларускага друку. Дзеля гэтага й увага дагэтуляшніх дасьледнікаў канцэнтравалася найперш на ягонай літаратурна-выдавецкай дзейнасьці.

Мала, затое, зьвярталася пакульшто ўвагі на Скарыну як лекара. А, тымчасам, бясспрэчна, што з сваіх двух дактаратаў — навукаў вызваленых і навукаў лекарскіх, — Скарына асабліва ганарыўся якраз дактаратам падуанскім, мэдыцынскім. І ў выдавецкай дзейнасьці сваім мэдыцынскім тытулам доктар Скарына найбольш прэзэнтаваўся, хоць, здавалася-б, да справы перакладу, камэнтаваньня й выдаваньня кнігаў Біблії бліжэйшымі павінны быць гуманістычныя «навукі вызваленыя» за навукі лекарскія. У прыпісках да выдадзеных кнігаў Скарына разоў колькідзесят перад сваім прозьвішчам падае й сваю мэдыцынскую дакторскую годнасьць — «у лекарскіх навуках доктар». Усяго разоў колькі згадвае ён свае абодва дактараты, як, прыкладам, у Кнізе Ісуса Навіны — «у науках

вызволеных и в лекарстве доктор», або ў Кнізе Руты — «в лекарстве и науках доктор», ці пасьля «Юдзінага саборнага пасланьня» ў «Апостале» — «в лекарстве и науках вызволеных доктор». Ніводнага-ж разу не дае ён свайго прозьвішча з адным толькі «у науках вызволеных» дактаратам.

Дык сваёй лекарскай адукацыі й дактарату Скарына яўна прыдаваў большую вагу, як адукацыі й дактарату ў галіне філязафічных «навук вызваленых», і годнасьцяй доктара мэдыцыны ён асабліва ганарыўся. Паясьняецца гэта часткова тым, што студыі «навук вызваленых» у Скарынаву пару ўважаліся за навуку агульнаадукацыйную, якую пажадана было, хоць і не канечна, мець перад паступленьнем на адзін з трох факультэтаў спэцыяльных — тэалёгію, права, мэдыцыну. Вось дзеля гэтага тры гэтыя факультэты ў тагачаснай сыстэме акадэмічнай адукацыі ўважаліся быццам за вышэйшыя за факультэт «навукаў вызваленых».

Ды, хоць сваю мэдычную адукацыю й дакторскі тытул Скарына ўважаў за важнейшыя ад адукацыі агульнае філязафічнае, і, хоць лекарская дзейнасьць у ягоным жыцьці мела напэўна паважнае месца й значаньне, канкрэтных вестак пра яе шырыню й характар маем ня шмат. Існуюць дапушчэньні, што ў Прусію, да герцага Альбрэхта ў Каралеўцы, Скарына вясной 1530 году накіраваўся дзеля шалеючай тамака тады ад восені 1529 году пошасьці «ангельскага поту», „englisches Schweiss"[21] — праўдападобна цяжкое грыпы, — але довадаў на гэта няма. Із сьветчаньняў самога Скарыны перад радаю места Пазнаня ў чэрвні 1532 году ведама затое, што гэтым часам ён быў надворным сакратаром і лекарам віленскага біскупа,[22] якім быў тады «Ян з князёў літоўскіх», няшлюбны сын караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча.

У лістападзе-ж тагасамага 1530-га году пра Скарыну як лекара вельмі пахвальнае сьветчаньне дае кароль Жыгімонт Казімеравіч у сваей, выдадзенай 25 лістапада, прывілейнай грамаце, якою Скарына быў узяты пад беспасярэднюю каралеўскую апеку й юрыдычна-судовую ахову. У ўводным сказе гэтае граматы Жыгімонт пра доктара Скарыну, між іншага, кажа: «прыхіляючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дараднікаў, ды маючы рэкамэндацыі аб ягонай чэснасьці, лекарскай нязьвычайнай ведзе, дазнаньні й умеласьці . . .»[23] Паколькі грамата была выстаўленая ў Кракаве, у польскай каралеўскай канцылярыі, а не канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага, дык Г. Лаўмянскі калісьці дапушчаў, што доктар Скарына гэтым часам практыкаваў як лекар, і зь вялікаю ўдачай, у Польшчы, ды сярод сваіх пацыентаў меў і нейкіх выдатных уплывовых польскіх урадоўцаў ці магнатаў, якія й дапамаглі яму дастаць каралеўскае звальненьне ад судовых прасьледаў за даўгі памерлага брата Івана, ды

---

21 Forstreuter K. Preussen und Russland im Mittelalter. Königsberg—Berlin, 1938; б. 222.

22 Запіс у актавай кнізе Архіву Места Пазнаня, Brul. Consul. 1531—32, f. 164v. Паводле фатаадбіткаў гэтых запісаў у зборах Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Ню Ёрк. Што доктар Скарына быў надворным лекарам віленскага біскупа на аснове гэтых актаў першы раз у друку паведаміла: Maria Wojciechowska — Рэцэнзыя на: L. Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (Kwartalnik historyczny, XL. Lwów, 1926; б. 474).

23 Acta Tomiciana. Tomus quartus decimus . . . Edidit Vladislaus Pociecha. Posnaniae, 1952; б. 795.

здабыць ганаровы прывілей адмысловае каралеўскае юрыдычнае аховы.[24] Лаўмянскі тады яшчэ ня ведаў пра існаваньне пазнанскіх актаў датычных да доктара Скарыны, у якіх ёсьць сьветчаньне самога Скарыны, што гэтым часам ён быў надворным сакратаром і лекарам віленскага біскупа ды ў справах гэтага біскупа й прыяджаў да Пазнаня. Дык лекарская Скарынава дзейнасьць мела месца ня ў Польшчы, а ў Вільні, і, побач магчымых іншых выдатных ягоных віленскіх пацыентаў, якія маглі заступацца за яго перад Жыгімонтам ды даваць добрую апінію пра ягоную «чэснасьць, лекарскую нязвычайную веду й дазнаньне», быў напэўна віленскі біскуп Ян, Жыгімонтаў сын і ягоны блізкі дараднік, бо віленскі біскуп заўсёды ўходзіў у склад найвышшага кіраўнічага ядра Паноў Рады Вялікага Княства Літоўскага.

Хоць і ўскосныя толькі, але існуюць паказаньні й на тое, што й падчас свайго другога прабываньня ў Празе, нейдзе ад году 1535-га, і да самае сьмерці ў годзе 1540-м, доктар Скарына, побач працы над заснаваньнем каралеўскага парку ў Празе на Градчанах ды афіцыйнага становішча каралеўскага батаніка-садоўніка, займаўся й лекарскай практыкай сярод пражанаў. Лекарам караля Фэрдынанда I ён ня быў, бо кароль ды каралева Ганна зь Ягайлавічаў прабывалі з усімі дзяцьмі пераважна ў Аўстрыі, у Вене, і да Прагі прыяжджалі рэдка. Нейкіх дакладнейшых вестак пра праскую лекарскую практыку доктара Скарыны, аднак-жа, пакульшто ня маем. Дык довадаў маем дастаткова на тое, што свой падуанскі ў навуках лекарскіх дактарат Скарына здабыў не на тое толькі, каб ім ганарыцца. Займаўся ён і лекарскай практычнай дзейнасьцяй, ды ў некаторых найменш фазах жыцьця хіба й даволі інтэнсыўна. Толькі незнаёмасьцяй з жароламі да біяграфіі выдатнага Палачаніна паясьняюцца падобныя цьверджаньні, як А. С. Падражанскага 1951 году, што Скарына «сваей спэцыяльнасьцяў не займаўся . . . і быў галоўна асьветнікам».[24а] Ды з праўдай разьмінуўся й С. А. Верхрацкі, калі ён колькі гадоў пазьней выказаў зусім супроцьлежную думку: «аснаўным заняткам Скарыны была мэдыцынская практыка, а пераклады ды друкаваньне кнігаў былі ў яго пабочнаю справай».[24б] Дваццацьпяць выдадзеных Скарынам кнігаў ды ягоныя да іх прадмовы, бясспрэчны довад таго, што літаратурна-выдавецкую дзейнасьць доктар Скарына ставіў за галоўнае заданьне свайго жыцьця й для выпаўненьня яго не шкадаваў ні доўгіх гадоў упорыстае працы, ні вялікіх коштаў. І гэтаю якраз дзейнасьцяй Скарына здабыў сабе несьмяротную славу й месца ў гісторыі Беларусі, славянскае Эўропы, сьвету.

У сувязі зь лекарскай прафэсіяй Скарыны стаіць і пытаньне ягонай праўдападобнай сустрэчы з выдатным доктарам пары Рэнэсансу Пілiпам Тэафрастам Бамбастам Парацэльзам з Гогэнгайму (1494—1541). Парацэльз студыяваў мэдыцыну аж на колькіх унівэрсытэтах Нямеччыны, Італіі,

---

[24] H. Łowmiański — Рэцэнзыя на: Ad. Stankievič. Doktar Francišak Skaryna, pieršy drukar biełaruski, 1925 (Ateneum Wileńskie, rok III, zesz. 9. Wyd. Wydziału III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1925; б. 79).

[24а] Подражанский, А. С. Русский доктор медицины XV века Юрий Дрогобычский («Врачебное дело», Нр. 10, Москва, 1951).

[24б] Верхратский, С. А. Жизнь и деятельность доктора медицины Франциска Георгия Скорины (Из истории медицины. Сборник статей Института экспериментальной медицины Академии наук Латвийской ССР, вып. I. Рига, 1957).

Францыі. За сваё жыцьцё зьезьдзіў ён блізу ўсю Эўропу ды ўсюдых знаёміўся зь мясцовымі спосабамі лячэньня. Гэтак здабыў ён вялікае практычнае дазнаньне ў тэрапіі й на ім апіраўся больш, як на астралягічныя гараскопы ды агульна прызнаныя тады навукі старавечных лекараў — Авіцэны, Гіпакрата ці Галена. Заслужана ў гісторыі мэдыцыны Парацэльз уважаецца за піянера мадэрнай хэматэрапіі.

У 1520-м годзе Парацэльз быў і ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім, і, хіба-ж, найперш у сталіцы гэтага княства, Вільні. Паводле ягоных словаў і тут ён вывучаў, пазнаваў мясцовыя спосабы лячэньня й лекі, і ня толькі ад вучоных дактароў, але й ад звычайных жанчынаў, знахароў ды чараўнікоў. Згадвае ён пра гэта ці раз у сваіх творах, прыкладам: «Дазнаньне сваё зь вялікай пільнасьцяй здабываў я ў Ліцьве, Галяндыі, Вугоршчыне, Дальмацыі, Харвацыі, на Родасе, у Італіі, Францыі, Гішпаніі, Партугаліі, Англіі, Даніі ды ўсіх нямецкіх краёх . . . ».[25]

У гэтым-жа 1520-м годзе, калі Парацэльз у Ліцьве вывучаў тайны мясцовага традыцыйнага лячэньня, з Прагі да Вільні пераехаў якраз доктар Скарына. І Парацэльз, і Скарына, выдатныя нагэтулькі асабістасьці лекарскага й навуковага сьвету тае пары, што непраўдападобна, каб прабываючы гэтым самым часам у Вільні яны ня трапілі ў беспасярэднюю сутычнасьць.[26] Хоць няма тымчасам нейкіх канкрэтных дадзеных пра час і абставіны асабістага кантакту гэтых двух вучоных, ды, затое, ведамыя сяньня некаторыя факты, якія маглі быць вынікам гэткае сустрэчы.

Па сваім характары Парацэльз быў чалавекам вельмі сварлівым і няўжыўчывым, і хутка трапляў ён у розныя канфлікты з канкурэнтамі па прафэсіі, лекарамі іншымі, ды сярод іх галоўна й нажываў сабе ўсюдых ворагаў. У вадным із сваіх твораў ён, прыкладам, наракае на тое, што гэта із зайздрасьці лекары яго ўсюдых прасьледвалі, вялі зь ім «вайну». Парацэльз кажа: «Вайна нашая трывала доўга . . . Выгналі яны мяне зь Літвы, пасьля з Прусіі, а пасьля з Польшчы. Ды мала было ім і гэтага. Галяндцам я таксама не падабаўся — ні ўнівэрсытэтам, ні жыдом ані манахам. Але, дзякуй Богу, падабаўся я хворым, і дзеля гэтага я трымаюся сваіх спосабаў».[27]

Вось з гэтых словаў Парацэльза даведваемся, што Літву пакінуў ён не самахоць, а што яго стуль «выгналі» тамашнія лекары. Нажаль, прозьвішчаў ніякіх Парацэльз пры гэтым не дае, але найвыдатнейшы ў Вільні й усей Ліцьве (Беларусі) ведамы тае пары лекар, гэта доктар Францішак Скарына. І зусім магчыма, што гэта зь ім у чародны канфлікт свайго бурнага жыцьця й трапіў самапэўны заўсёды ў вышшыні свайго мэдычнага дазнаньня ды заўсёды калатлівы Парацэльз. У кажным выпадку з таго, што Парацэльз і свой доўгі пералік краёў, дзе ён здабываў шырокае лекарскае дазнаньне, і краёў, скуль яго па прафэсыйнай зайздрасьці «выгналі»,

---

[25] Theophrast von Hohenheim, gen. Paracelsus. Sämtliche Werke. Herausgegeben von Karl Sudhof und Wilhelm Matthiesen. München, Band 7, б. 374.

[26] На магчымасьць сустрэчы ў Вільні Парацэльза з доктарам Скарынам зьвярнуў увагу апошнім часам д-р В. П. Грыцкевіч у рэфэраце пра падарожжы Парацэльза па Беларусі й Польшчы, што быў чытаны ў 1966 г. на XX Міжнародным Кангрэсе Гісторыкаў Мэдыцыны ў Заходнім Бэрліне.

[27] Paracelsus . . . Sämtliche Werke, Band 6. б. 180.



*Дрэварытны партрэт доктара Франьцішка Скарыны з Кнігі Быцьця ягонага перакладу й друку, Прага, 1519 г.*

пачынае з тае самае «Літвы», выглядае, што гэта Літва з аднаго й другога гледзішча найбольш яго ўразіла.

Для лепшага асэнсаваньня характару навуковых зацікаўленьняў доктара Скарыны трэба зьвярнуць яшчэ ўвагу на факт, што на дрэварытным партрэце ў кнігах Бібліі доктар Скарына паказаны не як тэалёг ці рэлігійны дзеяч, а як вучоны сьвецкі, як лекар. На партрэце Скарына сядзіць пры пульпіце й піша ў сваім габінэце вучонага, у якім шмат кнігаў, пясочны гадзіньнік, тагачасная астранамічная схэма сусьвету sphaera mundi, розныя прадметы штодзённае патрэбы й ужытку, пасярэдзіне-ж, на завешаным на пульпіце ўзорным саматкане, Скарынаў гэрб, маладзік у сонцы, але — ніякіх рэлігійных прадметаў ці эмблемаў. Толькі з таго, што дрэварыт памешчаны ў кнігах Бібліі Скарынавага перакладу й друку, дагадвацца трэба, што партрэт паказвае доктара Скарыну пры працы над перакладам якраз Бібліі.

У кампазыцыі патрэту толькі раз, на шчыце ў ільвінных лапах леваруч Скарыны, ужыты знак крыжа на эмблеме, што, выглядае, прадстаўляе стаячую пад крыжам, з адкрытым векам, дамавіну. Гэта, яўна, вобразнае прадстаўленьне ідэі, выказанае ў ведамай лацінскай сэнтэнцыі „Memento mori!“ — «Помні памрэш!» Эмблема выражае важную рысу Скарынавага сьветагляду й, таксама, ягонае выдавецкае дзейнасьці, накіраванае на пашырэньне й умацаваньне ў народзе асноваў хрысьціянскае веры й маралі, як імпэратыўных для людзкога дабра й шчасьця ня толькі зямнога, але й пасьмертнага. Часьцей думка лацінскай сэнтэнцыі Memento mori выражалася тады не дамавінай, а вобразам людзкога чэрапа.

Sphaera mundi, астранамічная дакапэрнікава схэма геацэнтрычнага руху нябесных целаў, знайшлася на партрэце не прыпадкова й толькі для адзначэньня высокае вучонасьці доктара Скарыны, а гэта й неабходная тады для доктара мэдыцыны лекарская прылада, якую мусеў мець і Скарына. Астраномія й астралёгія у тыя часы былі важнымі дапаможнымі галінамі мэдыцынскае веды. Ад правільнага азначэньня пазыцыі нябесных целаў і належнае гэтага інтэрпрэтацыі, ад «гараскопаў», залежылі тады й тэрапія, і прагноз. Таму й доктар Скарына, хоць-бы для патрэбаў свае лекарскае практыкі, мусеў праводзіць назіраньні зорнага неба, сачыць за рухам плянэтаў, займацца астраноміяй. Разумеў гэта добра калісьці Максім Багдановіч, калі свой верш пра доктара Скарыну як лекара пачаў словамі: «Скарына, доктар лекарскіх навук, у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры».

Важнай дапаможнай навукай мэдыцыны ў Скарынавы часы, побач астраноміі, была й батаніка, бо ў лячэньні тады асабліва шырака тарнавалася ўсякае зеліва — цьвет, лісьце, кара, карэньні розных расьлінаў. Таму й батаніка ўходзіла тады ў курс лекарскіх навукаў і гэта было падставай таго, што кароль Фэрдынанд I запрасіў доктара Скарыну як адмыслоўца для заснаваньня каралеўскага парку ў Празе на Градчанах.

Толькі зразумела, што лекарская адукацыя й прафэсія знайшлі свой адбітак і ў Скарынавым пісьменьніцкім творстве. У выдадзеных Скарынам рэлігійных кнігах ці раз сустракаем выражэньні характэрныя лекару. У прадмовах доктар Скарына асабліва часта адзначае, што кнігі Бібліі чытаць добра й трэба для дабра ня толькі духовага, але й цялеснага. У прадмове да Псалтыра ён піша: «светые книги уставлене суть к нашему

навчению и справлению, духовному и телесному... Псальмы... всякие немощи духовные и телесные, уздоровляють...». У прамове-ж «во всю Бівлию» Скарына кажа: «В сей книзе вси лекарстве душевные и телесные зуполне знайдете».

Асабліва яскрава лекарская Скарынава адукацыя, прафэсія й мэнтальнасьць выяўленыя ў пачатку прадмовы да першае друкаванае кнігі на беларускай зямлі — віленскага Апостала 1525 году:

> «Великий Лука антиохийский в лекарских науках Доктор пренавченый, И евангелист Ісусов Христов предивный... Онже будучы лекарем телесным досконалым, виде вси речи телесные иже суть суетны, и минущи, Возжеле быти лекарем душ наших... Знал убо иже нетолико жив еси человек хлебом, или лекарством, но боле всяким словом, еже походить из уст божіих...».

Праз заакцэнтаваньне на самым пачатку прадмовы кнігі факту, што сьвяты эвангелісты Лукаш быў «у науках лекарскіх доктарам», адчуваецца гордае здаваленьне аўтара прадмовы й выдаўца кнігі, што «ў лекарскіх навуках доктар» і ён. А ў зьвернутай увазе на тое, што эвангелісты Лукаш «будучы лекарам дасканалым» зажадаў быць «лекарам душ нашых», вычуваецца нібы самаабароннае паясьненьне перад магчымым закідам, чаму гэта ён, доктар не тэалёгіі, а мэдыцыны, выдае рэлігійныя кнігі.

Хоць вестак пра Скарынаву лекарскую дзейнасьць маем ня шмат, ды іх дастаткова на довад таго, што лекарская прафэсія займала ў ягоным жыцьці паважнае месца. Сяньня ведама таксама, што лекарскія традыцыі ў родзе Скарынаў не абарваліся ізь сьмерцяй Францішка Скарыны. За прыкладам бацькі, мэдычную прафэсію здабыў і лекарам працаваў і Скарынаў сын Сымон. Паводле чэскіх летапісных вестак, у 1577-м годзе ён практыкаваў, наведваў хворых, на паўдні Чэхіі, у Крумлёве.[28]

Францішак Скарына — першы ведамы беларускі лекар ды першы, двойчы навет, дактарызаваны вучоны й Беларусі, і ўсяе ўсходняе Эўропы. Адзначыць важна факт, што на свайго першага доктара мэдыцыны Масдоўшчына здабылася аж 182 гады пасьля дактарызацыі Скарыны, бо толькі ў 1694 годзе ў тойсамай італіянскай Падуі лекарскіх навукаў дактарат здабыў першы расеец — Пётра Васілевіч Постнікаў.

Скарына, як тыповы дзеяч пары Рэнэсансу, быў лекарам, што не замыкаўся ў вузкіх межах прафэсійных толькі справаў і зацікаўленьняў, а пытлівым уніклівым інтэлектам сягаў глыбака й у іншыя галіны творчага пазнаньня. Дзякуючы гэта лекарскай прафэсіі доктар Скарына меў беспасярэднюю шырокую сутычнасьць з народам, з сваім «людам паспалітым», знаў добра й разумеў усе ягоныя нястачы й беды, ведаў матар'яльныя й духовыя яго патрэбы, ды глыбака верыў, што праз кнігі й навуку, праз асьвету й веду, народ пракладзе сабе шлях да лепшае будучыні.

Доктар Скарына быў моцна прывязаны да свае зямлі, свайго краю й народу, і, як сам ён казаў, дзеля тае простае прычыны, што яго «міласьцівы Бог з таго языка на сьвет пусьціў», ды што «людзі, дзе зрадзіліся

---

[28] Březan Wácslaw. Žiwot Wiléma z Rosenberka Stáročeska Bibliotheka. Čislo II. Praha, 1847; б 227.

й ускормленыя суць па Бозе, к таму месцу вялікую ласку й маюць». Гэта было асноваю таго, што свае лекарскія заданьні Скарына разумеў як грамадзкі абавязак і быў заўсёды чуткі на патрэбы свайго краю й народу.

Шырынёй свае адукацыі, глыбінёй інтэлекту, доктар Франьцішак Скарына на галаву перарастаў і найбольш асьвечаных сучасьнікаў свайго краю. Думкаю ўзьнімаўся ён высака над сваім пакаленьнем, глядзеў далёка ў будучыню ды разумеў, ясна як ніхто зь ягоных сучасьнікаў, палючыя заданьні эпохі для зарукі культурна-духовага й нацыянальнага росту свайго народу. У гэтым духовым пераросьце над сучасьнікамі й галоўная прычына таго, што пакаленьне ягонае яго належна не ацаніла, не падтрымала, і сьмелую, пачатую з гігантычным размахам ды гістарычнай візіяй выдавецкую дзейнасьць давесьці да завяршэньня яму не ўдалося. У выніку, незважаючы на шчыры патрыятызм і глыбокую дэмакратычную народнасьць, на ўсю ахвярнасьць і энэргію, дажываць свой век, пасьля горкіх разчараваньняў, лягчэй было не на роднай зямлі, а ў далёкай Чэхіі.

## СКАРЫНА Ў ІТАЛІІ

З выяўленьнем актавага запісу падуанскага біскупскага палацу італіянскі эпізод жыцьця доктара Франьцішка Скарыны стаў бадай найлепш дакумэнтаваным з усяе Скарынавае біяграфіі. Хоць і належыць ён найперш да мала яшчэ дасьледжанае лекарскае галіны Скарынавае дзейнасьці, ды эпізод гэты кідае цікавае сьвятло й на колькі важных іншых аспэктаў жыцьця й дзейнасьці доктара Скарыны. Найперш, гэта канкрэтная дакумэнтацыя ягоных беспасярэдніх сувязяў зь вядучым тады ў галіне духовага прагрэсу краем Эўропы, зь Італіяй пары Рэнэсансу. Сувязі-ж гэтыя мелі бясспрэчна сваё важнае значаньне на сфармаваньне шырокіх гуманістычных кругазораў Скарынавага сьветагляду.

На землях Італіі крыжаваліся тады важныя сухазёмныя й водныя камунікацыйныя магістралі Эўропы й сьвету, сьвету, што з новымі адкрыцьцямі няведамых раней краінаў і цэлых кантынэнтаў, раптоўна на ўсе бакі пашыраўся. У выніку разьвіваліся нязвычайна тэхніка ды рамёслы, кіпеў гандаль, багацелі купцы, красавалі, як ніколі, італіянскія месты. З пладамі-ж матар'яльнае вытворчасьці, з прадуктамі чалавечых рук, таварам, нястрымна цыркулявалі, з краю ў край вандравалі, і дасягненьні людзкога розуму — новыя думкі, ідэі, пагляды. Давяло гэта да аднаго з найбольш уражаючых у гісторыі заходняе цывілізацыі духовых уздымаў — італіянскага Адраджэньня. Якраз у часе прабываньня Скарыны ў Падуі ды Італіі ў галіне мастацтваў Рэнэсанс дасягаў сваіх узвышшаў. Гэта пара творчасьці гэткіх волатаў людзкога духа, як Леанардо да Вінчы, Рафаэль Санчыё, Мікельанджэльлё Буанароці, Данат Брамантэ. За мастацтвамі, асабліва пад шчодрай апекай папы-гуманістага Лявона X Мэдычы, закрасавала й паэзія, літаратура, навука.

Дык наведзіны Скарынам Італіі выпалі ў пару апагею рэнэсансавага ўздыму. А як прабег экзаменаў у Падуі паказаў, і доктар Скарына з далёкага ад яе беларускага Полацка сваёй адукацыяй і пазнаньнямі не ўступаў прадстаўніком навукі Італіі. Дасканальная веда міжнароднае мовы тагачаснага навуковага сьвету, мовы лацінскай, дала Скарыну магчымасьць

ува ўсім блеску красамоўнасьці паказаць сваю эрудыцыю ды задзівіць ёю вучоную Калегію падуанскай акадэміі.

Важна мець на ўвеце, што добра актавымі запісамі задукамэнтаваныя наведзіны Скарынам земляў Італіі ў пару красаваньня там Рэнэсансу, ня нейкі прыпадковы адзіночны факт. Яшчэ ад XV стагодзьдзя, і даволі масава, у Італію кіраваліся, на слаўных унівэрсытэтах Балёніі, Падуі, Рыму ці Фэррары, студыявалі сыны беларускіх магнатаў, багацейшае шляхты ды замажнейшых слаёў меставога стану Беларусі.

У часе, калі здабытую на захадзе веду доктар Скарына ставіў ужо на ўслугі важнай для свайго народу й усяе ўсходняе Эўропы культурнай справы, разгортваў шырокую літаратурна-выдавецкую дзейнасьць, ад 1518 году, з дыпляматычным пасольствам караля й вялікага князя Жыгімонта Старога прабываў у Рыме выдатны паэта ды вялікі патрыёта беларускай зямлі, Мікола Гусоўскі. Як зь ягонае творчасьці відаць, быў ён у беспасярэдняй сувязі зь літаратурнымі коламі тагачаснае Італіі. Даводзілася ці раз яму бываць і на ўрачыстых прыняцьцях папы Лявона X, ня толькі шчодрага мэцэната-апякуна паэтаў ды мастакоў, але й вялікага аматара паляваньняў. Вось для Лявона X, які ніколі ня бачыў караля пушчаў Беларусі, зубра, Гусоўскі ў 1521 годзе й напісаў сваю слаўную лацінскую „Carmen de bisonte" — «Песьню пра зубра». Гэта вялікая, больш тысячы радкоў, высокае паэтычнае вартасьці, эпічная паэма. У ёй дасканалыя вопісы зубра, яго выгляду й нораваў, ды небясьпекаў і розных прыгодаў у часе паляваньня на зуброў. Сюжэт паэмы разгортваецца на фоне мастацкіх вопісаў велічы ды красы адвечных прыдняпроўскіх пушчаў. Паэма насычаная глыбокім патрыятызмам і любовяй песьняра да беларускай зямлі. У колькіх яе разьдзелах паэта апявае й гераічную абарону народу свае бацькаўшчыны ад крывавых рабаўнічых нападаў Масквы ды Татараў.

Дык сувязі земляў Беларусі зь Італіяй у часы Скарыны ня былі зьявай прыпадковай. Полацак, Полаччына, Вільня, як і ўся Скарынава бацькаўшчына, у гэную пару была ў бойкіх эканамічных і культурных кантактах з усім захадам Эўропы. Плённыя вельмі культурна сувязі зь Італіяй знайшлі тады сваю выяву ня толькі ў літаратуры ды навуцы. Адбітак іх яскравы маем і ў мастацтве, асабліва ў архітэктуры Беларусі. Сувязі гэтыя ўзмагліся нязвычайна ў часе частага прабываньня ў Вільні зь італіянскім сваім дваром каралевы Боны, былое мэдыялянскае князёўны.

Сяньня знаем, што лучнасьць зь Італіяй з здабыцьцём дактарату на слаўным Падуанскім унівэрсытэце не абарвалася й у самога Скарыны. Сьветкі гэтага — ягоныя кнігі ў Італіі, накіраваныя туды відавочна ім самым сваім прыяцелям ці знаёмым. Для прыкладу, яшчэ за жыцьця доктара Скарыны, бо каля 1539 году, Кнігаю Царстваў выданьня Скарыны ў часе лекцыяў на ўнівэрсытэце ў Павіі карыстаўся выдатны італіянскі мовавед Амброжы Тэзэй Альбонэзі. Па ёй ён знаёміў сваіх студэнтаў з тайнамі выгляду ды вымаўляньня літараў кірылічнага альфабэту ды важнейшымі характэрнымі асаблівасьцямі славянскіх моваў.[28a]

Усьведамляючы шырыню духовых кантактаў доктара Скарыны зь Італіяй і ўсей Эўропай пары Рэнэсансу, важна адначасна не забывацца, што

---

28a Т у м а ш, Вітаўт. Кнігі Скарыны ў Італіі першае палавіны XVI стагодзьдзя (ЗАПІСЫ, кн. 5, БІНіМ. Мюнхен, 1968 г.).

беспасярэдняя сутычнасьць з культураю Заходу ў яго рэнэсансавым апогэі не заглушылі ў Скарыны ягоных радзімых культурна-нацыянальных традыцыяў, не падарвалі прывязанасьці й пашаны да свайго краю, народу, яго веры й культуры. Дасканальная веда мовы лацінскай не забіла ў Скарыны зразуменьня вагі й патрэбы разьвіцьця свае роднае мовы ды раскрываньня перад ёю шырэйшых гістарычных пэрспэктываў шляхам пераходу ад кнігаў рукапісных да друкаваных. Скарына добра ўсьведамляў, што пададзеныя друкам ідэі й пазнаньні дойдуць лягчэй да ягонага «люду паспалітага», народ лепш зможа «разазнаць праўду й крыўду» ды хутчэй пракладзе сабе шлях да сьвятлейшае, шчасьлівейшае будучыні.

Дык падуанскія актавыя запісы раскрываюць у яскравым драматычным сьвятле сутычнасьць зь Італіяй і яе навуковымі коламі ня толькі самога палачаніна Скарыны. Яны канкрэтнае сьветчаньне й пра шырокую жывую тады лучнасьць земляў Беларусі й зь Італіяй, і з усім духовым сьветам захаду Эўропы. У гэтым і вялікая іх цікавасьць ды каштоўнасьць для пазнаньня й зразуменьня гісторыі духовых працэсаў Беларусі й Эўропы Скарынавае пары, а адначасна й насьвятленьне ўмоваў, у якіх складаўся гуманістычны талеранцыйны сьветагляд доктара Францішка Скарыны.

## АКТАВЫЯ ЗАПІСЫ

### ЗАПІСЫ ПАДУАНСКАГА УНІВЭРСЫТЭТУ

JESUS MARIA[29]

*Gratie in medicinis amore dei magistri Francisci, rutheni, quondam Domini Luce.*

In Christi nomine amen. Anno eiusdem nativitatis millesimo quingentesimo duodecimo, indictione XV, die Veneris, quinto Nouembris, Padue, in Ecclesia Sancti Urbani, hora XVII[a]. Convocato et more solito congregato, Sacratissimo Collegio famosissimorum artium et medicine Doctorum Paduanorum, de Mandato Excellentissimi Artium et medicine doctoris, Domini Thadei Mussati, Vicepríoris Dicti Collegii, cum consensu Dominorum Consiliarorum dicti Collegii. Quo quidem Collegio, sic convocato, prefatus Dominus prior dixit: Excellentissimi Domini Doctores, Causa Conuocationis excellentiarum Vestrarum est ista: Est quidam Doctissimus Iuvenis, artium Doctor, pauper, qui a longissimis partibus forsan per quatuor millia milliaria et ultra ab hac preclara Ciuitate, pro Augumentando famam et honorem illius huiusque florentissimi Communitarii et Sacri Collegii nostri ad illam se contulit: et uellet sibi concedi de dono et gratia speciali ac amore Dei per hoc Sacrum Collegium in medicinis. Si placet Excellentiis Vestris ipsum introduci faciam. Qui quidem Iuvenis et Doctor prefatus Nominatur Dominus Franciscus quondam Domini Luce Scorina de Poloczko, Ruthenus. Quibus sic peractis, fuit introductus Dictus Magister Franciscus et petiit humiliter ac reverenter sibi concedi gratie in medicinis amore dei, ut supra expositum est per prefatum Dominum Vicepriorem. Offerrensque se predicare ubilibet famam, honorem et utilitatem dicti Collegii et cuiuslibet Doctorum in particulari. Quibus sic Dictis, Examinauit artium Collegium.

---

[29] Словы Jesus Maria напісаныя ўгары кожнае бачыны актавае кнігі.

Et prefatus Dominus Viceprior dixit: Domini Doctores, vos audiuistis istum pauperem et Doctum Iuuenem, si est aliquis qui vellit aliquid dicere, surgat et dicat apponere suum. Et tamdem factis multis sermonibus et arengationibus inter dictos, Dominos Doctores. Dictus Dominus Viceprior posuit partitum personis infrascriptis, videlicet: quibus placet quod dictus Dominus Franciscus habeat gratias in medicinis amore Dei, cum dispensatis statutis in reliquis, ponant ballotam suam in piside rubra affirmante, quibus vero non placet, ponant in viridi negante. Et sic Ductis ballotis fuit obtentum Dictum partibus, nemine discrepante.

## ЕЗУС МАРЫЯ

*Удзяленьне, з Божае ласкі, мэдыцынскае годнасьці Спадару прафэсару[30] Франьціішку, Русічу,[31] сыну нябошчыка Спадара Лукаша.*

У імя Хрыста, амін. Году-ж ад яго нараджэньня тысяча пяцьсот дванаццатага, індыкта XV, у пятніцу, пятага лістапада, у Падуі, у царкве сьвятога Урбана,[32] а гадзіне 17-ай, скліканая была й у абыдны спосаб сабраная Найсьвятшая Калегія найслаўнейшых навукаў[33] і мэдыцыны Дактароў Падуі, загадам Найдастойнейшага Навукаў і Мэдыцыны доктара

---

[30] Паколькі Скарына ў Падую прыбыў ужо з дактаратам «навук вызваленых» — Artium Doctor — дык яму й прыслугоўваў тытул magister — прафэсар, што й знайшло свой адбітак у актавых аб ім запісах. Magister у ўнівэрсытэцкім жыцьці тае пары значыла тоесамае, што й «прафэсар», «настаўнік», і было адназначнае з «доктар». Тытул magister — прафэсар — прыслугоўваў тады кожнаму, хто здабываў навуковую ступень доктара, якая давала права на самастойнае навучаньне іншых. Аж да XVI стагодзьдзя тытулы доктара й магістра былі раўназначныя. Пазьней «магістэр» перастала ўжывацца для азначэньня настаўніка ўстановы вышэйшага навучаньня. У гэтым значаньні замацавалася слова «прафэсар». У галіне-ж навуковае градацыі «магістэр» стала азначаць навуковую ступень ніжэйшую ад «доктар», а ў некаторых галінах навукі, прыкладам у мэдыцыне, і зусім было закінутае. Як відаць із Скарынавых прадмоваў да праскіх біблійных кнігаў, прыкладам да Кнігі Судзьдзяў — «працею ученаго Франциска Скорины... в науках и в лекарстве учителя», — доктар Скарына лацінскае «magister» перадаваў словам «учитель».

[31] Словам «Русіч» перакладаецца тут актавае лацінскае «ruthenus». Гэтак называлі тады палацінску жыхароў Беларусі й Украіны. Паколькі доктар Скарына паходзіў зь беларускага Полацка, дык і слова «ruthenus» у дадзеным выпадку раўназначнае сучаснаму «Беларус».

[32] Падуанская царква сьвятога Урбана, у якой складаў экзамены доктар Скарына, не захавалася.

[33] Artium doctor — доктар навукаў (даслоўна — «мастацтваў»), гэта быў дактарат з галіны Septem artes liberales — «сямі навукаў вызваленых». Пералічае іх доктар Скарына ў сваей прадмове да ўсей Біблії гэтак: граматыка або «грамата», бо «добре чести и мовити учить»; лёгіка — «учить з доводом розознати правду и кривду»; рыторыка, «еже ест красномовность»; музыка або «певница»; арытмэтыка «во кратце, а неомылне считати учить»; геамэтрыя або «землемерение»; астраномія або «звездочети». Тытул Artium doctor Скарына пабеларуску перадаваў «в науках вызволеных доктор», або «в науках доктор». Гэтак гэты тытул перададзены ўсюды й у гэтым перакладзе: artium — навукаў.

Спадара Тодара Муссаты, Віцэпрыёра[34] вышэй званае Калегіі, ды із згодаю Спадароў Райцаў Калегіі гэтай. Калі вось Калегія гэтак сабралася, вышэй згаданы Спадар прыёр сказаў:

«Найдастойнейшыя Спадары Дактары! Прычына скліканьня Вашых Дастойнасьцяў гэткая: Ёсьцека тут адзін вельмі вучоны бедны юнак, Доктар навукаў, што прыбыў зь вельмі далёкіх, — чатыры, можа, тысячы, ці болей, міляў ад гэтага праслаўнага места краёў, — для зьвялічэньня славы й гонару яго, ягонага красуючага супольства, ды Сьвятое Калегіі нашай, і жадаў-бы сабе прызнаньня з Божае ласкі й удзяленьня гэтаю Сьвятою Калегіяй годнасьці ў галіне лекарскіх навукаў. Калі Вашыя Дастойнасьці дазволіце — прадстаўлю яго самога. Гэты, вышэй згаданы, Юнак і Доктар, гэта спадар Франьцішак, сын нябошчыка Спадара Лукаша Скарыны з Полацка, Русіч».

Пасьля гэтага ўведзены быў названы прафэсар Франьцішак, які пакорна й ветліва прасіў удзяленьня сабе, з Божае ласкі, годнасьці ў галіне лекарскіх навукаў, як і было вышэй сказана згаданым Спадаром Віцэпрыёрам, ды прыракаў шырыць усюдых славу, чэсьць і карысьці гэтае Калегіі й кажнага яе Доктара паасобку. Пасьля гэтага Калегія Навукаў яго апытвала. Вышэй-жа згаданы спадар Віцэпрыёр сказаў:

«Спадары Дактары: Вы выслухалі гэтага беднага й вучонага юнака. Калі-б нехта хацеў што сказаць, хай устане й выкажацца». Тады, пасьля шматлікіх прамоваў і выказваньняў гэтых Спадароў Дактароў, Спадар Віцэпрыёр сказаў асобам ніжэй названым[35] галасаваць у гэткі спосаб: хто згаджаецца, каб гэтаму Спадару Франьцішку ўдзяліць з Божае ласкі мэдыцынскую годнасьць, пры захаваньні ўсіх вымаганьняў, хай кіне свой голас у урну пацьвярджальную, чырвоную; хто-ж незгаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную. І праведзенае гэтак галасаваньне ня выказала аніводнага голасу супроць.

JESUS MARIA

*Tentatiuum in medicinis, Domini Magistri Francisci, Rutheni.*

M. D. XII, Die Sabbati Sexto Nouembris, Padue, in ecclesia Sancti Urbani, hora XXII[a].

Conuocatis et Congregatis Excellentissimis Doctoribus Sacri Collegii Dominorum Artium et medicine Doctorum Paduanorum in loco solito. Ex Mandato Egregii artium et medicine Doctoris Domini magistri Thadei Mussati Vicepriorís, tentatus fuit Eximius artium Doctor Dominus magister Franciscus quondam domini Luce Scorina de Poloczko,

---

34 Становішча «прыёра» Калегіі ў арганізацыйнай сыстэме тагачаснага падуанскага ўнівэрсытэту было прыблізна раўназначнае становішчу дзекана факультэту ўнівэрсытэтаў сучасных. У часы доктара Скарыны факультэт мэдыцыны ў Падуі лучыўся з факультэтам Artistarum — «сямі навукаў вызваленых».

35 Personis infrascriptis — асобам ніжэй на пісьме пералічаным. З гэтага вынікае, што пры канцы пратакольнага запісу меў быць дадзены сьпіс сяброў Калегіі прысутных на паседжаньні, падобна, як сьпісы гэткія ёсьць пры канцы двух іншых унівэрсытэцкіх актавых запісаў. Сьпісу гэтага ў кнізе Sacri Collegii, аднак-жа, няма. Відавочна ён ня быў дапісаны, ці, можа, загубіўся.

*Актавы запіс Калегіі 6 лістапада 1512 году пра пробны экзамен Францішка Скарыны ў царкве сьвятога Урбана.*

Ruthenus, in Medicinis super punctis hoc mane sibi assignatis. Et quoniam ipsa puncta memoriter recitando, ac Argumenta contra se facta reassumendo et optime resolvendo, Elegantissime se habuit. Ideo ab omnibus Doctoribus Collegii predicti ibi existentibus, nemine discrepante fuit idoneus iudicatus, et Admitendus ad Examen suum priuatum in Medicinis. Et ita Merito admissus.

Sub promotoribus, videlicet, Domino magistro Francisco de Noalis, Domino magistro Francisco de Este, Domino Magistro Hieronymo a Mullo, Domino magistro Bartholomeo Barisono, et Domino Magistro Hieronymo de Urbino.

Qui quidem Dominus Franciscus iurauit item in forma.

Nomina Doctorum qui interfuerunt:

D. M. [36] Thadeus Mussatus Viceprior
D. M. Bartholomeus a Volta
D. M. Franciscus a Noali
D. M. Franciscus de Este
D. M. Hieronymus a Mullo
D. M. Nicolaus de Noali
D. M. Aurelius Beneto
D. M. Hieronymus Rubeus
R. D. [37] Bartholomeus de Sancto Vito
D. M. Hieronymus Maripetro
D. M. Bartholomeus Barisonus
D. M. Hieronymus de Urbino
D. M. Antonius de Soncino, et
D. M. Marcusantonius de Ianua

## ЕЗУС МАРЫЯ

*Пробны (экзамен) з мэдыцыны Спадара прафэсара Франьцішка, Русіча.*

1512 (году), у суботу, шостага лістапада, у Падуі, у царкве сьвятога Урбана, а гадзіне 22-ой.

Скліканыя былі й у абыдным месцы сабраныя Сьвятое Калегіі Спадароў Навукаў і Мэдыцыны Дактароў Падуі Найдастойнейшыя Дактары. З загаду Выдатнага навукаў і Мэдыцыны Доктара Спадара прафэсара Тодара Муссаты, Віцэпрыёра, адбыўся пробны экзамен з мэдыцыны Знакамітага доктара навукаў, спадара прафэсара Франьцішка, сына нябошчыка Лукаша Скарыны з Полацка, Русіча, паводле тэзаў тае-ж раніцы сабе вызначаных. І дзеля рэцытацыі самых тэзаў з памяці, і, таксама, дзеля дасканалага падсумоўваньня довадаў ім супраціўных і зьбіваньня ды нязвычайна дастойнага захоўваньня, ён усімі, бяз вынятку, прытымбытнымі вышэй згаданае Калегіі дактарамі быў прызнаны за годнага дапушчэньня да экзамену адмысловага ў галіне лекарскіх навукаў і, зусім заслужана, быў дапушчаны.

---

36 D. M. — Dominus Magister, «Спадар Прафэсар».
37 R. D. — Reverendus Dominus, «Дастойны Спадар», значыцца сьвятар.

Прамотарамі-ж[38] былі Спадар прафэсар Франьцішак дэ Ноаліс, Спадар прафэсар Франьцішак дэ Эстэ, Спадар прафэсар Геранім а Мульлё, Спадар прафэсар Баўтрамей Барысон і Спадар прафэсар Геранім дэ Урбіно.

Гэты Спадар Франьцішак таксама склаў, паводле вымаганае формы, прысягу.

Імі прытымбытных Дактароў:

Сп. П. [39] Тодар Муссаты, Віцэпрыёр
Сп. П. Баўтрамей а Вольта
Сп. П. Франьцішак дэ Ноалі
Сп. П. Франьцішак дэ Эстэ
Сп. П. Геранім а Мульлё
Сп. П. Мікола дэ Ноалі
Сп. П. Аўрэлі Бонэто
Сп. П. Геранім Рубэус
Д. Сп. [40] Баўтрамей дэ Санкто Віто
Сп. П. Геранім Марыпетро
Сп. П. Баўтрамей Барысонус
Сп. П. Геранім дэ Урбіно
Сп. П. Антон дэ Сонціно
Сп. П. Маркантон дэ Януа

JESUS MARIA

*Privatum Examen in Medicinis Domini Magistri Francisci Rutheni.*

M. D. XII, die martis nono Nouembris, Padue in Episcopali palatio in loco solito Examen.

Conuocatis, et ut moris est, solemniter congregatis Celeberrimis Doctoribus Sacri Collegii, Dominorum Artistarum et medicorum, tam in artibus et medicina, quam in artibus tantum, de mandato Egregii artium et medicine doctoris domini Thadei Mussati Viceprioris, Et Consiliariorum. Coram Reuerendissimo in Christo patre et Domino Domino Paulo Zabarella, Dei, et apostolice Sedis gratia Episcopo Argelisensi. Reuerendissimo in Christo patris et Domini Domini Sixti, Miseratione diuina et Sancti Petri ad Vincula presbyteri Cardinalis, Sacre Romane Ecclesie Vice Cancellarii et Ecclesie Paduane perpetui Administratoris Dignissimi, Comitisque Saccentini, ac huius studii Celeberrimi Paduani Cancellarii Apostolici Suffraganeo, Locum tenente ac Vicario in Spiritualibus generali: Sub Vicepreppositura preclari artium et medicine Doctoris domini Thadei Mussati; et in Assistentia, Egregii, artium et medicine Doctoris Domini Francisci Fulmanelli de Verona, Vice Rectoris Dominorum Artistarum Padue. Necnon Coram omnibus Doctoribus dicti Collegii ibi astantibus: Eximius artium doctor, Dominus Fran-

---

[38] Прамотары — прафэсары-апякуны, якіх Калегія прыдзяляла кажнаму дактаранту. Заданьнем прамотараў было падрыхтаваць кандыдата да прамацыйных экзаменаў, даваць яму патрэбныя для гэтага парады й дапамогу аж да заканчэньня экзаменаў і здабыцьця ступені доктара.

[39] Сп. П. — Спадар Прафэсар, лацінскае Dominus Magister.

[40] Д. Сп. — Дастойны Спадар, тытуляцыя духоўнае асобы.

*Актавы запіс Калегіі 9 лістапада 1512 году пра дакторскі экзамен Франьцішка Скарыны ў біскупскім палацы Падуі.*

ciscus, quondam domini Luce Scorina de Poloczko, Ruthenus, fuit examinatus priuatim et Rigorose super punctis hoc mane assignatis. Qui ita Laudabiliter, et ellegantissime se habuit in hoc suo rigoroso Examine, in Recitando, dicta eius puncta, et in Argumentis contra se factis optime respondendo, quod ab omnibus Doctoribus ibi existentibus nemine penitus dissentiente, fuit approbatus ac sufficientiens in medicinis iudicatus, Et per Suprascriptum Reuerendissimum Dominum Vicarium Doctor in Medicinis pronuntiatus in forma solita.

Quo facto Excellens artium et medicine doctor, Dominus Magister Bartholomeus Barisonus promotor pro se et Collegis ultra notatis et tribuit insignia in facultate medicine.

Nomina autem Doctorum qui interfuerunt sunt:

D. M. Thadeus Mussati Viceprior
D. M. Bartholomeus a Volta
D. Presbiter Jacob de Curte
D. M. Hieronymus de Satbaneis
D. M. Nicolaus de Ianua
D. M. Baptista a Galta
D. M. Franciscus de Noali
D. M. Franciscus de Este
D. M. Hieronymus a Mullo
D. M. Nicolaus de Noali
D. Aurelius Boneto
D. M. Hieronymus Rubeus
Reu. D. Bartholomeus de Santo Vito
D. M. Hieronymus Maripetro
D. M. Bartholomeus Barisonus
D. M. Hieronymus de Urbino
D. M. Franciscus Porretinus
D. M. Carolus de Ianua
D. M. Antonius de Soncino
D. M. Paulus a Sole
D. M. Petrus de Noali
D. M. Andreas de Aliotis
D. M. Marcusantonius de Ianua, et
D. M. Christophorus a Ligorante

## ЕЗУС МАРЫЯ

*Экзамен адмысловы з мэдыцыны Спадара Прафэсара Франьцішка, Русіча.*

1512 (году), у ваўторак, дзевятага лістапада, у месцы абыдным біскупскага палацу ў Падуі, экзамен.

Скліканыя з загаду Выдатнага Навукаў і мэдыцыны Доктара Спадара Тодара Муссаты, Віцэпрыёра, і Райцаў, ды ўрачыста, паводле звычаю, сабраныя Сьвятое Калегіі Спадароў Артыстых[41] і мэдыкаў Слаўныя як навукаў і мэдыцыны, гэтак і навукаў толькі Дактары, у прысутнасьці Усячэсьнейшага ў Хрысьце айца й Спадара Спадара[42] Паўлы Забарэльлі, з Божае й апостальскага Пасаду ласкі біскупа Аргелісенскага, ды Усячэсьнейшага ў Хрысьце айца й Спадара Спадара Сыкста, з Божае й Сьвятога Пётры ў ваковах міласьці Кардынала прэзьбітара,[43] Сьвятое Царквы Рымскай Віцэканцлера й нязьменнага Царквы Падуанскай Адміністратара Пачэсьнейшага ды Райцы Сацентынскага, а таксама адданага слаўнае Па-

[41] Калегія Артыстых — калегія факультэту «сямі навукаў вызваленых».

[42] Domino Domino — «Спадара Спадара», знарочнае здваеньне для аказаньня асаблівае павагі й пашаны.

[43] Прэзьбітар — духовы апякун.

дуанскае апостальскае Канцылярыі Суфрагана й руплівага мясцовага справаў духоўных Вікарага. Пад віцэстаршынствам Найсьвятлейшага навукаў і мэдыцыны Доктара Спадара Тодара Муссаты ды пры ўдзеле Выдатнага навукаў і мэдыцыны Доктара Спадара Франьцішка Фульманэльлі[44] з Вэроны, Віцэрэктара Спадароў Артыстых Падуі, як таксама перад усімі прытымбытнымі Дактарамі Калегіі гэтай, Знакаміты доктар навукаў Спадар Франьцішак, сын нябошчыка спадара Лукаша Скарыны з Полацка, Русіч, быў экзаменаваны адмыслова й строга па тэзах гэтае раніцы вызначаных і ён гэтак слаўна й дастойна вёў сябе падчас гэтага свайго строгага экзамену й калі разьвіваў свае тэзы, і калі зьбіваў фактамі довады супраціўныя, што ўсе прысутныя дактары, без аніводнага вынятку, прызналі, што ён мае дастатковыя пазнаньні ў галіне мэдыцыны, і вышэй згаданым ўсячэсьнейшым Спадаром Вікарым быў у форме традыцыйнай Доктарам лекарскіх навукаў апавешчаны.

Па гэтым Дастойны навукаў і мэдыцыны доктар, Спадар прафэсар Баўтрамей Барысон, прамотар, ад сябе й вышэй згаданых Калегаў, уручыў азнакі мэдыцынскае годнасьці.[45]

Імі прытымбытных Дактароў:

Сп. П. Тодар Муссаты Віцэпрыёр
Сп. П. Баўтрамей а Вольта
Сп. Прэзьбітар Якуб дэ Курта
Сп. П. Геранім дэ Сатбанэіс
Сп. П. Мікола дэ Януа
Сп. П. Баптіста а Ґальта
Сп. П. Франьцішак дэ Ноалі
Сп. П. Франьцішак дэ Эстэ
Сп. П. Геранім а Мульлё
Сп. П. Мікола дэ Ноалі
Сп. Аўрэлі Бонэто
Сп. П. Геранім Рубэус
Д. Сп. Баўтрамей дэ Санкто Віто
Сп. П. Геранім Марыпетро
Сп. П. Баўтрамей Барысон
Сп. П. Геранім дэ Урбіно
Сп. П. Франьцішак Поррэтінус
Сп. П. Кароль дэ Януа
Сп. П. Антон дэ Сонціно
Сп. П. Паўла а Соле
Сп. П. Пётра дэ Ноалі
Сп. П. Андрэй дэ Аліётіс
Сп. П. Маркантоні дэ Януа, і
Сп. П. Хрыстафор а Лігорантэ

## ЗАПІС ПАДУАНСКАГА БІСКУПСКАГА ПАЛАЦУ

IC XP[46]

*M. D. XII, Indictione XV. Die martis, VIIII mensis nouembris.*

Privatum examen in medicinis Eximii viri Domini magistri francisci, quondam domini lucae scorina de poloczko rutheni, Secretarii regis datiae: Coram Archiepiscopo

44 У актавым запісе біскупскага палацу гэтае самае прозьвішча пададзенае як «Фуманэльлі» — Fumanelli.

45 Былі гэта звычайна круглы чырвоны бірэт, дакторскі сыгнэт, кніга Гіпакратавых «Афарызмаў».

46 Грэцкія літары над актавым запісам — «іс хр» — зь лігатурамі над імі, гэта скароты словаў «Ісус Хрыстос» пагрэцку. Пастаўленыя яны ўгары бачыны кнігі падобна, як у актавай кнізе ўнівэрсытэцкіх запісаў угары кажнае бачыны стаяць лацінскія словы Jesus Maria.

*Актавы запіс біскупскага палацу Падуі 9 лістапада 1512 году пра дакторскі экзамен «сакратара караля Дацыі» Франьцішка Скарыны.*

Reuerendissimo Domino Suffraganeo et Vicario, per Veneratum Collegium Dominorum artistarum paduanorum, in assistentia spectabilis artium et medicinae doctoris Domino magistri Francisci Fumanelli, almae Universitatis artistarum Vicerectoris, examinati: Qui fuit unanimiter, concorditer, ac concorditer, et eorum nemine penitus dissentiente, in medicinis approbatus: Sub promotoribus suis artium et medicinae doctoribus, dominis magistris

Bartholomeo Barisono, qui dedit insignia.
Francisco de Nouali:
Francisco Estensi:
Hieronymo a Mulo, et
Hieronymo de Urbino:

Spectabiles testes, artium doctores, Domini magistri
Alouisius Zuchatus Huisinus, et
Daniel de Foroiulio, patauus:

Egregii artium scholares, Domini
Michael Zartibonus, quondam domini Iacobi, civis Venetus: et
Gaspar de Gabrielis, filius domini Petri, civis paduanus,
Dominus Valerius de Largis, clericus paduanus.

## ІСУС ХРЫСТОС

1512 год, год індыкту XV. У ваўторак, 9 лістапада месяца.

Экзамен адмысловы з мэдыцыны мужа Знакамітага, Спадара прафэсара Франьцішка, сына нябошчыка спадара Лукаша Скарыны з Полацка, Русіча, Сакратара караля Даніі; У прысутнасьці Архіяпіскапа, Усячэсьнейшага Спадара Суфрагана й Вікарага, Праслаўная Калегія Спадароў Артыстых Падуі, пры ўдзеле Дастойнага навукаў і мэдыцыны доктара Спадара прафэсара Франьцішка Фуманэльлі,[47] Унівэрсытэту Артыстых Віцэрэктара, экзаменавала: Усе былі аднагодныя, адзін як адзін, без аніводнага вынятку, каб годнасьць у галіне лекарскіх навукаў прызнаць. Пад апекаю сваіх прамотараў, навукаў і мэдыцыны дактароў, Спадароў прафэсароў:

Баўтрамея Барысона, які ўручыў азнакі,
Франьцішка дэ Новалі,
Франьцішка Эстэнзі,
Гераніма а Мульлё, і
Гераніма дэ Урбіно.

Дастойныя сьветкі, навукаў дактары, Спадары прафэсары
Алёйзы Зухатус Гуісінус, і
Даніель дэ Фороюліё, падуанін.

Выдатныя студэнты навукаў, Спадары
Міхал Зартібонус, сын нябошчыка Якуба, месьціч Вэнэцкі; і
Ґаспар дэ Ґабрыеліс, сын спадара Пётры, месьціч падуанскі,
Спадар Валеры дэ Ляргіс, клерык падуанскі.

## ЗАПІС У RACCOLTA MINATO

47 Тоесамае прозьвішча ў трэцім унівэрсытэцкім актавым запісе дадзенае як «Фульманэльлі» — Fulmanelli.

1512. 8. giorno novembre, folio 122.
Dottorato nelle Medicine di Luca
Porina (Sic!) di poloczko. Rutheni, Secretarii regis Datis.

Promotori:

Bartolomeo Barisoni, Promovit di Luca
Francesco Nouali
Francesco Estense
Girolamo dal Mulo
Girolamo di Urbino

## ПЕРАКЛАД ЗАПІСУ МІНАТЫ

1512 году, дня [redacted] лістапада, балонка 122.
Дактарат з мэдыцыны сына нябошчыка Лукаша Скарыны (у запісе памылкова «Порыны») з Полацка, Русіча, сакратара караля Даніі.

Прамотары:

Баўтрамей Барысон, даканаў прамоцыі Лукашовага сына.
Франьцішак Новалі
Франьцішак Эстэнсэ
Геранім даль Мулё
Геранім ді Урбіно

## РЭЕСТРОВЫ ЗАПІС FRANCESCO DORIGHELLO

Polosczko . . . citta nelle Lituania . . .

Francesco Del giá defunto Lucca Scorina di Poloczko Ruteno Dottore delle arti favorito tentato in medicina nell'anno 1512, sabato 6 novembre a ore 22, in chiesa di S. Urbano, sopra i punti la mattina assegnatigli sotto i promotori Francesco Noale, Francesco d'Este, Girolamo Amulio, Bartolomeo Barison, Girolamo d'Urbino, e martedi 9 dello stesso novembre nel luogo solito fu esaminato e dottorato sopra i punti la mattina assegnatigli, e laureato dal Barison.

## ПЕРАКЛАД ЗАПІСУ ДОРЫҐЭЛЬЛЁ

Полацак... места ў Ліцьве...

Франьцішак, сын нябошчыка Лукаша Скарыны з Полацка, Русіч. Доктар навукаў, здавальняюча здаў пробны экзамен з мэдыцыны ў 1512 годзе, у суботу 6 лістапада, а гадзіне 22-ой, у царкве сьвятога Урбана, па пунктах раніцай самому сабе вызначаных, пры прамотарах Франьцішку дэ Ноале, Франьцішку д'Эстэ, Геранїму Амулїё, Баўтрамею Барысону, Геранїму д'Урбіно, а ў панядзелак, 9-га гэтага-ж лістапада, у абыдным месцы, быў экзаменаваны для дактарату па пунктах раніцаю яму вызначаных, прамаваў Барысон.

INTRO
DVCTIO IN CHALDAI
cam linguã, Syriacã, atq; Arme=
nicã, & decẽ alias linguas.
CHARACTERVM DIFFEREN
tiũ Alphabeta, circiter quadraginta, &
eorũdem inuicem cõformatio.
MYSTICA ET CABALISTICA
quàplurima scitu digna. Et descriptio
ac simulachrũ Phagoti Afranij.
THESEO AMBROSIO EX CO
mitibus Albonesii. I.V. Doct. Papień.
Canonico Regulari Lateranensi,
ac Sancti Petri in Cœlo Aureo
Papiæ Præposito, Authore.
M.D.XXXIX.
Linguarum vero, & Alphabetorũ no=
mina sequens pagella demonstrabit.

*Загаловачная балонка кнігі Амбражэя Тэзэя Альбонэзы „Introductio in Chaldaicam linguam ...“ выдадзенай у 1539 г. у Павіі, Італія*

# Кнігі Скарыны ў Італіі
## першае палавіны XVI стагодзьдзя

*Вітаўт Тумаш*

Выдатны чэскі славісты-філялёг Язэп Даброўскі (1753—1829) творчы сьлед свае шырокае дасьледнае актыўнасьці пакінуў у галіне мовы й культуры ўсіх славянскіх народаў, а між іх і беларускага. З пытаньнямі беларускага пісьменства й мовы Даброўскі сутыкнуўся найперш пры вывучаньні літаратурнае й выдавецкае спадчыны доктара Францішка Скарыны, жыцьцё й культурна-пісьменьніцкая дзейнасьць якога цікавілі моцна Даброўскага ўжо ад самых пачаткаў 90-х год XVIII стагодзьдзя. Да Скарыны й ягоных кнігаў варочаўся ён ці раз у розных сваіх публікацыях і пасьля. Даброўскі даў і першыя важныя паказаньні пра ведамкі аб кнігах Скарыны ў літаратуры Захаду XVI—XVII стагодзьдзяў.

Пра доктара Франьцішка Скарыну, і што гэта ў Празе ён у 1517 годзе друкаваў сваю Біблію, першы раз Даброўскі дазнаўся з кнігі 1777 году «Уводзіны ў Новы Запавет», унівэрсытэцкага курсу выдатнага ў сваёй пары моваведа-арыенталістага й бібліялёга, прафэсара ўнівэрсытэту ў Ґётынгене, Ёгана Давіда Міхаэліса.[1] Дзякуючы гэта Міхаэлісу й ягонай, разоў колькі перавыдаванай і ўва ўсе важнейшыя эўрапейскія мовы перакладанай кнізе, пра Скарыну на Захадзе, найменш бібліяведы, зналі ад апошняй ужо чверці XVIII стагодзьдзя. На аснове Міхаэлісавай інфармацыі, пра Скарыну ў сваіх працах і кнігах згадвалі Ёган Ґотфрыд Айхгорн, Гэрбэрт Марш, Джэмс Таўнлей, Робэрт Пінкертон, Эбэнэзэр Гэндэрсон ды іншыя аўтары захаду Эўропы. Апошні-ж зь іх, Гэндэрсон, у часе свайго падарожжа ў Расею пастараўся расшукаць і самую Біблію Скарыны ды ўважна яе прастудыяваў. Супаставіўшы Скарынаў пераклад з тэкстамі гэбрайскага арыгіналу, грэцкае Сэптагінты, лацінскае Вульгаты ды царкоўнаславянскім, Гэндэрсон здолеў дайсьці да выснаву, шырака падмацаванага прыкладамі, што Скарынаў пераклад абаперты галоўна на Вульгаце.[2]

Доктар Скарына й ягоныя кнігі інтрыгавалі Даброўскага асабліва дзеля таго, што, як падаваў Міхаэліс, Біблію сваю друкаваў ён у Чэхіі, у

---

[1] Michaelis, Johann David. Einleitung in die göttlichen Schriften des Neuen Bundes. Dritte Ausgabe. Erster Theil. Göttingen, 1777. b. 447—452.

[2] Henderson, E(benezer). Biblical researches and travels in Russia. London, M.DCCC.XXVI. b. 103—111.

Празе. Ужо ў 1791 годзе Даброўскаму ўдалося дастаць ад графа Враціслава Мітровіца з Малой Прагі й Скарынаву «Малую падарожную кніжку». Хоць гэта й ня праскае было, а віленскае выданьне, Даброўскі зь вялікім зацікаўленьнем прастудыяваў яе ды пра зьмест кніжыцы, пра свае ад яе ўражаньні, абшырна інфармаваў чэскага славістага-тэалёга Фартуната Дурыха ў лісьце ад 23 травеня 1791 году.

У сваей зацемцы пра Скарынаў пераклад Бібліі, надрукаванай у 1814 годзе ў першым томе зборніка „Slovanka", побач іншых вестак аб першых на Захадзе згадках пра кнігі Скарыны, Даброўскі падае ведамку й аб тым, што ў нязвычайна рэдкай кнізе Амбражэя Тэзэя „Introductio in Chaldaicam linguam, Syriacam, atque Armenicam, et decem alias linguas . . . ", выдадзенай у 1539 годзе ў Італіі, у Папіі (цяперашняя Павія, старое ўнівэрсытэцкае места на поўдзень ад Міляну), ёсьць цытата зь нейкае славянскае Бібліі. Канкрэтна, гэта 16 радкоў 23-га разьдзелу Другое Кнігі Царстваў, дадзеныя ў лацінічнай трансьлітарацыі, каб паказаць, як чытаецца тэкст, пісаны кірыліцай, і як вымаўляюцца паасобныя літары кірылічнага альфабэту.[3]

У кнізе Амбражэя Тэзэя, пры вышэй згаданай цытаце, не падаецца ані прозьвішча выдаўца тае кнігі, зь якое цытата ўзятая, ані час ці месца яе друку. Дасканальны, аднак-жа, знавец біблійных тэкстаў, Язэп Даброўскі, хутка зарыентаваўся, што цытата мусіць паходзіць зь Бібліі Скарынавага перакладу, паколькі тэкст яе быў абаперты не на вэрсыі грэцкай Сэптагінты, а лацінскай Вульгаты. Гэткае дапушчэньне Даброўскі зрабіў на аснове ўсяго колькіх пачатковых словаў цытаты. Ён пісаў: «Першыя шэсьць словаў ён (Тэзэй, В. Т.) піша гэтак: Azael brat Ioauou mezi tridcietmi muzmi, гэта значыць, паводля Вульгаты: Asael frater Joab inter triginta. Старая маскоўская (Біблія) трымаецца тут дакладней грэцкага тэксту: Asail brat Joavl', sij v-trech desjatich. Вось на гэтай адно аснове Даброўскі й дайшоў да выснаву, што цытату Тэзэй узяў із Скарынавага перакладу, бо з усіх яму ведамых у славянскім кірылічным пісьменсьцьве перакладаў Бібліі толькі Скарынаў у сваім тэксьце абаперты быў не на тэксьце грэцкім, а на Вульгаце.

Хоць у сваёй кароткай зацемцы Даброўскі й прывёў колькі словаў цытаты з Тэзэевай кнігі, але, для пацьверджаньня свайго дапушчэньня, ён ня даў аніводнага паралельнага прыкладу самога Скарынавага тэксту. А толькі гэтак пытаньне паходжаньня Тэзэевай цытаты — зь Бібліі Скарыны, ці не — выясьнялася-б канчальна й бясспрэчна. Чаму Даброўскі гэтага не зрабіў — лёгка здагадацца: Кніга Царстваў Скарынавага перакладу й друку на Захадзе яшчэ больш рэдкая за кнігу Тэзэя, і Даброўскі, калі пісаў сваю зацемку, пад рукамі яе відавочна ня меў. Ані ў Празе, ані ўва ўсей Чэхіі, яе й наагул ня было, як ня было тады там і ніводнае іншае Скарынавае кнігі праскага выданьня. Дык сваё цьверджаньне Даброўскі выставіў толькі як пастулят лёгікі, на аснове згоднасьці першых словаў цытаты з тэкстам Вульгаты, а не як вынік беспасярэдняе супаставы двух адпаведных тэкстаў.

---

[3] Dobrowsky, Josef. Anhang von der Skorinischen Bibel-Übersetzung. (Slovanka, I. Prag, 1814. b. 155).

Хоць мінула ўжо сяньня звыш 150 год ад цікавае інфармацыі й гіпатэзы Даброўскага, нейк ніхто й дагэтуль не парупіўся пытаньне гэтае спраўдзіць, абодва тэксты — Скарынаў, і, транслітараваны лацініцай, Тэзэяў, — супаставіць, каб дапушчэньне ўніклівага Даброўскага канчальна пацьвердзіць, ці — адкінуць. Перашкаджала гэтаму, пэўна-ж, і нязвычайная рэдкасьць абедзьвюх, патрэбных для гэтага, кнігаў — Тэзэевай „Introductio“ і Скарынавай «Кнігі Царстваў». Абедзьве яны — белыя крукі бібліятэчных збораў Эўропы.

Колькі год таму, у ходзе дасьледнае працы над жыцьцяпісам доктара Франьцішка Скарыны, аўтару гэтага нарысу ўдалося раздабыць фатаадбіткі адпаведных балонак кнігі Амбражэя Тэзэя й Кнігі Царстваў Скарынавага перакладу й друку (Прага, 1518 год)[4] ды палітарна прыраўнаць тэксты. Рэпрадукцыі гэтых абодвух тэкстаў, некаторыя высновы й заўвагі, што вынікаюць зь іх супастаўленьня, ды кароткую даведку пра самую кнігу й яе аўтара, і дае гэты сьціплы нарыс.

*

Імя й прозьвішча аўтара выдадзенай яшчэ за жыцьця Скарыны ў Павіі кнігі: Амбражэй Альбонэзы, палацінску — Ambrosius Albonesi (1469—1540). Тэзэй — гэта антычная мянюшка, перанятая, згодна з пануючай тады сярод вучоных гуманістых моды, з грэцкае міталёгіі.[5] Паводля свае адукацыі Амбражэй Тэзэй Альбонэзы быў юрыстым. Права ён студыяваў на ўнівэрсытэце Павіі, якое скончыў із ступеняй «доктара абодвух праваў» (рымскага й кананічнага) — iuris utriusque doctor. Стаўся ён сьвятаром, належыў да Кангрэгацыі Рэгулярных Лятэранскіх Канонікаў. Сваймі навуковымі зацікаўленьнямі й нясупыннаю працаю Альбонэзы з часам высунуўся як выдатны лінгвісты-паліглёт, адмысловец моваў арыентальных. Як прызнаны ўжо спэцыялісты моваў усходніх, Альбонэзы браў удзел і ў 5-м Лятэранскім Саборы (1512—1517). Праз усё сваё жыцьцё Альбонэзы зьбіраў і рукапісы ды кнігі моваў усходу, у тым ліку й усходу славянскага. З часам Альбонэзы, як ужо выдатны аўтарытэт у галіне арыентальных моваў, быў запрошаны на прафэсара ўнівэрсытэту ў Павіі. Ягоная, вышэй цытаваная, кніга, зь дзесяткамі альфабэтных і тэкставых прыкладаў з роз-

---

4 Кнігу Тэзэя, на просьбу аўтара гэтага нарысу, у Рыме расшукаў і фатаадбіткі адпаведных балонак зь яе парабіў д-р Янка Садоўскі, за што, пры гэтай нагодзе, складаю яму шчырую падзяку. Кніга перахоўваецца ў Biblioteca del Pontificio Instituto Biblico. Скарыстаны-ж тут экзэмпляр Кнігі Царстваў Скарыны знаходзіцца ў бібліятэцы Брытанскага Музэю ў Лёндане.

5 Варта, пры нагодзе, адзначыць важную рысу Скарынавага характару, што ён модаю антычных мянюшак не пераняўся, у кажным выпадку нічога ня ведама, каб якую-небудзь меў. Незважаючы на сваю даўгую й усебаковую сутычнасьць з культурна-духовым сьветам захаду Эўропы пары рэнэсансу і праз грунтоўную вышэйшую адукацыю (два факультэты й дактараты) і праз даўгое перабываньне ў розных краёх Захаду, улучна з калыскаю і гуманізму і рэнэсансу — Італіяй, Скарына застаўся бяз чужых мянюшак, пры сваім імі й сваім прозьвішчы, самым сабой — «Франьцішкам, Скарыніным сынам, з слаўнага града Полацка». У гэтым яскравы адбітак ня толькі характару Скарыны, але й ягонага сьветагляду. Галоўная арыентацыя ў яго заўсёды была не на нейкую чужую культуру, якая важная й прызнаная яна ні была-б, а найперш на свае нацыянальныя традыцыі, свой народ ягоную мову, ягоныя культурныя й духовыя патрэбы.

ных моваў, гэта, відавочна, плод даўгагодніх унівэрсытэцкіх лекцыяў, чытаных у гэтай галіне студэнтам.[6]

Кніга Амбражэя Тэзэя Альбонэзы мае тыповы свайму часу, даўгі загаловак, у якім кароткі пераказ зьместу. Даслоўны лацінскі тэкст загалоўку кнігі гэткі:

Introductio in Chaldaicam linguam, Syriacam, atque Armenicam, et decem alias linguas. Characterum differentium Alphabeta, circiter quadraginta, et eorundem inuicem conformatio Mystica et cabalistyca quamplurima scitu digna. Et descriptio ac simulachrum Phagoti Afranii. Theseo Ambrosio ex Comitibus Albonesii. I.U. Doct. Papien. Canonico Regulari Lateranensi, ac Sancti Petri in Coelo Aureo Papiae Praeposito, Authore. (Papia), M.D.XXXIX. ff. 213. (Уводзіны ў мову хальдэйскую, сырыйскую, армянскую, і дзесяткі моваў іншых. Літары каля сараку розных альфабэтаў і іхнае значаньне. Містыка й кабалістыка, гэтулькі, колькі ўдалося яе знайсьці, вопіс і малюнак фаґоты Афранія . . . ).

Як з самога ўжо загалоўку відаць, зьместам сваім кніга вельмі неаднаітая. Напісаная яна бязь нейкага строга плянаванага ладу. Побач цікавых назіраньняў і інфармацыяў пра мовы ўсходу ды іхныя альфабэты, у ёй, умітусь, дадзены й матар'ял гістарычны ды чыста асабісты, біяграфічны, разам з малюнкам і вопісам «фаґоты». А ўсё гэта пераплецена «містыкай», «кабалістыкай» ды фантазіямі чорнае магіі, якімі асабліва любаваліся і сярэднявечча і рэнэсанс. Ды, незважаючы на вельмі-ж хаотычны, пярэсты ўклад, дзеля свайго моваведнага матар'ялу кніга Альбонэзы ня згубіла свае цікавасьці для гісторыкаў лінгвістычных навукаў і цяпер. Дзеля супастаўленьня паасобных зьяваў розных моваў і пароблены цікавых з гэтага высноваў, Амбражэй Альбонэзы ўважаецца сяньня за далёкага папярэдніка параўнальнага мэтаду ў моваведзе, мэтаду, які толькі ў першай палавіне XIX стагодзьдзя дачакаўся шырокага навуковага прытарнаваньня, зь вялікай карысьцяй, пры раскрываньні фактаў пра паходжаньне, сваяцтва й разьвіцьцё паасобных моваў сьвету.

Цытату Кнігі Царстваў, заўважаную Даброўскім, Альбонэзы ў сваёй кнізе папераджае гэткаю агульнаю інфармацыяй пра альфабэты «Русаў, Росаў, ці Ґотаў», ды кірылічныя наагул: «Македанійцы Ґоты, або, калі падабаецца, Росы, ці Русы, жыхары вялікай Скітыі ды аднае часткі Сарматыі . . . Баўгары й Сэрбы ўжываюць блізу той самы альфабэт, зьмяніўшы толькі тры-чатыры літары . . . Імёны трыццаці высакародных і адважных мужоў, што былі з Давідам, Ґот ці Рус (Gotius siue Rusius) пералічае ў гэткі спосаб . . . » Далей на балонцы 53-й свае кнігі Альбонэзы падае, у лацінічнай транслітарацыі, тэкст цытаты з Кнігі Царстваў. Гэтая балонка й рэпрадукуецца тут побач з адпаведнымі радкамі Кнігі Царстваў Скарынавага перакладу.

Калі прыгледзецца да тэкстаў Альбонэзы й Скарыны на пададзеных гэтта рэпрадукцыях, дык найперш прызнаць трэба, што Альбонэзы цытуе бясспрэчна Скарынаву Кнігу Царстваў. Ягоны тэкст супадае із Скарынавым ня толькі слова ў слова, але — калі памінуць некаторыя памылкі — і літара ў літару.

---

[6] Навейшую біяграфію й бібліяграфію Амбражэя Тэзэя Альбонэзы дае G. Levi Della Vida. Albonesi, Teseo Ambrogio degli (Dizionario biografico degli Italiani. Instituto della Enciclopedia Italiana. Roma, vol. 2, 1960. b. 39—42).

Што да самое транслітарацыі, дык адзначыць трэба, што выкананая яна даволі ўважна, памылак ня гэтак шмат. Кідаюцца, затое, у вочы, побач карэктарскіх недаглядаў, заганы самое транслітарацыйнае сыстэмы, якая ў Альбонэзы выяўна недасканальная. Гэтак, сустраканая ў тэксьце колькі разоў кірылічная літара «у» перадаецца ўвесь час (з адным толькі выняткам) лацінскаю, ідэнтычнага выгляду, але цалком накшага гучаньня, літараю «у» (іграк). Прыкладам, слова «мужмы» Альбонэзы перадае лацініцай «myzmi». Таксама літара «ѣ» — «яць» — транслітаруецца ня тым ці іншым літарным эквівалентам абэцэды лацінскай, а самым назовам гэтае літары ў альфабэце — «iat». Слова Скарынавага тэксту «сыновѣ» Альбонэзы лацініцай перадае „sinouiat“. Няма розьніцы ў Альбонэзы й у вымове кірылічных «ы», «и» ці «і», ды «ъ» — «ёра» (ця́перашняга «цьвярдога знаку»). Усе яны транслітаруюцца тымсамым лацінічным «і».

Із словаў тэксту цытаты, таксама стаецца зразумелым, чаму гэтыя якраз радкі Кнігі Царстваў Альбонэзы выбраў як узор пісьма й мовы «Ґотаў або Русаў». Награмаджэньне ў тэксьце асабовых імяў, якія пры перакладзе ў кажную мову толькі транслітаруюцца, а не перакладаюцца, робіць гэтыя радкі ідэяльнымі пры пачатках навукі адчытваньня тэкстаў чужое мовы, пісаных мала знаёмым альфабэтам. Выбар гэтага якраз тэксту для транслітарацыі быў мэтазгодным зь меркаваньняў пэдагагічных, каб палягчыць навуку адчытваньня славянскіх тэкстаў, пісаных кірыліцай, ня толькі студэнтам, але, хіба, і самому прафэсару, бо, як памылкі транслітарацыі выяўляюць, у пытаньнях значаньня паасобных кірылічных літараў незаўсёды быў пэўны й сам аўтар кнігі.

З факту, што ў сваёй транслітарацыі Альбонэзы ўвесь час пасьлядоўна літару «г» перадае лацініцай літарай «g», а «ёр» у яго літара не нямая («цьвярды знак»), а гук («і»), вынікае, што сваю веду кірылічнага альфабэту Альбонэзы здабыў ад нейкага паўдзённага славяніна, найхутчэй Харвата ці Сэрба, што, дзеля блізіні балканскіх Славянаў да паўночнае Італіі, толькі натуральна й зразумела.

*

Якія-ж можна зрабіць высновы із супаставы цытаты Альбонэзы з адпаведным тэкстам Скарыны? Найперш, як і было ўжо адзначана, пацьвярджаецца цалком пастаўленая 150 год таму, на аснове толькі пасярэдніх лягічных меркаваньняў, гіпатэза Даброўскага аб тым, што цытата Альбонэзы паходзіць із Скарынавага якраз перакладу Біблії. З гэтага вынікае важны факт іншы, што Кнігу Царстваў Скарынавага перакладу й друку Амбражэй Альбонэзы ў Павіі каля 1539 году меў ды ёю карыстаўся й пры пісаньні кнігі свае, і, відавочна, у часе лекцыяў на ўнівэрсытэце ў Павіі. Гэта-ж довад на тое, што кнігі Скарыны, хоць прызначаныя ім найперш для свае бацькаўшчыны, дайшлі яшчэ за ягоным жыцьцём і ў далёкую Італію ды былі там скарыстаныя як дапаможны матарыял пры пазнаваньні тайнаў кірылічнага альфабэту й навучаньня яго на ўнівэрсытэце. Ды, у канцы, із спосабу транслітарацыі, можна сказаць напэўна й тое, што чытаць літары кірылічнага альфабэту Альбонэзы вучыўся напэўна не ад самога «Ґота або Руса» Скарыны, Біблію якога ён меў і цытаваў, ані навет ад нейкага ягонага суродзіча, бо тады ў ягонай транслітарацыі не знайшлі-б адбітку азнакі паўдзённа-славянскае вымовы.

filium Agge, de Arari, & Abisai fratrem Ioab, filium Saruiæ, & post Banaian, filium Ioiade, quem fecit sibi Dauid auricularium a secreto, triginta nobiles & fortes viri, qui fuerũt cum Dauid, quorum nomina Gotius siue Rusius hoc ordine describens exprimit, videlicet. Azael brati Ioauoui mezi tridcietmi myzmi. Elianani sini diudi ciariu Dauidoua otuithleoma. Sammaá ot Ararij. Elichaui ot Arodiu. Gelijsi ot Phaltij. Girai sini Accijesoui ot thecyià Auiezeri ot Anatota. Mouonai ot Vzati. Selmoni Agoitscij. Macharai Metophaciscij. Elephi sini Vaanasoui itoi teze. Metophaciscij Ithai sini Riuaeui ziewiatcha ot sinoui venaminowichi. Vanai Pharatoniciscij. Geldai ot potocy Gaata. Auiatoni Arbachitscij. Azamauethi ot Beronyma. Eliaua ot Sauonima. Sinowiat Iasenoui dua Enatani, i Narani. Samani Znorodi. Gaiani sini Saraeui. I Arani Arochitscij. Elepheflechi sini Aazuaeui sina Machacijoua. Geliam sini Achitopheleui Eloniciscij. Esrai Zcarmelu. Pharai ot Arbiju. Gaal sini Nathanou ot Souaiu. Vomiati Zgaddiju. Seilechi Zi Ammona. Narai Verochitscij muzi nosciustij oruzié Ioauouo sina Saruijna. Girai Etriatiscij. Garebi oni teze Etriscij. Vriju Eththeiscij. Vsechi sichi myzei silnihi biloesti tridciethi isedmi, hoc est. Azael frater Ioab inter trigita viros. Eleanan filius patrui Regis Dauid de Bethlehhem. Semmaa de arari. Elicab de aroudi. Gelees de phalti, & quæ sequntur cætera vt in libro prædicto. Et primo Paralipomenon cap. 10. ex quibus Hebraicarum literarum, cum Græcis, & Latinis, Macedonicis, Rusiis, & cæteris variarum linguarũ literis, cõformatio, clarissime nobis innotescit. Et ista posita hic sint,
o ne eadem

*Балонка кнігі Альбонэзы з трансьлітараванай лацініцай цытатай з Кнігі Царстваў Скарыны. Цытата пачынаецца ў пятым радку згары словамі „Azael brati Ioauoui ...“. На супроцьлежнай балонцы рэпрадукцыя адпаведных радкоў з Кнігі Царстваў Скарыны, выдадзенай у 1518 годзе ў Празе.*

сия суть • Язаель брат Іоавовъ межи тридце
тми мужми • Еланан сын дяди царя Давы
дова ѿвифлеома • Саммаи ѿарарыи • Ели
хаеъ ѿародим • Гелиис ѿфальтии • Гирай
сынъ Якциесовъ ѿдекуи • Явиезеръ ѿанато
та • Мовонай ѿузаты • Селмонъ Ягоитскый:
Махарай Метофацскии • Елефъ сынъ Вааиасовъ
итои теже Метофацскый • Илай сынъ Риелевъ
Зъсевеха ѿсыновъ Веньяминовыхъ • Ванай фа
ратоницскии • Гельдай ѿпотоку Гааса • Яви
а тонъ Ярбахитскии • Язамаведъ ѿверонима •
Елиава ѿсалвонима • Сынове Ясенови два Ена
танъ, и Наранъ • Самманъ зъгороды • Гаянъ
сынъ Сараевъ • И Яранъ Ярохитскии • Елефе
лехъ сынъ Язвелевъ сына Махацнова • Гелиам
сынъ Яхитофелевъ Елоницскии • Есрай зъкар
мелю • фарай ѿарбим • Гааль сынъ Наданов
ѿсовам • Бомнеи зъгаддим • Сейлехъ зъ
Яммона • Нарай ВероХитскый мужъ носящии
оружие Іоавово сына Саруиина • Гирай Етре
йскии • Гаребъ онъ теже Етрейскии • Урия
Ееѳейскии • Всехъ сихъ мужей силныхъ было
есть тридцеть и семъ :~

Калі ставіць сабе цяпер пытаньне, якім шляхом Скарынавыя кнігі маглі трапіць зь Вільні, ці чэскае Прагі, да Італіі, дык трэба тут узяць увагу на факт, што культурныя сувязі між Італіяй і беларускімі землямі былі ў XVI стагодзьдзі вельмі шырокія й шматбаковыя, і, асабліва, за жыцьцём доктара Скарыны. Ужо ад XV стагодзьдзя зь земляў Вялікага Княства Літоўскага, зь Беларусі, да Італіі па вышэйшую асьвету выяжджала моладзь, дзеці магнатаў і замажнейшага меставога патрыцыяту. Яскравы прыклад гэтага — дактарызацыя ў галіне лекарскіх навукаў у Падуі палачаніна Франьцішка Скарыны.

Ад 20-х год XVI стагодзьдзя да Вільні, і на землі Вялікага Княства наагул, у сьвіце каралевы Боны Сфорца, жонкі караля й вялікага князя Жыгімонта Казімеравіча, італьлянскае князёўны Міляну, масава прыбываюць Італьлянцы розных прафэсіяў і зацікаўленьняў, а сярод іх вучоныя, пісьменьнікі, паэты. А дзеля таго, што каралева Бона любіла жыць больш у Вільні, як у Кракаве, за панаваньня Жыгімонта Казімеравіча й ягонага сына Жыгімонта Аўгуста, землі Вялікага Княства, і, асабліва, сталічная Вільня, раілася ад італьлянскіх гуманістых. З даручэньня Жыгімонта Казімеравіча й Боны дойліды Італіі разбудоўваюць тады ў рэнэсансавым стылі віленскі ніжні замак і ставяць першыя ў Вялікім Княсьцьве пабудовы італьлянскага рэнэсансу. Прыдворным лекарам і паэтам Боны быў Джованні Андрэа Валентыно. Пазнаёміўшыся зь ягонымі, пісанымі ў Вільні, элегіямі й канцонамі, італьянскі гуманісты Калёна горда пісаў, што й на палёх Вільні чуе ён цяпер «песьні італьлянскіх музаў».

Да Вільні, да караля й вялікага князя Жыгімонта, да каралевы Боны й ейных італьлянскіх прыдворных, часта зь Італіі прыяжджалі, і ў місіях дыпляматычных, і ў справах прыватных, розныя выдатныя госьці. З другога боку, Бона падахвочвала да выездаў у сваю бацькаўшчыну магнатаў і паноў Беларусі, давала ім свае рэкамандацыйныя лісты, зь якімі Хадкевічы, Радзівілы, ды шмат іншых, разьяжджалі па Італіі, зьяўляліся на княжых дварох Эстаў Фэрары, Ґанзаґаў Мантуі, ды іншых выдатных валадароў тагачаснае Італіі.

У складзе дыпляматычнае дэлегацыі, якую кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары выслаў на чале зь біскупам Эразмам Вітэліем да папы, у гадох 1518—1521 у Рыме прабываў таленавіты паэта беларускай зямлі Мікола Гусоўскі. Сваім італьлянскім прыяцелям і знаёмым ці раз ён расказваў пра паляваньні ў лясох свае роднае Прыдняпроўшчыны й асабліва пра небясьпекі ды розныя прыгоды ў часе паляваньняў на спрадвечнага жыхара пушчаў Беларусі зубра. Для папы-гуманістага Лявона X Мэдычы, вялікага аматара паляваньняў, Гусоўскі ў 1521 годзе напісаў палацінску й сваю знакамітую паэму пра зубра «Carmen de statura, veritate ac venatione bisontis».

Часта прыбывалі да Вільні пасланцы ад італьлянскіх князёў з каштоўнымі гасьцінцамі каралеўскай сям'і, а да Італіі із сабой забіралі ня менш каштоўныя дары зь Беларусі, найперш слаўныя тады на ўсю Эўропу «літоўскія коні», ці, ня менш слаўныя й дарагія, асабліва саболія, скуры. У вадным із сваіх лістоў да князя Фэрары, Альфонса, Бона пісала, што шле яму ў падарку «тры саракі прыгожых, далікатных сабалёў».

У чэрвені 1529 году надворны лекар Боны, Джовані Андрэа Валентіно, выслаў зь Вільні князю Фэрары Альфонсу скуру вельмі рэдкую навет і ў

Вялікім Княсьцьве — скуру белага медзьвядзя. У лістападзе 1533 году ў Вільню да Боны прыяжджае з Мантуі з падаркамі пасол князя Ґанзаґі. У сьнежні-ж таго самага году вяртаецца ён назад з падаркамі каралевы й доктара Валентына князю Мантуі — стройнымі літоўскімі коньмі. Коні Беларусі, «літоўскія коні», на захадзе Эўропы тады цаніліся нязвычайна высака, што відаць і з таго, што ў студзені 1535 году да Вільні зь Італіі прыяжджае адмыслова нейкі Мадэніні, каб закупіць літоўскія коні для князя Фэрары.[7]

Вось цераз усіх тых італьлянцаў — дыпляматаў і паслоў, гасьцей і купцоў, мастакоў і вучоных, шуканьнікаў прыгодаў і падарожнікаў, — што масава тады наведвалі сталічную Вільню й зь яе вярталіся пазьней назад у Італію, і адбывалася між землямі Беларусі й Італіі шырокая вымена пладамі ня толькі матар'яльных, але й культурных здабыткаў. Цераз іх зь Беларусі да Італіі завандраваць маглі лёгка й Скарынавы кнігі.

Ня вылучаная, зразумела, а нават і вельмі праўдападобная, і магчымасьць гэткая, што да Італіі свае кнігі сьціраваў і сам доктар Скарына. Знаёмствы, што завязаліся ў часе ягонага падарожжа ў 1512 годзе да Італіі й дактарызацыі на падуанскім унівэрсытэце, хіба-ж раптоўна не абарваліся пасьля павароту на бацькаўшчыну, ці пярэбараў да Прагі. Дык кнігі да Італіі Скарына мог паслаць і сам, хоць-бы, прыкладам, віцэпрыёру Сьвятое Калегіі Артыстых і Мэдыкаў Падуі, прафэсару Тодару Мусаты. За ўсю тую спагаду й прыязную прыхільнасьць, якія Мусаты выявіў «вучонаму вельмі й беднаму юнаку», за ўсе ягоныя рупныя клопаты пры здабываньні гэтым юнаком дактарату, трэба-ж было выказаць удзячнасьць, ды, адначасна, пэўна-ж, і пахваліцца пладамі свайго важнага культурнага пачыну — раскошна выдадзенымі кнігамі перакладзенае Бібліі.

З Падуі-ж, шляхамі акадэмічных знаёмасьцяў ды кантактаў, кнігі маглі ўжо лёгка завандраваць і да Павіі, каб трапіць у рукі найбольш ім адпаведныя — да выдатнага адмыслоўца ўсходніх моваў, руплівага зьбіраньніка кнігаў і рукапісаў, прафэсара Амбражэя Тэзэя Альбонэзы. Існуе, зразумела, і гэткая магчымасьць, што ў часе свайго перабываньня ў Італіі Скарына сустрэў Альбонэзы й асабіста. Што сталася з тым экзэмплярам Кнігі Царстваў Скарыны, якім карыстаўся Альбонэзы, ніякіх паказаньняў няма. Ведама толькі, што скарынаведная літаратура не рэгіструе сяньня ў бібліятэчных зборах Італіі ніводнага экзэмпляра ня толькі Кнігі Царстваў, але й ніякога іншага Скарынавага выданьня.

Пацьверджаньне факту існаваньня кнігаў Скарыны ў Італіі першай палавіны XVI стагодзьдзя, яшчэ за жыцьцём выдаўца, важнае сьветчаньне пра шырокія тагачасныя культурныя сувязі між землямі Тэзэевай Італіі й Скарынавай Беларусі. Цікава адзначыць і тое, што, як паказвае прыклад з Амбражэем Тэзэем Альбонэзы, Скарынавы кнігі ў Італіі ня толькі перахоўваліся, але з пажыткам скарыстаныя былі й на унівэрсытэце для зазнаямленьня італьлянскіх студэнтаў з тайнамі кірылічнага альфабэту ды славянскім кірылічным пісьменствам. Спрычыняліся яны гэтак да важнае справы — культурнага збліжэньня рэнэсансавай Італіі із славянскім праваслаўным усходам.

---

[7] Pociecha, Władysław. Królowa Bona. Tom III. Poznań, 1958, b. 187—188.

І

Самуилъ Пр҃ркъ Г҃день Помаза Д҃вда на царство



Книги первый царьствъ починаютъ
ся • зуполне выложены на рус-
кий языкъ • доктором франьци
скомъ, скорининым сыномъ
из славнаго града полоцька • богу ко
чти, и людемъ посполитымъ к научению

*Загаловачная балонка Першае Кнігі Царстваў выданьня доктара Франьцішка Скарыны, Прага 1518 г.*

# Лексычныя асаблівасьці Кнігі Царстваў Скарыны

*Янка Садоўскі*

Мэта гэтага артыкулу — выявіць нецаркоўнаславянскія словы ў лексычным складзе мовы Кнігі Царстваў, перакладзеных Францішкам Скарынам. Артыкул падзелены на дзьве часткі: у першай пададзеныя беларускія словы, а ў другой — словы, запазычаныя зь іншых моваў — чэскае, нямецкае, польскае.[1]

За крытэры разьмежаваньня царкоўнаславянскіх словаў ад іншых узяты слоўнік Міклосіча.[2] Затым словы, якія ўвайшлі у гэты слоўнік ды якія Міклосіч уважае за царкоўнаславянскія, не пададзеныя ў нашым артыкуле.

Нецаркоўнаславянскія словы, выяўленыя ў Кнізе Царстваў Скарыны ды зафіксаваныя ў вадным з наступных слоўнікаў: «Словарь бѣлорусскаго нарѣчія» Насовіча[3] ды «Беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй Крапівы,[4] я ўважаю за беларускія, паколькі слоўнік старабеларускае мовы яшчэ ня выданы. Я поўнасьцяй сабе ўсьведамляю, што шмат якія словы, пададзеныя ў першай частцы гэтага артыкулу, ужываюцца таксама ў суседніх мовах, г. зн. у польскай, расейскай, украінскай і балцкіх, а некаторыя словы ўзятыя зь нямецкае ды іншых эўрапейскіх моваў. Ня маю аднак намеру разглядаць паходжаньне гэных словаў, паколькі этымалягічны слоўнік беларускае мовы яшчэ ня ўкладзены.[5] З другога-ж боку, каротка разглядаецца паходжаньне словаў, пералічаных у другой частцы.

---

1 Артыкул гэты — пераклад (з папраўкамі й дапаўненьнямі) з ангельскае мовы аднаго разьдзелу дакторскае дысэртацыі, якую аўтар абараніў на Лёнданскім унівэрсытэце ў лістападзе 1967 г. Загаловак дысэртацыі наступны: „A Linguistic analysis of the Four Books of Kings printed by Skaryna in 1518“.

2 Fr. M i k l o s i c h. Lexicon Palaeoslovenico-Graeco-Latinum. Vindobonae, 1862—1865.

3 И. И. Н о с о в и ч ъ. Словарь бѣлорусскаго нарѣчія. СПб., 1870.

4 К. К. К р а п і в а (рэд.). Беларуска-рускі слоўнік. Мінск, 1962.

5 Этымалёгію невялікае колькасьці старабеларускіх словаў спрабаваў устанавіць Булахаў: М. Г. Б у л а х а ў. Да пытаньня аб асноўным слоўнікавым фоньдзе й слоўнікавым саставе старажытнай беларускай мовы. *Працы Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР*, вып. 2, Мінск, 1954, бб. 51—102.

I

## БЕЛАРУСКІЯ СЛОВЫ

**або** злуч. (б. 100б, ІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **або** Крапіва: **або**
**альбо** злуч. (б. 51б. ІЦ, раз. 24)
Насовіч: **альбо** Крапіва: **альбо**
**ани** злуч. (б. 11б, ІЦ, раз. 4)
**ани ани** (б. 59а, ІІЦ, раз. 1)
Насовіч: **ани** Крапіва: **ані**
**бальки** наз., н.мн.ж. (б. 134а, ІІІЦ, раз. 6)
Насовіч: **балька** Крапіва: **бэлька**
**битва** наз., н.адз.ж. (б. 100б, ІІЦ, раз. 18).
[з]**битвы** наз., р.адз.ж. (б. 39а, ІЦ, раз. 18)
**битве** наз., д.адз.ж. (б. 36б, ІЦ, раз. 17)
**битву** наз., в.адз.ж. (б. 83а, ІІЦ, раз. 10)
**въ битве** наз., м.адз.ж. (б. 11а, ІЦ, раз. 4)
[о]**битвахъ** наз., м.мн.ж. (б. 65б, ІІЦ, Прадмова)
Крапіва: **бітва**
**бороны** наз., в.мн.ж. (б. 88а, ІІЦ, раз. 12)
Крапіва: **барана**
**боты** наз., в.мн.муж. (б. 124а, ІІІЦ, раз. 2)
Насовіч: **ботъ** Крапіва: **бот**
[по]**бохану** наз., д.адз.муж. (б. 77а, ІІЦ, раз.6)
**бохановъ** наз., р.мн.муж. (б. 192б, ІІІЦ, раз. 4)
Насовіч: **бохонъ** Крапіва: **бохан**
**вага** наз., н.адз.ж. (б. 150а, ІІІЦ, раз. 10)
**ваги** наз., р.адз.ж. (б. 92б, ІІЦ, раз. 14)
Насовіч: **вага** Крапіва: **вага**
**важилъ** (неперах.) пэрф.3адз.муж. (б. 35а, ІЦ, раз. 17).
**важила естъ** пэрф.3адз.ж. (б. 150б, ІІІЦ, раз. 10)
**важило** пэрф.3адз.ні. (б. 35а, ІЦ, раз. 17)
**важили суть** пэрф.3мн. (б. 92б, ІІЦ, раз. 14)
Насовіч: **важиць** Крапіва: **важыць**
[не]**будут важити** «браць пад увагу» буд.3мн. (б. 100б, ІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **важиць**
**вдолжки** прысл. (б. 134б, ІІІЦ, раз. 6)
**вдолжъ** прысл. (б. 139б, ІІІЦ, раз. 7)
Насовіч: **вдовжки** Крапіва: **удоўж**
**вернули** пэрф.3мн. (б. 4б, ІЦ, Рэзюмэ кнігі)
Насовіч: **вернуць** Крапіва: **вярнуць**

---

Ад Рэдакцыі: З прычыны нястачы старaславянскага шрыфту, выносных і іншых надрадковых знакаў (лігатуры, націскі, скароты й г. д.), паасобныя старaславянскія літары заменены сучаснымі, лігатуры й скароты разшыфраваны, а іншыя знакі апушчаны.

**вилъ** наз., р.мн.ж. (б. 26б, IЦ, раз. 13)
**вилы** наз., в.мн.ж. (б. 26 б, IЦ. раз. 13)
Насовіч: **вилы** Крапіва: **вілы**
**водлѣ** прысл. (б. 99б, IIЦ, раз. 17)
Насовіч: **водлѣ**
**воевниковъ** наз., р.мн.муж. (б. 240а, IIIЦ, раз. 25)
Насовіч: **воёвникъ**
**военныи** прым., н.адз.муж. (б. 37а, IЦ, раз. 17)
Крапіва: **ваенны**
**волота** наз., р.адз.муж. (б. 109б, IIЦ, раз. 21)
**волотовъ** наз., р.мн.муж. (б. 110а, IIЦ, раз. 21)
Крапіва: **волат**
**волочилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 88а, IIЦ, раз. 12)
Насовіч: **волочиць** Крапіва: **валачыць**
**ворожбитовъ** наз., р.мн.муж. (б. 235б, IIIЦ, раз. 21)
**ворожбиты** наз., в.мн.муж. (б. 230б, IIIЦ, раз. 21)
Насовіч: **ворожбитъ** Крапіва: **варажбіт**
**врядники** наз., н.мн.муж. (б. 129б, IIЦ, раз. 4)
**врядником** наз., д.мн.муж. (б. 232б, IIIЦ, раз. 22)
**[со]врядниками** наз. т.мн.муж. (б. 177б, IIЦ, раз. 21)
**[о]врядникох** наз., м.мн.муж. (б. 106а, IIЦ, Рэзюмэ, раз. 20)
**урядника**[6] наз., в.адз.муж. (б. 156а, IIIЦ, раз. 12)
**урядникомъ** наз., т.адз.муж. (б. 153б, IIЦ, раз. 11)
**урядниковъ** наз., р.мн.муж. (б. 148а, IIЦ, раз. 9)
Насовіч: **врядник** і **урядникъ** Крапіва: **ураднік**
**выбавиша** ао.3мн. (б. 30б, IЦ, раз. 14)
Насовіч: **выбавиць** Крапіва: **выбавіць**
**выбрати** неазн. (б. 235а, IIIЦ, раз. 23)
**выберите** заг.2мн. (б. 35б, IЦ, раз. 17)
**выбралъ** пэрф.3адз.муж. (б. 25а, IЦ, раз. 13)
**выбрали** пэрф.3мн. (б. 230а, IIIЦ, Рэзюмэ, раз. 21)
**выбрали были** плпэрф.3мн. (б. 125а, IIЦ, раз. 2)
**выбраша** ао.3мн. (б. 32а, IЦ, раз. 15)
**выбраны** дзпрзалеж.н.мн.муж. (б. 113б, IIЦ, раз. 15)
Крапіва: **выбраць**
**выведите** заг.2мн. (б. 177б, IIЦ, раз. 21)
**вывели** пэрф.3мн. (б. 177б, IIЦ, раз. 21)
**выведе** ао.3адз. (б. 208б, IIIЦ, раз. 11)
Крапіва: **вывесці**
**выгладили** пэрф.3мн. (б. 133а, IIЦ, раз. 5)
Крапіва: **выгладзіць**
**выгледаючи** дзпрысл.цяп. (б. 204б, IIIЦ, раз. 9)
Насовіч: **выглѣдаць** Крапіва: **выглядаць**
**выгнати** неаз. (б. 93б, IIЦ, Рэзюмэ, раз. 15)
**выжену** цяп.зак.1адз. (б. 147а, IIЦ, раз. 9)

---

6 Дзеля зручнасьці форма гэтая пададзеная тут, не зважаючы на розьніцу першае літары.

**выгналъ** пэрф.3адз.муж. (б. 218б, IIIЦ, раз. 16)
Крапіва: **выгнаць**
**выгубити** неаз. (б. 147б, IIЦ, раз. 9)
**выгубиши** цяп.зак.2адз. (б. 202б, IIIЦ, раз. 9)
**выгубилъ естъ** пэрф.3адз.муж (б. 182а, IIЦ, раз. 22)
**выгубил былъ** плпэрф.3адз.муж. (б. 218б, IIIЦ, раз. 16)
Насовіч: **выгубиць** Крапіва: **выгубіць**
**выдаи** заг.2адз. (б. 86а, IIЦ, раз. 12)
**выдаите** заг.2мн. (б. 108а, IIЦ, раз. 20)
**выдадуть** цяп.зак.3мн. (б. 109а, IIЦ, раз. 21)
**выдавалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 147б, IIIЦ, раз. 9)
**выдавали** пэрф.3мн. (б. 210б, IIIЦ, раз. 12)
**выдали были** плпэрф.3мн. (б. 114а, IIЦ, раз. 23)
Крапіва: **выдацъ** і **выдаваць**
**выдирахъ** ао.1адз. (б. 37а, IЦ, раз. 17)
Крапіва: **выдзіраць**
**выехати** неаз. (б. 60б, IЦ, Рэзюмэ, раз. 29)
**выедь** заг.2адз. (б. 214а, IIIЦ, раз. 14)
**были выехали** плпэрф.2мн. (б. 28а, IЦ, раз. 14)
Крапіва: **выехаць**
**вызовѣши** цяп.зак.2адз. (б. 202а, IIIЦ, раз. 9)
**вызываючи** дзпрысл.цяп. (б. 36а, IЦ, раз. 17)
Крапіва: **вызываць**
**выкинь** заг.2адз. (б. 204а, IIIЦ, раз. 9)
**выкинул** пэрф.3адз.муж. (б. 219б, IIIЦ, раз. 16)
Крапіва: **выкінуць**
**выложила** пэрф.3адз.ж. (б. 88б, IIЦ, раз. 13)
**выложи** ао.3адз. (б. 192б, IIIЦ, раз. 4)
**выкладаются** «перакладаць» цяп.3мн. (б. 2б, IЦ, Прадмова)
**выложены** дзпрзалеж.н.мн.ж. (б. 118а, IIЦ, Пальляслоўе)
**о выложеныхъ** дзпрзалеж.м.мн.ж. (б. 3а, IЦ, Прадмова)
Насовіч: **выкладаць** Крапіва: **выкладаць** і **вылажыць**[7]
**выкорѣнити** неаз. (б. 108б, IIЦ, раз. 21)
**выкоренилъ естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 165б, IIIЦ, раз. 16)
Насовіч: **выкорениць**[8] Крапіва: **выкараніць**
**вылезши** дзпрысл.прош. (б. 99а і 99б, IIЦ, раз. 17)
Крапіва: **вылезці**
**вылилъ естъ** пэрф.3адз.муж (б. 20б, IЦ, раз. 10)
Крапіва: **выліць**
**вылупил** пэрф.3адз.муж. (б. 239а, IIIЦ, раз. 25)
Крапіва: **вылупіць**
**вымывали** пэрф.3мн. (б. 181б, IIIЦ, раз. 22)
Крапіва: **вымываць**

---

[7] Ані ў слоўніку Крапівы, ані ў слоўніку Насовіча дзеяслоў выкладаць ня мае значаньня перакладаць.

[8] У слоўніку Насовіча гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова выкорениваць.

**вымыслилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 156б, IIIЦ, раз. 12)

Насовіч: **вымыслиць**[9]

**вырикали** пэрф.3мн. (б. 142а, IIIЦ, раз. 8)

**выникли** пэрф.3мн. (б. 142а, IIIЦ, раз. 8)

Насовіч: **выникаць** і **выникци** Крапіва: **вынікаць** і **вынікнуць**

**вынял** пэрф.3адз.муж (б. 38а, IЦ, раз. 17)

Насовіч: **выняць** Крапіва: **выняць**

**выпалиши** цяп.зак.2адз. (б. 200б, IIIIЦ, раз. 8)

**выпалилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 147б, IIIЦ, раз. 9)

Насовіч: **выпалиць** Крапіва: **выпаліць**

**выпередилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 102а, IIЦ, раз. 18)

Насовіч: **выпередзиць** Крапіва: **выперадзіць**

**выписано** дзпрзалеж.в.адз.ні. (б. 3а, IЦ, Прадмова)

Крапіва: **выпісаць**

**выплачение** наз., в.адз.ні. (б. 210а, IIIIЦ, раз. 12)

Насовіч: **выплата** Крапіва: **выплачванне**

**выплынули** пэрф.3мн. (б. 107а, IIЦ, раз. 20)

Насовіч: **выплынуць**

**выпровадить** цяп.зак.3адз. (б. 105б, IIЦ, раз. 19)

**выпровадили суть** пэрф.3мн. (б. 209б, IIIIЦ, раз. 11)

Насовіч: **выпровадзиць**[10] Крапіва: **выправадзіць**

**выпустилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 71б, IIЦ, раз. 3)

Крапіва: **выпусціць**

**ся выпучило** пэрф.3адз.ні. (б. 135б, IIIЦ, раз. 6)

Крапіва: **выпучыцца**

**выростеть** цяп.зак.3адз. (б. 227б, IIIIЦ, раз. 19)

Крапіва: **вырасці**

**высвободиши** цяп.зак.2адз. (б. 112а, IIЦ, раз. 22)

**высвободить** цяп.зак.3адз. (б. 36б, IЦ, раз. 18)

**высвободили** пэрф.3мн. (б. 103а, IIЦ, раз. 19)

**высвободил** пэрф.3адз.муж. (б. 103б, IIЦ, раз. 19)

**высвобожены суть** пэрф.залеж.3мн. (б. 211б, IIIIЦ, Рэзюмэ, раз. 13)

Насовіч: **высвободзиць**[11]

**высвобожения** наз., р.адз.ні. (б. 212б, IIIIЦ, раз. 18)

Насовіч: **высвобожение**

**высече** ао.3адз. (б. 163а, IIIЦ, раз. 15)

Крапіва: **высечы**

**выскочило** пэрф.3адз.ні. (б. 135б, IIIЦ, раз. 6)

**выскочили суть** пэрф.3мн. (б. 187б, IIIIЦ, раз. 2)

**выскочи** ао.3адз. (б. 202б, IIIIЦ, раз. 9)

---

9 Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова в ы м ы с л я ц ь.

10 Дзеяслоў в ы п р о в а д з и ц ь пададзены як закончанае трываньне дзеяслова в ы п р о в а ж а ц ь.

11 Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова в ы с в о б о ж а ц ь.

**выскочивши** дзпрысл. прош. (б. 38а, ІЦ, раз. 18)
Крапіва: **выскачыць**
**выслалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 193б, ІІІЦ, раз. 5)
Крапіва: **выслаць**
**выслобонилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 80а, ІІЦ, раз. 8)
Насовіч: **выслабѣниць**[12] Крапіва: **выслабаніць**
**выслухати** неаз. (б. 89а, ІІЦ, раз. 13)
**выслухаи** заг.2адз. (б. 125а, ІІЦ, раз. 2)
**выслухалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 18а, ІЦ, раз. 8)
**выслухана естъ** пэрф.залеж.3адз.ж. (б. 170б, ІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **выслухаць** Крапіва: **выслухаць**
**выспися** заг.2адз. (б. 6а, ІЦ, раз. 1)
Крапіва: **выспацца**
**выстерегался** пэрф.3адз.муж. (б. 39б, ІЦ, раз. 18)
Насовіч: **выстерегацьца**
**выстрели** заг.2адз. (б. 212б, ІІІЦ, 13)
**выстрелилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 212б, ІІІЦ, раз. 13)
Крапіва: **вастраліць**
**выступилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 180а, ІІЦ, раз. 22)
Крапіва: **выступіць**
**высыпалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 235а, ІІІЦ, раз. 23)
**высыпа** ао.3адз. (б. 163а, ІІЦ, раз. 15)
**высыпавши** дзпрысл.прош. (б. 210б, ІІІЦ, раз. 12)
**высыплется** цяп.зак.3адз. (б.157б, ІІЦ, раз. 13)
Крапіва: **высыпаць**
**вытягнулъ** пэрф.3адз.муж. (б. 38а, ІЦ, раз. 17)
Насовіч: **выцягнуць** Крапіва: **выцягнуць**
**выходити** неаз. (б. 237б, ІІІЦ, раз. 24)
**выити** неаз. (б. 163а, ІІЦ, раз. 15)
**выидимо** заг.1мн. (б. 43б, ІЦ, раз. 20)
**выиди** заг.2адз. (б. 172б, ІІЦ, раз. 19)
**вышолъ естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 224а, ІІІЦ, раз. 18)
**вышла** пэрф.3адз.ж. (б. 199б, ІІІЦ, Рэзюмэ, раз. 8)
**вышли суть** пэрф.3мн. (б. 175а, ІІЦ, раз. 20)
**выиде** ао.3адз. (б. 188а, ІІІЦ, раз. 3)
**выидоша** ао.3мн. (б. 142а, ІІЦ, раз. 8)
**вышедъ** дзпрнезалеж.н.адз.муж. (б. 172б, ІІЦ, раз. 19)
**вышедши** дзпрысл.прош. (б. 191а, ІІІЦ, раз. 4)
Насовіч: **выходзиць**[13] і **выйсци** Крапіва: **выходзіць** і **выйсці**
**вычищають** цяп.3мн. (б. 160б, ІІЦ, раз. 14)
**вычищу** цяп.зак.1адз. (б. 160б, ІІЦ, раз. 14)
Крапіва: **вычысціць**

---

[12] Дзеяслоў выслабѣниць пададзены як закончанае трываньне дзеяслова выслабѣниваць.

[13] У слоўніку Насовіча дзеяслоў выходзиць пададзены як незакончанае трываньне дзеяслова выйсци.

**еси ганил** пэрф.2адз. (б. 227а, IIIЦ, раз. 19)
Насовіч: **ганиць** Крапіва: **ганіць**
**граблеи** наз., р.мн. (б. 26б, IЦ, раз. 13)
**грабли** наз., в.мн. (б. 26б, IЦ, раз. 13)
Крапіва: **граблі**
**гречихи** наз., р.адз.ж. (б. 100а, IIЦ, раз. 17)
Насовіч: **гречиха**
**гукъ** наз., н.адз.муж. (б. 28б, IЦ, раз. 14)
**гуку** наз., р.адз.муж. (б. 122б, IIIЦ, раз. 1)
**гукъ** наз., в.адз.муж. (б. 102а, IIЦ, раз. 18)
Насовіч: **гукъ** Крапіва: **гук**
**гуню** наз., в.адз.ж. (б. 109а, IIЦ, раз. 21)
Насовіч: **гуня** Крапіва: **гунька**
**гучать** цяп.3мн. (б. 123а, IIIЦ, раз. 1)
Крапіва: **гучаць**
**дармо** прысл. (б. 105а, IIЦ, раз. 19)
Насовіч: **дарма** Крапіва: **дарма**
**дитятко** наз., в.мн.ні. (б. 129а, IIIЦ, раз. 3)
Насовіч: **дзицятка** Крапіва: **дзіцятка**
**доилидомъ** наз., д.мн.муж. (б. 232а, IIIЦ, раз. 22)
**доилиды** наз., в.мн.муж. (б. 75а, IIЦ, раз. 5)
Насовіч: **дойлидъ** Крапіва: **дойлід**
**долговѣчныи** прым., н.адз.муж. (б. 35б, IЦ, раз. 17)
Крапіва: **даўгавечны**
**доростеть** цяп.зак.3адз. (б. 227б, IIIЦ, раз. 19)
**доросли** пэрф.3мн. (б. 226а, IIIЦ, раз. 19)
Крапіва: **дарасці**
**досконалыи** прым., н.адз.муж. (б. 138а, IIIЦ, раз. 7)
Крапіва: **дасканалы**
**доткнутися** неаз. (б. 91б, IIЦ, раз. 14)
**доткнеться** цяп.зак.3адз. (б. 193б, IIIЦ, раз. 5)
**доткнулся** пэрф.3адз.муж. (б. 76а, IIЦ, Рэзюмэ, раз. 6)
**доткнулася** пэрф.3адз.ж. (б. 14б, IЦ, раз. 6)
**доткнулося** пэрф.3адз.ні. (б. 213а, IIIЦ, раз. 13)
**дотыкалося** пэрф.3адз.ні. (б. 135б, IIIЦ, раз. 6)
**дотыкали** пэрф.3мн. (б. 134а, IIIЦ, раз. 6)
**доткнувся** дзпрнезалеж.н.адз.муж. (б. 172а, IIIЦ, раз. 19)
Насовіч: **доткнуцьца, дотыкаць** і **дотыкацьца**
Крапіва: **даткнуцца** і **датыкацца**
**дочки** наз., н.мн.ж. (б. 67б, IIЦ, раз. 1)
Насовіч: **дочка** Крапіва: **дачка**
**дядя** наз., н.адз.муж. (б. 21а, IЦ, раз. 10)
**дяди** наз., р.адз.муж. (б. 113а, IIЦ, раз. 23)
**къ дяди** наз., д.адз.муж. (б. 21б, IЦ, раз. 10)
Насовіч: **дзядзя** Крапіва: **дзядзька**
**дяковалъ** пэрф. 3адз. муж. (б. 77б, IIЦ, Рэзюмэ, раз. 7)
**дякуя** дзцяпнезалеж.н.адз.муж. (б. 80б, IIЦ, раз. 8)
Насовіч: **дзяковаць** Крапіва: **дзякаваць**

**жадныи** прым., н.адз.муж. (б. 134б, IIIЦ, раз. 6)
**жадинъ** прым., н.адз.муж. (б. 128а, IIIЦ, раз. 3)
**жадиного** прим., р.адз.муж. (б. 132а, IIIЦ, раз. 5)
**жадное** прым., н.адз.ні. (б. 134а, IIIЦ, раз. 6)
Насовіч: **жадный** і **жадзенъ**
**жерело** наз., н.адз.ні. (б. 140а, IIIЦ, раз. 7)
Насовіч: **жерело** Крапіва: **жарало**
**жнатаи** «жнец» наз., в.мн.муж. (б. 17б, IЦ, раз. 8)

Гэты назоўнік, мяркуючы паводля ягонай граматычнай формы, выглядае беларускі. Ён, праўдападобна, узяты зь нейкага дыялекту.

**загадками** наз., т.мн.ж. (б. 149а, IIIЦ, раз. 10)
**[о]загадкахъ** наз., м.мн.ж. (б. 129б, IIIЦ, Рэзюмэ, раз. 6)
Крапіва: **загадка**
**загибло** «зьнікнуць» пэрф.3адз.ні. (б. 54а, IIЦ, раз. 25)

Гэты дзеяслоў не пададзены ані ў Крапівы, ані ў Насовіча. Аднак, у вабодвых слоўніках знаходзім назоўнік **гібель (гибель)** і прыкметнік **гіблы (гиблый).**

**загинете** цяп.зак.2мн. (б. 25а, IЦ, раз. 12)
**загинулъ** пэрф.3адз.муж. (б. 62б, IЦ, раз. 30)
**загинуло** пэрф. 3адз.ні. (б. 100б, IIЦ, раз. 18)
Насовіч: **загинуць** Крапіва: **загінуць**
**задковѣ** наз., н.мн.муж. (б. 15а, IЦ, раз. 6)
**задковъ** наз., р.мн.муж. (б. 14а, IЦ, раз. 6)
Насовіч: **задокъ** Крапіва: **задок**
**заклопотит** цяп.зак.3адз. (б. 106б, IIЦ, раз. 20)
Насовіч: **заклопоциць** Крапіва: **заклапаціць**
**запевно** прысл. (б. 50а, IЦ, раз. 23)
Насовіч: **запевно**
**запрежи** заг.2адз. (б. 171б, IIIЦ, раз. 18)
**запряжите** заг.2мн. (б. 203б, IIIIЦ, раз. 9)
Насовіч: **запрегци**[14] Крапіва: **запрэгчы**
**заприсягся** пэрф.3адз.муж. (б. 203а, IIIIЦ, раз. 9)

У слоўніку Крапівы пададзены дзеяслоў **прысягацца.** Дзеяслоў **запрысягацца** ёсьць у слоўніку: М. Байкоў і С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Менск, 1925.

**застановил** пэрф.3адз.муж. (б. 101а, IIЦ, раз. 18)
Насовіч: **застановиць**
**затымъ** прысл. (б. 183б, IIIIЦ, Прадмова)
Насовіч: **затымъ** Крапіва: **затым**
**зброя** наз., н.адз.ж. (б. 67б, IIЦ, раз. 1)
**зброи** наз., р.адз.ж. (б. 17б, IЦ, раз. 8)
**зброю** наз., в.адз.ж. (б. 113а, IIЦ, раз. 1)
**[во]зброи** наз., м.адз.ж. (б. 37б, IЦ, раз. 17)
**зброе** наз., в.мн.ж. (б. 209б, IIIIЦ, раз. 11)

---

[14] Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова запрегаць.

**[по]зброяхъ** наз., м.мн.ж. (б. 189а, IIIЦ, раз. 3)
Крапіва: **зброя**
**збытняя** прым., н.адз.ж. (б. 69б, IIЦ, раз. 2)
Насовіч: **збытный**
**здавъна** прысл. (б. 19а, IЦ, раз. 9)
Насовіч: **здавна**
**злекнувшися** дзпрысл.прош. (б. 197б, IIIЦ, Рэзюмэ, раз. 7)
Насовіч: **злекнуцьца**
**злость** наз., н.адз.ж. (б. 54б, IЦ, раз. 25)
**злости** наз., р.адз.ж. (б. 51б, IЦ, раз. 24)
**злость** наз., в.адз.ж. (б. 127а, IIIЦ, раз. 2)
**злостию** наз., т.адз.ж. (б. 102б, IIЦ, раз. 18)
**[въ]злости** наз., м.адз.ж. (б. 25а, IЦ, раз. 12)
Крапіва: **злосць**
**зменилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 21а, IЦ, раз. 10)
**зменишися** цяп.зак.2адз. (б. 21а, IЦ, раз. 10)
Насовіч: **змѣницьца** і **змѣниць**[15]
Крапіва: **змяніць** і **змяніцца**
**змовилися** пэрф.3мн. (б. 47б, IЦ, раз. 22)
Насовіч: **змовицьца** Крапіва: **змовіцца**
**змордованы** дзпрзалеж.н.мн.муж. (б. 25б, IЦ, раз. 12)
Насовіч: **змордоваць**[16] Крапіва: **змардаваць**
**знаити** неаз. (б. 169а, IIIЦ, раз. 18)
**знаиду** цяп.зак.1адз. (б.96б, IIЦ, раз. 16)
**знаидеши** цяп.зак.2адз. (б. 3а, IЦ, Прадмова)
**знаидет** цяп.зак.3адз. (б.53а, IЦ, раз. 25)
**знаидете** цяп.зак.2мн. (б. 19а, IЦ, раз. 9)
**знаидуть** цяп.зак.3мн. (б. 53а, IЦ, раз. 25)
**знашли суть** пэрф.3мн. (б. 20б, IЦ, раз. 10)
**знаидохъ** ао.1адз. (б. 61а, IЦ, раз. 29)
**знаиде** ао.3адз. (б. 174б, IIIЦ, раз. 20)
**знаидено есть** пэрф.залеж.3адз.ні. (б. 116а, IIЦ, раз. 24)
**былъ знаиден** плпэрф.залеж.3адз.муж. (б. 150б, IIIЦ, раз. 10)
**знаидены были** плпэрф.залеж.3мн. (б. 240а, IIIЦ, раз. 25)
**знаиденыхъ** дзпрзалеж.р.мн.ж. (б. 234а, IIIЦ, раз. 23)
Насовіч: **знайци** Крапіва: **знайсці**
**знову** прысл. (б. 104б, IIЦ, раз. 19)
Насовіч: **знову** і **зновъ** Крапіва: **зноў**
**кажныи** зай., н.адз.муж. (б. 174б, IIIЦ, раз. 20)
**кажного** зай., р.адз.муж. (б. 13б, IЦ, раз. 5)
**кажному** зай., д.адз.муж. (б.77а, IIЦ, раз. 6)
**кожныи** зай., в.адз.муж. (б. 16б, IЦ, раз. 7)
**въ кажномъ** зай., м.адз.муж. (б. 13б, IЦ, раз. 5)

---

15 Насовіч падае абодвы дзеясловы як закончанае трываньне дзеясловаў змѣнивацьца і змѣниваць.

16 Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова змордовываць.

**кожная** зай., н.адз.ж. (б.150б, ІІЦ, раз. 10)
**кожныхъ** зай., р.мн.ж. (б. 3б, ІЦ, Прадмова)
**кожныи** зай., в. мн. ж. (б. 3а, ІЦ, Прадмова)
**кажное** зай., в.адз.ні. (б. 189а, ІІІЦ, раз. 3)
**[подъ]кажнымъ** м.адз.ні. (б. 218б, ІІІЦ, раз. 16)
Насовіч: **кажный і кожный** Крапіва: **кожны**
**канцлеръ** наз., н.адз.муж. (б. 224а, ІІІЦ, раз. 18)
**канцлера** наз., р.адз.муж. (б. 226а, ІІІЦ, раз. 19)
**канцлеремъ** наз., т.адз.муж. (б. 81а, ІІЦ, раз. 8)
Крапіва: **канцлер**
**кашку** наз., в.адз.ж. (б. 88б, ІІЦ, раз. 13)
Насовіч: **кашка** Крапіва: **каша**
**кликунъ** наз., н.адз.муж. (б. 181а, ІІІЦ, раз. 22)
Насовіч: **кликунъ** Крапіва: **клікун**
**кресло** наз., в.адз.ні. (б. 190б, ІІІЦ, раз. 4)
**съ кресла** наз., р.адз.ні. (б. 12а, і 12б, ІЦ, раз. 4)
**[на]кресле** наз., м.адз.ні. (б. 5б, ІЦ, раз. 1)
**кресла** наз., в.мн.ні. (б. 13б, ІЦ, раз. 5)
Насовіч: **креселко** Крапіва: **крэсла**
**кроквами** наз., т.мн.ж. (б. 134а, ІІІЦ, раз. 6)
**[до]кроквеи** наз., р.мн.ж. (б. 134б, ІІІЦ, раз. 6)
Крапіва: **крокваа**
**кубки** наз., в.мн.ж. (б. 239б, ІІІЦ, раз. 25)
Крапіва: **кубак**
**кучу** наз., в. адз. ж. (б. 101б, ІІЦ, раз. 18)
**кучи** наз., в. мн. ж. (б. 205б, ІІІЦ, раз. 10)
Насовіч: **куча** Крапіва: **куча**
**лепеи** прысл.выш. (б. 116б, ІІЦ, раз. 24)
Насовіч: **лѣпей** Крапіва: **лепей**
**лепшии** прым.выш., н. адз.муж. (б. 172а, ІІІЦ, раз. 19)
**лепшего** прым.выш., р.адз.муж. (б. 205а, ІІІЦ, раз. 10)
**лепшему** прым.выш., д.адз.муж. (б. 32б, ІЦ, раз. 15)
**лепшии** прым.выш., в.адз.муж. (б. 177а, ІІІЦ, раз. 21)
**лепших** прым.выш., р.мн.муж. (б. 126а, ІІІЦ, раз. 2)
**лепшая** прым.выш., н.адз.ж. (б. 98б, ІІЦ, раз. 17)
**лепшии** прым.выш., н.мн.ж. (б. 194а, ІІІЦ, раз. 5)
**лепшее** прым.выш., н.адз.ні. (б. 32б, ІЦ, раз. 15)
**лепъшего** прым.выш., р.адз.ні. (б. 100б, ІЦ, раз. 18)
Насовіч: **лѣпший** Крапіва: **лепшы**
**линии** наз., р.адз.ж. (б. 139а, ІІІЦ, раз. 7)
Крапіва: **лінія**
**малеваниемъ** наз., т.адз.ні. (б. 135б, ІІІЦ, раз. 6)
Насовіч: **малеванне** Крапіва: **маляванне**
**матка** наз., н.адз.ж. (б. 67б, ІІЦ, раз. 1)
**матко** наз., к.адз.ж. (б. 125а, ІІІЦ, раз. 2)
**матки** наз., р.адз.ж. (б.105б, ІІЦ, раз. 19)
**матце** наз., д.адз.ж. (б. 125б, ІІІЦ, раз. 2)

**матку** наз., в.адз. ж. (б. 108а, IIЦ, раз. 20)
Насовіч: **матка** Крапіва: **матка**
**[къ]мете**[17] наз., д.адз.ж. (б. 44а, IЦ, раз. 20)
Насовіч: **мѣта** Крапіва: **мэта**
**молотое** дзпрзалеж.р.адз.ж. (б. 100а, IIЦ, раз. 17)
Крапіва: **малоцъ**
**молотять** цяп.3мн. (б. 212а, IIIIЦ, раз. 13)
Крапіва: **малаціць**
**молчком** прысл. (б. 128б, IIIЦ, раз. 3)
Насовіч: **мовчкомъ** Крапіва: **маўчком**
**муловъ** наз., р.мн.муж. (б. 198б, IIIIЦ, раз. 7)
**мулы** наз., в. мн. муж. (б. 151а, IIIЦ, раз. 10)
**мулицу** наз., в.адз.ж. (б. 122а, IIIЦ, раз. 1)
Крапіва: **мул**
**мурали** «муляр» наз., н.мн.муж. (б. 133а, IIIЦ, раз. 5)
**муралемъ** наз., д.мн.муж. (б. 232а, IIIIЦ, раз. 22)
**мурале** наз., в.мн.муж. (б. 75а, IIЦ, раз. 5)
Насовіч: **мураль**
**[на]муре** наз., м.адз.муж. (б. 64б, IЦ, раз. 31)
Насовіч: **муръ** Крапіва: **мур**
**мусить** цяп.3адз. (б. 113а, IIЦ, раз. 23)
**мусилъ есми** пэрф.1адз. (б. 74а, IIЦ, раз. 4)
**мусилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 103б, IIЦ, раз. 19)
Насовіч: **мусиць** Крапіва: **мусіць**
**навернулся** пэрф.3адз.муж. (б. 33а, IЦ, раз. 15)
Насовіч: **навернуцьца** Крапіва: **навярнуцца**
**накривленое** дзпрзалеж.р.адз.ж. (б. 139а, IIIЦ, раз. 7)
Насовіч: **накривицьца**[18]
**налево** прысл. (б. 14б, IЦ, раз. 6)
Крапіва: **налева**
**наняли** пэвф.3мн. (б. 82б, IIЦ, раз. 10)
Крапіва: **наняць**
**направо** прысл. (б. 14б, IЦ, раз. 6)
Крапіва: **направа**
**напротив** прысл. (б. 204б, IIIIЦ, раз. 9)
Насовіч: **напроцивку** Крапіва: **напроціў**
**[о]нарожении** наз., м. адз. ні. (б. 4б, IЦ, Рэзюмэ кнігі)
Насовіч: **нароженне** Крапіва: **нараджэнне**
**нахилили** пэрф. 3мн. (б. 76б, IIЦ, раз. 6)
Насовіч: **нахилиць**[19] Крапіва: **нахіліць**
**нехаи** заг.2адз. (б. 191а, IIIIЦ, раз. 4)

---

17 Калі слова сустракаецца толькі з прыназоўнікам, прыназоўнік будзе ўзяты ў дужкі.

18 Насовіч мае толькі зваротную форму, якую падае як закончанае трываньне дзеяслова накривливацьца.

19 Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова нахиляць.

**нехавши** дзпрысл.прош. (б. 20б, IЦ, раз. 10)
Насовіч: **нехаць**
**нехаи** прысл. (б. 69а, IIЦ, раз. 2)
Насовіч: **нёхай** Крапіва: **няхай**
**нуды** наз., р.адз.ж. (б. 99а, IIЦ, раз. 17)
Насовіч: **нуда** Крапіва: **нуда**
[о]**нѣвинности** наз., м.адз.ж. (б. 23б, IЦ, Рэзюмэ, раз. 12)
Крапіва: **нявіннасць**
**няньку** наз., в.адз.ж. (б. 208а, IIIЦ, раз. 11)
Насовіч: **нянька** Крапіва: **нянька**
**обжаловалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 105а, IIЦ, раз. 19)
Насовіч: **обжаловаць**
**объволокуть** цяп.зак.3мн. (б. 98б, IIЦ, раз. 17)
Крапіва: **абвалачы**
**обкружала** пэрф. 3адз.ж. (б. 138б, IIIЦ, раз. 7)
**обкружовала** пэрф.3адз.ж. (б. 138а, IIIЦ, раз. 7)
**окружающи** дзцяпнезалеж.н.адз.ж. (б. 138б, IIIЦ, раз. 7)
Крапіва: **акружаць** і **абкружаць**
**околичныхъ** прым., р.мн.муж. (б.24а, IЦ, раз. 12)
[съ]**околичными** прым., т.мн.муж. (б. 30б, IЦ, раз. 14)
**во околичныхъ** прым., м.мн.муж. (б. 131а, IIIЦ, раз. 4)
Крапіва: **ваколічны**
**остальцевъ** «засталы» наз., в.мн.муж. (б. 164б, IIIЦ, раз. 16)

Н. Нікіфароўскі падае слова **остальцовъ** у прымаўцы, запісанай на Віцебшчыне: «Паси, Божа, остальцовъ»[20]. Назоўнік **астальцо** ўжываецца таксама ў Лагойшчыне; ён пададзены ў прыказцы, запісанай А. Варлыгам: «Пасі, Божа, асталцо»[21]. У слоўніку Насовіча гэтага назоўніка няма, але ёсьць прыкметнік **осталый.**

**остерегла** пэрф.3адз.ж. (б. 41а, IЦ, Рэзюмэ, раз. 19)
Крапіва: **асцерагчы**
**отеленых** дзпрзалеж.р.мн.ж. (б. 14б, IЦ, раз. 6)
Крапіва: **ацяліцца**
**оточивали** пэрф.3мн. (б.140б, IIIЦ, раз. 7)
Насовіч: **оточаць**
[въ] **отягненои** дзпрзалеж.м.адз.ж. (б. 107а, IIЦ, раз. 20)
Крапіва: **абцягнуць**
[от]**панования** наз., р.адз.ні. (б. 155а, IIIЦ, раз. 12)
Насовіч: **панованне** Крапіва: **панаванне**
**панъ** наз., н.адз.муж. (б.225а, IIIIЦ, раз. 18)
Насовіч: **панъ** Крапіва: **пан**
**пащекъ** наз., р.мн.ж. (б. 37а, IЦ, раз. 17)

---

[20] Н. Я. Никифоровскій. Полупословицы и полупоговорки, употребляемыя в Витебской Белоруссіи. *Записки Сѣверозападнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества*, кн. 2, Вильна, 1911, б. 150.

[21] А. Варлыга. Прыказкі й асаблівыя выказы з Лагойшчыны ў Меншчыне. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. *Запісы*, кн. 3, Мюнхэн, 1964, б. 193 і 226 (Нр. 1065 і 1728).

Насовіч: **пащека**
**певне** прысл. (б. 56а, ІЦ, раз. 26)
Насовіч: **певне** Крапіва: **пэўне** і **пэўна**
**певное** прым., в.адз.ні. (б. 50а, ІЦ, раз. 23)
Насовіч: **вевный** Крапіва: **пэўны**
**перебилися** пэрф. 3мн. (б. 69а, ІІЦ, раз. 2)
Крапіва: **перабіцца**
**[по]пирогу** наз., м.адз.муж. (б. 77а, ІІЦ, раз. 6)
Насовіч: **пирогъ** Крапіва: **пірог**
**планетамъ** наз., д.мн.ж. (б. 230а, ІІІЦ, раз. 21)
Крапіва: **планета**
**плугъ** наз., в.адз.муж. (б. 173б, ІІЦ, раз. 19)
Крапіва: **плуг**
**погордаи** заг.2адз. (б. 185а, ІІІЦ, раз. 1)
**погорди** заг.2адз. (б. 125а, ІІЦ, раз. 2)
**погордел** пэрф.3адз.муж. (б. 104б, ІЦ, раз. 19)
**погордела** пэрф.3адз.ж. (б.76а, ІІЦ, Рэзюмэ, раз. 6)
**погорде** ао.3адз. (б. 154б, ІІЦ, Рэзюмэ, раз. 12)
Насовіч: **погордзѣць**[22] Крапіва: **пагарджаць**[23]
**подкасавъ** дзпрнезалеж.н.адз.муж. (б. 171б, ІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **подкасаць** Крапіва: **падкасаць**
**подяковал** пэрф.3адз.муж. (б. 81б, ІІЦ, раз. 9)
**подяковали** пэрф.3мн. (б. 123а, ІІЦ, раз. 1)
**подяковавши** дзпрысл.прош. (б. 146б, ІІЦ, раз. 8)
Насовіч: **подзяковаць** Крапіва: **падзякаваць**
**поки** злуч. (б. 181а, ІІЦ, раз. 22)
Насовіч:**поки** Крапіва: **покі**
**покинулъ есь** пэрф.2адз. (б. 36б, ІЦ, раз. 17)
**покинувши** дзпрысл.прош. (б. 18б, ІЦ, раз. 9)
Насовіч: **покинуць** Крапіва: **пакінуць**
**поколь** злуч. (б. 155а, ІІЦ, раз. 12)
**поколѣ** злуч. (б. 144б, ІІЦ, раз. 8)
**покуле** злуч. (б. 58б, ІЦ, раз. 27)
Насовіч: **покуль** Крапіва: **покуль**
**поколѣния** наз., р.адз.ні. (б. 216б, ІІІЦ, раз. 15)
**поколѣнеи** наз., р.мн.ні. (б.141б, ІІЦ, раз. 7)
Крапіва: **пакаленне**
**полепшевашеся** імпэрф.3адз. (б. 34б, ІЦ, раз. 16)
Насовіч: **полѣпшиць**[24] Крапіва: **палепшыцца**
**помщу** цяп.зак.1адз. (б. 204а, ІІІЦ, раз. 9)
**помстиши** цяп.зак.2адз. (б. 202б, ІІІЦ, раз. 9)
**помстилъ естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 102б, ІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **помсциць** Крапіва: **помсціць**

---

22 Насовіч падае толькі закончанае трываньне.
23 Толькі незакончанае трываньне сустракаецца ў слоўніку Крапівы.
24 Зваротная форма не пададзеная.

**порадився** дзпрнезалеж.н.адз.муж. (б. 156б, ІІІЦ, раз. 12)
Насовіч: **порадзицьца** Крапіва: **парадзіцца**
**посполу** прысл. (б. 128б, ІІІЦ, раз. 3)
Насовіч: **посполъ**
**початок** наз., н.адз.муж. (б. 119б, ІІІЦ, Прадмова)
**[на]початку** наз., м.адз.муж. (б. 98б, ІІЦ, раз. 17)
Насовіч: **початокъ** Крапіва: **пачатак**
**прыгоды** наз., н. мн. ж. (б. 85б, ІІЦ, раз. 11)
**[съ]пригоды** наз., р.адз.ж. (б. 14б, ІЦ, раз. 6)
Насовіч: **пригода** Крапіва: **прыгода**
**призволяи** «пазваляць» заг.2адз. (б. 174а, ІІІЦ, раз. 20)
Насовіч: **призволяць**
**прикрымъ** прым., т.адз.муж. (б. 95б, ІІЦ, раз. 15)
Насовіч: **прикрый** Крапіва: **прыкры**
**прировнался** пэрф.3адз.муж. (б. 114а, ІІЦ, раз. 23)
**прировнавая** дзцяпнезалеж.н.адз.муж. (б. 111б, ІІЦ, раз. 22)
Насовіч: **прировниваць** Крапіва: **прыраўноўваць**
**присловіе** наз., н.адз.ні. (б. 75а, ІІЦ, раз. 5)
**[въ]присловие** наз., в. адз. ні. (б. 147а, ІІІЦ, раз. 9)
**[въ]присловии** наз., м.адз.ні. (б. 52а, ІЦ, раз. 10)
Насовіч: **присловье**
**проминуло** пэрф.3адз.ні. (б. 15б,ІЦ, раз. 7)
Крапіва: **прамінуць**
**пугою** наз., т.адз.ж. (б. 155б, ІІІЦ, раз. 12)
**пугами** наз., т.мн.ж. (б. 155б, ІІІЦ, раз. 12)
Насовіч: **пуга** Крапіва: **пуга**
**рада** наз., н.адз.ж. (б. 98а, ІІЦ, раз. 17)
**рады** наз., р.адз.ж. (б. 99б, ІІЦ, раз. 17)
**раду** наз., в.адз.ж. (б. 98а, ІІЦ, раз. 17)
Насовіч: **рада** Крапіва: **рада**
**розослалъ есми** пэрф.1адз.муж. (б. 46а, ІЦ, раз. 21)
Крапіва: **разаслаць**
**розширил еси** пэрф.2адз.муж. (б. 111б, ІІІЦ, раз. 22)
**розширился** пэрф.3адз.муж. (б. 123а, ІІІЦ, раз. 1)
Крапіва: **расшырыць** і **расшырыцца**
**розмножение** наз., н. адз. ні. (б. 13а, ІЦ, раз. 5)
Крапіва: **размнажэнне**
**розсекают** цяп.зак.3мн. (б. 170а, ІІІЦ, раз. 18)
**розъсекал** пэрф.3адз.муж. (б. 33а, ІЦ, раз. 15)
**розсекав** дзпрнезалеж.н.адз.муж. (б. 171а, ІІІЦ, раз. 18)
Крапіва: **рассякаць**
**росказал есмъ** «загадаць» пэрф.1адз.муж. (б. 46а, ІЦ, раз. 21)
**росказывал** пэрф.3адз.муж. (б. 148а, ІІІЦ, раз. 9)
**росказал естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 92а, ІІЦ, раз. 14)
Насовіч: **росказоваць** і **росказаць**
**ростопта** ао.3адз. (б. 202а, ІІІЦ, Рэзюмэ, раз. 9)
Крапіва: **растаптаць**

**светки** наз., в.мн.муж. (б. 177б, IIIЦ, раз. 21)
Насовіч: **свѣтка** Крапіва: **сведка**
**[на]свитании** наз., м.адз.ні. (б. 70а, IIЦ, раз. 2)
Крапіва: **світанне**
**скатерть** «абрус» наз., в.адз.ж. (б. 99а, IIЦ, раз. 17)
I. Срэзьнеўскі цытуе гэты назоўнік таксама з Смаленскае Граматы 1150 г.[24a]. У слоўніку Насовіча ёсьць зьмяншальная форма **скацерка.**
У Літоўскім Статуце 1588 г., раз. 13, арт. 11: **скатертей.**
**скинули** пэрф.3мн. (б. 106а, IIЦ, Рэзюмэ, раз. 20)
Крапіва:**скінуць**
**слюбовалъ есмъ** пэрф.1адз.муж. (б. 94а, IIЦ, раз. 15)
**слюбих** ао.1адз. (б. 94а, IIЦ, раз. 15)
**слюбуючи** прысл.цяп. (б. 94а, IIЦ, раз. 15)
Насовіч: **шлюбоваць**
**слютуися** заг.2адз. (б. 145а, IIIЦ, раз. 8)
**слютовался** пэрф.3адз.муж. (б. 117б, IIЦ, раз. 24)
**слютуется** цяп.зак.3адз. (б. 175б, IIIЦ, раз. 20)
Насовіч: **злитовацьца** Крапіва: **злітавацца**
**смелость** наз., н.адз.ж. (б. 224а, IIIЦ, раз. 18)
**для смелости** наз., р.адз.ж. (б. 76б, IIЦ, раз. 6)
Крапіва: **смеласць**
**смолвимося** цяп.зак.1мн. (б. 50а, IIЦ, раз. 23)
Насовіч: **змовицьца** Крапіва: **змовіцца**
**смолву** наз., в.адз.ж. (б. 176а, IIIЦ, раз. 20)
Насовіч: **змова** Крапіва: **змова**
**смутен** прым., н. адз.муж. (б. 177а, IIIЦ, раз. 21)
**смутна** прым., н.адз.ж. (б. 89б, IIЦ, раз. 13)
**смутные** прым., в.мн.ж. (б. 91а, IIЦ, раз. 14)
Насовіч: **смутный** Крапіва: **смутны**
**сошлися суть** пэрф.3мн. (б. 206б, IIIЦ, раз. 10)
Насовіч: **сыйцися** Крапіва: **сысціся**
**соузы** наз., н.мн.муж. (б. 110б, IIЦ, раз. 22)
**[въ]соузе** наз., м.адз.муж. (б. 54б, IIЦ, раз. 25)
Крапіва: **саюз**
**спици** наз., в.мн.ж. (б. 140а, IIIЦ, раз. 7)
**спицами** наз., т. мн. ж. (б. 170б, IIIЦ, раз. 18)
**спицу (писальную)** «пяро» наз., в.адз.ж. (б. 231а, IIIЦ, раз. 21)
Крапіва: **спіца**[25]
**справедливе** прысл. (б. 93б, IIЦ, раз. 15)
Крапіва: **справядліва**
**справедливость** наз., в.адз.ж. (б. 154а, IIIЦ, раз. 11)
Крапіва: **справядлівасць**
**справедливыи** прым., н.адз.муж. (б. 112б, IIЦ, раз. 23)

---

[24a] И. И. Срезневскій. Матеріалы для словаря древнерусскаго языка по письменнымъ памятникамъ. Санктпетербургъ, 1890–1903.

[25] У сучаснай беларускай мове гэтае слова ня ўжываецца ў вапошнім значаньні.

**справедливыи** прым., в.адз.муж. (б. 86а, ІЦ, раз. 12)
**справедливымъ** прым., т.адз.муж. (б. 127б, ІІЦ, раз. 3)
**во справедливыхъ** прым., м.мн.ж. (б.67а, ІЦ, раз. 1)
**справедлившии** прым. выш., н.адз.муж. (б. 52а, ІЦ, раз. 24)
Крапіва: **справядлівы**
**справовати** неаз. (б. 78а, ІЦ, раз. 7)
**справуеши** цяп.2адз. (б. 177а, ІІЦ, раз. 21)
**справоваше** імпэрф.3адз. (б. 83а, ІЦ, раз. 10)
**справовал естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 130а, ІІЦ, раз. 4)
**справовали** пэрф.3мн. (б. 83а, ІЦ, раз. 10)
Насовіч: **справоваць**
**справце** наз., н.мн.муж. (б. 148а, ІІЦ, раз. 9)
Насовіч: **справца**
**спустошилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 223б, ІІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **спустошиць** Крапіва: **спустошыць**
**стеречи** неаз. (б. 36а, ІЦ, раз. 17)
**стережи** заг.2адз. (б. 176б, ІІЦ, раз. 20)
**стерегли** пэрф.3мн. (б. 41б, ІЦ, раз. 19)
Крапіва: **сцерагчы**
**сторкаете** цяп.зак.2мн. (б. 9а, ІЦ, раз. 2)
Крапіва: **торкаць**
**стретити** неаз. (б. 140а, ІІЦ, раз. 19)
**стретил** пэрф.3адз.муж. (б. 159а, ІІЦ, раз. 13)
**стретятся** цяп.зак.3мн. (б. 20б, ІЦ, раз. 10)
**стретился естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 206а, ІІІЦ, раз. 10)
Насовіч: **стрѣциць і стрѣцицьца**
Крапіва: **стрэць, сустрэць, стрэцца і сустрэцца**
**ступки** наз., в. мн. ж. (б. 239б, ІІІЦ, раз. 25)
Крапіва: **ступка**
**[в]сукни** наз., м.адз.ж. (б. 107а, ІЦ, раз. 20)
Насовіч: **сукня** Крапіва: **сукня**
**скровавилъ** пэрф.3адз.муж. (б. 124а, ІІЦ, раз. 2)
Крапіва: **скрывавіць**
**[сы]сподy** наз., р.адз.муж. (б. 137а, ІІЦ, раз. 7)
Насовіч: **сподъ** Крапіва: **спод**
**туляхуся** імпэрф.3мн. (б. 49б, ІЦ, раз. 23)
Насовіч: **туляцьца** Крапіва: **туляцца**
**тямил естъ** пэрф.3адз.муж. (б. 107а, ІЦ, раз. 20)
Насовіч: **цямиць** Крапіва: **цяміць**
**ужа** наз., в.адз.муж. (б. 223а, ІІІЦ, раз. 18)
Насовіч: **вужъ** Крапіва: **вуж**
**ужиточная** прым., н.адз.ж. (б. 98б, ІЦ, раз. 17)
Насовіч: **ужиточный** Крапіва: **ужытачны**
**[ко]узъгорку** наз., д.адз.муж. (б. 69б, ІЦ, раз. 2)
Насовіч: **узгорок** Крапіва: **узгорак**
**урядника** глядзі **врядники**
**фикги** наз., н.мн.ж. (б. 96б, ІЦ, раз. 16)

**фикговъ** наз., р.мн.ж. (б. 54а, IЦ, раз. 25)
Крапіва: **фіга**
**хорошъ** прым., н.адз.муж. (б. 92б, IIЦ, раз. 14)
Крапіва: **харошы**
**цетнереи** наз., р.мн.муж. (б. 147б маргінэс, IIIЦ, раз. 9)
**цетнери** наз., в.мн.муж. (б. 166а, маргінэс, IIIЦ, раз. 16)
Крапіва: **цэнтнер**
**[на]цимбалех** наз., м.мн. (б. 76б, IIЦ, раз. 6)
Насовіч: **цымбалы** Крапіва: **цымбалы**
**чему** прысл. (б. 5б, IЦ, раз. 1)
Насовіч: **чêму** Крапіва: **чаму**
**честовалъ** пэрф.3адз.муж. (б. 18а, IЦ, Рэзюмэ, раз. 9)
Насовіч: **честоваць** Крапіва: **частаваць**
**шкодлива** прым., н.адз.ж. (б. 69б, IIЦ, раз. 2)
Насовіч: **шкодливый** Крапіва: **шкадлівы**
**щасливая** прым., н.адз.ж. (б. 6а, IЦ, раз. 1)
Насовіч: **щасливый** Крапіва: **шчаслівы**
**я** зай., 1ая асоба н.адз. (б. 24б, IЦ, раз. 12)
Крапіва: **я**
**откинулъ еси** пэрф.2адз.муж. (б. 32б, IЦ, раз. 15)
**откинулъ** пэрф.3адз.муж. (б. 32б, IЦ, раз. 15)
Насовіч: **откинуць**[26] Крапіва: **адкінуць**
**отповѣди** наз., р.адз.ж. (б. 170б, IIIЦ, раз. 18)
**отповѣди** наз., в.мн.ж. (б. 107б, IIЦ, раз. 20)
Насовіч: **отповѣдь**

II

## СЛОВЫ З ЧЭСКАЕ, НЯМЕЦКАЕ, ПОЛЬСКАЕ МОВАЎ

1. Наступныя словы былі, магчыма, створаныя на ўзор чэскіх, ато й запазычаныя з чэскае мовы, бо яны знаходзяцца ў Чэскай Біблii, надрукаванай у Вэнэцыі ў 1506 г.[27]
**весцевъ** «вяшчун» наз., р.мн.муж. (б. 59а, IЦ, раз. 28)
**вестъцовъ** наз., р.мн.муж. (б. 235б, IIIЦ, раз. 23)
**вестце** наз., в.мн.муж. (б. 230б, IIIЦ, раз. 21)
Чэская Біблія: **wiesscze** наз., в.мн.муж. (б. n VIIб, IЦ, раз. 28)
**wiesscze** наз., в.мн.муж. (б. r Xб, IIIЦ, раз. 23)
**wiesscze** наз., в.мн.муж. (б. r VIIIб, IIIЦ, раз. 21)
**възбрьмят** «здранцьвець» цяп.зак.3мн. (б. 10б, IЦ, раз. 3)
Чэская Біблія: **zbrnijeť** цяп.зак.3мн. (б. m Va, IЦ, раз. 3)
**выседлыми** «выпуклая» прым., т.мн.ж. (б. 134б, IIЦ, раз. 6)
Чэская Біблія: **wysedlým** прым., т.адж.ні. (б. p VIa, IIIЦ, раз. 6)

26 Гэты дзеяслоў пададзены як закончанае трываньне дзеяслова **откидаць**.
27 Чэскі назоў наступны: Biblij Cžeská w Benátkach tisstená. Uenetiis, 1506.

**деки** «кінжал» наз., р.адз.ж. (б. 107а, ІІЦ, раз. 20)
**деку** наз., в.адз.ж. (б. 107а, ІІЦ, раз. 20)

Чэская Біблія: **déky** наз., р.адз.ж. (б. о IXб, ІІЦ, раз. 20)
**déku** наз., в.адз.ж. (б. о IXб, ІІЦ, раз. 20)

**делывала** «рабіць» пэрф.3адз.ж. (б. 8б, ІЦ, раз. 2)

Чэская Біблія: **dieláwala** пэрф.3адз.ж. (б. m IIIб, ІЦ, раз. 2)

**(под яблонью) зернатою** «гранатная» (яблыня) прым., т.адз.ж. (б. 27а, ІЦ, раз. 14)

Чэская Біблія: **(pod) zrnatú (yablonij)** прым., т.адз.ж. (б. m IXб, ІЦ, раз. 14)

**куроптвы** «курапатка» наз., в.мн.ж. (б. 57а, ІЦ, раз. 26)

Чэская Біблія: **kuroptwy** наз., в.мн.ж. (б. n VIIа, ІЦ, раз. 26)

**ратолѣсныи** «разложысты» прым., в.адз.ж. (б. 100б, ІІЦ, раз. 18)
**подъ ратолесным** прым., т.адз.ні. (б. 218б, ІІІЦ, раз. 16)

Чэская Біблія: **ratolestný** прым., в.адз.муж. (б. о VIIIа, ІІЦ, раз. 18)
**pod ratolestným** прым., т.адз.ні. (б. r VIа, ІІІЦ, раз. 16)

**до смръковое** «сасновая» прым., р.адз.ж. (б. 35а, ІЦ, раз. 17)
**въ смръковѣ** прым., м.адз.ж. (б. 36а, ІЦ, раз. 17)
**подъ смырковымъ** прым., т.адз.ні. (158а, ІІЦ, раз. 13)

Чэская Біблія: **smrkowije** «сасновы гай» наз., н.адз.ні. (б. n б, ІЦ, раз. 17)
**w smrkowé** «сасновае» прым., м.адз.ні. (б. n б, ІЦ, раз. 17)
**pod smrkem** «сасна» наз., т.адз.муж. (б. q а, ІІЦ, раз. 13)

**уродное** «уражайная» прым., р.адз.ж. (б. 225а, ІІІЦ, раз. 18)

Чэская Біблія: **vrodné** прым., р.адз.ж. (б. r VIIб, ІІІЦ, раз. 18)

**четверогранатого** «чатырохкутны» прым., р.адз.м. (б. 134а, ІІЦ, раз. 6)
**чверогранатымъ** прым., т.адз.ні. (б. 136а, ІІЦ, раз. 6)
**четверограноватыи** прым., н. мн. ні. (б. 137а, ІІЦ, раз. 7)
**четверограновато** прысл. (б. 137а, ІІЦ, раз. 7)

Чэская Біблія: **cžtwerohranatého** прым., р.адз.муж. (б. p Vб, ІІЦ, раз. 6)
**cžtwerohranatým** прым., т.адз.ні. (б. p VIа, ІІЦ, раз. 6)
**cžtwerohrnaté** прым., н.мн.ні. (б. p VIа, ІІЦ, раз. 7)
**cžtwerohrnatie** прысл. (б. p VIб, ІІЦ, раз. 7)

2. Ніжэй пададзеныя словы сустракаюцца ў Чэскай Бібліі, надрукаванай у Вэнэцыі ў 1506 г., і ў польскай мове. Да Скарыны яны, магчыма, трапілі з Чэскае Бібліі. З другога боку, яны маглі трапіць з польскае мовы ў беларускую.

**восполок** «разам» прысл. (б. 138а, ІІЦ, раз. 7)

Чэская Біблія: **wespolek** прысл. (б. p VIб, ІІЦ, раз. 7)

старапольская мова: **wespołek**[28]

---

[28] Старапольскія словы, згадваныя ў гэтай частцы, можна знайсьці ў наступным слоўніку: Jan Karłowicz, Adam Kryński і Władysław Miedźwiedzki. Słownik języka polskiego. Warszawa, 1900–1927.

**вырилъ естъ** «гравіраваць» пэрф.3адз.муж. (б. 140б, IIIЦ, раз. 7)
**выритые** дзпрзалеж.н.мн.муж. (б. 140б, IIIЦ, раз. 7)

Чэская Біблія: **wyryl gt** пэрф.3адз.муж. (б. р VIIа, IIIЦ, раз. 7)
**wyrijté** дзпрзалеж.н.мн.ж. (б. р VIIа, IIIЦ, раз. 7)
польская мова: **wyryć**

**высвободителя** «збавіцель» наз., в.адз.муж. (б. 211б, IIIIЦ, раз. 13)

Чэская Біблія: **wyswoboditeli** наз., в.мн.муж. (б. г IIIа, IIIIЦ, раз. 13)
польская мова: **wyswobodziciel**

**громобитиемъ** «грымоты» наз., т.адз.ні. (б. 16б, IЦ, раз. 7)
**громобитие** наз., в.адз.ні. (б. 24б, IЦ, раз. 12)

Чэская Біблія: **hromobitijm** наз., т.адз.ні. (б. m VIб, IЦ, раз. 7)
**hromobitije** наз., в.адз.,ні. (б. m VIIIб, IЦ, раз. 12)
польская мова: **gromobicie**

**гадачи** «прадракальнік» наз., в.мн.муж. (б. 230б, IIIIЦ, раз. 21)

Чэская Біблія: **hadačže** наз., в.мн.муж. (б. г VIIIб, IIIIЦ, раз. 21)
польская мова: **gadacz**[29]

**желнерми** «жаўнер» наз., т.мн.муж. (б. 81а, IIЦ, раз. 8)
**желънеря** наз., в.адз.муж. (б. 82б, IIЦ, раз. 10)
**желнеремъ** наз., д.мн.муж. (б.207а, IIIIЦ, раз. 10)

Чэская Біблія: **žoldnéřy** наз., в.мн.муж. (б. о IIа, IIЦ, раз. 8)
**žoldnéře** наз., в.адз.муж. (б. о IIб, IIЦ, раз. 10)
старапольская мова: **żołdnierz, zołniér, żołmiérz**

**пѣсты** «калодка» (кола) наз., н.мн.ж. (б. 140а, IIIЦ, раз. 7)

Чэская Біблія: **pijesty** наз., н.мн.ж. (б. р VIб, IIIЦ, раз. 7)
польская мова: **piasta**

**ритина** «гравюра» наз., н.адз.ж. (б. 138б, IIIЦ, раз. 7)
**ритины** наз., н.мн.ж. (б. 139б, IIIЦ, раз. 7)
**ритинъ** наз., р.мн.ж. (б. 138б, IIIЦ, раз. 7)
**ритины** наз., в.мн.ж. (б. 140б, IIIЦ, раз. 7)
**ритинами** наз., т.мн.ж. (б. 135б, IIIЦ, раз. 6)

Чэская Біблія: **rytina** наз., н.адз.ж. (б. р VIб, IIIЦ, раз. 7)
**rytiny** наз., н.мн.ж. (б. р VIб, IIIЦ, раз. 7)
**rytin** наз., р.мн.ж. (б. р VIб, IIIЦ, раз. 7)
**rytinami** наз., т.мн.ж. (б. р VIа, IIIЦ, раз. 6)
польская мова: **rycina**

**ритые** «гравіраваныя» дзпрзалеж.в.мн.ж. (б. 219а, IIIIЦ, раз. 16)

Чэская Біблія: **ryté** дзпрзалеж.в.мн.ж. (б. г VIа, IIIIЦ, раз. 16)
польская мова: **ryć**

**слюбъ** «прысяга» наз., в.адз.муж. (б. 6а, IЦ, раз. 1)
**слюбы** наз., в.мн.муж. (б. 94а, IIЦ, раз. 15)

---

[29] Гэтае значаньне слова пададзенае ў слоўніку Карловіча.

Чэская Біблія: **slib** наз., в.адз.муж. (б. m IVa, IЦ, раз. 1)
**sliby** наз., в.мн.муж. (б. o VIб, IIЦ, раз. 15)
польская мова: **ślub**

**[въ]яскиняхъ** «пячора» наз., м.мн.ж. (б. 25б, IЦ, раз. 13)

Чэская Біблія: **w yeskyňech** наз., м.мн.ж. (б. m IXa, IЦ, раз. 13)
польская мова: **jaskinia**

3. Назоўнік **спижа,** ужываны ў старабеларускай мове,[30] нямецкага паходжаньня. Ён трапіў у беларускую мову зь нямецкае, магчыма, праз пасярэдніцтва польскае мовы. Беспасярэдні ўплыў, аднак, ня можа быць выключаны.[31] Існуе яшчэ магчымасьць, што Скарына ўзяў гэты назоўнік з Чэскае Біблії, надрукаванае ў Вэнэцыі ў 1506 г.

**спижи** «ежа» наз., р.адз.ж. (б. 105а, IIЦ, раз. 19)
нямецкая мова: **Speise**
старапольская мова: **spiża**
Чэская Біблія: **sspijže** наз., в.адз.ж. (б. o IXб, IIЦ, раз. 19)

4. Польскае паходжаньне наступных словаў:

**вышивачовъ** «чалавек, які вышывае» наз., р.мн.муж. (б. 238а, IIIЦ, раз. 24)
польская мова: **wyszywacz**[32]

**[без]замешкания** «замаруджаньне» наз., р.адз.ні. (б. 99а, IIЦ, раз. 17)
польская мова: **zamieszkanie**[33]

**зособна** «асобна» прысл. (б. 3б, IЦ, Прадмова)
польская мова: **zosobna**

**зуполне** «зусім» прысл. (б. 1а, IЦ, Тытул)
польская мова: **zupełnie**

**посполитые** «просты» прым., н.мн.муж. (б. 119б, IIЦ, Прадмова)
**посполитых** прым., р.мн.муж. (б. 15а, IЦ, раз. 6)
**посполитымъ** прым., д.мн.муж. (б. 118а, IIЦ, Пасьляслоўе)
**посполитое** прым., р.адз.ж. (б. 92б, IIЦ, раз. 14)
польская мова: **pospolity**

**посполство** «чэрнь» наз., н.адз.ні. (б. 240б, IIЦ, раз. 25)
польская мова: **pospólstwo**

---

[30] А. І. Жураўскі. Лексіка нямецкага паходжання ў беларускай пісьменнасьці 15–17 ст.ст. *Беларуская мова.* Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Мінск, 1965, б. 60–73.
[31] А. І. Жураўскі. Цыт. праца, б. 66–69.
[32] Гэтае слова знаходзіцца ў слоўніку Карловіча.
[33] Карловіч падае гэтае значаньне слова.

**стовариишился** «здружыцца» пэрф.Задз.муж. (б. 47б, ІЦ, раз. 22)

польская мова: **stowarzyszyć się**

**усплави** «падтрымваць на паверхні вады» ао.Задз. (б. 195а, ІІІЦ, Рэзюмэ, раз. 6)

польская мова: **wspławić**[34]

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРОТЫ

адз. — адзіночны лік
ао. — аорыст
буд. — будучы час
в. — вінавальны склон
выш. — вышэйшая ступень
д. — давальны склон
дзпрзалеж. — дзеяпрыметнік прошлага часу залежнага стану
дзпрнезалеж. — дзеяпрыметнік прошлага часу незалежнанага стану
дзцяпнезалеж. — дзеяпрыметнік цяперашняга часу незалежнага стану
дзпрысл. — дзеяпрыслоўе
ж. — жаноцкі род
заг. — загадны лад
зай. — займеньнік
зак. — закончанае трываньне
залеж. — залежны стан
злуч. — злучнік
імпэрф. — імпэрфэкт
к. — клічны склон
м. — месны склон
мн. — множны лік
муж. — мужчынскі род
н. — назоўны склон
наз. — назоўнік
неперах. — непераходны
ні. — ніякі род
плпэрф. — плюсквампэрфэкт
прош. — прошлы час
прым. — прыметнік
прысл. — прыслоўе
пэрф. — пэрфэкт
р. — родны склон
т. — творны склон
Ц. — Царстваў
цяп. — цяперашні час

---

34 Гл. слоўнік Карловіча.

ЦАРЬСТВЪ :-   РМД :-

САЛОМОНЪ БЕСЕДУЕТЬ СЪЦАРИЦЕЮ САВОЮ



*Дрэварыт з Скарынавае Трэцяе Кнігі Царстваў «Салямон бяседуе з царыцаю Саваю».*

# Скарынавы кракаўскія прывілейныя граматы 1532 году

*Пераклады д-ра Пятра Татарыновіча*

*Уводныя заўвагі Вітаўта Тумаша*

Лацінскія тэксты дзьвюх прывілейных граматаў, што былі выстаўленыя доктару Францішку Скарыну 21-га ды 25-га лістапада 1532 году ў Кракаве каралём і вялікім князем Жыгімонтам, перадрукоўваюцца тут з выданьня: Acta Tomiciana. Tomus quartus decimus... Edidit Vladislaus Pociecha. Posnaniae, Sumptibus Bibliothecae Kornicensis, 1952, p. 791, 795—796. У гэтым зборніку В. Пацеха перадрукаваў нанава тэксты граматаў, выправіўшы памылкі, што былі дапушчаныя, асабліва ў датаваньні, пры першай іх публікацыі ў 1858 годзе М. Круповічам (Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединеных с нею владений... Изданое Виленскою Археологическою Коммиссиею под редакциею ученого секретаря Маврикия Круповича, ч. I. Вильно, 1858, б. 35—37, Нр. XXIX і XXX). Актавыя копіі граматаў, зь якіх друкаваныя тут лацінскія іх тэксты паходзяць, перахоўваюцца цяпер у Варшаве: Archiwum Główne. Księgi Metryki Koronnej, Nr. 48, f. 310, 308.

Лацінскія тэксты, з просьбаю Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва іх перакладу, былі перасланыя д-ру П. Татарыновічу яшчэ ў 1966 годзе. Дзеля спазьненьня з друкам гэтага зборніка «Скарыніяны», выхад якога быў пляваны на пачатак юбілейнага 1967-га году, тэкст свайго перакладу перакладнік надрукаваў у апошнім нумары году 1967-га рымскага часапісу «Žnič» (Нр. 94, б. 4—6). Гэтта пераклад друкуецца зь невялікімі рэдакцыйнымі правапіснымі ды моўнымі зьменамі. Словы ў тэксьце перакладу ўзятыя ў дужкі — паясьненьні перакладніка.

Хоць зьмест граматаў стаў ведамы дасьледнікам зь першым іх друкам М. Круповічам у 1858 годзе, але абставіны й прычыны іх выстаўленьня ды іх значэньне для біяграфіі доктара Скарыны асэнсаваць у паўніні было можна толькі з выяўленьнем у 1926 годзе М. Вайцяхоўскай у архівах места Пазнаня актавых запісаў датычных да доктара Скарыны ды ягонага брата Івана. Зь іх можна было даведацца пра тое, што Іван Скарына вёў гуртовы гандаль скурамі ды ў Пазнані, пад домам Якуба Корбы, меў вялікія склады. Калі ў ліпені 1529 году Іван Скарына памёр, 23 кастрычніка

таго самага году ўлады места Пазнаня правялі, у прысутнасьці Іванавага сына Рамана ды доктара Франьцішка Скарыны, афіцыйны ўлік ды ацэну скураў, якіх знойдзена было 47 468, ды зрабілі іх распадзел між судова зарэгістраванымі крэдытарамі нябошчыка, галоўным зь якіх быў пазнанскі гуртовы купец ды райца места Кляўз Габэрлянд. Сярод крэдытараў былі й Іванаў брат, доктар Франьцішак Скарына, ды ягоная жонка Маргарэта.

Вясной 1532 году доктар Скарына прыяжджае да Пазнаня ізноў, цяпер ужо ў справах віленскага біскупа, сакратаром ды надворным лекарам якога ён гэтым часам быў. Варшаўскія купцы, Лазар ды Масей, сын і зяць нейкага багатага купца-фінансіера Масея Старога — Moises antiquus, якім нябошчык Іван Скарына быў вінаваты даволі вялікую суму грошай, 412 польскіх злотых, а яна ня была ім па ягонай сьмерці зьвернутая відавочна таму, што пра свой доўг уладам места Пазнаня яны ў тэрміне не заявілі, выстараліся 5 лютага 1532 году з кракаўскай каралеўскай канцылярыі мандат на арышт доктара Скарыны за няплачаны доўг на той падставе, што гэта быццам ён зьяўляецца юрыдычным спадкаемнікам свайго брата. Прыезд доктара Скарыны да Пазнаня крэдытары й скарысталі, каб, на аснове мандату, запатрабаваць ад уладаў места ягонага арышту, чаго й дабіліся. Пад канец сакавіка Скарына быў ужо ў зьняволеньні.

Вестка пра арышт доктара Скарыны даходзіць хутка ў Гданск да Іванавага сына, Скарыны Рамана. Пад канец красавіка ён ужо ў Пазнані ды пачынае энэргічныя захады для звальненьня свайго дзядзькі. Уладам места Раман Скарына складае заявы аб тым, што гэта ён, як сын, запраўдны спадкаемнік свайго бацькі й таму толькі ён адказны за бацькавы даўгі, ды што гатовы гэтыя даўгі з часам і сплаціць, на паруку чаго суліў і застаў. Ды крэдытары на ніякія прапановы пазьнейшага звароту доўгу не згаджаюцца, а дамагаюцца безадвалочнае сплаты належнае сумы. А каб пад уплывам Раманавых захадаў ды гваранцыяў звароту бацькавага доўгу ўлады места часам доктара Скарыну ня звольнілі, празь нейкіх уплывовых пры двары асобаў, і, хіба, не без дапамогі грошаў, 2 травеня 1532 году крэдытары дастаюць з каралеўскае канцылярыі ў Кракаве яшчэ адзін мандат, які ў актавую кнігу места Пазнаня ўпісаны як «Мандат другі супроць доктара Скарыны Жыдамі раздабыты» — Mandatum secundum contra Skorina doctorem per Judeos acquisitum. У ім радзе места даваўся загад не звальняць доктара Скарыну пакуль ён ня сплаціць братавага доўгу.

Ды Раман Скарына дзеіў таксама энэргічна. Ці не пры дапамозе віленскага біскупа, якім тады быў уплывовы пры каралеўскім двары няшлюбны сын караля Жыгімонта, Ян «з князёў літоўскіх», Раман 24 травеня 1532 году дастае ад караля загад уладам места Пазнаня доктара Скарыну, як арыштаванага беспадстаўна, безадвалочна звольніць. На падставе вось гэтага загаду напачатку чэрвеня Скарына й быў выпушчаны з-пад арышту, прасядзеўшы ў вязніцы каля дзесяці тыдняў. 17 чэрвеня 1532 году адбываецца судовы разгляд справы доўгу Івана Скарыны. Жыдыкрэдытары, хоць гэтым часам у Пазнані й былі ды сьведамыя, відавочна, праігранае справы, на суд не зьявіліся. Доктар-жа Скарына, за спрычы-

ненную беспадстаўным арыштам крыўду, абразу, маральныя й матар'яльныя шкоды яму й віленскаму біскупу, у справах якога да Пазнаня ён прыяжджаў, дамагаўся на судзе ад крэдытараў кампэнсаты ў вышыні 6000 копаў грошаў літоўскіх.

Як із зьместу друкаваных гэтта граматаў відаць, доктар Скарына не здаволіўся поўнаю перамогай перад уладамі места Пазнаня над варшаўскімі крэдытарамі свайго брата, але ў лістападзе тагосамага году едзе да Кракава да караля сам, каб атрымаць дзьве, друкаваныя тут, прывілейныя граматы, якія забясьпечвалі-б яго ад падобных выпадкаў ды няпрыемных прыгодаў у будучыні. Для гэтага да Кракава сьцягнуў ён і свайго браценьніка Рамана Скарыну, якога й «ставяць» перад каралём асабіста для пацьверджаньня юрыдычнае асновы першае граматы, што гэта ён, і толькі ён, адказны за даўгі свайго бацькі.

Граматай першай Жыгімонт апавяшчаў сваю забарону ўсім ды ўсякім крэдытарам, «якога-б там ня былі абраду», дакучаць у будучыні доктару Скарыну хоць за якія даўгі брата Івана, паколькі адказны за іх юрыдычна толькі сын і праўны спадкаемнік Івана Скарыны — Скарына Раман. Другою кароль і вялікі князь, ад імя свайго й сваіх наступнікаў, браў доктара Скарыну пад сваю вылучную ахову, забараняючы пазываць яго да якіх там ня было-б судоў Польшчы, Літвы ці Прусіі, арыштоўваць яго ці ягоную маемасьць, змушаць яго да якіхнебудзь меставых абавязкаў ці падаткаў, ды выймаў яго адначасна з-пад юрысдыкцыі ваяводаў, гараднічых (каштэлянаў), старастаў ды іхных урадаўцаў. На будучыню доктар Скарына мог падлягаць толькі суду й уладзе самога караля й вялікага князя.

Кракаўскія граматы сьведчаць пра вялікую прыхільнасьць Жыгімонта да доктара Скарыны. У іх, магчыма, і намаганьне зацерці ў Скарыны памяць пра дазнаную нядаўна несправядлівасьць і крыўду, пры якой, дзеля хвальшывае інфармацыі крэдытараў, выкарыстаны быў аўтарытэт каралеўскае канцылярі ды й самога караля. На пачатку другой граматы прыведзеная й цікавая, вельмі пахвальная, апінія блізкіх каралеўскіх дараднікаў пра Скарыну як чалавека й як лекара. Яго, «доктара навукаў і мэдыцыны», яны ўважалі за мужа «чэснага, лекарскай нязвычайнай веды, дазнаньня ды ўмецтва». Гэтыя высокія маральныя й прафэсійныя свомасьці кароль і падае за прычыну таго, што ён бярэ доктара Скарыну пад сваю асаблівую апеку ды вылучную юрыдычную ахову.

У сьвятле пазнанскіх актавых вестак сяньня ясна, што, не зважаючы на часовы арышт, суд за доўг Івана Скарыны, як і ранейшыя суды ў Вільні за жончын дом, доктар Скарына выйграў. З гэтага вынікае, што беспадстаўныя й усе дапушчэньні некаторых біёграфаў Скарыны пра нейкую канфіскату ягонае маемасьці за жончын дом, ці братавыя даўгі, ды спрычыненую гэтак фінансавую руіну. У актах не знайсьці ніякое весткі пра нейкую, хоць-бы часовую, канфіскату ягонае маемасьці. Каб нейкая маемасьць у доктара Скарыны ў Пазнані была — пра гэта акты й ня згадваюць. Дом-жа ў Вільні, як судовай пастановай было гэта й адзначана, юрыдычна належыў не яму, а ягонай жонцы ды яе дзецям.

Падобная канфіската ў Вільні не праўдападобная й таму, што ў часе другое судовае справы доктар Скарына быў пад беспасярэднюю апекай

віленскага біскупа, у якога быў ён сакратаром ды лекарам. А віленскі біскуп тады быў ня толькі найвышшым значэньнем царкоўным дастойнікам усяго Вялікага Княства Літоўскага, але й валадаром вялікае часьці места, што падлягала царкве. Адначасна меў ён і высокія судовыя прэрогатывы. Другі, апэляцыйны, разгляд судовае справы за дом Маргарэты Скарыны вёў якраз віленскі біскуп Ян. Уходзіў віленскі біскуп і ў склад кіраўнічага ядра найвышшае дзяржаўнае рады — Рады Паноў Вялікага Княства Літоўскага.

Дык у віленскага біскупа было дастаткова ўплываў, аўтарытэту, а ў Вільні навет і ўлады, каб да нейкае несправядлівае крыўды свайму сакратару ды лекару і ў Вільні, і бадай ува ўсім Вялікім Княсьцьве, не дапусьціць. Дзеля гэтага, каб арыштаваць доктара Скарыну, варшаўскім крэдытарам і давялося чакаць нагоды ягонага прыезду ў Польшчу. Дык, на аснове актавых дадзеных сяньня можна быць пэўным, што ўсе дапушчэньні пра нейкую канфіскату Скарынавае маемасьці беспадстаўныя. Біёграфам Скарыны пара іх і вынікуць з сваіх жыцьцяпісных нарысаў выдатнага Палачаніна, як не абаснаваную на фактах лягенду.

Другая каралеўская грамата цікавая й тым, што ў ей адзін раз перад імем Скарыны Francisci, стаіць і яшчэ адно імя — Georgii. Гэта дало падставу для думкі пра існаваньне «другога» імя Скарыны ды давяло да розных мяркаваньняў пра магчымае значэньне гэтага. Ды імя Georgius — «Юры», у Скарыны не сустракаем больш ні ў водным іншым з усіх цяпер пра яго ведамых 30-ці актаў і дакумэнтаў, дзе імя ягонае згадваецца. Ніколі, ні разу, не назваў гэтым імем сябе й сам Скарына ў кнігах свайго выданьня.

Дзеля гэтага, учытаўшыся ў тэкст кракаўскіх граматаў, віленскі гісторык Гэнрык Лаўмянскі яшчэ ў 1925 годзе й выставіў тэзу, што Georgii, гэта звычайная апіска перапісчыка-капісты, які праз пасьпех ды недагляд, слова гэтае паставіў там, дзе ў арыгінале было Egregii — «Выдатнага». Накш незразумела, чаму перад імём і прозьвішчам доктара Скарыны няма ў дадзеным выпадку ніводнага слова ветлівасьці, як гэта ёсьць у грамаце першай ды як заўсёды вялося ў каралеўскіх граматах падобнага зьместу. Да гэтага, калі нехта запраўды мае два імі, дык другое, менш важнае й рэдка ўжыванае, ставіцца заўсёды па імі галоўным, а ня перад ім.

Вось гэтыя, ды й шмат іншых мяркаваньняў, пацьвярджаюць тэзу Г. Лаўмянскага, што Georgii адзіны раз у копіі аднэй адзінай граматы ня што іншае, як памылка капісты заміж Egregii. Шырэй ды вычэрпваюча гэтае пытаньне разгледжанае ў адмысловай працы: Сымон Брага — Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (ЗАПІСЫ, кн. 4. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1966, б. 184—215. Таксама адбітка, 1967, 40 б.). Да яе зацікаўленых гэтым пытаньнем і кіруем.

## LITTERAE SIGISMUNDI PRIMI REGIS POLONIAE PRO DOCTORE FRANCISCO SKORINA

Sigismundus etc. Significamus etc. Quia constitutus personaliter coram nobis providus Romanus Skorina adolescens, in aetate legitima constitutus, civis Vilnensis, exposuit, quod ipse intelligens egregium et famatum Franciscum Skorina de Poloczko

medicinae doctorem, patruum suum, per nonnullos Iudaeos, et alios creditores patris sui, famati olim Joannis Skorina civis Vilnensis, ratione debitorum paternorum trahi tamquam ipse omnia et singula bona mobilia et immobilia ipsius morte olim Joannis civis Vilnensis derelicta recepisset, debita illius solvere nollet, recognovit publice coram tamquam ipse omnia et singula bona mobilia et immobilia morte ipsius olim Joannis Skorina patris sui, Romani, derelicta, receperit, sed ipsemet Romanus ad omnia et singula eiusdem Joannis Skorina bona tamquam verus et legitimus filius et heres ipsius successerit nonnullaque debita paterna legitime probata iam exsolverit et quae soluta nondum essent, illorum solutionem praestare paratus sit, quod nos omnibus quorum interest, testatum esse volumus, praesentibus mandantes, ut praefatum doctorem Franciscum Skorina ratione quorumcumque debitorum et bonorum fratris sui germani Joannis Skorina civis Vilnensis praedicti ad cuiuscumque instantiam ad iudicia vestra non evocetis nec iudicetis, sed illum ab omni impetitione et instantia quorumcumque creditorum cuiuscumque ritus ratione praedictorum et debitorum per ipsum olim Joannem Skorina fratrem eius contractorum absolvatis, non obstantibus quibuscumque litteris nostris, sub quovis verborum tenore et sub quacumque data de cancellaria nostra contra illum editis, quem et nos absolvimus ac absolutum esse ab eorum solutione declaramus et decernimus per praesentes. Quibus in testimonium sigillum nostrum est impressum. Datum Cracoviae feria quinta festi Praesentationis sanctae Mariae anno MDXXXII, regni nostri XXVI. Relatio reverendissimi in Christo patris domini Petri episcopi Cracoviensis et regni Poloniae vicecancellarii.

## ГРАМАТА ЖЫГІМОНТА ПЕРШАГА, КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ, ДОКТАРУ ФРАНЬЦІШКУ СКАРЫНУ

(Кракаў, 21 лістапада 1532 году).

Жыгімонт і г. д. Апавяшчаем і г. д. Таму, што стаўлены перад намі асабіста, разважны, у веку правам вымаганым, юнак Раман Скарына, мешчанін віленскі, выясьніў, што ён даведаўся, як дастойны й слаўны Францішак Скарына, доктар мэдыцыны з Полацка, ягоны дзядзька, празь некаторых Жыдоў ды іншых крэдытараў ягонага бацькі, слаўнага калісь Яна, мешчаніна Віленскага, цягаецца (па судох) за бацькавы даўгі, якіх ня хоча моў сплачваць з быццам забранага цэласна й паадзіночна астаўшагася па сьмерці таго-ж Яна, мешчаніна Віленскага, дабра рухомага й нярухомага; — і зызнаў (той-жа Раман Скарына) публічна перад намі, што вышменаваны доктар Францішак Скарына ніякага дабра (маемасьці), астаўшагася па сьмерці ўспомненага Яна Скарыны, бацькі ягонага, Раманавага, не атрымаў, але ён сам, Раман, цэласна й паадзіночна таго-ж Яна Скарыны маемасьці, як праўдзівы й законны сын і спадкаемнік ягоны ўнасьледзіў і некаторыя бацькавы даўгі, праўна ўдаводненыя, ужо сплаціў ды й яшчэ нясплачаныя гатоў сплаціць; — мы (Кароль) гэта (зызнаньне) хочам, каб было асьветчана ўсім, каго датычыць, (і) загадваем гэтым вось (лістом): каб вышменаванага Францішка Скарыну на ніякія наставаньні да вашых судоў не пазывалі й ня судзілі з рацыі некіх даўгоў і маемасьці брата яго роднага Яна Скарыны, вышуспомненага мешчаніна Віленскага, але каб звольнілі яго ад усякай жмуды й наставаньня ўсякіх

крэдытараў, якога-б там ні былі абраду, з прычыны менаваных даўгоў, праз таго-ж калісь Яна Скарыну, ягонага брата, зацягненых; (і-то) паміма супрацiўных яму нашых, якога-б ні былі зьместу ды даты, якіхнебудзь лістоў, канцылярыяй нашай выданых; яго-то й мы звальняем і за звольненага ад сплаты іх (даўгоў) аглашаем ды дэкрэтуем гэтым вось (лістом), на якім у засьветчаньне адціснута наша пячаць. Дана ў Кракаве, у чацьвер, на сьвята Ахвяраваньня Найсьвяцейшай Марыі (21. XI) году 1532, караляваньня нашага XXVI. Рэляцыя найдастойнейшага ў Хрысьце айца й спадара нашага Пятра (Таміцкага), біскупа кракаўскага і віцэканцлера каралеўства польскага.

## LITTERAE SIGISMUNDI PRIMI REGIS PRO DOCTORE FRANCISCO SKORINA DE POLOCZKO

Sigismundus etc. Significamus etc. Quia nos annuentes supplicationibus quorundam consiliariorum nostrorum ac commendatam habentes virtutem et doctrinam in arte medica non vulgarem, peritiam et dexteritatem Georgii[1] Francisci Skorina de Poloczko artium et medicinae doctoris eumque singulari gratia nostra propterea prosequi volentes, illi hanc immunitatem et praerogativam dandum et concedendum duximus damusque et conferimus tenore praesentium sic videlicet, ut nemo tam in Regno quam in magno ducatu nostro Lithuaniae et terris Prussiae Samogithiaeque aliisque dominiis nostris in quacumque causa magna vel parva illum citandi, ad iudicia trahendi et iudicandi potestatem habeat praeter nos ipsos successoresque nostros. Cui quidem doctori Francisco maiorem gratiam facientes, plenam securitatem praestamus et concedimus ac illum in tuitionem, in protectionem nostram, accipimus, ut sub ea sit in omnibus locis Regni nostri ac magni ducatus Lithuaniae praedicti et aliorum dominiorum nostrorum securus ab omni violentia quarumcumque personarum nemoque illum aut eius bona detinere aut arrestare possit sub gravi poena pro arbitrio nostro imponenda eundemque doctorem Franciscum in ea civitate et loco, in quo sibi mansionem delegerit, esse exemptum et liberum volumus ab omni onere et servitio civili ipsumque et liberum facimus ab eo ipso onere civili quocumque eximimusque etiam illum a iurisdictione et potestate omnium et singulorum palatinorum, castellanorum, capitaneorum aliorumque dignitariorum, officialium et iudicum quorumcumque. Ut autem idem ipse doctor Franciscus Skorina huiusmodi praerogativis et immunitatibus, per nos illi gratiose, concessis securius et commodius frui possit, universis et singulis cuiuscumque status et condicionis, dignitariis, officialibus ac Regni et magni ducatus Lithuaniae Samogithiaeque aliorumque dominiorum nostrorum iudicibus quibuscumque ac civitatum et oppidorum proconsulibus et consulibus, advocatis, scabinis et communitatibus et generaliter universis subditis nostris in Regno et magno ducatu Lithuaniae aliisque dominiis nostris firmiter praesentibus committimus et mandamus, quatenus dictum doctorem Franciscum, quem in protectionem nostram suscepimus, praedictis libertatibus, immunitatibus et praerogativi uti, frui, potiri et gaudere permittatis in illisque eum conservetis et de causis

---

[1] Цяпер высьнена, што „Georgii“ тут зьявілася праз недагляд канцылярыйнага перапісчыка гэтага дакумэнту, які паставіў „Georgii“ ў копіі там, дзе ў арыгінале было „Egregii“ — «Выдатнага». Як паказвае ўся актавая літаратура датычная да Скарыны ды ўсе ягоныя выданьні, доктар Скарына меў толькі адно імя, якое толькі й ужываў — *Франьціщак.*

eius praefatis generaliter quibuscumque magnis sive parvis se intromittere et aliquam vim illi inferre vel bona eius arrestare seu detinere aut eundem Franciscum doctorem ad aliqua onera et servitia civilia more aliorum civium illius civitatis, in qua domicilium sibi delegerit, obeunda compellere non audeatis nec aliquis vestrum audeat sub poena nostra pro arbitrio nostro ut praemissum est imponenda, quod ad omnium et singulorum quorum interest notitiam deducimus et deduci volumus. Harum testimonio litterarum, quibus sigillum nostrum est appensum. Datum Cracoviae feria secunda festi sanctae Katherinae virginis anno Domini millesimo quingentesimo tricesimo secundo, regni vero nostri XXVI.

## ГРАМАТА КАРАЛЯ ЖЫГІМОНТА ПЕРШАГА ДОКТАРУ ФРАНЬЦІШКУ СКАРЫНУ З ПОЛАЦКА

(Кракаў, 25 лістапада 1532 году)

Жыгімонт і г. д. Апавяшчаем і г. д. Таму што мы — прыхіляючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дараднікаў ды маючы рэкамэндацыю маральнасьці й нязвычайнай лекарскай веды, досьледу й зручнасьці Выдатнага[2] Франьцішка Скарыны з Полацка, доктара мастацтва й мэдыцыны, ды хочучы дзеля гэтага абзасобіць яго асаблівай нашай ласкай — знайшлі патрэбным (наважылі) прызнаць яму й даць, ды й даём і конфэруем гэтым вось (лістом) імунітэт (незачэпнасьць) і прэрогатыву (прывілей) наступнага зьместу: каб апрача нас і нашых наступнікаў — так у Каралеўстве нашым, як і ў вялікім княсьцве Літоўскім і на землях Прускіх, Жамойцкіх ды ў іншых валаданьнях нашых — ніхто ня меў права пазываць яго на суд ды асуджаць у справах вялікіх, ці малых. Гэтаму-ж доктару Франьцішку, аказваючы (яшчэ) большую ласку, узычаем і прызнаём поўную абясьпеку, бяручы яго пад нашу ахову й пратэкцыю, каб ёю быў забясьпечаны ўва ўсіх мясцох нашага Каралеўства й вышуспомненага княства Літоўскага ды ў іншых валаданьнях нашых ад усякага насільства якіхнебудзь асоб, ды каб ніхто ня мог затрымоўваць і арыштоўваць яго, ці дабро ягона — (і-то) пад цяжкаю карай, (якая) водле нашага асуду павінна быць наложана. Жадаем такжа, каб гэты-ж самы доктар Франьцішак быў выняты й вольны ад усякіх налогаў (падаткаў) і службы цывільнай (публічнай) у тым горадзе й месьце, у якім ён сабе выбярэ памешканьне. Затым хочам мець яго вольным ад усякага цяжару цывільнага й выймаем (звальняем) яго такжа з-пад юрысдыкцыі ды ўлады ўсіх і паасобных ваяводаў, гараднічых, старастаў ды іншых афіцыйных дастойнікаў усякіх і судзьдзяў. А каб той-жа доктар Франьцішак Скарына мог пэўней і свабадней карыстаць з прывілеяў ды імунітэтаў, ласкава яму праз нас даных, моцна паручаем і загадваем гэтым лістом усім і паадзіночна ўсякага становішча й забавязаньня дастойнікам, афіцыялам, а такжа Каралеўства й вялікага княства Літоўскага ды іншых нашых валаданьняў судзьдзям усім, ды й бурмістрам местаў і мястэчак, радным, адвакатам, лаўнікам, людзям простым, ды наагул усім нашым падданым у Каралеўстве, у вялікім княсьцьве Літоўскім ды ў іншых ва-

[2] Глядзі вышэй зноску 1.

ладаньнях нашых — каб вышменаванаму Франьцішку, якога мы ўзялі пад нашую пратэкцыю, пазвалялі ўжываць, карыстаць, асягаць ды цешыцца з выказаных тут вольнасьцяў, імунітэтаў і прывілеяў, ды ў іх яго захавалі; каб ня сьмелі й ніхто з вас не адважваўся пад карай нашай, пастановай нашай наложанай, умешвацца ў ягоныя вышуспомненыя справы як вялікія, так і малыя; гвалтам прынукаць, або арыштоўваць, ці затрымоўваць ягоныя рэчы, або прыняволіваць таго-ж доктара Франьцішка да падаткаў, ці абыднага грамадзка-публічнага адработку таго места, дзе будзе жыць. Даводзім гэта да ведама ўсім і паасобку тым, каму належыцца гэта ведаць, пасьветчываючы гэтым лістом, да якога прывешана пячаць наша. Дана ў Кракаве, у панядзелак (у дзень) Сьвятое Кацярыны дзевы (25. XI), году Божага 1532, а каралянваньня нашага XXVI.

# Угодкавая скарыніяна

## ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Угодкі беларускага друку, 450 гадоў ад выхаду 6 жнівеня 1517 году ў Празе першае Скарынавага друку кнігі, ПСАЛТЫРА, асабліва шырака адзначаныя былі ў 1967 годзе за межамі роднае Франьцішку Скарыну зямлі. Акадэміі, выстаўкі, рэфэраты, радыёперадачы, юбілейныя артыкулы ў прэсе ды адмысловыя выданьні ўшанавалі належна выдатныя ўгодкі беларускае культуры на трох кантынэнтах сьвету — у Эўропе, Амэрыцы, Аўстраліі. Коратка адзначым тут важнейшае.

У Злучаных Стэйтах Амэрыкі, у Ню Ёрку, угодкавае навуковае паседжаньне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва адбылося 11 лістапада 1967 году ў залі Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Рэфэраты чыталі прафэсар Антон Адамовіч пра мову доктара Скарыны ды д-р Вітаўт Тумаш пра ягоны жыцьцёвы шлях у сьвятле выяўленых апошнім часам новых актавых ды летапісных ведамак. Захадамі сп. Антона Шукялойця наладжаная была адначасна выстаўка. Каля сарака рэпрадукцыяў знаёмілі прысутных з графічна-мастацкімі асаблівасьцямі праскіх і віленскіх Скарынавых выданьняў. Узоры загаловачных бачынаў, набору тэксту й арыгінальнае ломкі, дрэварытныя ілюстрацыі, заставіцы, ініцыялы, фатарэпрадукцыя ўсяго, цікавага вельмі, Скарынавага календара, раскрывалі прысутным высокі нязвычайна мастацкі ўзровень выданьняў Скарыны.

Выстаўленая была адначасна на паказ і калекцыя Інстытуту актавых матар'ялаў пра доктара Скарыну ў фатаграфіях з арыгіналаў — фатаадбіткі каля 30-ці актавых запісаў з Падуі, Каралеўца, Пазнаня. Паказаныя былі й некаторыя важнейшыя скарынаведныя выданьні, найперш каштоўныя аўтаграфаваныя працы ведамага выдатнага скарыністы прафэсара А. В. Флароўскага, навейшыя працы С. Брагі, рэдкае выданьне — скарынінскі юбілейны зборнік 1926 году менскага Інстытуту Беларускае Культуры «Чатырохсотлецьце беларускага друку» — кніга, якая колькі гадоў па выхадзе была савецкімі ўладамі сканфіскаваная ды зьнішчаная. Выстаўку аздаблялі абразы мастакоў — «Доктар Скарына ў друкарні» Пётры Сяргіевіча (рэпрадукцыя) ды алейны партрэт доктара Скарыны пэндзля ведамага мастака Пётры Мірановіча. Адцеміць трэба, што была гэта ня першая ўжо выстаўка пра доктара Скарыну ў Ню Ёрку. Вялікую выстаўку, што трывала колькі месяцаў, наладзіў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва і ў 1963 годзе.

Зь іншых местаў Злучаных Стэйтаў Паўночнае Амэрыкі ўгодкі друку Скарыны адмысловым вечарам з рэфэратам адзначыў Кліўленд ды выстаўкаю Чыкага. Ужо напачатку 1968 году вялікаю выстаўкай «450 гадоў

беларускага друку» ўшанавала Скарынавыя ўгодкі й адна з найбольшых бібліятэкаў сьвету — Публічная Бібліятэка Ню Ёрку.

Акадэмію для ўшанаваньня 450-х угодкаў беларускага друку 17 верасьня 1967 году сарганізавала ў Тароньце Згуртаваньне Беларусоў Канады. Рэфэраты на акадэміі чыталі — прадстаўнік канадыйскіх уладаў сп. Г. П. Аллен і д-р В. Жук-Грышкевіч. Адначасна д-р Раісай Жук-Грышкевіч наладжаная была выстаўка старога беларускага друку. Блізу ўсе экспанаты выстаўкі, разам каля 60-ці, пазычаныя былі для гэтага із збораў скарыніяны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку. Абразы, карты, малюнкі, рэпрадукцыі друкаў, дрэварытаў, адзначалі галоўныя этапы жыцьця й дзейнасьці доктара Скарыны.

Выстаўку раскрываў разьдзел пра дзейнасьць доктара Скарыны ў тых ведамых дзевяці асяродках, у якіх давялося яму быць: Полацку, Вільні, Кракаве, Капэнгазе, Падуі, Празе, Каралеўцы, Пазнані, Маскве. Праведзеная на карце Эўропы траса вандровак Скарыны ад Падуі й Капэнгагі на захадзе, да Масквы на ўсходзе, ды партрэты цэлае пляяды выдатных палітычных і культурных дзеячоў Эўропы пары Рэнэсансу, жыцьцё й справы якіх скрыжаваліся з жыцьцём і дзейнасьцяй доктара Скарыны, вобразна ілюстравалі нязвычайна шырокія эўрапейскія кантакты Скарыны. Паказаныя былі, у рэпрадукцыі, і Скарынавы праскія ды віленскія кнігі ўва ўсей іх графічна-мастацкай красе: загаловачныя бачыны, дрэварытныя ілюстрацыі, вялікія й малыя заставіцы, аздобныя пачатковыя літары. Выстаўку зачыняў разьдзел Скарынавых важнейшых папярэднікаў і пасьлядоўнікаў з узорамі іх друкаў і іх партрэтамі — Ш. Фэоля, С. Буднага, В. Цяпінскага, П. Трубэра, ды некаторых іншых.

Адзначыць трэба, што ў юбілейным годзе на тэрыторыі Канады колькі месяцаў на публічным паказе гасьцілі й арыгінальныя кнігі Скарыны. На сусьветнай выстаўцы ЭКСПО/67 у Монтрэалі, у павілёне СССР, выстаўленыя былі дзьве, выдадзеныя Скарынам у Празе, біблійныя кнігі. Адна зь іх, гэта Кніга Ёвы, другое пасьля Псалтыра праскае выданьне Скарыны.

У Англіі ўгодкі друку Скарыны рэфэратамі й адмысловымі выстаўкамі адзначыў Беларускі Музэй у Лёндане. Выстаўка ў Лёндане ў сваей першай частцы паказвала рэпрадукцыі з кнігаў Скарыны, пераважна тых, што перахоўваюцца ў бібліятэцы Брытанскага Музэю ў Лёндане. У другой ілюстравала выдавецкую дзейнасьць пасьлядоўнікаў Скарыны — Цяпінскага, Зызанія, братоў Мамонічаў і віленскай брацкай друкарні. У трэйцяй дала некаторую навуковую літаратуру пра доктара Скарыну. Рэфэрат у Манчэстэры чытаў а. Леў Гарошка.

У 1968 ужо годзе Пантыфікальны Інстытут вывучэньня Ўсходу ладзіў у Рыме навуковую канфэрэнцыю, даклад на якой «450-годзьдзе перакладу й друку Бібліі ў беларускай мове» чытаў біскуп Часлаў Сіповіч. У Аўстраліі рэфэрат з нагоды ўгодкаў друку 7 кастрычніка 1967 году ў Сыднэі меў д-р Язэп Малецкі. Рэфэратам угодкі былі адзначаныя 26 лістапада 1967 году й у Мэльбурне.

Юбілею беларускага друку адведзеныя былі й шматлікія артыкулы ў пэрыядычным, пераважна беларускім, друку Эўропы й Амэрыкі, а таксама адмысловыя радыёперадачы. Пра доктара Скарыну й угодкі беларускага друку большую інфармацыю даў і публікаваны ў Парыжы трыма выданьнямі паралельна — паангельску, пафранцузку й пагішпанску — бюле-



*На выстаўцы «450 гадоў беларускага друку» што была наладжаная Згуртаваньнем Беларусоў Канады ў Тароньце.*

тэнь міжнароднае арганізацыі Задзіночаных Нацыяў для справаў культуры ЮНЭСКО — UNESCO FEATURES, Nr. 511, з 11 верасьня 1967 году.

Адзначылі ўгодкі скарынавага друку й Беларусы Польшчы, найперш Беласточчыны. Колькі ўгодкавых артыкулаў паказалася ў беластоцкім тыднёвіку «Ніва» ды «Беларускім календары» Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы.

У галіне выдавецкай Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў юбілейным годзе асобным выданьнем выдаў працу Сымона Брагі «Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры». Падрыхтаваны да друку Інстытутам вялікі зборнік найнавейшае навуковае скарыніяны дзеля фінансавых перашкодаў паказацца змог толькі цяпер ды ў памеры меншым за плянаваны.

Сумуючы: угодкі выдатнага культурнага пачыну доктара Францішка Скарыны былі за межамі Беларусі адзначаныя вялікім лікам угодкавых імпрэзаў характару й папулярнага, і навукова-акадэмічнага, ды ў шырокім сусьветным засягу. У выніку зацікаўленьне сьвету асобаю доктара Скарыны, беларускім друкам і беларускім народам паважна ўзрасло.

*С. Б.*

# ВЫСТАЎКА ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭКІ НЮ ЁРКУ

Вялікую выстаўку «450 гадоў беларускага друку» наладзіла ў 1968 годзе добра навуковаму сьвету сваімі багатымі зборамі ведамая Публічная Бібліятэка Ню Ёрку. Бібліятэка гэтая адна з найбольшых у Злучаных Стэйтах Амэрыкі й сьвеце. У ейных фондах сяньня больш 30-ці міліёнаў пазыцыяў, 14 міліёнаў з чаго гэта кнігі й брашуры, каля 10 міліёнаў рукапісаў, 6 міліёнаў абразоў, гравюраў, малюнкаў, ды іншага.

Велічынёй, навуковым узроўнем ды міжнародным засягам узьдзеяньня, выстаўка Публічнай Бібліятэкі была найбольш рэпрэзэнтацыйнай навуковай імпрэзай для адзначэньня 450-гадовага юбілею беларускага друку. Для яе значаньня сваю вагу мела й сама навуковая аўтарытэтнасьць амэрыканскае ўстановы, што яе арганізавала, і факт, што наладжаная яна была ў цэнтры той інтэрнацыянальнай мітраполіі, дзе сяньня крыжуюцца эканамічна-палітычныя й культурна-духовыя справы сьвету.

Падрыхтова выстаўкі вялася больш паўгоду, сама-ж выстаўка трывала пяць месяцаў — ад 1 сакавіка да 29 ліпеня 1968 году. У гэтым часе даступная яна была для агляду тысячам наведвальнікаў бібліятэкі ад 9-е гадзіны раніцы да 10-е вечара штодзённа. Бібліятэка выдала адмысловы прэсавы камунікат пра выстаўку ды сотні, з партрэтам доктара Скарыны на ім, плякатаў, што, разам з камунікатам, разасланыя былі ўва ўсе бібліятэкі Ню Ёрку ды соткі важнейшых навуковых установаў — музэяў, архіваў, бібліятэкаў, унівэрсытэтаў, акадэміяў, — усіх пяці кантынэнтаў сьвету. Каля сарака плякатаў і камунікатаў накіравана было розным установам і выдавецтвам у Беларускай ССР. Перад клясычнаю калюмнадай бібліятэчнай фасады, на рэпрэзэнтацыйнай Пятай Авеню Мангэтану, побач слаўнае ўжо эмблемы бібліятэкі — яе двух гранітных ільвоў — праз увесь час выстаўкі красаваўся вялікіх памераў плякат з партрэтам на ім доктара Скарыны зь ягонае Бібліі.

Разьмешчаная была выстаўка ў прасторнай галярэі другога паверху бібліятэкі. Экспанавала яна больш 200 кнігаў, брашураў, часапісаў, партрэтаў, абразоў, картаў, гравюраў, фатарэпрадукцыяў беларускіх старадрукаў ды графічных іх аздобаў. Апрача трынаццаці вялікіх выставовых сталоў-вітрынаў, экспанаты, — найперш апраўленыя ў рамы пад шклом партрэты ды абразы, — займалі й сьцены галярэі. Усе вітрыны выстаўкі мелі свае паясьняльныя, у ангельскай мове, даведкі, а ўсе экспанаты — бібліяграфічныя анатацыі.

Ладзіў выстаўку Славянскі аддзел бібліятэкі й яе падрыхтова вялася пад агульным наглядам кіраўніка аддзелу д-ра Джана Міша. Галоўным плянавіком і арганізатарам выстаўкі быў д-р Вітаўт Кіпель. Дзейны ўдзел у яе падрыхтове прыймалі др Віктар Корасар, сп. Дэніс Лой, сп-ня Зора Кіпель, сп-ня Рут Кімбал, сп. А. Лучынскі, сп. А. Мэдына ды сп. Ю. Эўстафіяў. Радамі й важнымі экспанатамі ў наладжаньні выстаўкі істотна дапамог Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

Каб мець лепшую ўяву пра характар паказаных на выстаўцы друкаў і матар'ялаў, ніжэй даецца кароткі агляд экспанатаў усіх 13-ці вітрынаў выстаўкі з частковым пераказам зьместу паясьняльных да іх даведак.




*Плякат выстаўкі Публічнай Бібліятэкі Ню Ёрку «450 гадоў беларускага друку» перад фасадай бібліятэкі на Пятай Авеню Мангэтану.*

Даўжэйшая інфармацыйная даведка вітрыны першай уводзіла гледача ў агульны зьмест і галоўнае заданьне выстаўкі: адзначыць важнейшыя этапы разьвіцьця беларускага друку за 450 гадоў яго існаваньня, паказаць на прыкладах яго пачаткі, уздымы й занялады, яго сучасны стан. Давала яна адначасна абшырную інфармацыю пра жыцьцё й дзейнасьць доктара Францішка Скарыны, пра ягоную адукацыю на ўнівэрсытэтах Эўропы завершаную дактаратамі навукаў вызваленых і мэдыцыны, пра тыповыя для дзеяча пары Рэнэсансу Скарынавы шматкірунковыя інтэлектуальныя зацікаўленьні, што ахоплівалі тэалёгію, літаратуру, мову, мастацтва, права, астраномію, мэдыцыну, батаніку, друкарства. Зьвернутая была ўвага й на нязвычайна шырокі геаграфічна дыяпазон падарожжаў і дзейнасьці Скарыны, што кранулі Вільню, Кракаў, Капэнгагу, Падую, Прагу, Пазнань, Каралавец, Маскву. Высокая акадэмічная адукацыя дала доктару Скарыну дасканалую падгатову на тое, каб прыступіць да выпаўненьня найважнейшага задуму свайго жыцьця — перакладу на беларускую мову й друку Біблії. Скарына ня толькі піянер друку й ахвярны ідэйны выдавец кнігаў. Ён адначасна й перакладнік, камэнтатар, рэдактар, аўтар цікавых вельмі даўжэйшых уводных прадмоваў да выдаваных ім кнігаў, у якіх адбітак

глыбокіх ідэйных матываў ягонага выдавецкага пачыну, у іх і шчыры патрыятызм, любоў да свайго краю, народу, яго мовы, ды адлюстраваньне шырокага гуманістычнага сьветагляду.

Вітрына першая давала, у фатарэпрадукцыі, узоры Скарынавых праскіх друкаў: прыклады прадмоваў, тэксту, высокамастацкіх дрэварытных ілюстрацыяў, заставіцаў, аздобных ініцыялаў, якімі зь вялікім мастацкім густам аздобленыя былі выданьні Скарыны. Дзеля нязвычайна высокага ўзроўня мастацка-графічнага афармленьня кнігі Скарыны адмыслоўцы ці раз называлі «славянскімі эльзэвірамі».

У вітрыне 2-ой разьмешчаныя былі прыклады з двух віленскіх выданьняў доктара Скарыны — Апостала й Малой падарожнай кніжкі. Дадзеныя былі тут узоры загаловачных бачынаў, прадмоваў, іх тэксту, развароту Скарынавага календара, прыклады віленскіх большых і меншых заставіцаў, узоры характэрнага для Скарыны набору апошніх бачынаў кнігаў. Побач памешчаныя былі фатаадбіткі лацінскіх актавых запісаў пра слаўны экзамен Скарыны на доктара лекарскіх навукаў на Падуанскім унівэрсытэце ў лістападзе 1512 году, а таксама — фатаадбітка пісанае пачэску граматы караля Фэрдынанда І, выстаўленае ў 1552 годзе ў Празе Скарынаваму сыну Сымону на росшук і спагон маемасьці ды кнігаў бібліятэкі памерлага бацькі.

У вітрыне 3-й было паказана колькінаццаць важнейшых публікацыяў з галіны навуковае скарыніяны, пачынаючы з працаў канца XVIII — пачатку XIX стагодзьдзяў ведамага выдатнага «патрыярха чэскае й славянскае філялёгіі» Язэпа Даброўскага. Быў тут цікавы, цяпер толькі выяўлены, нарыс ангельскага тэалёга Э. Гэндэрсона (1826) пра асаблівасьці перакладу доктара Скарыны, ведамая шырэй манаграфія П. Валадзімірава 1888 году, менскі скарынінскі юбілейны зборнік «400-лецьце беларускага друку» (1926), працы Ул. Пічэты, А. В. Флароўскага, М. Аляксютовіча, С. Брагі, А. Няміроўскага, ды іншых аўтараў.

Над трымя першымі вітрынамі, што адведзеныя былі выдавецкай спадчыне выдатнага Палачаніна, разьмешчаныя былі на сьцяне й партрэты доктара Скарыны: рэпрадукцыя ведамага дрэварытнага партрэту зь ягонае Бібліі, фатарэпрадукцыя партрэту Скарыны што на Падуанскім унівэрсытэце, выкананага італіянскім мастаком Джыякомо даль Форно, вялікі, адмыслова для выстаўкі выкананы, дрэварытны партрэт мастачкі Тамары Стагановіч-Кольбы й партрэт алейны пэндзля ведамага мастака Пётры Мірановіча (1967). Побач і каляровая, у значным павялічэньні, фатарэпрадукцыя загаловачнае бачыны да ўсей Скарынавай праскай Бібліі. Былі тут таксама арыгінальныя гравюры XVI стагодзьдзя зь відамі тагачаснае Вільні ды Прагі, ды вялікія табліцы з рэпрадукцыяй сотняў большых і меншых аздобных ініцыялаў і заставіцаў з праскіх і віленскіх выданьняў доктара Скарыны.

Вітрына 4-я памяшчала ўзоры кнігаў першых трох выдатных Скарынавых пасьлядоўнікаў у галіне беларускага друку — Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага ды гэтмана Рыгора Хадкевіча. Тут, у рэпрадукцыі, загаловачная бачына, ды бачыны з прысьвятаю й каляфонам «Катихісиса» Буднага 1562 году зь нясьвіскае друкарні. Тут бачыны «Эвангельля» Цяпінскага зь ягонай-жа друкарні ў радавым Цяпіне. Побач разварот заблудаўскага «Евангелія оучительнаго» 1569 году выданьня гэтмана Рыгора Хадкевіча, а набору й друку ведамых друкароў, уцекачоў з Масквы, Івана Хведаровіча

ды Пётры Мсьціслаўца. Тут і гэрб гэтмана Хадкевіча з заблудаўскага эвангельля. Формы літараў у кнігах Буднага й Цяпінскага, як і цэлыя звароты ў прадмовах — скарынінскія. Тое самае й у прадмове гэтмана Хадкевіча да заблудаўскага эвангэльля — сказы перанятыя, блізу даслоўна, з прадмовы доктара Скарыны да кнігі Царстваў. На ўсё гэта зьвяртае ўвагу адпаведная анатацыя. Над вітрынай на сьцяне, у павялічэньні, гравюрныя, з XVI стагодзьдзя, партрэты Буднага й Цяпінскага.

Вітрына 5-я адведзеная была найперш паказу важнейшых выданьняў аднэй зь першых камэрсыйных беларускіх друкарняў, друкарні, што, не зважаючы на гістарычныя завірухі ды рэлігійныя закалоты пары, праіснавала ў Вільні больш палавіны стагодзьдзя, ды з пад друкарскіх прэсаў якое вышла больш 60 кнігаў — друкарні Дому Мамонічаў. У цэнтры тут найкаштоўнейшы экспанат усяе выстаўкі — арыгінальнае, раскошнае in folio, «напрэстольнае» эвангельле, якое, пры фінансавай дапамозе Мамонічаў, выдаў у 1575 годзе ў Вільні ведамы беларускі друкар Пётра Мсьціславец. Кніга разгорнутая пры пачатку эвангельля сьвятога Лукаша, зь вялікай, дэкарацыйна выкананай, дрэварытнай гравюрай эвангелісты на левай балоне развароту. Экспанаваны экзэмпляр эвангельля ў вельмі добрым стане, перахоўваецца ён у ваддзеле рэдкае кнігі бібліятэкі. Побач эвангэльля — каляровая рэпрадукцыя натуральнае вялічыні другога, выдадзенага ўжо коштам канцлера Льва Сапегі, рэпрэзэнтацыйнага друку друкарні Дому Мамонічаў — слаўнага Літоўскага Статуту 1588 году, ды тут-жа й рэпрадукаваная загаловачная бачына першае друкаванае беларускае кнігі сьвецкага зьместу наагул — «Трыбунал обывателем великого Княства Литовского» — што вышла коштам другога канцлера, Аўстахія Валовіча. Аздабляе вітрыну гэрб Лукаша Мамоніча ды колькі арыгінальных аздобных ініцыялаў зь беларускіх, пераважна супрасьльскіх, старадрукаў.

Аддзел выстаўкі адведзены старому беларускаму друку замыкала вітрына 6-я, у якой узоры выданьняў двух друкарняў сьвятатраецкага брацтва — друкарні віленскай ды ў Еўі, друкарні Кутэйнскай, ды іншых, і найперш тых, на друках якіх выразны сьлед уплываў графічнае тэхнікі Скарынавых выданьняў. Тут бачыны й заставіцы зь віленскае «Граматыкі» Л. Зызанія 1596 году, кутэйнскага «Часаслова» й «Дыдаскалії» 1637 году. Побач — табліца з сучаснымі беларускімі, кірылічнымі й лацінічнымі, альфабэтамі, з пададзенай ангельскай транскрыпцыяй іх літараў. На сьцяне, у рамах пад шклом, вялікія табліцы з каляровымі рэпрадукцыямі колькінаццаці беларускіх выданьняў XVI—XVIII стагодзьдзяў розных друкарняў віленскіх, друкарні ў Еўі, Супрасьлі, ды іншых. Тут-жа карта друкарняў XVI—XVIII стагодзьдзяў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Даўжэйшая інфармацыйная даведка вітрыны ўводзіла гледача ў галоўныя прычыны заняпаду беларускага друку ў XVIII—XIX стагодзьдзях: палянізацыю, а пазьней і русыфікацыю, вышэйшых сацыяльна слаёў народу, забарону 1859 году царскай уладай беларускага друку.

Пад партрэтам рэдактара першае беларускае газэты Кастуся Каліноўскага, у вітрыне 7-ай, раскрывалася пара новага беларускага друку. Тут прыклады беларускага, легальнага й нелегальнага, лацінічнага й кірылічнага, друку XIX ды пачатку XX-га стагодзьдзяў. У рэпрадукцыі нумары 2-гі й 3-ці «Мужыцкае праўды» Каліноўскага 1862 году, арыгінал беларускае лёнданскае 1903 году палітычнае брашуры, таксама арыгіналы

першага нумару «Нашае долі» 1906 году ды нумару 2-га «Нашае нівы» году 1907-га. У арыгінале й кніга першага літаратурнага часапісу «Маладая Беларусь» 1913 году, зборніка крытычных літаратурных нарысаў А. Навіны «Нашыя песьняры», ды колькі іншых выданьняў пары. На сьцяне — партрэты першых піянераў беларускага новага друку — Ф. Багушэвіча, Івана й Антона Луцкевічаў, А. Уласава, А. Пашкевічанкі (Цёткі).

Вітрына 8-ая адведзеная была розным менскім і віленскім друкам 1920-х гадоў, найперш выданьням менскага Інстытуту Беларускае Культуры. Тут зборнік «Працы Акадэмічнае канфэрэнцыі 1926 году», слоўнікі Інстытуту сэрыі беларускае навуковае тэрміналёгіі, тамы збору твораў Я. Купалы й М. Багдановіча, часапісы «Узвышша» й «Наш край» — усё выданьні, што пазьней былі партыйнымі ўладамі сканфіскаваныя, як «нацыяналдэмакратычныя». Побач віленскі «Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства», ды колькі іншых публікацыяў.

Вітрына 9-ая давала больш дваццаці кніжак розных і менскіх, і замежных беларускіх сучасных выдавецтваў, як «Дыялектычны атляс беларускае мовы», «Беларуска-расейскі слоўнік», колькі слоўнікаў іншых, акадэмічную «Граматыку беларускае мовы», розныя ілюстраваныя выданьні для моладзі й дзяцей. Тут і сучасныя беларускія, беластоцкі ды нюёрскі, календары, ды — ніводнага календара з БССР, паколькі беларуская рэспубліка ад даўжэйшага часу ніякіх календароў для беларускага народу ня выдае.

Вітрына 10-я канцэнтравала важнейшыя пэрыядычныя й непэрыядычныя выданьні сучасных навуковых установаў БССР і замежных — Акадэміі навук БССР, Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Ню Ёрк — Мюнхен), Крывіцкага Навуковага Таварыства (Ню Ёрк), ды іншых. Зь менскіх выданьняў паказаныя былі ўсе сэрыі часапісу «Весьці Акадэміі навук БССР» ды выданьні кніжныя самой акадэміі й яе розных інстытутаў. Былі тут і «Запісы» ды «Конадні» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, ды колькі выданьняў кніжных і Інстытуту, і Крывіцкага Навуковага Таварыства, ды «Навуковы зборнік» Беларускага навуковага таварыства ў Беластоку. Разам у вітрыне больш дваццаці пэрыядычных і кніжных, навуковага зьместу, выданьняў.

Стол вітрыны 11-ай адведзены быў публікацыям зь гісторыі й сучаснага стану розных галінаў беларускага мастацтва — архітэктуры, выяўленчага мастацтва, тэатру, балету, музыкі, кіно, розных галінаў народнага мастацтва — усіх каля 20 выданьняў. Найбольш рэпрэзэнтацыйныя зь іх выданьні альбомныя — «Беларускі народны арнамэнт» ды «Слуцкія паясы». З замежных публікацыяў у гэтым разьдзеле можна было аглядаць кніжкі «Беларуская музыка» М. Куліковіча, «Родныя матывы» (Кліўленд), ды колькі іншых.

Вітрына 12-ая дэманстравала багаты выбар найбольш характэрных сучасных менскіх і замежных выданьняў з галіны літаратуры й літаратурнае крытыкі. Экспанавана тут было каля 30-ці кніжак. У цэнтры — рэпрэзэнтацыйнае выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва: кніга выбранае паэзіі Янкі Купалы «Спадчына». Побач, у выданьні таго-ж Інстытуту, «Матчын дар» Алеся Гаруна ды «Вянок» Максіма Багдановіча. З выданьняў выдавецтва «Бацькаўшчына» паказаны быў альманах творчасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў замежжа «Ля чужых берагоў» ды ўспаміны з баёў пад МонтэКасіно П. Сыча «Сьмерць і салаўі». Тут-жа й

# СТАТУТЪ ВЕЛИКОГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО

Ѿ наяснейшего г(о)с(по)д(а)ря короля его м(и)л(о)сти

Жикгимонта третего на коронацыи

въ Кракове выданый року

҂АФПН.



Смотрите што маете чинити. Бо не справуете суду человечего але суду Божего. А што колвекъ осудите все на васъ выливатъ. Нехай будетъ во васъ страхъ Господень завжды. А справуйте все с пильностью. нет бо при Господе Богу нашимъ неправости. ани бракованья особъ. ани пожаданья даровъ. — Книги в параліп(оменон) гла(ва) ді.

Милуйте справедливость которые судите землю. Бо хто любитъ неправду тотъ ненавидитъ души своее. Право судите сынове человечестии. — Изборъ Саломо(на) гла(ва) а. Фало(мъ) ꙇ. Фало(мъ) нз.

За привильемъ короля его м(и)л(о)сти

Друковано в дому Мамоничовъ.

450 YEARS OF BYELORUSSIAN PRINTING

1517–1967

A SLAVONIC DIVISION EXHIBITION

The New York Public Library
Fifth Avenue and 42nd Street

выдадзеная ў Таронта, у Канадзе, дакумэнтальная біяграфічная аповесьць К. Акулы «Змагарныя дарогі». Зь менскіх выданьняў былі тут навейшыя перавыданьні твораў Я. Купалы, М. Багдановіча, Ул. Дубоўкі, П. Броўкі, зборнікі вершаў А. Лойкі, С. Дзяргая, С. Грахоўскага, ды іншых. Выданьні ў беларускім перакладзе твораў выдатных пісьменьнікаў сусьветнае літаратуры — «Гамлета» ды «Санэтаў» Шэксьпіра, твораў Байрана, Бёрнса, Гайнэ, Міцькевіча, раману Сянькевіча «Quo vadis?», раскрывалі перад гледачом шырокія сувязі сучаснага беларускага літаратурнага працэсу зь вялікай спадчынай літаратуры эўрапейскай.

Апошняя, 13-ая вітрына, адведзеная была важнейшым выданьням з галіны беларускае й беларусаведнае бібліяграфіі. У цэнтры — капітальны 1926 году манаграфічны вопіс беларускае старое, рукапіснае й друкаванае, кнігі — «Гісторыя беларускае (крыўскае) кнігі» В. Ластоўскага. Побач колькі бібліяграфічных выданьняў «наццэмаўскае» пары 1920-х гадоў у Менску, а сярод іх тагачасны часапіс для рэгістрацыі друку рэспублікі «Летапіс беларускага друку». Тут-жа й навейшыя савецкія бібліяграфіі — сучасны «Летапіс друку БССР», штогоднік кнігі БССР, бібліяграфія выданьняў Акадэміі навук БССР, бібліяграфія мовазнаўства, ды колькі іншых бібліяграфіяў спэцыяльных. З замежных — «Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне» М. Панькова (Ню Ёрк).

Выстаўка «450 гадоў беларускага друку» паказанымі на ей кнігамі, ілюстрацыйнымі экспанатамі, ды дадзенымі інфармацыйнымі даведкамі, разгарнула перад гледачом яскравую шырокую панараму галоўных этапаў гісторыі беларускага друку ды дала добры аб'ектыўны абраз ягонага сучаснага стану. Водгукі на выстаўку зьявіліся ў друку амэрыканскім, беларускім, славацкім, польскім, савецкім. Адцемленая яна была й у радыёвых перадачах. Атрымала бібліятэка й шмат лістоўных водгукаў на выстаўку ад навуковых установаў і індывідуальных асобаў. Колькі ўнівэрсытэтаў ЗША ды эўрапейскіх зьвярнулася з просьбай даслаць каталёгі выстаўкі й мікрафільмы скарынаведнае экспанаванае літаратуры.

Важна асабліва тое, што выстаўка давала ўзоры ўсяе сучаснае беларускае выдавецкае прадукцыі — і друку падсавецкага, і выданьняў з Польшчы, ЗСА, Канады, Італіі, Нямеччыны. Ведама, что пабачыць на публічным паказе падобны поўны абраз сучаснага беларускага друку ў сусьветным разрэзе на беларускай зямлі сяньня немагчыма. Вось гэта надае наладжанай на высокім акадэмічным узроўні выстаўцы беларускага друку Публічнай Бібліятэкі Ню Ёрку асаблівую гістарычную вымову й вагу.

*В. З.*

## УГОДКІ ДРУКУ Ў БЕЛАРУСКАЙ ССР

Пра належнае адзначэньне 450-х угодкаў беларускага друку ў БССР навукоўцы рэспублікі рупіцца пачалі гады два перад юбілейнай датай. Яшчэ вясной 1966 году паўстаў у Менску й арганізацыйны ўгодкавы камітэт з віцэстаршынём Акадэміі навук БССР, пісьменьнікам Кандратам Крапівом, на чале. У красавіку-ж гэтага году К. Крапіва даў у прэсе БССР інтэрвю пра плян угодкавых абыходаў рэспублікі. У другім інтэрвю, у лістападзе, ён зазначыў: «Справа гонару работнікаў культуры, дзеячоў літаратуры й мастацтва нашай рэспублікі зрабіць юбілей беларускага кнігадруку ўсенародным сьвятам». Выказаў ён адначасна мяркаваньне, што «як

правіла такія сьвяты выходзяць за мяжу адной рэспублікі — іх урачыста адзначаюць і братнія рэспублікі». З важнейшых праектаў пададзенага Крапівом пляну сьвяткаваньняў, апрача рэфэратаў, акадэміяў ды выставак, адзначыць трэба выданьне Акадэміяй навук БССР адмысловага юбілейнага зборніка, пабудову ў Полацку помніка Скарыны, выданьне памятнага мэдалю, стварэньне дакумэнтальнага фільму.

Ды ў 1967 годзе, з набліжэньнем юбілейнае даты, у менскай прэсе пра ўгодкі нейк заціхла. Калі часапісы-месячнікі ў жнівені й адвялі ўгодкам адзін-другі артыкул, дык у штодзёньніках рэспублікі й у дзень угодкаў, 6 жнівеня, і аж да палавіны гэтага месяца пра юбілей блізу зусім ня згадвалася. Ніякіх паведамленьняў у прэсе пра тое, дзе, як і калі адзначэньне ўгодкаў мае адбыцца ніколі ня было. Толькі 15 жнівеня менскія газэты надрукавалі артыкулы пра ўгодкі ды дзён колькі давалі кароткія афіцыйныя справаздачы з ужо адбытых, спачатку ў Менску, а пасьля ў Полацку, угодкавых «урачыстых паседжаньняў».

Характэрна, што хоць дата ўгодкаў — 6 жнівень — у 1967 годзе прыпадала на вельмі зручны для абыходаў дзень тыдня, бо на нядзелю, угодкі былі перасунутыя на дзевяць дзён пазьней ды ладзіліся ў працоўныя дні сярэдзіны тыдня. Таксама справаздачы зь менскіх ды полацкіх угодкавых «паседжаньняў» у прэсе абмежаныя былі да тыхсамых стэрэотыпных афіцыйных паведамленьняў БелТА (Беларускае Тэлеграфічнае Агенцыі). Ніякіх сваіх карэспандэнцыяў з урачыстасьцяў ніводная газэта даць не адважылася. Партыйная цэнзура не прапусьціла ў друк і ніякіх фатаздымак зь юбілейных «паседжаньняў» у Менску ці Полацку. Дык каляніяльная ўлада рэспублікі парабіла ўсе захады на тое, каб угодкі часам і запраўды, згодна з пажаданьнем старшыні арганізацыйнага камітэту К. Крапівы, ня сталіся «ўсенародным сьвятам».

У Менску публічнае ўгодкавае «паседжаньне» адбылося ў аўторак 15 жнівеня ў канцэртнай залі дзяржаўнай фільгармоніі. Былі на ім «прадстаўнікі партыйных і савецкіх арганізацыяў, прамысловых прадпрыемстваў, будоўляў, дзеячоў навукі, культуры, пісьменьнікі, работнікі беларускіх выдавецтваў і паліграфічнай прамысловасьці». З дакладам «Францыск (Георгій) Скарына — заснoўнік беларускага кнігадруку», выступіў «ляўрэат ленінскай прэміі» паэта Пятрусь Броўка. Пасьля афіцыйнай часткі адбыўся канцэрт. Яшчэ з пачаткам жнівеня ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР была наладжаная выстаўка друку рэспублікі, друку, як ведама, сяньня ў 80% расейскага. Выстаўкі наладжаныя былі й у бібліятэцы імя М. Горкага ды некаторых іншых бібліятэках места.

Назаўтра, 16 жнівеня, адбылася навуковая сэсія Акадэміі навук БССР. Сэсію адкрыў прэзыдэнт акадэміі В. Купрэвіч. Даклады чыталі: А. Грыцкевіч — «Беларусь у эпоху Скарыны», П. Глебка — «Францішак Скарына й яго дзейнасьць», В. Сярбента — «Францішак Скарына — мысьліцель», Р. Канавалаў — «Разьвіцьцё кнігавыдавецкай справы ў БССР». Пасьля рэфэратаў выслуханая была зь вялікай увагай прамова выдатнага госьця з Прагі, ведамага скарынаведа, прафэсара А. В. Фляроўскага. Далей ішлі прывітаньні ад прадстаўнікоў акадэміяў навук каля дзесяці рэспублікаў СССР. Характэрна, што з Масквы ні ад Акадэміі навук СССР, ні ад цэнтральных партыйных уладаў, ні гэтым разам, ні дня папярэдняга, ні пазьней у Полацку, прадстаўнікоў ня было. На заканчэньне ўдзельнікі сэсіі знаёміліся з падрыхтаванай акадэміяй выстаўкай беларускай кнігі.

У чацьвер, 17 жнівеня, афіцыйныя ўгодкавыя ўрачыстасьці зь Менску былі перанесеныя ў роднае места Скарыны, да Полацка. Там гэтага дня адбылося адмысловае паседжаньне партыйных уладаў места ды прыбылых зь Менску гасьцей. Даклад «Франьцішак Скарына — заснавальнік беларускага друку» чытаў В. Барысенка. У Полацкім Доме Культуры, у гісторыка краязнаўчым музэі, бібліятэках места, клюбах, кніжным магазыне «Сьветач», наладжаныя былі фатаілюстрацыйныя выстаўкі.

У пятніцу 18 жнівеня на Праспэкце Карла Маркса ў Полацку закладзены быў «мэмар'яльны камень». На камені «залатымі літарамі» дадзены напіс: «На гэтым месцы будзе ўстаноўлены помнік пачынальніку беларускага кнігадрукаваньня Францыску(Георгію) Скарыне». Як з пазьнейшых паведамленьняў менскай прэсы выясьнілася, памятнік мае быць праекту мастака А. Глебава. Варта адзначыць, што ўжо раз, пры нагодзе Скарынавых угодкаў у 1925 годзе, палачане закладалі камень пад помнік свайму выдатнаму суродзічу, ды колькі гадоў пазьней, з апавешчаньнем доктара Скарыны «сярэднявяковым манахам» ды «ворагам народу», загадам партыйных уладаў камень гэты быў вывернуты.

Выканаць угодкавы мэдаль даручэньне атрымаў мастак Арлен Кашкурэвіч. На адным боку мэдалю дадзены партрэт Скарыны з напісам ФРАНЦЫСК-ГЕОРГІЙ СКАРЫНА, на другім — раскрытая кніга й напіс 450 ГОД БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ, 1517—1967. Другі праект мэдалю, таго самага А. Кашкурэвіча, але бязь ГЕОРГІЙ, ды імя наагул, быў адкінуты. Затое ведама, што адна вуліца ў Полацку, ды адна ў пасёлку Шаркаўшчына, былі названыя прозьвішчам Скарыны. У Менску-ж імя «Францыска(Георгія) Скарыны» нададзенае было друкарні Акадэміі навук.

У ліпені 1967 году выдадзеная была ў Менску да ўгодкаў і паштоўка з гравюрай мастака А. Салькова ды напісам: «Францыск (Георгій) Скарына — 450 гадоў беларускага кнігадрукавання». Ніякое затое й згадкі пра нейкі хоць праект ушанаваць юбілей адмысловай паштовай маркай, хоць першадрукара расейскага, Івана Федарава, Масква на марках СССР адзначала ўжо ці раз. Гэта, відавочна, у выніку той асаблівай «сувэрэннасьці» сучаснае беларускае рэспублікі, БССР, паштовыя маркі выдаваць не дадзена якой і права. Адцеміць трэба, што адмысловай паштовай маркай з партрэтам доктара Скарыны адзначыў у 1918 годзе ў Менску 400-я ўгодкі беларускага друку тагачасны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі.

Найгорш у рэспубліцы ўгодкі беларускага друку выпалі ў галіне якраз беларускага друку. Ніводнага беларускага ўгодкавага выданьня ў юбілейным 1967 годзе ў БССР не зьявілася. Напісаная, вельмі няхайна, яшчэ ў 1965 годзе, да адзначанага тады ў БССР «475-годзьдзя ад нараджэньня Скарыны», і тады-ж здадзеная ў друк папулярная кніжыца С. Майхровіча «Георгій Скарына», надрукаваная была толькі ў годзе 1966 і ўжо як выданьне да 450-х угодкаў друку. Даўно рыхтаваны Акадэміяй навук БССР юбілейны зборнік беларускага друку змог паказацца толькі ў канцы лістапада 1968 году, ці бо 15 месяцаў па тэрміне ўгодкаў. Падрыхтаваны-ж яшчэ ў 1966-м годзе супрацоўнікамі Інстытуту літаратуры АН БССР М. Прашковічам ды А. Коршунавам зборнік літаратурнае спадчыны доктара Скарыны, найперш усіх ягоных прадмоваў, ні ў годзе юбілейным, ні ў чародным 1968-м, паказацца друкам ня змог дзеля «нястачы паперы»: Дзеля таесамае, відавочна, прычыны ня быў надрукаваны й адмыслоўцамі мастацтва скла-

дзены альбом Скарынавае мастацкае спадчыны — дрэварытных ілюстрацыяў, заставіцаў, ініцыялаў.

Дык, дзеля прычынаў ад беларускіх дзеячоў літаратуры, мастацтва й навукі незалежных, спадзяваньні К. Крапівы пра належнае ўшанаваньне ўгодкаў друку адмысловымі беларускімі юбілейнымі выданьнямі, зьдзейсьніць у 1967 годзе для «сацыялістычнай рэспублікі» аказалася не пад сілу. Ня было надрукавана ні ў пэрыядычным друку, ні асобным выданьнем і ніводнага паэтычнага ці празаічнага твору напісанага беларускімі пісьменьнікамі, а прысьвечанага доктару Скарыну. Усе творчыя сілы мастакоў і пісьменьнікаў рэспублікі партыя накіравала на тэмы далёкія беларускай культуры, тэмы парпагандныя, зьвʼязаныя з прыпадаючымі ў 1967 годзе 50-мі ўгодкамі расейскае кастрычніцкае рэвалюцыі.

Толькі на адно выданьне партыйная цэнзура паперы не пашкадавала — на перадрук расейскага, Сталінскае яшчэ пары, раману М. Садковіча й А. Львова «Георгий Скарина». Раман гэты, як сам Садковіч у прадмове да яго прызнаўся, напісаны быў не з задуму аўтараў, а з партыйнага даручэньня, дадзенага ўлетку 1944 году ў Маскве, пры нагодзе распачатае савецкае рэакупацыі тэрыторыі Беларусі. У выніку раман і напісаны строга паводле вялікадзяржаўных установак партыі. Каб выканаць шчодра аплочаны партыяй прапагандны заказ, аўтарам давялося ня лічыцца з фактамі Скарынавае біяграфіі ды гісторыі, якія ў рамане давольна тасаваныя, дэфармаваныя, хвальшаваныя. Пісьменьнікі гэтак бязуважна абышліся ў сваім творы зь гістарычнымі падзеямі й праўдай, што пра фантастычныя іх выдумкі знайшлі патрэбу адазвацца адмоўна, з пагардай, навет і ведамыя маскоўскія гісторыкі друку Е. Няміроўскі ды А. Сідараў. З гледзішча літаратурнага пісаны на заказ раман выпаў натолькі прымітыўна, што калі ў 1961 годзе наважылі ўрэшце перадрукаваць яго ў Маскве, дык выдалі ў выдавецтве... дзіцячай літаратуры, хоць папярэднія два менскія выданьні выходзілі пад фірмай... Акадэміі навук БССР.

Вось гэты прапагандны расейскі твор пры нагодзе юбілею беларускага друку каланіяльная адміністрацыя й кінула на кніжны рынак рэспублікі тыражом аж 70 000 экзэмпляраў. Паперы ў рэспубліцы на гэта раптам знайшлося даволі, хоць яе ня стала на выданьне каштоўнае кнігі арыгінальнае пісьменьніцкае спадчыны бацькі беларускага друкаванага слова ды на ніводнае беларускае ўгодкавае іншае выданьне.

Як ужо згадвалася, на ўгодкавыя ўрачыстасьці ў Менску ды Полацку з Масквы не зьявіўся й беларускага народу зь ягонымі выдатнымі культурнымі ўгодкамі ня вітаў ніводзін прадстаўнік ні партыі, ні расейскае навукі. Адзіны, хто з цэнтру імпэрыі на «ўрачыстых паседжаньнях» у Менску быў, гэта прадстаўнік савецкае дзяржаўнае адміністрацыі з доўгім нязвычайна афіцыйным азначэньнем бюракратычнае яго функцыі: «начальнік Галоўнага ўпраўленьня рэспубліканскіх выдавецтваў Дзяржаўнага камітэту па друку пры Савеце міністраў СССР І. Г. Малчанаў». Коратка кажучы, той «начальнік», ад якога якраз залежылі тыя мізэрныя прыдзелы паперы на беларускія выданьні рэспублікі, — у гэтым і на выданьні ўгодкавыя, — што ў юбілейным годзе ніводнае зь іх не змагло й паказацца. Не пашкадаваў ён затое паперы на тое, каб для беларускага ў 80% жыхарства рэспублікі кінуць у масавым тыражы расейскую мовай і духам прапагандную агітку пра «Георгія» Скарыну, з вачавіднай мэтай скары-

стаць і выдатныя ўгодкі беларускае культуры, і само, шанаванае народам, імя Скарыны для наважанае даўно Масквою справы — русыфікацыі рэспублікі.

Згодна з прынятай палітычнай лініяй, зыгнаравалі ўгодкі беларускага друку й цэнтральныя імпэрыяльныя прэсавыя ворганы партыі «Правда», «Известия», ды іншыя. Толькі пару разоў, ды хутчэй праз недагляд, пэтытам у хроніцы, праскочылі ў іх колькірадковыя згадкі пра адзначаныя ў БССР угодкі беларускага друку. Пару артыкулаў памясьціў мала пашыраны месячнік кніжнае прадукцыі СССР «В мире книг» ды адзін артыкул надрукаваў яшчэ менш ведамы прафэсійны месячнік «Полиграфия». Кніжная Палата СССР у вадным з сваіх зборнікаў «Книга» (зб. 14) дала дасланы беларускімі аўтарамі зь Менску артыкул пра беларускі друк. І гэта было ўсё на ўсё СССР.

Становішча афіцыйных расейскіх навуковых колаў да ўгодкаў беларускага друку задэманстравала ды для гісторыі задукамэнтавала найлепш сама Акадэмія навук СССР. Выдаваны акадэміяй цэнтральны ворган савецкае славістыкі, двумесячнік «Советское славяноведение», у шасьці сваіх нумарох 1967 году пра юбілей беларускага друку ня толькі не памясьціў ніводнага артыкулу, але ніводным радком не згадаў пра яго навет і ў ваддзеле хронікі часапісу. Дык спадзяваньні К. Крапівы, што ўгодкі беларускага друку «ўрачыста адзначаць і братнія рэспублікі» ня збыліся. Выдатныя культурныя ўгодкі беларускага народу Масква й ейная партыя пастараліся «незаўважыць» ды абыходзілі іх «урачыстым» маўчаньнем. З належнай увагай і пашанай 450-я ўгодкі беларускага друку былі адзначаны не ў Маскве, і не ў СССР, а ў краёх заходняга сьвету — Амэрыцэ, Ангельшчыне, Італіі, Нямеччыне, Аўстраліі.

*С. Б.*

## ІМЯ ДОКТАРА СКАРЫНЫ

У падсавецкім беларускім друку апошніх гадоў востраю стала справа імя доктара Скарыны. Пытаньне гэтае спэцыфічна «савецкае», бо паўстала яно ў выніку пачатага ў СССР яшчэ за Сталінам, ад 1944 году, намаганьня падмяніць доктару Скарыну ягонае імя Франьцішак на расейскае «Георгій». Паколькі няма нейкіх дакумэнтаваных асноваў, што апраўдалі-б гэткае сучаснае «перахрышчваньне» выдатнага дзеяча «залатое пары» беларускае культуры, дык паасобныя навуковыя працаўнікі Беларусі ўжо ад колькі гадоў, і ці раз, узьнімалі галасы супраць гвалту над фактамі й праўдай. У сувязі з Скарынавым у 1967 годзе юбілеем, справа імя Скарыны ў БССР стала нагэтулькі важнаю, што была адмыслова разгледжаная «на бюро аддзяленьня грамадзкіх навук Акадэміі навук БССР». Пра гэта падаў да ведама загадчык сэктару гісторыі мовы Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук БССР А. Жураўскі ў воргане ЦК КПБ, менскай «Зьвязьдзе» («Як называць Скарыну?», «Зьвязда», 11. V. 1967 г.). Як паведаміў Жураўскі, «бюро» прыняло пастанову *«лічыць правільным і неабходным у далейшым пры поўным найменьні беларускага першадрукара пісаць Францыск (Георгій) Скарына. Пры скарочаным-жа напісаньні мэтазгодна аддаваць перава-*

*гу варыянту Францыск Скарына, бо такі варыянт найбольш адпавядае аўтарскай волі Скарыны, выражанай ва ўсіх яго друкаваных выданьнях».*

Хоць пастанова гэтая паказвае на вымушаны фактамі навукі падсавецкі зварот да запраўднага імя доктара Скарыны «Франьцішак», яна тымжа часам і раскрывае, што «бюро аддзяленьня акадэміі» ўсё-ж яшчэ не адважылася стаць цьвёрда на адзінае навукова апраўданае становішча — вярнуцца цалком да аднога імя доктара Скарыны, ім'я, якім ён заўсёды й толькі сябе называў — да Франьцішка, а дапушчае й надалей магчымасьць называньня Скарыны таксама імём ужо больш за дваццаць гадоў беспадстаўна накіданым яму ў савецкім друку — імём «Георгій». Дык «бюро» стала на пазыцыю кампрамісу, кампрамісу між фактамі навуковае праўды ды русыфікацыйным націскам вялікадзяржаўных колаў партыі.

Дзеля навуковае й практычнае вагі пытаньня, будзе на месцы разглядзець і пастанову «бюра» Акадэміі навук БССР і пададзенае абгрунтаваньне яе. Гэты кароткі разгляд зроблены на аснове выданьняў доктара Скарыны ды тэкстаў усіх ведамых пра яго актавых матар'ялаў, што, у ліку каля 50-х, знаходзяцца, пераважна на мікрафільмах, у зборах Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Хто хацеў-бы пазнаёміцца з гэтым пытаньнем шырэй і грунтаўней, можа зьвярнуцца да зьмешчанай у 4-ай кнізе «Запісаў» Інстытуту (1966 г.), выдадзенай і асобнай адбіткай, адмысловай працы пра гэта С. Брагі: «Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры» (Ню Ёрк—Мюнхен, 1967 г.).

Як ужо згадвалася, пастанова «бюра» намагаецца захаваць «Георгія» ў практыцы беларускага друку й надалей, хай сабе й як «другое» ды гіпатэтычнае ўжо толькі, але ўсё-ж імя Скарыны, ды пры гэтым суліць ужываць яго не ў замацаванай ужо ад вякоў і ў мове народнай і ў мове пісьменства беларускай форме гэтага імя «Юры», а ў ягоным чыста расейскім выглядзе «Георгій».

У навуковай літаратуры ведама даўно, што лацінскае слова Georgii, якое сустракаецца ўсяго раз перад імём і прозьвішчам Скарыны ў копіі лацінскае граматы 1532 году, зьявілася там у выніку памылкі канцылярыстага-перапішчыка, які праз пасьпех ці недагляд паставіў Georgii там, дзе ў арыгінале было Egregii. На гэтую памылку была зьвернутая ўвага ўжо больш 40 гадоў таму. Нававыяўленыя-ж за гэты час дадатковыя архіўныя дакумэнты датычныя да доктара Скарыны факт памылкі цалкам пацьвердзілі. Ува ўсіх ведамых сяньня актах у якіх Скарына згадваецца па імі, а іх ня менш за 30, згадваецца ён разоў 70 і заўсёды толькі як Франьцішак. Яшчэ важней тое, што сам доктар Скарына, які ў выдадзеных у Праз ды Вільні 25 кнігах падаў сваё імя ня менш як 115 разоў, падаваў яго заўсёды як Франьцішак. Ніколі, ніразу не назваў ён там сябе якім-небудзь іншым імём.

Дык на прыпісваньне Скарыну імя «Георгій», на спробы падмены ім ягонага імя Франьцішак, ці хоць-бы на стаўляньне імя «Георгій» побач імя запраўднага — няма ніякага дакумэнтаванага абгрунтаваньня. Воля самога доктара Скарыны ў справе свайго імя для будучых пакаленьняў ясная ды ня можа падлягаць аспрэчваньню: «Я Франьцішак Скарынін сын» ці раз заяўляў сам доктар Скарына ў сваіх прадмовах да кнігаў. Ні ў пастанове, ні ў артыкуле А. Жураўскага гэтак і ня высьнена, чаму ды зь якіх меркаваньняў «бюро» зыгнаравала гэтую волю выдатнага Палачаніна ды

накідае Скарыну й надалей імя расейскае «Георгій», хай сабе й хаваючы ўжо яго ў дужкі.

Памылковае цьверджаньне «бюра» Акадэміі навук БССР і ў тым, быццам сваё імя, Франьцішак, доктар Скарына выражаў пераважна варыянтам «Франциск», і, быццам, «такі варыянт найбольш адпавядае аўтарскай волі Скарыны». Тымчасам, у 25-х сваіх кнігах Скарына аніразу не падаў свайго імя ў варыяньце «Франциск». Хоць у назоўным склоне імя сваё ў сваіх кнігах падае ён колькі разоў, ды дае яго ў двух іншых варыянтах: ці як «Франьцішак» — «я Францишек Скоринин сын», ці як «Францiско», як ёсьць у прадмове да Кнігі Царстваў, дзе «я Франциско Скорина», ды ў надпісах пад партрэтам Скарыны ў праскай Бібліі, дзе «Доктор Франциско Скорина». Як з пастановы «бюра» відаць, аўтары яе не ўсьведамлялі важнага факту, што формы Скарынавага імя, пададзеныя на пачатку й у канцы ягоных кнігаў у выразах «Предисловие доктора Франциска Скорины», «працею ученага мужа Франциска Скорины», «выложена доктором Франциском Скориною» ды падобных — гэта родны й творны склоны не ад назоўнага «Франциск», а ад «Франциско», паказанае самым Скарынам у Кнізе Царстваў ды пад сваім партрэтам.

Што гэтую якраз форму свайго імя з канчаткам на -о — Францiско — Скарына шырака ўжываў, паказваюць вельмі добра й юрыдычныя, пісаныя пабеларуску, датычныя да Скарыны, віленскі й полацкі акты. Тамака ягонае імя згадваецца 8 разоў, і ў назоўным склоне заўсёды толькі як «Францышко». Формы імяў з канчаткам на -о — Пятро, Паўло й падобныя — у старой беларускай мове часоў Скарыны зьява вельмі частая. Сам Скарына ў Апостале, прыкладам, разоў колькі піша «Марко». Важна тут дадаць, што пад імём «Францiско» Скарына быў ведамы й у Празе на становішчы каралеўскага батаніка-садоўніка. У ведзеным панямецку ў 1538—39 гадох ліставаньні чэскае каралеўскае каморы з каралём Фэрдынандам I Скарына згадваецца на імя ў чатырох лістох і заўсёды як «Францiско» — Maister Francisco. Ува ўсіх лацінскіх лістох і актавых запісах — кракаўскіх, падуанскіх, пазнанскіх, кеніґсбэрскіх — імя Скарыны, зразумела, ужываецца заўсёды ў лацінскай яго форме — Franciscus.

З вышэй прыведзенага відаць, што пабеларуску сам Скарына сваё імя падаваў ці як «Франьцішак», ці, часьцей, як «Францiско». Ужываньне быццам-бы Скарынам варыянту «Франциск» не пацьвярджаецца ніводным выпадкам у Скарынавых кнігах і «бюро» тут выразна памылілася. Лёгка здагадацца й прычыну гэтае памылкі: пастанова выносілася ня гэтулькі на аснове ўважнага вывучэньня выданьняў Скарыны й датычных да яго актавых дакумэнтаў, а больш пад уплывам абавязваючае ў сучаснай расейскай мове формы гэтага імя «Франциск», і вось гэтай расейскай форме імя, у здэфармаваным крыху, вытрыманым у сучасным правапісе, выглядзе — з «ы» заміж «и» — «бюро» цяпер суліць «аддаваць перавагу» ў беларускім друку.

Яскравым прыкладам таго, як пры прыйманьні пастановы «бюра» ігнаравалася найважнейшае, бо датычныя да пытаньня факты, можа служыць тое, што А. Жураўскі, наўсуперак дакумэнтам, піша, быццам форма імя «Францышко» гэта толькі «размоўна-бытавы варыянт», а «афіцыйна-юрыдычны» было быццам-бы «Франциск». Акты-ж, наадварот, паказваюць, што тагачасная афіцйна-юрыдычная беларуская форма імя — гэта якраз «Францышко», бо яна, і толькі яна, ужываецца й у полацкім судовым запі-

се 1535 году й у акце віленскае судовае пастановы 1529 году вялікага князя з Панамі Рады, ці бо ў дакумэньце цэнтральнае дзяржаўнае інстытуцыі ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, мову юрыдычных актаў якое клясыфікаваць у «размоўна-бытавую», як гэта робіць А. Жураўскі, няма аніякіх асноваў.

Трэба прыгадаць, што далёкі папярэднік сучаснае Акадэміі навук БССР, колішні Інстытут Беларускае Культуры, у сваіх каштоўных навуковых публікацыях пра Скарыну, што выдаваліся ў пару, калі русыфікацыя беларускае мовы ня была яшчэ абавязваючым канонам для падсавецкіх навукоўцаў і навуковых установаў Беларусі, ужываў (прыкладам, у зборніку «Чатырохсотлецьце беларускага друку», 1926 г.) як імя Скарыны не перанятае з расейскага «Францыск», а толькі пададзенае самым Скарынам і пашыранае й у сучаснай жывой беларускай мове, ды традыцыйна ўжо ўжыванае й у беларускім друку імя «Францішак». Гэтая-ж форма імя Скарыны ўжывалася ды ўжываецца й у беларускім друку на эміграцыі.

Дык формы імя доктара Скарыны, накіданыя пастановаю «бюра» Акадэміі навук БССР, не вынікаюць ані з выданьняў Скарыны, ані зь пісаных пабеларуску юрыдычных актаў пра Скарыну, ані граматычнага ладу й традыцыяў беларускае мовы. Прапанаваныя «бюром» формы імяў «Францыск (Георгій)» характэрныя мове не беларускай, а расейскай. «Георгія», як свайго імя, Скарына ня знаў і ніразу не згадаў. Формы-ж імя «Францыск» у сваіх выданьнях ня ўжываў, ня ўжывалі яе й ягоныя сучасьнікі ў актавых аб ім запісах. Дзеля гэтага й няма ніякіх аб'ектыўных асноваў для заводжаньня ў беларускім друку й мове чужога ім «Францыска (Георгія)».

Шануючы волю выдатнага Палачаніна, пры згадваньні яго называць у беларускай мове трэба толькі імём і прозьвішчам ім самым нам адказаным — *Францішак Скарына.*

Нью-Ёрк, травень 1967 г.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ
НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

# Антон Васілевіч Флароўскі

*Вітаўт Тумаш*

Сярод Беларусоў замежжа вядзецца паважная праца над праблемамі беларускай гісторыі й гісторыі беларускай культуры, і трэба ад душы вітаць гэты навуковы рух і ўсіх яго ўдзельнікаў.

Антон Васілевіч Флароўскі, 1965.

Вясной 1968 году, на 84-м годзе жыцьця, памёр у Празе выдатны гісторык-славісты ды ведамы скарыністы Антон Васілевіч Фларoўскі. Навукова-дасьледную працу ў галіне гісторыі А. В. Фларoўскі пачаў яшчэ на конаднях Першай Сусьветнай вайны. У 1915 годзе Наваpaсійскі ўнівэрсытэт запрасіў яго чытаць курс старое гісторыі ўсходнеславянскіх народаў. У сваіх лекцыях прафэсар Фларoўскі прыдзяляў заўсёды належную ўвагу й да важнейшых падзеяў гісторыі беларускага народу.

У гадох 1917—1918, у часе арганізацыі Беларускае Народнае Рэспублікі (БНР), на просьбу тых адэскіх Беларусоў, што рыхтаваліся да павароту на вольную бацькаўшчыну, прафэсар Фларoўскі чытаў ім лекцыі зь гісторыі Беларусі. Тады-ж, у Адэсе, пазнаёміўся ён зь ведамым паэтам Міхасём Грамыкам. Навязаныя ў адэскую пару прыязныя дачыненьні зь Беларусамі засталіся прафэсару Фларoўскаму сьветлым успамінам на ўсё жыцьцё.

Адмоўна настаўлены да антыдэмакратычнага савецкага рэжыму Фларoўскі ў 1919 годзе эмігруе ў Баўгарыю, а стуль з часам пераяжджае ў Чэхаславаччыну, да Прагі. Там Карлавы ўнівэрсытэт запрашае яго на прафэсара катэдры гісторыі Расеі. Уся навучальная й навуковая дзейнасьць А. В. Фларoўскага ад гэтага часу й аж да сьмерці зьвязаная ўжо была з чэскай Прагай.

У Празе гэта А. В. Фларoўскі прыступае да навуковага распрацаваньня тэмы, якой да канца ўжо жыцьця ён аддаваў найбольш дасьледнае ўвагі й часу — да раскрыцьця ўва ўсей шырыні сувязаў Чэхіі з усходнеславянскімі народамі ад самых зачаткаў іх гісторыі. Шляхам грунтоўнага перагляду летапісаў, адпаведнае навуковае літаратуры ды ўнікілвых росшукаў па архівах Чэхіі, Фларoўскі раскрыў яскравую гістарычную панараму жывых нязвычайна эканамічна-палітычных ды культурных дачыненьняў народу чэскага з славянскім усходам Эўропы ў стагодзьдзях ад Х-га да XVIII-га.

Першыя дзьве часткі вялікае манаграфіі Фларoўскага «Чэхі й усходнія славяне» выходзяць з друку ў 1935 годзе. Частка трэцяя, хоць здадзеная

ў друк яшчэ ў годзе 1941-м, дзеля ваенных падзеяў змагла паказацца толькі ў годзе 1947-м. Блізу ўся другая частка манаграфіі адведзеная разгляду чэска-беларускіх дачыненьняў у пару Вялікага Княства Літоўскага, бойкіх асабліва ад пачатку XV стагодзьдзя. Як далейшае распрацаваньне тае самае тэмы, у 1954 годзе выходзіць кніга Флароўскага пра чэскія гандлёвыя дачыненьні ў мінулым з краямі славянскага ўсходу. Таго самага пытаньня датычыць і большая, пачэску пісаная, праца «Чэскія езуіты на Русі — Езуіты чэскае правінцыі ды славянскі ўсход» (1941). І ў ёй шмат дадзеных да культурнае гісторыі Беларусі. Выявіў тут аўтар мала ведамы гісторыкам факт, што вялікі лік тых усходнеславянскіх студэнтаў, што калісьці вучыліся ў Чэхіі, у Празе ды Аламоўцы, паходзіла зь беларускіх земляў.

Толькі зразумела, што пры ўсебаковым вывучэньні дачыненьняў Чэхіі з усходнімі славянамі Флароўскі мусеў зацікавіцца й выдатным дзеячом беларускае культуры пары Рэнэсансу — доктарам Францішкам Скарынам, паколькі сваю выдавецкую дзейнасьць Скарына пачаў якраз у Чэхіі, у Празе. Яскравая постаць беларускага гуманісты зьвярнула на сябе ўвагу ўнікліўвага дасьледніка ўжо з пачаткам 1930-х гадоў, і ад гэтага часу доктар Скарына, ягоная дзейнасьць і духовая спадчына застаюцца ў полі зыркае навуковае ўвагі вучонага аж да канца яго жыцьця.

Першыя, нязвычайна цікавыя, вынікі сваіх дасьледваньняў пра доктара Скарыну ў Чэхіі Флароўскі рэфэраваў на Другім Зьезьдзе славянскіх філялёгаў (славістых), што адбываўся 23—30 верасьня 1934 году ў Варшаве. Тэма дакладу была: «Новае пра доктара Францішка Скарыну ў Празе». У дакладзе Флароўскі паведаміў пра выяўлены ім праскі фінальны этап жыцьця Скарыны — ягонае прабываньне ад 1535 году й аж да сьмерці на становішчы садоўніка-батаніка караля Фэрдынанда I на праскіх Градчанах. Свае меркаваньні да гэтага важнага для біяграфіі Скарыны пытаньня Флароўскі падсумаваў у працы 1936 году „Nové zprávy o pobytu Františka Skoryny v Praze“ (Časopis Narodniho Musea, roč. CX. Praha, b. 11—19).

У годзе 1939 Флароўскі публікуе другую невялікую ды важную працу пра доктара Скарыну „Fr. Skoryna et son activité parmi les Slaves“ Bulletin d'Information des Sciences Historiques en Europe Orientale, IX, 1—2. Varsovie, 1939). У ей разгляд спрэчнае справы сьветагляду ды веравызнаньня доктара Скарыны ў сьвятле ведамых жыцьцяпісных фактаў і папярэдняе літаратуры, ды, адначасна, узьнятая, на падставе кароткае архіўнае ведамкі, справа падарожжа доктара Скарыны да Масквы ды публічнага спаленьня там, на загад маскоўскага князя, кнігаў ягонае Біблії. Праца гэтая, гэта рэфэрат, які прафэсар Флароўскі чытаў у 1938 годзе ў Цюрыху на канфэрэнцыі Фэдэрацыі гістарычных аб'яднаньняў Усходняй Эўропы й славянскіх земляў.

Год пазьней у праскім часапісе «Slavische Rundschau», № 1—2,, друкуецца цікавы нарыс Флароўскага пра пачаткі друку ў усходніх славянаў — „Die Anfänge des Buchdruckes bei den Ostslaven“. У ім арыгінальнае асэнсаваньне вялікае гістарычнае вагі дзейнасьці доктара Скарыны для разьвіцьця друку на славянскім усходзе. У гэтым самым годзе Флароўскі здае ў друк і большую працу «Чешская библия в истории русской культуры — Франциск Скорина и продолжатели его дела», якая блізу ўся адведзеная доктару Скарыну й ягонай выдавецкай спадчыне. У ей і падсумаваньне ўсяго важнейшага пра доктара Скарыну раней ведамага, і раскрытага новага

самым вучоным. Праца каштоўная асабліва вялікім лікам прыведзеных фактаў й дадзенаю аграмаднаю на сваю пару скарынаведнаю літаратурай. Дзеля перашкодаў ваеннае пары надрукаваная гэтая праца была толькі ў 1946-м годзе.

Хоць пра доктара Скарыну й ягоную літаратурную спадчыну Фляроўскі згадваў ці раз яшчэ й пазьней у розных нарысах, артыкулах, рэцэнзыях, ды ўжо больш агульна, коратка, мімаходам. У апошнія гады жыцьця ўвагу сваю вучоны накіраваў на пару гісторыі даволі далёкую ад часоў Скарыны — на дыпляматыю пары цара Пётры I, хоць, праз Ільлю Капіевіча-Капіеўскага, ягоныя выданьні ды рэформу кірыліцы, і гэтая эпоха шмат у чым навязвала да гісторыі беларускага друку ды Скарыны.

Зацікаўленьне скарынаведнымі пытаньнямі у А. В. Фляроўскага нанава ўзрасло, калі ён пазнаёміўся з публікацыямі на гэтую тэму Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Зь вялікаю ўвагай сачыў А. В. Фляроўскі за поступам дасьледнай скарынаведнай працы Інстытуту, а ад пачатку 1965 году й аж да сьмерці быў і ў няспынным ліставым кантакце, прасіў прысылаць усё новае, што зьяўляецца ў друку, даваў з свайго боку крытычныя заўвагі пра розныя ўзьніклыя скарынаведныя пытаньні. Вярнуўся ізноў вучоны й да архіўных пошукаў, ды дзяліўся выяўленымі ў архівах новымі ведамкамі й матар'яламі.

Заінтрыгаваны выяўленай у архівах Падуі ведамкай пра доктара Скарыну як «сакратара караля Дацыі» А. В. Фляроўскі піша адразу ліст да рэктара ўнівэрсытэту ў Капэнгазе з просьбай праверыць старыя ўнівэрсытэцкія архівы, ці няма там нейкіх сьлядоў студыяў Скарыны на мэдыцынскім факультэце Капэнгагі. Адказ, нажаль, прышоў той, што ўсе акты ўнівэрсытэту тае пары даўно пагінулі ў пажары. На просьбу Інстытуту прафэсар Фляроўскі расшукаў у архіве Карлавага ўнівэрсытэту й дакторскую дысэртацыю 1926 году Ігната Дварчаніна пра доктара Скарыну, пераказаў яе зьмест ды даў сваю крытычную яе ацэну.

Колькі месяцаў перад сьмерцяй А. В. Фляроўскі пераслаў для збораў скарыніяны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку й мікрафільм важнае для біяграфіі Скарыны вельмі, ды яшчэ нідзе ў арыгінале не рэпрадукаванае, граматы караля Фэрдынанда I, што дадзеная была ў 1552 годзе Скарынаваму сыну Сымону. Фатаадбітку гэтае граматы з дасланага вучоным мікрафільму паказала Публічная Бібліятэка Ню Ёрку на выстаўцы «450 гадоў беларускага друку» й яна зразу зьвярнула на сябе ўвагу зацікаўленых адмыслоўцаў. Пра наважаны зварот вучонага да свае старое аблюбаванае тэмы сьветчыць і тое, што апошнімі гадамі А. В. Фляроўскі плянаваў падрыхтаваць да друку два важныя выданьні: збор усіх прадмоваў Скарыны ды тэксты ўсіх ведамых пра яго дакумэнтаў ды актавых матар'ялаў.

7 жніўня 1965 году, калі А. В. Фляроўскі першы раз пазнаёміўся з выданьнямі Інстытуту, ён выказаў у лісьце й сваё аўтарытэтнае прызнаньне для працы навукоўцаў замежжа ў галіне гісторыі Беларусі: «Бачу, што сярод Беларусоў замежжа вядзецца паважная праца над праблемамі беларускай гісторыі й беларускай культуры, і трэба ад душы вітаць гэты навуковы рух і ўсіх яго ўдзельнікаў».

З набліжэньнем 450-х угодкаў беларускага друку да прафэсара Флароўскага, як выдатнага скарыністага, зьвярнулася Акадэмія навук БССР з просьбай напісаць артыкул да юбілейнага скарынінскага зборніка, ды шукала радаў вучонага ў пытаньнях скарынаведных дасьледваньняў. Прафэсар Флароўскі не адмовіў, і пад канец 1966 году пераслаў акадэміі артыкул, у якім даў агляд новае скарынаведнае літаратуры за гады 1926—1965. Ад Флароўскага перанятая была ў Менску й ідэя выданьня зборніка арыгінальнае творчасьці доктара Скарыны. Над укладам гэтага зборніка працавалі ў Інстытуце літаратуры АН БССР М. Прашковіч і А. Коршунаў. Ды прырыхтаваны ўжо да друку ў юбілейным годзе зборнік Інстытут выдаць ня змог дзеля незалежнае ад сябе прычыны — нястачы прыдзелу на гэта паперы. З друку ён выйшаў толькі ў 1969 годзе.

Раіліся ў А. В. Флароўскага й некаторыя праскія навукоўцы пры сваіх захадах адзначыць і ў Чэхіі ўгодкі паявы першае Скарынавае кнігі ў Празе. Абмяркоўваўся праект умураваньня мэмар'яльнае табліцы. Паўсталі аднак-жа цяжкасьці з выбарам на гэта месца. На ўвазе былі дзьве магчымасьці: ці памясьціць яе ў Старым Месьце Прагі, дзе калісьці была Скарынава друкарня, ці ў заснаваным Скарынам каралеўскім парку на Градчанах, на збудаванай там, яшчэ за Скарынам, каралеўскай летняй рэзыдэнцыі «Летоградку».

Ды абодва праекты ўпіраліся ў перашкоды. Што да Старога Места — няма магчымасьці азначыць цяпер дом, на якім мэмар'яльную табліцу ўмуроўваць, паколькі ніхто ня ведае, у якім доме Скарынава друкарня знаходзілася. Ды й вуліцы Старога Места гэткія вузкія, што табліцу там мала хто калі й заўважыў-бы. Мала хто наведвае цяпер і тую частку каралеўскага парку на Градчанах, што да сяньня яшчэ захавалася. Дзеля гэтага А. В. Флароўскі раіў умураваць табліцу ў месцы больш відным і рэпрэзэнтацыйным — у адным з гмахаў Карлавага ўнівэрсытэту. Аднак-жа, дзеля няведамых прычынаў, усе пляны чэскіх навукоўвцаў зь юбілейнай мэмар'яльнай табліцай доктару Скарыну засталіся толькі праектамі. Чэская Прага паважней нейк і не адзначыла ўгодкі таго свайго выдатнага госьця, што яе, як месца друку сваіх кнігаў, славіў калісьці ў кажным з праскіх сваіх выданьняў.

У 1967 годзе Прэзыдыюм Акадэміі навук БССР, усьведамляючы вялікія заслугі А. В. Флароўскага ў скарынаведнай галіне, запрасіў яго на юбілейныя ўрачыстасьці 450-х угодкаў беларускага друку, што ладзіліся ў жнівені таго году. У сваіх лістох прафэсар Флароўскі адзначаў з удзячнасьцяй тое цёплае спатканьне, якое наладзілі яму й у Менску, і ў Полацку беларускія навукоўцы: «уражаньні ад наведаньня Беларусі, ад сустрэчаў ды прыняцьцяў, самыя лепшыя ды сьветлыя». Давялося яму аднак-жа пазнаць і некаторыя менш «сьветлыя» бакі падсавецкае рэчаіснасьці, як бюракратычную казённую афіцыйнасьць угодкавых абыходаў ды татальны байкот іх расейскімі навукоўцамі Масквы, скуль ніводзін прадстаўнік ні ад Акадэміі навук СССР, ні ад нейкае іншае навуковае ўстановы, на ўрачыстасьці ў Менску не зьявіўся каб вітаць беларускі народ зь ягонымі выдатнымі культурнымі ўгодкамі. Зусім неспадзявана й у Менску, і ў Полацку А. В. Флароўскаму даводзілася, хай і неафіцыйна, ды рэпрэзэнтаваць аднаму й навуку чэскую, і навукоўцаў расейскіх.

Ды найбольш А. В. Флароўскага ўразіў факт, што высланы для акадэміі навук у Менску колькі месяцаў перад гэтым бібліяграфічны нарыс Scoriniana пры перакладзе з мовы расейскай на беларускую аказаўся моцна сцэнзураваны ды абрэзаны, і найбольш у сваей канцавой часьці, дзе быў агляд навейшае дасьледнае скарынаведнае працы ды публікацыяў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Прафэсар Фларо́ўскі абураўся на гэтае цэнзурнае абязьвечаньне свайго нарысу ды пісаў: «спадзяюся, што выпушчаныя з Scoriniana бачыны ў бліжэйшым часе мне ўсё-ж удасца надрукаваць у поўным варыяньце Scoriniana, магчыма парасейску».

Не зважаючы на дазнаныя з боку партыйнае цэнзуры няпрыемнасьці, на юбілейнай навуковай сэсіі Акадэміі навук БССР, 17 жніўня 1967 году, прафэсар Фларо́ўскі пра ўсе важнейшыя новыя дасягненьні ў галіне скарынаведы на Захадзе, сцэнзураваныя ў нарысе, усё-ж гаварыў, хоць і не згадваў ужо пры гэтым ні прозьвішчаў дасьледнікаў, ні назоваў навуковых установаў. Свой выступ на сэсіі А. В. Фларо́ўскі уважаў за вялікую ўдачу. Пададзеныя інфармацыі моцна зацікавілі прысутных. Ён пісаў, што ягоная прамова «зрабіла вельмі добрае ўражаньне на аўдыторыю (прадстаўленую нязвычайна шматлюдна), тымбольш, што я — не зьвязаны ніякой рэпрэзэнтацыяй — гаварыў зусім свабодна й бойка, у вадрозьненьне ад іншых, больш фармальных і афіцыйных (без дачыненьня да Скарыны) прывітаньняў тузіна акраінных акадэміяў СССР (некаторы вынятак — гэта Малдавія). З Масквы, Ленінграду, зь Кіява — ня было нікога ! ! !».

Што прамову прафэсара Фларо́ўскага прыстутныя выслухалі «зь вялікай увагай», прызналі гэта й менскія газэты. Ды савецкая прэса, а пазьней у сваей справаздачы з сэсіі АН БССР і «ВЕСЬЦІ Акадэміі навук БССР», пра зьмест гэтае прамовы нічога сваім чытачом так і не сказалі. Толькі ў часапісе «Літаратура і мастацтва» надрукаванае было кароткае агульнае асэнсаваньне А. В. Фларо́ўскага гістарычнае вагі й значаньня культурнае дзейнасьці доктара Скарыны. Дастала яго рэдакцыя ад самога аўтара. Была гэта канцавая частка прамовы А. В. Фларо́ўскага на сэсіі акадэміі, хоць пра гэта чытачоў рэдакцыя чамусьці не паінфармавала. Пра надрукаваную частку прамовы прафэсар Фларо́ўскі ў лісьце пісаў: «Гэта — кароткі адрывак з майго выступу, што меў вялікую ўдачу, бо сказаны быў ад сэрца!» Дзеля таго, што ня ведама, ці Акадэмія навук БССР надрукуе калінебудзь поўны тэкст прамовы прафэсара Фларо́ўскага, падаем гэтта хоць той яе адрывак, што 22 жніўня 1966 году зьявіўся на бачынах «Літаратуры й мастацтва»:

> «У гэтыя дні, калі беларуская грамадзкасьць урачыста адзначае 450-годздзе свайго кнігадруку, усе з пашанай і ўдзячнасьцяю ўспамінаюць імя вялікага беларускага першадрукара й асьветніка Францішка Скарыны. Мне хочыцца далучыць і свой голас — голас прызнаньня й удзячнасьці. Гэта мне асабліва прыемна зрабіць, бо я прыехаў сюды, у Беларусь, з Чэхіі, з старажытнай залатой Прагі, дзе ў 1517 годзе, 450 гадоў таму назад, з -пад друкарскага станка Францішка Скарыны выйшла першая кніга на беларускай мове.
>
> Дзейнасьць Скарыны — складаная ды шматгранная. Ягоны жыцьцёвы шлях ня быў простым. Адзін пералік яго зацікаўлень-

няў паказвае, які гэта быў адукаваны чалавек, наколькі разнабаковыя былі ягоныя захапленьні ды магчымасьці.

У гісторыю культуры й навукі Белай Русі імя ягонае ўпісанае бяссьмяротнымі літарамі. У Празе за тры гады ён выдаў 23 кнігі „Бібліі". Праца гэтая запраўды тытанічная, асабліва, калі ўлічыць тыя няймаверныя цяжкасьці зь якімі давялося яму сутыкнуцца. Тое, што ён зрабіў, вылучае яго ў шэрагі самых выдатных дзеячоў кніжнае справы. Вялізарны ягоны ўклад у разьвіцьцё эўрапейскага кнігадруку наагул. Па сіле розуму, па размаху асьветнай і выдавецкай дзейнасьці, рэдка каго зь дзеячоў пачатку XVI стагодзьдзя можна параўнаць з Францішкам Скарынам.

Кнігадрукар і лекар, вучоны й асьветнік, Францішак Скарына паказаў прыклад самаадданага служэньня роднаму народу. Служыць „добраму паспалітаму" завяшчаў ён і нашчадкам. Думаецца, што нашае й наступныя пакаленьні будуць памятаць гэтыя ягоныя запаветы.

Вечная памяць справе Францішка Скарыны!

І — наперад у імя ягоных ідэалаў і ідэяў!».

Што ўражала ў прафэсара Флароўскага, гэта захаваная аж да познага веку поўная навуковая працаздольнасьць. Хоць ішоў яму ўжо дзевяты дзесятак гадоў, ды, як відаць зь ліставаньня, аж да апошніх дзён жыцьця захаваў ён ясны, крытычны розум ды здольнасьць да дасьледнае працы. Кажны ягоны ліст прыносіў цікавыя, уніклівыя заўвагі да розных скарынаведных пытаньняў. Каля дваццаці лістоў вучонага з гадоў 1965—1967 рыхтуецца, у адпаведным на гэта часе, да друку.

Толькі пры канцы 1967 году А. В. Флароўскі стаў у лістох наракаць на тое, што «апошнім часам мне нездаровіцца». Дапытваўся адначасна, калі будзе адкрытая тая пра доктара Скарыну выстаўка ў Ню Ёрку, аб падрыхтове якое ён чуў. Прасіў прыслаць «праспэкты, рэклямы, ды іншае».

Ды выстаўка «450 гадоў беларускага друку» была наладжаная Публічнаю Бібліятэкай Ню Ёрку толькі з пачаткам сакавіка 1968 году. Тады-ж лятунскаю поштай А. В. Флароўскаму было накіраванае афіцыйнае прэсавае паведамленьне, адмысловы выдадзены плякат з партрэтам Скарыны на ім, ды ліст з вопісам выстаўкі, яе выгляду й зьместу, з заўвагай пра паказаныя на ёй і ягоныя каштоўныя скарынаведныя працы. І матар'ялы пра выстаўку, і ліст да рук заслужанага скарыністага яшчэ напэўна дайшлі. Ды адказу на іх ужо ня было. Заміж яго па нейкім часе прыйшла да Ню Ёрку сумная вестка аб сьмерці 27 сакавіка 1968 году выдатнага вучонага ад атаку сэрца.

Гэтак з гоняў навуковае працы зыйшоў выдатны гісторык-славісты й вучоны. У скарынаведнай галіне важнае асабліва значаньне навуковае дзейнасьці А. В. Флароўскага ў тым, што зьявілася яна якраз у пару, калі ў выніку кінутае ў 1928 годзе ў БССР партыйнае анатэмы на Скарыну, як «сярэднявяковага манаха» ды «нацыяналдэмакрата» беларускага мінулага, усякая навукова-дасьледная праца пра найвыдатнейшага гуманісту Беларусі на ягонай бацькаўшчыне, у Беларускай ССР, ды й ўва ўсім СССР,

была спаралізаваная на дзесяткі гадоў. Дасьледнікі, што асобаю доктара Скарыны й ягонаю культурнаю спадчынай цікавіліся, як Пічэта, Шчакаціхін, Піотуховіч, Воўк-Левановіч, ды іншыя, былі арыштаваныя, сасланыя, ды блізу ўсе зьнішчаныя. Гэта А. В. Флароўскі, і блізу сам адзін, сваімі грунтоўнымі, заўсёды абапертымі на жаролах, працамі ня толькі пранёс цягласьць скарынаведных дасьледваньняў праз самыя панурыя часы інквізыцыі XX стагодзьдзя, але важнымі адкрыцьцямі нашую веду пра доктара Скарыну выдатна ўзбагаціў ды пашырыў*).

У васобе Антона Васілевіча Флароўскага гісторыя згубіла вялікае культуры ды шырокіх навуковых гарызонтаў вучонага, а беларуская навука — свайго шчырага прыяцеля-талачаніна ды найбольш заслужанага скарыніста XX стагодзьдзя. Вечным нязьнішчальным помнікам засталіся аднак-жа па ім плады руплівае дасьледнае дзейнасьці навукоўца — каштоўныя працы, шмат балонак якіх адведзена доктару Францішку Скарыну ды гісторыі беларускага народу наагул.

---

*) Ужо па сьмерці выдатнага гісторыка ў друку паявіліся ягоныя два скарынаведныя нарысы: *Scoriniana* — напісаны пры канцы 1966 году агляд скарынаведнае літаратуры апошніх сарака гадоў, у сцэнзураваным скарочаным выглядзе быў надрукаваны ў зборніку Акадэміі навук БССР «450 год беларускага кнігадрукаваньня», Мінск, 1968 г., б. 389—433. Другі, напісаны перад самай сьмерцяй, артыкул, гэта рэцэнзыйны разгляд працы С. Брагі «Доктар Скарына ў Маскве» (выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963 г.) — А. В. Флоровский. Франциск Скорина и Москва (у зборніку: Литература и общественная мысль древней Руси. Академия наук СССР. Труды Отдела древнерусской литературы, т. XXIV. Ленинград, 1969 г., б. 155—158).




400 лецьце

БЕЛАРУСКАГА

ДРУКУ






*Вокладка скарынінскага юбілейнага зборніка 1926 году Інстытуту Беларускае Культуры ў Менску «450-лецьце беларускага друку». Кніга пазьней была сканфіскаваная партыйнымі ўладамі ды зьнішчаная.*

# SCORINIANA NOVA
# 1926—1966

*Вітаўт Тумаш*

У нарысе „Scoriniana, 1776—1926“ Уладзімера Пічэты, што памешчаны ў менскім скарынінскім юбілейным зборніку 1926 году Інстытуту Беларускае Культуры «Чатырохсотлецьце беларускага друку», дадзены агляд важнейшае скарынаведнае літаратуры за 150 папярэдніх год. Хоць ад друку Пічэтавай Scoriniana мінула ледзь сорак год, у галіне скарынаведных дасьледваньняў новага, цікавага й важнага столькі, што паўстае патрэба даць агляд усей той важнейшай новай літаратуры, якая датычыць да жыцьця, дзейнасьці й пісьменьніцкае ды выдавецкае спадчыны доктара Франьцішка Скарыны.

Гістарычныя абставіны дадзенае пары былі вельмі неспрыяльныя для беларусаведнай усякай працы, а для скарынаведных дасьледваньняў асабліва. Галоўныя прычыны гэтага былі дзьве: праведзены Масквою, ужо хутка пасьля выхаду зборніка «Чатырохсотлецьце», разгром, як «нацыяналдэмакратычнае», беларусаведнае працы ў межах БССР і спаралiжаваньне яе на дзесяткі год на прасторы ўсяго СССР, ды — зьнішчальны хаос Другое Сусьветнае Вайны.

І ўсё-ж, скарыніяна год 1926—1966 мае выдатныя дасягненьні. У гэтым якраз часе папоўнілася яна вельмі важнымі новымі адкрыцьцямі, найперш у выніку выяўленьня тых новых актавых матар'ялаў, што далі магчымасьць раскрыць новыя балонкі Скарынавае біяграфіі, новыя галіны ягонай дзейнасьці. Паважныя здабыткі існуюць незважаючы на тое, што ніякое пляновае, сыстэматычнае навукова-дасьледнае працы ў гэтай галіне гэтым часам не вялося. За скарынаведнымі дасьледваньнямі не стаялі дзяржаўна-нацыянальныя навуковыя ўстановы, інстытуты ці акадэміі, іхныя матар'яльныя рэсурсы й навуковыя кадры. Поступ быў дасягнуты толькі дзякуючы ахвярнай працы паасобных дасьледнікаў, увагу якіх заўсёды прыцягала выдатная постаць вучонага-гуманісты Беларусі й яе першадрукара. Ды й вялася яна блізу вылучна за межамі роднага Скарынавага краю.

Даць агляд новае важнейшае літаратуры год 1926—1966 ды ўсіх новых архіўных адкрыцьцяў і выяўленых новых, датычных да доктара Скарыны, фактаў, ды прадоўжыць гэтак Пічэтаву Scoriniana — галоўнае заданьне, што ставіцца гэтаму кароткаму нарысу. Агляд гэты дапаўняе Пічэтавы й за час ахоплены ягоным, бо зьвяртае ўвагу на ўсё важнейшае, што там

ня было адзначана. Дапаўняе яна Пічэтаву працу й кароткім аглядам важнейшае літаратуры пра Скарыну за 275 год перад годам 1776-м, выходным годам Пічэтавае Scoriniana — скарыніяну XVI, XVII й XVIII стагодзьдзяў.

1

Агляд паўсталае ад 1926 году скарынаведнае літаратуры мэтазгодна пачаць з самае якраз Пічэтавай Scoriniana. Гэта даволі вялікая, займае 44 бачыны друку, праца. У ей дадзены крытычны пераказ важнейшых фактаў і паглядаў выказаных пра доктара Скарыну ў розных працах і публікацыях, у храналягічным прыблізна парадку паявы іх у друку. Асаблівую ўвагу аўтар сканцэнтраваў на колькіх ці важнейшых, ці спрэчных ды нявыясьненых пытаньнях скарынаведных дасьледваньняў.

У першым разьдзеле Scoriniana дадзены перагляд літаратуры ад 1776 году, году друку Бакмайстэрам вопісу праскага Пяцікніжжа Скарынавага выданьня,[1] да 1888 году, году паявы манаграфіі пра Скарыну П. В. Валадзімірава.[2] У другім Пічэта пераказвае, дадаючы свае крытычныя заўвагі, зьмест гэтае манаграфіі. У трэцім адзначаныя важнейшыя рэцэнзыйныя на яе водгукі — Сабалеўскага, Муркі, Доўнар-Запольскага, Пыпіна, Ольгіна, Стэповіча, Будзіловіча, ды некаторых іншых. Пры канцы разьдзелу пададзены зьмест падуанскіх ды кеніґсбэрскіх, датычных да доктара Скарыны, актаў. У вапошнім, чацьвертым, перагляд важнейшае паваладзімíравай скарыніяны, скарыніяны год 1888—1925.

З самога пераліку разьдзелаў Пічэтавага нарысу відаць, што цэнтральнае ў ім месца адведзенае Валадзіміравай манаграфіі, як бясспрэчна найважнейшай пра доктара Скарыну працы гэнае пары. І сама Пічэтава Scoriniana пісаная на ўзор уводнага разьдзелу гэтае манаграфіі, у якім Валадзіміраў дае падобны храналягічны агляд усей важнейшай папярэдняй літаратуры да дадзенае тэмы.

Добры ў цэлым Пічэтаў нарыс ня вольны ўсёжтакі й ад некаторых недакладнасьцяў, пропускаў, памылак, важнейшыя зь якіх гэтта й будуць адзначаныя. Прыкладам, мыляецца Пічэта, калі кажа, што А. Віктараў першы ў сваей працы 1867 году[3] зьвярнуў увагу на магчымае існаваньне ў Скарыны побач імя Франьцішак і імя Юры (293). Віктараў там нічога пра гэта не згадвае. Блытана выпала ў Пічэты й справа пратэстантызму Скарыны. Раз ён станоўка заяўляе, што «Трэба адкінуць фантастычныя мяркаваньні Галавацкага аб прыналежнасьці Скарыны да пратэстантызму» (292), каб колькі бачынаў далей гэтаму запярэчыць: «можна лічыць прынцыпова правільным падыход да Скарыны Галавацкага, які зьяўленьне скарынінскіх выданьняў тлумачыць уплывамі рэфармацыі й пратэстантызму Скарыны» (б. 298). У выніку, чытач пакідаецца ў зьбянтэжанай ня-

---

[1] Bacmeister, Jean. Essai sur la biblioteque et le cabinet de curiosités et d'historie naturelle de l'Academie des Sciences de Saint Petersbourg. Saint Petersbourg, 1776, b. 91—97.

[2] Владимиров, П. В. Доктор Франциск Скорина. СПБ, 1888.

[3] Викторов, Алексей. Замечательное открытие в древнорусском книжном мире. (Беседы в Обществе любителей российской словесности при Императорском Московском Университете. Вып. I. Москва, 1867, б. 1—27).

пэўнасьці, як у запраўднасьці із Скарынавым пратэстантызмам было: мяркаваньні гэтыя «правільныя», ці «фантастычныя»?

Пры частых дакорах аўтарам іншым, што высновы трэба рабіць толькі апіраючыся на фактах, сам Пічэта, без дастатковага на гэта абаснаваньня, назваў «байкаю» Капітарава дапушчэньне 1840 году[4] аб тым, што можа гэта Скарына быў тым «доктарам Франьцішкам», які ў 1525 годзе наведаў у Вітэмбэргу Мэлянхтона ды сустрэўся з Марцінам Лютэрам (б. 316). Пічэта, за Віктаравам, гэтую магчымасьць адкінуў на той толькі аснове, што Скарына ў 1525 годзе друкаваў у Вільні свой Апостал, а, значыцца, быць у Вітэмбэргу быццам і ня мог. Ды Капітар, найперш, зусім ня цьвердзіў, што Скарына напэўна быў тым «доктарам Франьцішкам», а падобную магчымасьць, як «гістарычнае пытаньне» — quaestio historica — толькі ставіў пад навуковую развагу й падставаў на гэта меў дастаткова. Затое Віктараў, а за ім і Пічэта, на аснове толькі факту друку Скарынам у 1525 годзе ў Вільні Апостала падставаў ня мелі гэткую магчымасьць гэтак станоўка адкідаць. Яны выпусьцілі зь віду, што друкаваць свой Апостал Скарына кончыў ужо ў сакавіку 1525 году, дык заставалася яшчэ цэлых дзевяць месяцаў году — часу для такога рухавага падарожніка, як Скарына, аж надта, каб зь Вільні да Вітэмбэрга ня толькі заехаць, але стуль і вярнуцца. Дык друк Скарынам у 1525 годзе Апостала не дае асноваў ні на адкіданьне Капітаравага дапушчэньня як немагчымага, ні на дакоры іншым, прыкладам Максіму Гарэцкаму, за тое, што той згадаў пра гэта ў сваей «Гісторыі беларускай літаратуры». Пічэта-ж ня вытрываў, каб Гарэцкага ня ўпікнуць: «Гэтую байку трэба было-б выкінуць з курсу, што прэтэндуе на навуковасьць» (б. 316).

Робіць Пічэта й колькі іншых неабаснаваных дакораў М. Гарэцкаму. Гэтак ён кажа:

> «У працы ёсьць і бяздоказныя думкі. Так, Скарына зьяўляецца сынам „заможных купцоў, якія мелі гандаль з Рыгаю й Вільняю». Гэта ёсьць першая памылка . . . У Гарэцкага ёсьць думка, якую давесьці немагчыма: „у гэтай працы яму (Скарыну), памаглі заможныя беларусы, прыхільнікі асьветы, а ў першы чарод памагло, кладучы кошты, Віленскае Панскае Брацтва . . . Памаглі яму й беларускія мяшчане, прыкладам сын віленскага радцы Багдан Онкаў, віленскі бурмістр Якуб Бабіч, і іншыя. Яны давалі яму грошы й здабывалі й прысылалі патрэбныя матар'ялы"» (б. 316).

І згаданае Гарэцкім паходжаньне Скарыны «з заможных купцоў», і дапамога яму багатых віленскіх мяшчанаў — факты агульна ведамыя, даводзіць якія няма й патрэбы. Няпэўная тут толькі згадка пра дапамогу «Віленскага Панскага Брацтва», пра што ў ведамых актах паказаньняў няма. Але гэтую думку Гарэцкі пераняў ад Валадзімірава й закід аб яе высоўваньні бяз довадаў трэ' было-б Пічэту й кіраваць найперш да Валадзімірава, а не да Гарэцкага.

Заслугу выяўленьня падуанскіх унівэрсытэцкіх актаў датычных да доктара Скарыны Пічэта беспадстаўна прыпісаў І. Шляпкіну (б. 313). Першым, хто акты гэтыя знайшоў і выпіскі зь іх у 1892 годзе ў друку падаў

---

4 Kopitar, Bartholomeus. Hesychii Glossographi . . . Vindobonae, 1839(40), b. 33—34.

быў ня Шляпкін, а Ст. Віндакевіч.[5] Прызнаў гэта сам Шляпкін.[6] Памылкова ў Пічэты, і аж двойчы (290, 292), прозьвішча аўтара гісторыі ўкраінскае літаратуры 1887 году, Э. Огоновського, пададзенае як «Огіенко Ів.». Пад такім прозьвішчам кніжкі гэтае ніхто, пэўна-ж, ня знойдзе. Таксама аўтар біябібліяграфічнага нарысу пра Скарыну ў выданьні «Русский биографический словарь», А. Купалов, у Пічэты памылкова названы «Копыловам» (б. 325).

Паважная загана Scoriniana — вялікія пропускі ў галіне заходняэўрапейскай скарынаведнай літаратуры, зь якою й Пічэта, і Валадзіміраў, былі менш знаёмыя. Ужо сам 1776 год узяты аўтарам для пачаткаў скарыніяны, год выбраны давольна. Пра Скарыну й пісалі, і друкавалі, а кнігі ягоныя хвалілі ды ганілі, і перад 1776 годам. Дык скарыніяна існавала й у стагодзьдзях XVI ды XVII, ці даўно перад Бакмайстэрам.

Гэтак, яшчэ за жыцьця доктара Скарыны, у 1539 годзе, у Італіі, на ўнівэрсытэце Павіі, у часе сваіх унівэрсытэцкіх лекцыяў Кнігамі Царстваў Скарынавага перакладу ды друку карыстаўся ды прыклады зь іх сваім слухачом, як узоры пісьма й мовы «ґотаў» ці «сэрвіянаў», даваў выдатны мовавед-паліґлёт, прадвесьнік пазьнейшае параўнальнае моваведы, Амброжы Тэзэй Альбонэзі. Большую цытату з Кнігі Царстваў Скарыны ён прывёў, у лацінічнай трансьлітарацыі, у сваей, выдадзенай у 1539 годзе ў Павіі, кнізе Introductio in Chaldaicam linguam, Syriacam, atque Armenicam, et decem alias linguas.[7]

Дваццаць год пазьней другі выдатны італіянец, рэфармацыйны дзеяч і палеміст, Петро Паолё Вэрджэрыё, у выдадзенай у 1559 годзе ў Тубінґіне кніжцы «Да інквізытараў, што ў Італіі», паведаміў, што калі ён у 1556 годзе наведаў Вільню, яму там у вялікай царкве паказвалі друкаваную, перакладзеную на мову «Рутэнаі», Біблію — напэўна Біблію Скарыны, бо-ж нейкай іншай друкаванай у мове «Рутэнаі» Бібліі гэтым часам яшчэ ня было.[8]

Колькі год пасьля ведамы маскоўскі ўцекач ад Івана Грознага, князь Андрэй Курбскі, вострa асудзіў ў сваіх лістох Скарынаву Біблію, як пераклад «с препорченых книг жидовских».[9] Гэтым самым прыблізна часам на аўтарытэт Скарынавага перакладу Бібліі паклікаецца ў прыпісках да свайго польскага перакладу Новага Запавету 1574 году, ды й у некаторых сваіх палемічных творах, выдатны беларускі арыянін Сымон Будны.[10] «Гусытам» затое ды «гарэтыкам» Скарыну ў 1622 годзе назваў архіманд-

---

[5] Windakiewicz, St. Materyały do historyi Polaków w Padwie. Archivum do dziejów literatury i oświaty w Polsce, t. VII. Kraków, 1892, b. 153.

[6] Шляпкин, И. К биографии Франциска Скорины (Журнал Министерства Народного Просвещения, Нр. 4. СПБ, 1892, б. 382).

[7] Albonesi, Theseus Ambrosius. Introductio in Chaldaicam linguam, Syriacam, atque Armenicam, et decem alias linguas... Pavia, 1539, b. 52.

[8] Vergerio, Pietro Paolo. A gl'Inquisitori che sono per l'Italia. Di Tubinga, 1559, b. 47

[9] Сочинения князя Курбского, т. I. (Русская историческая библиотека, изд. Императорскою Археографическою Комиссией. СПБ, 1914, б. 402).

[10] Budny, Simon. Nowy Testament znowu przełożony... Łosk, 1574. O przedniejszych wiary christianskiej artykulech... Łosk, 1576.

рыт віленскага Сьвятадухавага манастыра, пазьнейшы полацкі япіскап і вуніяцкі мітрапаліт, наваградчанін Анастазы Антон Сялява.[11]

Незважаючы на закіды ў «гарэтычнасьці» Скарынавых кнігаў ды на ведамыя факты іх публічнага паленьня ў Маскве ў першай палавіне XVI стагодзьдзя, сто год пазьней, у годзе 1619, на тэксты Скарынавага Псалтыра, як на аўтарытэт, пры выданьні Псалтыра абапіраецца маскоўскі сьвятар Нікан.[12] У 1675-м-жа годзе, пры вопісе кнігаў патрыяршае «рызнае казны» ў Маскве, маскоўскі манах Эўфімі нацыянальную існасьць Кнігі Царстваў Франьцішка Скарыны азначае як «книга... печатная Белоруская».[13] Аўтарытэт Скарыны прызнаюць і выдатныя стараверскія дзеячы, браты Андрэй і Сямён Дзянісавы Вторушыны, якія ў вадказ на 50-е пытаньне ў сваіх слаўных «Поморских ответах» 1723 году паклікаюцца на Скарынаву праскую Кнігу Сыраха 1517 году, як на «книгу белорусцей», у якой прыклад правільнага пісаньня імя «Ісус».[14]

Зь вялікай пахвалой пра «раскошна выдадзеныя» кнігі Скарыны, якія давялося яму бачыць у Маскве, адзываецца й польскі храністы Сымон Старавольскі ў сваей, друкаванай у 1625 годзе ў Франкфурце, кнізе «Гэкатонтас,[15] кнізе, што пазьней была перавыдадзеная раз у Вэнэцыі, а ўжо на пачатку XVIII стагодзьдзя і ў Вроцлаве, ды гэтак ведамку пра «раскошныя» выданьні Скарыны пашырыла па ўсей тагачаснай Эўропе. У першай-жа палавіне XVIII стагодзьдзя пратэстанцкі тэалёг Сыльвэстра Вільгельм Рынґельтаўбэ наракае ў друкаванай у Гданску кнізе на тое, што Сымон Будны у сваіх палемічных творах «надужываў» імём і кнігамі й гэткага выдатнага майстры слова — Schrifftmeister — як Скарына.[16]

У Пічэты няма згадкі й пра выдатнага мовавeда-арыенталісту ды тэалёга, прафэсара ўнівэрсытэту ў Ґётынґене, Ёгана Давіда Міхаэліса, які ўжо ад ад 1766 году ў сваіх унівэрсытэцкіх лекцыях згадваў студэнтам пра доктара Скарыну й ягоную, выдадзеную ў Празе, Біблію, а ў 1777 годзе вестку гэтую падаў і друкам у другім выданьні свайго нарысу аб Новым Запавеце.[17] Кніга Міхаэліса ў сваю пару была вялікім аўтарытэтам у сваей галіне, мела колькі выданьняў панямецку, была перакладзеная на колькі іншых моваў, і між імі на ангельскую, францускую ды галяндзкую, ды гэтак вестку пра Скарыну й Біблію ягонага перакладу пашырыла па краінах Захаду. Гэта з кнігі Міхаэліса пра друкаваную ў Празе Скарынам Біблію даведаўся й выдатны чэскі філялёг Язэп Даброўскі, які ў сваей

---

11 Sielawa, Anastazy Antoni. Antelechus... W Wilnie, 1622, b. 53.

12 Псалтыр, выданьне «Попа Никона». Москва, 1619.

13 Евфимий, манах. Опись книгам, поступившим в 1675 году в Патриаршую ризную казну... Издал В. Ундольский. Москва, 1847, б. 12, Нр. 361.

14 Денисовы, Андрей и Семен. Кніга рукапісная, знайходзіцца ў Публічнай Бібліятэцы Ню Ёрку. Адказ на 50-е пытаньне.

15 Starovolski, Simon. Scriptorum polonicorum „Ekatontas". Francoforti, 1625, b. 59.

16 Ringeltaube, Silvius Wilhelm. Gruendliche Nachricht von polnischen Bibeln... Danzig, 1744, b. 170.

17 Michaelis, Johann David. Einleitung in die göttlichen Schriften des Neuen Bundes. Dritte Ausgabe. Erster Theil. Göttingen, 1777, b. 447—452.

дасьледнай працы прыдзяліў пазьней шмат увагі Скарынавай літаратурна-выдавецкай спадчыне. Гэта Міхаэліс на Біблію Скарыны зьвярнуў, відавочна, увагу й ведамага расейскага бібліяграфа XVIII стагодзьдзя, Зьмітры Сямёнава-Руднёва (пазьнейшага япіскапа Дамаскіна), калі той на ўнівэрсытэце ў Ґётынґене вучыўся ў яго грэцкае ды гэбрайскае моваў. З кнігаў Скарыны ён і пачаў свой бібліяграфічны паказьнік 1785 году «Библиотека Российска»,[18] пра які ў Пічэты таксама ніякое згадкі.

Ад Міхаэліса ведамкі пра Скарынаву Біблію ў свае ўнівэрсытэцкія курсы й кнігі перанялі й іншыя тэалёгі, прыкладам, ягоны вучань Айхгорн у Нямеччыне ды Марш і Таўнлі ў Англіі. У выніку глыбей перакладамі Скарыны зацікавіўся ангельскі тэалёг Эбэнэзэр Гэндэрсон, які ў 1826 годзе даў вопіс Скарынавых кнігаў, адзначыўшы арыгінальнасьць перакладу, беларускасьць мовы, ды прывёў узоры тэксту ў супастаўленьні з тэкстамі лацінскім, грэцкім, гэбрайскім і царкоўнаславянскім.[19] Заўвагі ягоныя ды высновы ня згубілі свае навуковае цікавасьці й сяньня, хоць, трэба прызнаць, пра іх існаваньне нічога ня ведаў ня толькі Пічэта, але й ніхто зь іншых скарыністых.

Дык зарадзілася скарыніяна не ад 1776 году, як падаваў Пічэта, і не Бакмайстэр яе пачынальнік. Ёсьць і пазьнейшыя важныя, датычныя скарынаведы, выданьні, якія не адзначаныя ў Scoriniana Пічэты, хоць іх і ня гэтак шмат. Найперш трэба тут адцеміць працу венскага гісторыка Язэпа Фідлера 1862 году, у якой надрукаваны лацінскі тэкст інструкцыі 1553 году караля Жыгімонта Аўгуста, накіраванае сваймy паслу пры папскім пасадзе ў Рыме, Вайцеху Крыску, у якой важная вестка пра падарожжа доктара Скарыны — бяз згадваньня ягонага прозьвішча — да Масквы ды публічнае спаленьне там, на загад маскоўскага князя, кнігаў Бібліі ягонага перакладу й друку.[20] Незаўважыў Пічэта й інтэрпрэтацыі гэтае весткі ў 1888 годзе чэскім гісторыкам Язэпам Пэрвольфам, які першы зьвязаў яе з асобаю доктара Скарыны.[21]

Ды, незважаючы на адцемленыя тут недагляды ды пропускі, Пічэтава Scoriniana усё-ж дае добры ўводны агляд адпаведнае літаратуры 1776—1926 год. Каштоўная яна асабліва сваім крытычным углядам ува ўсе важнейшыя пытаньні скарынаведы, як, прыкладам, веравызнаньне доктара Скарыны, мовы, ягоных паглядаў, сьветагляду. Пічэтавы заўвагі ды даведкі да ўсіх гэтых пытаньняў маюць сваю навуковую цікавасьць і сяньня.

---

[18] Дамаскин (Димитрий Семенов-Руднев). Библиотека Российская или сведение о всех книгах в России с начала типографии на свет вышедших (Памятники древней письменности и искусства, т. XI. СПБ, 1881, б. 15—16).

[19] Henderson, E(benezer). Biblical researche and travels in Russia. London, 1826, b. 103—111.

[20] Fiedler, Joseph. Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte (Sitzungsberichte der Philosophisch-Historischen Classe der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften, 40 B., Heft 1. Wien, 1862, b. 118—123).

[21] Первольф, И. И. Славяне, их взаимные отношения и связи, т. II. Варшава, 1888, б. 596—597. Шырэй пра падарожжа доктара Скарыны да Масквы ў працы: Брага, Сымон. Доктар Скарына ў Маскве (Запісы, кн. 2. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1963. б. 9—36). Таксама адбітка.

## 2

Адно з найважнейшых выданьняў у галіне скарыніяны 1926—1966 год гэта менскі скарынінскі юбілейны зборнік Інстытуту Беларускае Культуры «Чатырохсотлецьце беларускага друку», у якім надрукаваная й разгледжаная ўжо Пічэтава Scoriniana. Зборнік мае VIII + 360 бачынаў друку ды 70 ілюстрацыяў. Як у прадмове яго адзначана, паўстаў ён у выніку пастановы «Савету Народных Камісараў Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі ад І-га лістапада 1925 году». Выдадзены зборнік тыражом 1 200 экземпляраў.

Зьвяртае ўвагу факт, што пастанова «Савету Народных Камісараў» пра выданьне юбілейнага зборніка была вынесеная звыш паўгоду пасьля таго, як месяц угодкаў, сакавік, мінуў ды беларуская грамадзкасьць юбілей даўно ўжо адзначыла. Хоць на кнізе год яе выхаду пададзены як 1926, ды з друку яна паказалася толькі ў сярэдзіне году 1927, і, як наракаў рэцэнзэнт Хв. Шынклер, «спазьненьне гэтае значна пазбавіла зборнік надзённасьці».[22] Калі ў часе свайго выхаду зборнік мо й ня меў ужо юбілейнае «надзённасьці», гэта ані ня зьменшыла ягоных трывалкіх навуковых вартасьцяў, якія захаваў ён і да сяньня.

Рэдагавала зборнік камісія ў складзе: Уладзімер Пічэта, тагачасны рэктар Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, старшыня; Васіль Дружчыц — сакратар; Язэп Дыла, Зьмітро Жылуновіч, Язэп Лёсік, Мікола Шчакаціхін — сябры. Адказным рэдактарам быў Аркадзь Смоліч. Як адцемлена ў прадмове, мэтаю зборніка было: «ня толькі дакладнае апісаньне жыцьця й дзейнасьці Францішка Скарыны на Беларусі, але таксама ахапіць усю тую эпоху, калі жыў Скарына, апісаць тыя культурныя асяродкі, у якіх даводзілася яму працаваць, і якія, зразумела, зрабілі на першага беларускага друкара пэўны ўплыў». Вось вопісам «культурных асяродкаў» ды «эпохі» ў зборніку й адведзена найбольш месца. Працы прысьвечаныя самому Скарыну й ягонай пісьменьніцкай ды выдавецкай спадчыне, займаюць менш палавіны зборніка.

Дадзены рэдакцыйнай камісіяй назоў для зборніка — «Чатырохсотлецьце беларускага друку» — бясспрэчна няўдалы, не аддае гістарычнае істоты ўгодкаў. Пачаткі Скарынавага друку, гэта выдадзены 6 жнівеня 1517 году ў Празе Псалтыр, а значыцца — чатырохсотлецьце беларускага друку прыпадала на 1917 год, калі яно й было, хоць дзеля вайны й вельмі сьціпла, у Беларусі адзначана. У 1925-жа годзе прыпадалі ўгодкі ўжо не беларускага друку, а пачаткаў друку на беларускай зямлі, друку *ў Беларусі*. Дык дадзены зборніку назоў памылковы й непатрэбна ўводзіць у блуд менш абазнанага зь гісторыяй беларускага друку чытача.

У зборніку дванаццаць артыкулаў васьмі аўтараў. Даходзіць да гэтага рэдакцыйная прадмова, а пры канцы кнігі — грунтоўныя камэнтары М. Шчакаціхіна да ілюстрацыяў ды геаграфічны й уласных імяў паказьнікі. З усіх 12 артыкулаў, чатыры пяра Уладзіміра Пічэты, які быў ня толькі старшынём рэдакцыйнае камісіі ды «душою» рыхтаваньня зборніка,

---

22 Шынклер, Хв. Рэцэнзыя на: Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1926 (Узвышша, Нр. 1 (7). 1928, б. 183).

але й найважнейшым яго аўтарам. Працы Пічэты займаюць дьве пятыя зборніка.

У першым артыкуле, пра гуманізм у Італіі, Уладзімерам Перцавым разгледжаны чамусьці гуманізм толькі XIV—XV стагодзьдзяў, а нічога ў ім пра гуманізм першае палавіны стагодзьдзя XVI ды пра італіянскі рэнэсанс, які ў часы Скарыны дайшоў да ўзвышшаў свайго красаваньня. Багаты фактамі й у культурнае асяродзьдзе пары добра ўводзіць чародны артыкул Зьмітры Ягорава пра Падуанскі ўнівэрсытэт. Пабежны затое ды хаотычны нарыс Антона Ясінскага пра гісторыю Чэхіі Скарынавае пары. У ім аўтар спыняецца даўжэй і над пытаньнем чэскіх жаролаў Скарынавае Бібліі, каб дайсьці да ведамага Яз. Пэрвольфу ўжо ў XIX стагодзьдзі выснаву, што галоўнае чэскае жарало Скарынавага перакладу — чэская Біблія 1506 году. Слабы бок нарысу Ясінскага й той, што ў ім няма й згадкі пра чэска-беларускія палітычна-культурныя дачыненьні Скарынавае й даскарынавае пары, вельмі бойкія яшчэ ад часоў вялікага князя Вітаўта, ды асабліва за панаваньня Ягайлавічаў на чэскім каралеўскім пасадзе, а па 1526 годзе, за караля Фэрдынанда I, і дзякуючы ягонай жонцы, каралеве Ганне зь Ягайлавічаў. Вось пра гэтыя дачыненьні, якія напэўна абумовілі й факт прабываньня Скарыны ў Чэхіі, нічагуткі ў вартыкуле Ясінкага. Каштоўныя ў зборніку працы зь гісторыі Беларусі Скарынавае пары выдатных гісторыкаў Вялікага Княства Літоўскага Міхала Любаўскага ды Уладзімера Пічэты. Шмат цікавага й у нарысе пра Вільню пары Скарыны Васіля Дружчыца.

З артыкулаў пра самога Скарыну першым ідзе Міхала Піотуховіча, у якім біяграфічны нарыс ды агляд літаратурна-выдавецкай спадчыны. Пра жыцьцяпіс доктара Скарыны ў нарысе Піотуховіча адцемлена бадай усё важнейшае тады ведамае. З памылак адзначыць трэба паўторанае за Ул. Ігнатоўскім цьверджаньне, што Біблія Скарыны храналягічна займае трэцяе месца «пасьля друкаванай Бібліі нямецкай і чэскай» (б. 175). У запраўднасьці-ж ужо сярод інкунабульных Бібліяў XVI стагодзьдзя бібліяграфы адзначаюць друкаваныя Бібліі лацінскія, нямецкія, італіянскія, французскія, чэскія, ды колькі іншых. Паскарынавымі былі першыя друкаваныя Бібліі ангельская (1524), данская (1524), швэцкая (1526), польская (1552).

Няўдалося Піотуховічу й «падвесьці цьвёрды сацыялягічны й гістарычна культурны базіс» пад дзейнасьць Скарыны (б. 171) ды ўзалежніць яе ад «гандлёвага капіталу». Вывад Скарынавага сьветагляду ад «гаспадарчых сыстэмаў» выпаў у Піотуховіча непераконлівa. Грубы спосаб «эканамізаваць» культурныя зьявы асабліва яскрава відаць у вартыкуле Піотуховіча пра Скарыну надрукаваным у 1925 годзе ў часапісе «Маладыя араты». Піотуховіч там пісаў: «Нятледзячы на тое, што Ф. Скарына зьяўляецца прадуктам гандлёвага капіталу, ці інакай кажучы, прадуктам буйнай і дробнай буржуазіі, усё-ж такі мы сяньня сьвяткуем юбілей выдадзеных ім кніжок, як паказчыкаў тагачаснай культуры, якая зьявілася ў нашы дні грунтам для разьвіцьця беларускай рабоча-сялянскай культуры».[23] Скарына — «прадукт гандлёвага капіталу» — яскравы прыклад намаганьняў аўтара датарнавацца да палітычных вымогаў рэжыму ды адначасна пры-

---

[23] Піотуховіч, М. М. Францыск Скарына й беларускае адраджэньне (Маладыя араты, Нр. 14. Менск, 1925, б. 1—2).

крыцца аўтарытэтам афіційнага тагачаснага савецкага гісторыка М. Н. Пакроўскага, які культурна-цывілізацыйныя працэсы гісторыі й зводзіў якраз да дзейнасьці «гандлёвага капіталу».

Вынік абавязваючае ў БССР палітычнае ідэялёгіі й Піотуховічавае памылковае азначэньне Скарыны, як дзеяча, у якога «цені сярэднявечча» пераважаюць над «блізкамі рэнэсансу», ці, залічаньне яго да эпохі сярэднявечча. Пісаць гэтак даводзілася таму, што Скарына выдаваў рэлігійныя кнігі, і найперш, аснову асноваў хрысьціянства — Біблію, якая ў СССР партыйнаю прапагандаю кляймавалася як галоўнае апірышча «опіюму для народу» — рэлігіі. Сьведама, ці не, але Піотуховіч выпускаў зь віду, што й усе выдатныя гуманістыя Эўропы пары Рэнэсансу ні Бібліі, ні рэлігіі не адкідалі, а прыдзялялі заўсёды ім шмат увагі, як, прыкладам, і найвыдатнейшы зь іх Эразм Ротэрдамскі.

Нарыс пра гравюры ды кніжныя аздобы выданьняў Скарыны Міколы Шчакаціхіна абаперты на ўважным вывучэньні матар'ялу й гэта найбольш арыгінальная праца зборніка. Ілюстраваная яна звыш 20-цю рэпрадукцыямі дрэварытаў і заставіцаў Скарынавых кнігаў. У ей спроба ўліку ўсіх Скарынавых дрэварытных ілюстрацыяў ды іх мастацкага асэнсаваньня. Ды ёсьць у нарысе й некаторыя дастаткова неасьветленыя й неразьвязаныя пытаньні. Найперш, ня высьветленая роля аздабленьняў беларускіх рукапісных кнігаў, як выходных для стварэньня кніжных графічных аздобаў Скарынавых выданьняў, асабліва заставіцаў. Ня выяўленая шырэй на канкрэтных прыкладах і мастацкая сувязь Скарынавых ілюстрацыяў з тагачаснай эўрапейскай кніжнай графікай, асабліва выданьняў Чэхіі, Нямеччыны, Італіі. Не раскрытае й тое важнае значаньне, якое Скарынавыя выданьні сваім графічным афармленьнем мелі на пазьнейшы друк Беларусі й усей усходняй Эўропы.

У разглядзе мовы выданьняў Скарыны Язэпа Воўк-Левановіча аўтар намагаецца падважыць ведамую тэзу Аўхіма Карскага, што гэта мова «ў сваей аснове народная беларуская»,[24] а прыймае пагляд яшчэ з XIX стагодзьдзя А. І. Сабалеўскага аб тым, што «ў васнову большасьці выданьняў пакладзена царкоўнаславянская мова» (б. 266). Аўтар ня ўсьведаміў, што ня ўсё, што Скарына друкаваў, друкаваў у перакладзе. Кнігі літургічнага характару, як Псалтыр, Апостал, царкоўныя сьпевы ды малітвы, Скарына даваў бяз перакладу, як сам гэта й адзначыў у прадмове да Псалтыра, дзе сказана, што мовы яго ён «ня рухаў». Воўк-Левановіч-жа ў сваім разглядзе зблытаў перакладзенае зь неперакладзеным і дзеля гэтага й ня мог дайсьці да правільных высноваў. Бясспрэчна абгрунтаваны затое агульны вынік дасьледваньняў Воўк-Левановіча, што «жывая беларуская мова эпохі Скарыны ў большасьці сваіх характарыстычных рыс — фанэтыцы, марфалёгіі й слоўніку — была такою, якою мы яе ведаем цяпер».

Ацэніваючы зборнік «Чатырохсотлецьце» як цэласьць, кідаюцца ў вочы частыя ў ім супярэчнасьці ў паглядах аўтараў на некаторыя справы, як, прыкладам, на веравызнаньне Скарыны, ягонае сацыяльнае паходжаньне, мову, і г. д. Ясінскі Скарыну называе пратэстантам, Піотуховіч уважае яго

---

[24] Карский, Евфимий Федорович. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени, ч. 2. Старая западно-русская письменность. Петроград, 1921, б. 24.

за праваслаўнага, Пічэта пакідае гэта пытаньне адкрытым. Гэтыя супярэчнасьці прызнаў за загану зборніка Хв. Шынклер: «кампіляцыйны характар працы ня мог не адбіцца на адзінсьцьве вывадаў артыкулаў — яны ў сваіх заключэньнях часта-густа супярэчаць адзін другому, а гэта значна абніжае вартасьць зборніка, пазбаўляе яго значэньня фундамэнтальнай, вычэрпваючай тэму працы . . .».[25] Ды Хв. Шынклер ня ўзяў на ўвет, што вымагаць адналітасьці паглядаў можна толькі ў пытаньнях канчаткова высьсненых, а ня ў тых, адказ на якія дасьледваньнямі яшчэ ня дадзены. У гэткіх выпадках лепш пакінуць сваводу ў выяўленьні паглядаў розных, даць магчымасьць выказацца ўсім. Толькі гэтак можна спадзявацца хутчэйшага высьсненьня праўды.

Сказаць можна, што працы зборніка «Чатырохсотлецьце беларускага друку» толькі абагульнілі вынікі папярэдніх дасьледваньняў. У іх, затое, няма ніякіх новых фактаў, дакумэнтаў ці актаў пра Скарыну. Хоць у зборніку й памешчаны добры бібліяграфічны агляд Пічэты важнейшае літаратуры пытаньня, ды самое бібліяграфіі скарыніяны ў ім таксама не дадзена. У супастаўленьні з манаграфіяй Валадзімірава, зборнік адводзіць больш увагі насьвятленьню культурна-гістарычнае пары, а менш самому Скарыну й ягонай літаратурнай спадчыне. Дзеля гэтага два гэтыя выданьні ў вялікай меры сябе дапаўняюць.

## 3

Паява немалога памерамі ды паважнага зьместам навуковага зборніка пра Францішка Скарыну, складзенага ў выніку адмысловае пастановы ўраду нядаўна паўсталае беларускае рэспублікі, апрацаванага й зрэдагаванага прафэсураю новазаснаванага Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ды выдадзенага рэпрэзэнтацыйнай навуковай установай рэспублікі — Інстытутам Беларускае Культуры — раскрывала быццам новую эпоху скарынаведных дасьледваньняў. Выглядала, што навуковая праца над жыцьцём і культурнаю спадчынай выдатнага Палачаніна ісьці будзе ў будучыні ўжо не прыпадкова, не ахвярнаю толькі працаю паасобных дасьледнікаў, а весьціся будзе плянова, сыстэматычна, ды ўвязаныя ў яе будуць кадры й матар'яльныя рэсурсы нацыянальна-дзяржаўных навуковых установаў.

Неспадзеўкі сталася наадварот. Колькі ўсяго месяцаў пасьля паявы летам 1927 году кнігі-зборніка «Чатырохсотлецьце беларускага друку», на пачатку году 1928-га, у пэрыядычным друку БССР быў памешчаны, ды шырака перадрукоўваўся, артыкул першага сакратара ЦК КП(б)Б Вільгельма Кнорына «Аб рашаючых „дробязях" у вялікім пытаньні». Як пазьнейшы ход падзеяў паказаў, артыкул гэты сыгналізаваў пачатак новага курсу Масквы ў галіне нацыянальнае палітыкі ў БССР. Гэта быў знак для пачатку разгрому культурна-нацыянальнага будаўніцтва ў Беларускай ССР, разгрому, які гэтым самым часам пачынаўся й у іншых нерасейскіх рэспубліках СССР. Атакуючы «беларускі нацыянал-дэмакратызм» В. Кнорын пісаў:

---

[25] Шынклер, Хв. Тамсама, б. 184.

«Для пралетарыяту права беларускіх працоўных на беларускую мову выцякае зусім не з таго, што жыў і працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, а ад рэвалюцыйнага раўнапраўства ўсіх народаў, навет самых адсталых, ад права кажнага чалавека карыстацца культурнымі дастаткамі на роднай мове».[26]

У тымсамым артыкуле была дадзеная й пагрозьлівая ўстаноўка партыі спыніць усякія й згадкі пра выдатных дзеячоў старое культуры Беларусі, калі-ж не, дык:

«мы так раскрытыкуем Смаляцічаў і Тураўскіх, што двух радкоў ім будзе шкада прысьвячаць у гісторыі, бо яны ідуць ад другой лініі, а не ад лініі працоўных мас».[27]

Хоць гэтым разам прозьвішча Скарыны Кнорын ужо й не назваў, ды пагроза выразна была накіраваная й супроць Скарыны, і, бадай, найперш супроць яго, бо-ж Скарына быў найбольш яскравым сымбалем узвышшаў старое культуры беларускага народу. Гэта аб ім пры нагодзе нядаўных угодкаў беларускага друку ў БССР шмат пісалася, і ў афіцыйнай дыскрэдытацыі Скарыны найвышшым партыйным стаўленьнікам Масквы ў Беларусі, першым сакратаром партыі, вычувалася рэакцыя на ўгодкавыя скарынінскія абыходы ў Беларусі ды паяву скарынінскага юбілейнага зборніка «Чатырохсотлецьце».

У вабарону беларускае гісторыі й культурнага мінулага зь беларускага боку тады-ж, у часапісе «Ўзвышша», выступіў ведамы выдатны паэта й літаратуравед Уладзімер Дубоўка. Хоць сваю пазыцыю Дубоўка выказаў у сьціплай толькі пэтытнай зносцы, ды зь яе станоўкага тону, паробленых самым аўтарам падчырненьняў, ды згаданага ў ёй заатакаванага Кнорынам Скарыны, было відаць, што заява ў зносцы накіраваная супроць новае партыйнае ўстаноўкі й што гэта Дубоўкін адказ і Кнорыну, і партыі:

«*Трэба й карысна* вывучаць гісторыю сваёй краіны, адзначаючы адмоўнае й станоўкае, адзначаючы й працу паасобных працаўнікоў, як, напрыклад, беларускага гуманістага, выдатнага вучонага й першага друкара Франьцішка Скарыны. *Але шкодна, неразумна й навет рэакцыйна* захапляцца старым часам, старой эпохай, стаўляючы яе як ідэал».[28]

Ды й абарона Дубоўкі, ды іншых, Скарыны й беларускае гісторыі не стрымала партыйнага наступу на беларускую нацыянальную культуру ў БССР. У 1930 годзе, разам з тысячамі іншых пісьменьнікаў, навукоўцаў, студэнтаў, быў арыштаваны ды бяз суду сасланы й Ул. Дубоўка. Крыху пазьней было спыненае й выдаваньне «Ўзвышша».

Адначасна, як нарастала атака партыі на «беларускіх нацыянал-дэмакратаў», усё часьцейшымі рабіліся й нападкі на найбольш небясьпечнага для Масквы «нацыянал-дэмакрата» беларускага мінулага — доктара Франь-

---

[26] Кнорын, В. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні (Асьвета, Менск, Нр. 4, 1928, б. 4).

[27] Тамсама.

[28] Дубоўка, Уладзімер. Зноска (Узвышша, Менск, 3(9), 1928, б. 99).

цішка Скарыну. Характар гэтых нападкаў перадаюць прыведзеныя ніжэй цытаты зь інсьпіраваных партыяй артыкулаў, што зьяўляліся тады ў друку БССР і СССР. У 1930 годзе, атакуючы «беларускіх нацыянал-дэмакратаў» у часапісе «Полымя», А. Сянькевіч заявіў:

«Яны лічаць, што не Кастрычнік зьявіўся пачаткам росквіту беларускай культуры, а шукаюць беларускі рэнэсанс (залаты век) у сярэднявякоўі, заснавальнікамі беларускай культуры лічаць манахаў Скарыну й Сымона Тураўскага... Поруч з гэтым актыўна праводзіцца работа па ідэалізацыі мінулата Беларусі — сьвяткаваньне 400-годзьдзя беларускае прэсы й юбілею Скарыны...»[29]

Другі партыйны прапагандысты, О. Канакоцін, у 1931 годзе ў кнізе «Літаратура — зброя клясавай барацьбы», пісаў:

«Міжіншым, яшчэ й да гэтага часу дзе-ні-дзе імкнуцца давесьці, што пралетарская літаратура на Беларусі вырасла не ад Кастрычніка, а ад пэрыяду «Нашай нівы» й заходзіць сваймі карэньнямі да Скарыны й Сямёна Тураўскага. Гэта ня што іншае, як нацыянал-дэмакратычная ідэалізацыя фэўдальнага й буржуазнага мінулага Беларусі, гэта шкодніцкая тэорыя клясавага ворага».[30]

У тым-жа 1931 годзе Зьмітру Жылуновічу, былому сябру рэдакцыйнае камісіі зборніка «Чатырохсотлецьце», давялося, пад партыйным націскам, у часапісе «Полымя» заявіць:

«На гісторыі яны (нацыянал-дэмакраты, В. Т.) будавалі свае канцэпцыі беларускае самабытнасьці, выводзілі законы нацыянальнай гэроікі, раскапвалі анналы старасьвеччыны, ідэалізуючы яе падзеі й удзельнікаў гэтых падзей. Францішак Скарына, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі... складаліся ў храналёгію «Беларускае мінуўшчыны»...[31]

Паэта Пятро Глебка ў часапісе «Узвышша» паўтараў падобнае:

«Такім „залатым векам" беларускае літаратуры нацыянал-дэмакраты лічылі 15—16 стагодзьдзе, калі на ніве беларускага „прыгожага пісьменства„ „працавалі" такія „выдатныя творцы", як Васіль Цяпінскі, Фёдар Еўлашэўскі, Францыск Скарына і інш.».[32]

У ленінградзкім часапісе «Искусство» ў годзе 1934 нейкі Б. Нікіфараў у вартыкуле «По мастерским художников Белоруссии» пісаў:

«Адначасна з разьвіцьцём НЭПа ажывіліся й буржуазна-нацыяналістычныя настроі ў мастацтве, што праявілі сябе ў імкнень-

---

[29] Сянькевіч, А. За ленінскую лінію ў нацпалітыцы (Полымя, Менск, Н. 11—12, 1930, б. 168, 172).

[30] Канакоцін, О. Літаратура — зброя клясавай барацьбы, Менск, 1931, б. 67.

[31] Жылуновіч, З. Як прыгоньнік стаў народнікам (Полымя, Менск, Нр. I, 1931, б. 130).

[32] Глебка, Пятро. Нацдэмаўшчына замаскаваная марксыцкай фразай (Узвышша, Менск, Нр. 3. 1931, б. 102).

> ні да творчай рэстаўрацыі астачаў фэўдальнага мастацтва, зводжаньні карэньняў „нацыянальнага" стылю да арнамэнтальных аздобаў рэлігійных кнігаў пары дзейнасьці езуіты Ф. Скарыны, што зрабіў першы пераклад біблii на беларускую мову . . . ».[33]

Правільнасьць партыйнае ўстаноўкі, што Скарына — «вораг народу», у сваім «Нарысе гісторыі Беларусі» крыху шырэй угрунтаваць намагаўся савецкі акадэмік В. К. Шчарбакоў:

> « . . . беларускія гісторыкі нацыянал-дэмакраты . . . з захапленьнем пісалі аб такіх праваднікох культуры таго часу, якім зьяўляўся сын полацкага купца Франьцішак Скарына, аб Васілі Цяпінскім, Сымоне Будным. Яны абмалёўвалі гэтых людзей, як самых перадавых, самых ідэальных людзей ня толькі таго часу, а наогул у гісторыі Беларусі, называючы іх гуманістамі, асьветнікамі, носьбітамі лепшых чалавечых ідэалаў . . . Нацыянал дэмакраты ідэалізавалі Скарыну й іншых падобных да яго. Вядома, Скарына перакладаў біблii й часасловы, друкаваў іх. Але каму служылі яны? Чые інтарэсы абаранялі гэтыя рэлігійныя творы? . . . Скарына й да яго падобныя на кастрах не спальваліся й якіх небудзь ганеньняў з боку пануючага кляса на іх мы ня ведаем. Гэта значыць, што іх ідэі ня ішлі ў разрэз з інтарэсам гэтага кляса».[34]

Падобных нападкаў на Франьцішка Скарыну ў савецкай прэсе й друку пасьля публікацыі артыкулу сакратара ЦК КПБ В. Кнорына зьявілася шмат. Як ідаць зь іх, Скарыну абзывалі пры гэтым і манахам, і езуітам, хоць ён, доктар мэдыцыны, ні манахам, ні навет сьвятаром ніколі ня быў, ды за ягонага жыцьця ня было яшчэ й езуітаў, бо афіцыйна гэты ордэн быў папаю зацьверджаны толькі ў верасьні 1540 году, ці ў годзе сьмерці доктара Скарыны. З факту, што некаторыя партыйныя прапагандыстыя, як Канакоцін, ці Сянькевіч, ня зналі навет і імя Кірылы Тураўскага ды называлі яго «Сямёнам» ці «Сымонам», а 400-годзьдзе беларускага друку ўважалі за ўгодкі беларускае «прэсы», відаць добра на якім інтэлектуальным узроўні вяла партыя свой наступ на беларускую гісторыю й культуру.

Аб нейкай скарынаведнай працы, як і паважнай беларусаведнай наагул, пасьля 1928 году ў БССР не магло быць і мовы. Згадкі пра Скарыну пачалі выкідацца з падручнікаў беларускае літаратуры й беларускае гісторыі, а калі аб ім коратка й спаміналася, дык з адначасным пагардлівым вострым асудам ягонае дзейнасьці, як клясава варожае. Партрэты ды скульптурныя бюсты Скарыны былі пастароненыя з школаў, музэяў, дзяржаўных і грамадзкіх установаў, ды зьнішчаныя. Тады гэта былі зьнішчаныя й скульптуры Скарыны ведамых мастакоў З. Азгура й А. Бразэра. Нейкую навукова-дасьледную працу хутка весьці ня было й каму, бо ўсе паважнейшыя навукоўцы, што Скарынам цікавіліся, былі арыштаваныя,

---

33 Никифоров, Б. По мастерским художников Белоруссии (Искусство, Ленинград, Нр. 3, 1934, б. 101).

34 Шчарбакоў, В. К. Нарыс гісторыі Беларусі. Частка I. Беларуская Акадэмія Навук. Інстытут гісторыі імя М. Н. Пакроўскага. Менск, 1934, б. 164—166.

сасланыя, а шмат хто зь іх быў і фізычна зьнішчаны. У ліку прасьледваных апынуліся ўсе сябры рэдакцыйнае камісіі юбілейнага скарынінскага зборніка — Пічэта, Лёсік, Дыла, Дружчыц, Шчакаціхін, Жылуновіч, Смоліч, — а з аўтараў зборніка Піотуховіч, Воўк-Левановіч, Ясінскі.

Як з прыведзеных прыкладаў арганізаванае партыяй атакі на Скарыну можна бачыць, ведзеная яна была быццам з строга «марксыцкіх» ды «клясавых» пазыцыяў. Ды факты паказвалі, што ў васнове гэтае намогі дыскрэдытаваць перад беларускім народам Скарыну, як выдатную постаць беларускае гісторыі й культуры, ляжалі зусім ня нейкія матывы сацыяльныя ці «рэвалюцыйныя». Вырашальным тут быў нацыянальны якраз аспэкт гістарычнага Скарынавага пачыну. Зьвярнуць трэба ўвагу, што ўсе зьвінавачваньні Скарыны ў «буржуазнасьці», «фэўдалізьме», «сярэднявякоўі», кідаліся ў часе, калі ў самой Маскве ніхто не прасьледваў культу павагі й пашаны да друкарскае спадчыны й самое асобы маскоўскага першадрукара, асобы ўжо напэўна ня сьвецкага, а духоўнага стану, — «священнодиакона Иоанна» Хведаровіча (Федарава). Дзеяча, пры гэтым, бяз шырокіх Скарынавых гуманістычных кругазораў, дзеяча яскрава артадаксальнага, дзеяча тыпу «сярэдневякоўя». Скарына Біблію перакладаў ды друкаваў не для вузка рэлігійных мэтаў, не для царквы й для духавенства, а для шырэйшых асьветных мэтаў, «для дабра й пажытку люду паспалітага», для народу. Вось дзеля гэтага ён, за прыкладам выдатных гуманістых Эўропы, і заводзіў народную мову ў кнігі. Іван-жа Хведаровіч, наадварот, трымаўся сьлепа кніжнае, даўно ў вусным ужытку адумерлае, царкоўнаславяншчыны. Ніхто іншы, як ён, раіў гэтману Александру Хадкевічу не дапушчаць у кнігі беларускую «простую малву».

Дык пагляды й дзейнасьць доктара Францішка Скарыны былі бясспрэчна народныя, дэмакратычныя, ды, як на сваю пару й рэвалюцыйныя, у вадваротнасьць артадаксыйна-кансэрватыўнаму «священнодыякону Иоанну» Масквіціну. І калі-б партыя мела каго ўпікаць ў «сярэднявякоўі» ды «манастве», дык найперш трэ было-б гэта аднесьці да свайго маскоўскага першадрукара. Рабілася, тымчасам, зусім наадварот. Калі Скарына ад колькіх ужо год быў на індэксе партыйнае інквізыцыі як «вораг народу» й пра яго небясьпечна было й згадваць, дасьледная праца над вывучэньнем жыцьця й выдавецкае дзейнасьці Івана Хведаровіча ў РСФСР ня толькі ня былі спыненыя, але праводзіліся далей. У сьнежні-студзені 1933—34 году ў СССР урачыста адзначалася 350-годзьдзе сьмерці Івана Хведаровіча й 370 год ад выхаду ягонага «Апостала». З гэтае нагоды ў Маскве й Ленінградзе былі арганізаваныя выстаўкі расейскага друку, было наладжана колькі акадэміяў, адбылося адмысловае ўрачыстае паседжаньне Акадэміі навук СССР. У 1935 годзе тая самая Акадэмія навук выдала адмысловы, прысьвечаны Івану Хведаровічу, зборнік.[35]

З вышэй прыведзенага ясна, што прычынаю вострых нападкаў партыі на Скарыну ды кінутае на яго анатэмы, былі зусім ня нейкія «марксыцкія» ці «клясавыя» меркаваньні, а толькі палітычна-вялікадзяржаўныя й нацыянальныя. Гэта адбітак затрывожаньня Масквы неспадзявана шпаркім ростам беларускага нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР

---

[35] Иван Федоров первопечатник. Академия Наук СССР. Москва—Ленинград, 1935.

1920-х год. Рост гэты Масква адчула як загрозу для свае імпэрыі й дзеля гэтага й было наважана востра выступіць супроць праяваў культу Скарыны ў Беларусі, які стаў нацыянальным сымбалем самабытнае культуры Беларусі. Марксыцкая фразэалёгія была тут толькі прапаганднаю прыкрыўкай зусім не марксыцкіх матываў нападкаў на доктара Скарыну.

У выніку, ужо ад 1928 году й аж да Другое Сусьветнае Вайны, навуковая праца пра доктара Скарыну й усякія аб ім публікацыі, на тэрыторыі БССР і ўсяго СССР, недапускаліся. Пасьля паявы зборніка «Чатырохсотлецьце», але яшчэ перад партыйным асудам Скарыны, з друку ў БССР пасьпелі зьявіцца толькі тры навуковыя публікацыі пра доктара Скарыну. Адна зь іх, гэта юбілейны артыкул ведамага выдатнага гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага.[36] Другая — перадрук З. Даўгялы зь Літоўскае Мэтрыкі двух актавых запісаў з полацкіх судовых кнігаў, актаў датычных спрэчкі зяцёў Івана Скарыны за радавую зямлю Скарынаў у Полацку на замку. Пры гэтай нагодзе Даўгяла даў у зносцы першае ў БССР паведамленьне пра знойдзеныя М. Вайцяхоўскай у Пазнані акты пра доктара Скарыну й ягонага брата Івана.[37] Трэцяя, гэта нарыс М. Шчакаціхіна, зь ягонымі мяркаваньнямі пра час выхаду Малое Падарожнае Кніжкі Скарыны, мяркаваньняў зробленых на аснове вывучэньня водных знакаў паперы кнігі гэтае й Скарынавага Апостала.[38]

Пасьля гэтага, і аж да Другое Сусьветнае Вайны, і ў БССР, і ўва ўсім СССР, пра Скарыну не паказалася ніводнага выданьня, ніводнае працы, ніводнага артыкулу. На выдатнага Палачаніна лёг чорны цень партыйнае інквізыцыі, якая імя Скарыны наважыла выгчыркнуць з балонак гісторыі й беларускага народу, і гісторыі сьвету.

4

Спыненыя на прасторы СССР скарынаведныя дасьледваньні хутка пасьля адзначэньня ўгодкаў друку ў БССР ды паявы юбілейнага зборніка «Чатырохсотлецьце» далей праводзіліся ўжо толькі за межамі Савецкай імпэрыі. З розных працаў ды артыкулаў, што гэтым часам зьявіліся, адцеміць трэба найперш дзьве важныя рэцэнзыі, якія хоць і паказаліся яшчэ ў годзе ахопленым Пічэтавай Scoriniana, ды, відавочна, не пасьпелі трапіць у поле ўвагі яе аўтара перад друкам зборніка. Яны абедзьве — водзывы на выданьні, што вышлі ў сувязі з чатырасотымі ўгодкамі друку ў Беларусі.

Рэцэнзыя віленскага гісторыка Гэнрыка Лаўмянскага[39] пісаная на кніжку Адама Станкевіча «Доктар Скарына — першы друкар беларускі», што ў

---

36 Доўнар-Запольскі, Мітрафан. Да юбілею беларускага кнігадруку (Гістарычна-Археалягічны Зборнік, Нр. I. Менск, 1927, б. 83—95).

37 Беларускі Архіў, т. 2. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1928, б. XLVI—XLVII, XLXI, XLXII, 35—37, 263—264.

38 Шчакаціхін, I. M. Scoriniana. Да пытаньня аб храналёгіі Малое Падарожнае Кніжыцы (Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, кн. 3. Працы клясы гісторыі, т. II. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1928, б. 435—450).

39 Łowmiański, Henryk. Рэцэнзыя на: Adam Stankievič. Doktar Franćišak Skaryna, pieršy drukar biełaruski (Ateneum wileńskie, r. III, zesz. 9, wydz III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1925, b. 161—179).

1925 годзе вышла ў выданьні Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні. Зьмест гэтае кніжкі зрэфэраваны ў Пічэтавай Scoriniana. Рэцэнзыйны артыкул Лаўмянскага даволі абшырны, ды самую кніжыцу А. Станкевіча ў ім ён разглядае толькі пабежна. Галоўнае заданьне, якое паставіў сабе аўтар — абаснаваць і давесьці свой пагляд аб каталіцкім веравызнаньні доктара Скарыны, пагляд, што быў супроцьлежны паглядам А. Станкевіча, Валадзімірава ды шмат іншых аўтараў, што ўважалі Скарыну за праваслаўнага. Прыцягнуў рэцэнзэнт да гэтага пытаньня даволі шмат матар'ялу, выправіў пры гэтым і некаторыя бясспрэчна памылковыя цьверджаньні сваіх папярэднікаў, як, прыкладам, Валадзімірава, аб тым, што ў Полацку ў часы Скарыны ня было быццам каталікоў, ні каталіцкіх сьвятароў. Ды гэтую памылку заценіў шмат раней, бо яшчэ ў 1899 годзе, ужо П. Н. Бацюшкаў.[40]

Выясьніць пытаньне веравызнаньня Скарыны ды з гэтага веравызнаньня вывесьці матывы Скарынавае выдавецкае й перакладное дзейнасьці, Лаўмянскаму ўсёжтакі ня ўдалося. Довады Лаўмянскага на каталіцтва доктара Скарыны, апрача імя Франьцішак, гэта існаваньне некаторых заходніх элемэнтаў у выданьнях Скарыны, як, для прыкладу, датаваньне часу выхаду кніжак не ад стварэньня сьвету, як заўсёды вялося ў кнігах маскоўскіх, а ад нараджэньня Хрыста, як заходні характар ілюстрацыяў Скарынавых кнігаў, ды падобнае. Што дрэварытныя рысункі ў Скарыны заходняэўрапейскія, толькі зразумела, бо-ж ілюстрацыі, ініцыялы й заставіцы для ягоных праскіх выданьняў яму выконвалі заходнія, чэскія ці нямецкія, мастакі. А датаваньне ад нараджэньня Хрыста ў сваіх кнігах тарнавалі й першыя паўдзённаславянскія выдаўцы кірылічных кнігаў, хоць яны напэўна былі праваслаўнымі. Лаўмянскі зусім выпушчае зь віду й тое, што некаторыя заходнія элемэнты ў выданьнях Скарыны зьявіліся проста дзеля таго, што існавалі яны здаўна ў беларускай праваслаўнай традыцыі. Беларускае праваслаўе заўсёды мела больш супольнага з Захадам за праваслаўе маскоўскае й дзеля гэтага прыйманьне формаў маскоўскага праваслаўя за нейкую мерку для азначэньня праваслаўнасьці, ці не, паасобных праяваў рэлігійнага жыцьця на тэрыторыі Беларусі — падыход прынцыпова памылковы.

Кідаецца ў вочы й аўтарава рэлігійная тэндэнцыйнасьць, навет у тэрміналёгіі. За прыкладам каталіцкае палемічнае літаратуры XVI—XVII стагодзьдзяў і ён, у навуковым нарысе стагодзьдзя XX-га, праваслаўных называе пагардлівым словам «схізматыкі». І да Скарыны Лаўмянскі настаўлены вельмі няпрыхільна ды за тое, што той, хоць быццам, паводле аўтара, каталік, выдаваў «схізматыцкія» кнігі для сваіх праваслаўных суродзічаў. Лаўмянскі намагаецца адмовіць і нейкую важнасьць заслугаў Скарыны для гісторыі беларускага друку й беларускае пісьменнасьці. Каб выясьніць, чаму Скарына, паводле яго каталік, выдаваў праваслаўныя кнігі, Лаўмянскі высоўвае цьверджаньне, быццам матывы перакладной і выдавецкай дзейнасьці Скарыны былі ані рэлігійныя, ані патрыятычныя, ані ідэйныя наагул, а чыста карысьлівыя — «каб здабыць маёнтак» (б. 176).

Калі пытаньне веравызнаньня Скарыны Г. Лаўмянскі разгледзіў і вельмі аднабакова, ды ёсьць у яго цікавае асьвятленьне спосабу паявы ў Ска-

---

[40] Батюшков, П. Н. Белоруссия и Литва. СПБ, 1890. Примечание 280, б. 16.

рыны другога імя — Юры. Лаўмянскі выказаў і лягічна абаснаваў думку, што аднаразовая паява імя Georgius у копіі аднэй кракаўскай каралеўскай прывілейнай граматы з 1532 году паўстала дзеля звычайнае памылкі перапішчыка, які пераблытаў словы ды напісаў Georgii там, дзе ў арыгінале было Egregii. Тэза Лаўмянскага ў гэтым пытаньні знайшла пазьней шырокае пацьверджаньне ў факце, што й ува ўсіх пасьлей выяўленых дакумэнтах і актах пра Скарыну — у новазнойдзеных актах пазнанскіх, праскіх, падуанскіх, няма ніякое згадкі пра Georgius як Скарынава імя.

Другая навукова важная рэцэнзыя гэтага часу, гэта заўвагі Марыі Вайцяхоўскай,[41] пісаныя аб нарысе гісторыі віленскага друку Л. Абрамовіча, выдадзеным з нагоды 400-годзьдзя выхаду першае віленскае Скарынавае кнігі. Рэцэнзыя Вайцяхоўскай важная тым, што ў ей дадзенае паведамленьне пра знаход у архіве места Пазнаня большага ліку актавых запісаў датычных да доктара Скарыны й ягонага брата Івана. Зь іх выявілася, што Іван Скарына меў у Пазнані сваю гандлёвую базу й вялікія склады скураў. Калі ў 1529 годзе ён памёр, для ліквідацыі маемасных справаў і даўгавых забавязаньняў брата ў Пазнань прыяжджаў доктар Скарына. Афіцыйным вопісам меставых уладаў на складох Івана Скарыны знойдзена было каля 50 000 скураў. У ліку крэдытараў нябошчыка Івана быў і ягоны брат, доктар Франьцішак Скарына, з жонкаю Маргарэтай.

Выяўленыя Вайцяхоўскай архіўныя матар'ялы раскрылі дасьледнікам фінансавыя й гандлёвыя справы Івана Скарыны ды Скарынавага роду нагул. Важныя яны асабліва тым, што ў іх была знойдзеная вестка пра працу Скарыны на становішчы сакратара й лекара ў віленскага біскупа ў 1532 годзе. Выясьнілі гэтыя акты й прычыну выстаўленьня для Скарыны каралём Жыгімонтам двух прывілейных граматаў у Кракаве ў лістападзе 1532 году. Тэксты гэтых граматаў ведамыя былі ад часу іх друку ў 1858 годзе М. Круповічам,[42] ды прычыны й абставіны іх выстаўленьня сталі толькі цяпер зразумелымі. Першаю з гэтых граматаў Скарына звальняўся ад усякае адказнасьці за даўгі брата Івана. Другою-ж кароль выймаў яго з пад юрысдыкцыі судоў ды ўлады ваяводаў, старастаў і кашталянаў і іхных урадоўцаў. Скарына мог падлягаць уладзе й суду толькі самога караля й вялікага князя.

## 5

У 1926 годзе ў Коўні вышла з друку капітальная бібліяграфія старога беларускага пісьменства й друку Вацлава Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». У ей 28 бачынаў адведзена Франьцішку Скарыну.[43] Дадзеная там біяграфія доктара Скарыны, вопіс ягоных выданьняў ды выказаныя пагляды аўтара на культурна-гістарычнае значаньне Скарына-

---

41 Wojciechowska, Maria. Рэцэнзыя на: L. Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (Kwartalnik historyczny, Lwów, XL, 1926, b. 473—475).

42 Крупович, Маврикий. Собрание государственных и частных актов касающихся истории Литвы ... Ч. I. Виленская Археологическая Коммиссия. Вильно, 1858, б. 33—37. Перавыдадзеныя: Pociecha, Vladislaus. Acta Tomiciana, t. 14. Posnaniae, 1952, b. 790—792, 795—796.

43 Ластоўскі, Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, б. 282—307, 419.

вае дзейнасьці. Вопіс дае шмат цытатаў з прадмоваў Скарыны ды ілюстраваны рэпрадукцыямі дрэварытаў і цэлых бачынаў Скарынавых кнігаў. Ды ў справе Скарынавых выданьняў у Ластоўскага зайшла блытаніна бо «Акафысты» ён памылкова ўважае за выданьне праскае (б. 293). За іншымі аўтарамі Ластоўскі бяскрытычна паўтарыў і неабаснаванае дапушчэньне аб тым, быццам Скарына «быў хрышчаны імем Юры» (б. 298—299).

За іншымі-ж аўтарамі падае Ластоўскі й дагадку пра тое, што ў вялікім пажары Вільні 1530 году была зьнішчаная друкарня Скарыны (б. 304). Сяньня ведама, што Скарынава друкарня ў гэтым пажары напэўна не згарэла, бо арыгінальныя дошчачкі дрэварытаў Скарынавых заставіцаў зь ягоных віленскіх выданьняў семдзесят год пазьней ужываліся ў выданьнях віленскага Сьвятатраецкага Брацтва — «Лексісе» Лаўрэнція Зызанія, ягонай «Граматыцы», ды іншых.

Апрача Ластоўскага, у часе ад 1926 году да Другое Сусьветнае вайны, увагу Скарыну й ягоным кнігам прыдзяліла й колькі іншых беларускіх аўтараў. Ды гэта пераважна невялікія артыкулы, ці зацемкі, і часьцей больш публіцыстычнага як навуковага характару. Адцеміць зь іх можна артыкул Ігната Дварчаніна «Аб годзе нараджэньня Францішка Скарыны»,[44] Уладыслава Талочкі «Да справы веравызнаньня Скарыны»,[45] ды Ад. Саладуха «З досьледаў аб паходжаньні й аб гэрбе Скарыны» й «Францішак Скарына на груньце ўнівэрсытэцкага жыцьця ў Падуі».[46]

Адзіны большы нарыс гэтае пары пра доктара Скарыну беларускага аўтара, гэта рэфэрат Адама Станкевіча «Доктар Францііш Скарына й яго культурная праца».[47] Пісаны ён пры нагодзе адзначаньня ў Вільні ў 1936 годзе 450-х угодкаў Скарынавага нараджэньня. У гэтым рэфэраце А. Станкевіч узяў на ўвагу ўсю важнейшую новую скарыніяну, што зьявілася друкам ад 1925-га ўгодкавага году: зборнік «Чатырохсотлецьце», рэцэнзыі Лаўмянскага ды Вайцяхоўскай, і паведамленьне А. В. Флароўскага пра працу Скарыны на становішчы садоўніка караля Фэрдынанда I у Празе.

Найбольш увагі А. Станкевіч у сваім рэфэраце адвёў аднак-жа палеміцы з тэзамі Г. Лаўмянскага пададзенымі ў ягонай рэцэнзыі на першы рэфэрат А. Станкевіча 1925 году пра доктара Скарыну. Адмеціўшы, ды слушна, тэндэнцыйнасьць Лаўмянскага ў спробе даказаць духовы заняпад у Беларусі XVI стагодзьдзя, у ягоных намаганьнях давесьці каталіцкае веравызнаньне Скарыны ды ня ідэйныя, а гандлёва-карысьлівыя матывы ягонай выдавецкай дзейнасьці, Станкевіч сам не ўсьцерагаецца некаторых недакладнасьцяў. Гэтак, унівэрсытэцкія падуанскія актавыя запісы пра Скарыну знайшоў не І. Шляпкін, як падаў аўтар, а Ст. Віндакевіч. Шляпкін пасьля толькі друкаваў іхныя тэксты, ды таксама ня ў 1894 годзе й ня ў «Чтеніях в Обществе Нестора Летописца», як падае А. Станкевіч, а ў часапісе «Журнал Министерства Народного Просвещения» у 1892 годзе (б. 98). Паўтарыў А. Станкевіч і высьвеленую ўжо калісьці Бацюшкавам памылку Валадзімірава аб тым, быццам «у канцы XV стагодзьдзя ... усе Палачане былі беларусы праваслаўныя» (б. 156). Лягічна абаснаваныя вывады Лаў-

---

44 Родныя гоні, кн. І. Вільня, 1927, б. 20—22.

45 Калосьсе, Вільня, кн. 3, 1935, б. 169—170.

46 Калосьсе, кн. 4(8), 1936, б. 240—243 і кн. 1(10), 1937, б. 37—43.

47 Калосьсе, кн. 2, 1936, б. 97—100; кн. 3, б. 155—165.

мянскага пра паяву ў вадным з актаў імя «Юры» ў Скарыны праз звычайную памылку дзеля пераблытаньня пісарам-копістым слова Egregii з Georgii, А. Станкевіч затое арбітральна адхіліў, як «навукова непераконваючыя», бязь ніякіх з свайго боку довадаў супроць (б. 157).

Калі ў сваім першым, 1925 году, рэфэраце А. Станкевіч, за П. В. Валадзімірам, быў схільны ўважаць Скарыну за праваслаўнага, дык у другім, відавочна пад уплывам аргумэнтаў Лаўмянскага, ды, магчыма, і некаторых іншых аўтараў, гэтае пытаньне пакінуў ён адкрытым: «справа веры Скарыны застаецца далей нявырашаная» (б. 158). Сваё становішча ў справе веравызнаньня Скарыны А. Станкевіч сфармуляваў цяпер гэтак: «Для нас беларусаў вера Скарыны прынцыповага значаньня ня мае. Ці ён быў праваслаўным, ці каталіком, ці пратэстантам, ні нават вуніятам, што, на мой пагляд, найменш праўдападобна, ён не перастае быць агульна-беларускім вялікім культурнікам, які найважнейшую на той час крыніцу асьветы, Біблію, пераклаў на тагачасную жывую літаратурную беларускую мову» (б. 158).

6

У пару, калі на самой бацькаўшчыне Францішка Скарыны, у Беларускай ССР, усякая скарынаведная праца была спаралізаваная, на Захадзе пытаньням жыцьця й дзейнасьці доктара Скарыны найбольш дасьледнанавуковае ўвагі прыдзяліў і веду аб ім пашырыў выдатна праскі гісторык Антон Васілевіч Флароўскі (1884—1968). Працы Флароўскага пра Скарыну абапертыя на першакрыніцах ды адзначаюцца грунтоўнай знаёмасьцяй усяе папярэдняе літаратуры прадмету. Пошукі Флароўскага ішлі найперш у кірунку выяўленьня чэскіх архіўных ды летапісных вестак, а вынікам іх было адкрыцьцё важных новых фактаў, якія кінулі зыркае сьвятло на раней няведамыя асяродкі Скарынавае актыўнасьці, раскрылі новыя галіны ягонае дзейнасьці, ды канкрэтнымі дадзенымі выпаўнілі некаторыя «белыя плямы» Скарынавага жыцьцяпісу, найперш з пары фінальных год ягонага жыцьцёвага шляху.

Першая праца А. В. Флароўскага пра доктара Скарыну была надрукаваная ў 1936 годзе.[48] Аўтар у ей падаў тэкст адкрытага ліста, што быў выстаўлены 29 студзеня 1552 году каралём Фэрдынандам I «сыну колішняга доктара Францішка Скарыны з Полацка, нашага былога садоўніка», на тое, каб усе ўлады й урады каралеўства чэскага памагалі яму ў знаходзе й спагоне маемасьці, даўгавых належнасьцяў ды кнігаў ягонага нябошчыка бацькі. Чэскі тэкст ліста яшчэ ў 1885 годзе надрукаваў Ф. Дворскі,[49] ды з гэтак пераблытаным прозьвішчам і месцам нараджэньня Скарыны, што ніхто з дасьледнікаў дакумэнту гэтага зь ім ня зьвязваў. У Дворскага было надрукавана: doktor František Rus z Horynpoločka.

---

[48] F l o r o v s k i , Ant. Vas. Nové zprávy o pobytu Františka Skoryny v Praze (Časopis Národniho Musea. Oddíl Duchovědny, roč. CX. Praha, 1936, b. 11—19).

[49] D v o r s k ý , František. Přispévky k déjinám slovanským (Slovansky sbornik, roč. IV, č. 4. Praha, 1885, b. 212).

Пры чытаньні гэтых словаў у А. Флароўскага зарадзілася падазрэньне, што ідзе гэта пра доктара Скарыну, прозьвішча якога ці пры адчытваньні тэксту, ці пры друку, было здэфармаванае. Даволі хутка ў Архіве чэскага міністэрства замежных справаў удалося яму адшукаць і арыгінальны тэкст ліста ды пераканацца, што здогад быў правільным, бо ў запісе ў запраўднасьці было напісана: Doktor Frantissek Rus s Korynspoloczko. З гэтага стала ясна, што ідзе тут пра доктара Скарыну й што гэта ён быў праскім садоўнікам караля Фэрдынанда I.

Сваім зьместам грамата была цікавая й важная для Скарынавае біяграфіі з колькіх гледзішчаў. Паколькі каралеўскі праскі парк на Градчанах пачаў закладацца ў пачатку 1535 году, з гэтага вынікала, што год гэты — прыблізны час прыезду Скарыны да Прагі ды пачатку працы ў характары каралеўскага садоўніка. Далей Флароўскі зьвярнуў увагу на факт, што ў вопісе чэскага храністы Вацлава Гаека з Лібачан пажару Прагі 2 чырвеня 1541 году было адзначана, што ў пажары гэтым згарэў «хлопчык Францішак, сын колішняга доктара Руса». У сьвятле зьместу выяўленае граматы было ясным, што гутарка тут была пра сына доктара Скарыны. З гэтага можна было зрабіць і важны выснаў, што Скарына памёр перад пажарам Прагі 2 чырвеня 1541 году. Гэта было першае дакумэнтаванае паказаньне на прыблізны час сьмерці доктара Скарыны. У скарынаведнай літаратуры ў пытаньні году сьмерці Скарыны раней былі толькі ні на чым не абаснаваныя, раскінуты на працягу колькінаццаці год часу, здогады.

Другі артыкул Флароўскага пра Скарыну зьявіўся ў 1939 годзе.[50] У ім аўтар намагаўся азначыць культурна-духовыя матывы й вытокі Скарынавае дзейнасьці. Разгледзіў адначасна ён і супярэчлівыя погляды розных аўтараў на справу веравызнаньня Скарыны, бо ўважалі яго за праваслаўнага, каталіка, пратэстанта, гусыта. Флароўскі стаў на становішчы, што хрышчаны быў Скарына як каталік, хоць у сваей дзейнасьці й паглядах чуўся ён канфэсыйна незьвязаным, быў незалежным. Флароўскі станоўка адкінуў дапушчэньне Г. Лаўмянскага аб тым, што матывы выдавецкае дзейнасьці Скарыны былі ня ідэйныя, а карыслівыя, каб «разбагацець». У гэтай працы Флароўскі першы раз зьвярнуў увагу й на тэкст дакумэнту, што паказваў на падарожжа Скарыны да Масквы ды публічнае спаленьне там, на загад маскоўскага князя, кнігаў ягонае Біблії. Вестку гэтую яшчэ ў 1888 годзе зацеміў чэскі гісторык Язэп Пэрвольф і ён тады-ж першы зьвязаў яе з прозьвішчам доктара Скарыны, паколькі ў самым дакумэнце прозьвішча выдаўца Біблії не згадваецца. Згадаў у тымсамым артыкуле А. Флароўскі й пра падарожжа да Масквы віленскага купца Багдана Онкава-Анкевіча, які фінансаваў Скарынавыя праскія выданьні, ды факт яго абрабаваньня ў Маскоўшчыне. Флароўскі ставіў пытаньне пра магчымую сувязь гэтага падарожжа з выдавецкай дзейнасьцяй Скарыны, хоць на гэта ня ўдалося прывесьці яму аніводнага канкрэтнага доваду. У сваей палемічнай частцы артыкул гэты цікавы спробаю насьвятленьня сьветаглядных асноваў Скарынавае дзейнасьці. У фактаграфічнай — узьнятым нанава — 50 год пасьля Пэрвольфа, пытаньнем падарожжа Скарыны да Масквы ды публічнага спаленьня тамака кнігаў ягонае Біблії.

---

[50] Florovskij, Antoine. Fr. Skoryna et son activité parmi les Slaves (Bulletin d'Information des Sciences Historiques en Europe Orientale, IX, 1—2. Varsovie, 1939, b. 1—11).

Чародная праца Флароўскага, 1940 году, дае сумарычны пагляд аўтара на пачаткі друку ў усходніх славянаў.[51] Тут дадзенае асэнсаваньне культурна-гістарычнага значаньня й характару трох важных этапаў усходнеславянскага друку: Фэоля ў Кракаве, Скарыны ў Празе й Вільні, ды Івана Хведаровіча й Пётры Мсьціслаўца ў Маскве, Заблудаве, Вільні, Львове, Астрогу. Пра Скарыну аўтар выказаўся, як пра «жывы адбітак тых гуманістычных ідэяў, што ўзбуджалі людзей ягонай эпохі», ды даў вельмі высокую ацэнку культурнаму пачыну доктара Скарыны й дзеля народнае, беларускае мовы ягоных кнігаў, і дзеля таго, што выдаваў ён свае кнігі не для царквы, а для народу, ды гэтак выявіў сябе паступовым культурным дзеячом, у вадваротнасьць пачынальніку маскоўскага друку, Івану Хведаровічу, які ставіў сябе строга кансэрватыўныя мэты: захаваць і замацаваць непарушную «чысьціню» традыцыйнага царкоўна-славянскага тэксту рэлігійных кнігаў ды недапусьціць да ніякіх у іх зьменаў, водхінаў, ці перакладаў.

У тымсамым 1940 годзе дадзеная была ў друк і большая праца Флароўскага пра чэскую Біблію ў гісторыі «русской культуры и письменности». Дзеля перашкодаў ваеннае пары з друку яна змагла зьявіцца толькі ў 1946 годзе.[52] Хоць сам аўтар пра гэтую працу й кажа, што «ў цэнтры нашага зацікаўленьня — сувязі Скарыны з Прагай і выдадзеныя ім тут кнігі», ды ў запраўднасьці ахопленыя ў ёй і іншыя асяродкі ды галіны Скарынавае дзейнасьці, хоць і ўжо больш пабежна. У «Чэская біблія . . . » Фларўскі крануў блізу ўсе важнейшыя вырашаныя й нявырашаныя пытаньні скарынаведных дасьледваньняў: справу веравызнаньня Скарыны, ягонага сьветагляду, мовы, жаролаў ягоных перакладаў, уплыву Скарынавых кнігаў на пазьнейшую рукапісную й друкаваную пісьменнасьць усходніх славянаў. Праца напісаная пасьля грунтоўнага азнаямленьня зь вялізнай літаратурай ды адпаведнымі жароламі. У пададзеным пры канцы працы сьпісе скарыстанае літаратуры пералічана каля 200 бібліяграфічных пазыцыяў, што датычаць беспасярэдня да доктара Скарыны ды ягоных выданьняў.

Чэскую Біблію аўтар уважаў толькі за адно з жаролаў Скарынавага перакладу, бо «аснаўным жаралом быў тэкст царкоўнаславянскі . . . », і таму ў Скарынавым перакладзе «пануючая стыхія царкоўнаславянская» (б. 169). У гэтым пытаньні Фларўскі разыходзіцца з паглядамі шмат якіх аўтараў, што за галоўнае жарало перакладу ўважаюць чэскую Біблію 1506 году, а за «пануючую стыхію» мовы — мову беларускую. Выдатны знавец і мовы царкоўнаславянскай, і беларускай, Аўхім Карскі, уважаў, што ў перакладзе Скарыны «аснова мовы народная беларуская».[53]

Асабліва грунтоўна ў сваім нарысе разгледзіў Фларўскі праскую Скарынаву дзейнасьць год 1517—1519. Адцеміўшы, што ў праскіх архівах аб гэтым прабываньні ніякіх сьлядоў, Фларўскі адзначыў: «Праскі эпізод

---

51 Florovskij, A. V. Die Anfänge des Buchdruckes bei den Ostslaven (Slavische Rundschau, Prag, Nr. 1—2, 1940, b. 67—78).

52 Флоровский, Антон Васільевич. Чешская библия в истории русской культуры. Франциск Скорина и продолжатели его дела (Sbornik filologický, III. Třida Česke Akademie Věd a Uměni, sv. XII. Praha, 1940—1946, b. 153—258).

53 Карский, Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 2. Петрсград, 1921, б. 24.

жыцьця Скарыны з гэтага гледзішча — пустое месца, аздобленае пышным снапом ягоных выданьняў 1517—1519 год, але загадковае ў дачыненьні бытавым, асабістым, арганізацыйным» (б. 187).

Пры разглядзе магчымых гусыцкіх уплываў на Скарынавую дзейнасьць, Флароўскі дайшоў да высналу, што няма довадаў на існаваньне нейкіх цясьнейшых гусыцкіх сувязяў Скарыны, ды дае пры гэтым такое азначэньне Скарынавага сьветагляду: «Скарына . . . стаў на . . . пераломе сьветаглядаў і сьветаадчуваньняў, і хоць ён яшчэ не адарваўся цалком ад глебы старых традыцыяў, але ўжо вызваліўся ад ранейшае канфэсыйнае вылучнасьці ды ўвашоў у круг ідэяў гуманізму й надыходзячай культурнай рэфармацыі . . . ён чалавек новай, сваей эпохі, новага культурнага эўрапейскага духу» (б. 207—208). У пытаньні веравызнаньня Скарыны Фларо̆ўскі прыхіляўся да пагляду, што ён быў каталік: «каталіцтва Скарыны . . . нам здаецца, найбольш праўдападобнае» (б. 208).

Да справы паўторнага прабываньня Скарыны ў Празе Фларо̆ўскі знайшоў летапісную чэскую вестку аб тым, што ў годзе 1577 на паўдні Чэхіі, у Крумлёве, практыкаваў лекарам «паляк Сымон, па прозьвішчы Рус, з Полацка», — яўна Сымон, сын доктара Скарыны, а сем год пасьлей, у годзе 1584, «стары садоўнік Рус з Полацка Сымон Русэк» паехаў лячыцца да Капліцы у «добрыя воды» — праўдападобна той самы Сымон Скарына.

Даволі грунтоўна ў нарысе разгледжанае пытаньне ўплыву выданьняў Скарыны на рукапісную й друкаваную ўсходнеславянскую пісьменнасьць XVI—XVII стагодзьдзяў. Адзначыўшы існаваньне паважнага ліку рукапісных водпісаў і падражаньняў Скарынавых кнігаў на землях Беларусі й Украіны, Фларо̆ўскі падчыркнуў, што, незважаючы на забарону, а навет і паленьне Скарынавых кнігаў у Маскоўшчыне, «кнігі Скарыны чыталі й паважалі й у Маскоўскай Русі» (б. 223).

Праца «Чэская біблія», хоць націск у ей і на справу чэскіх культурных сувязяў Скарыны, адна з паважнейшых усяе новае скарынаведнае літаратуры. Хоць сьціплая памерамі, займае ўсяго 106 бачынаў друку, ды, пісаная кампактна, дае шмат фактаў, пагдядаў, літаратуры, і сваім значаньнем у скарынаведных дасьледваньнях стаіць бясспрэчна побач дзьвюх папярэдніх важнейшых працаў — манаграфіі 1888 году Валадзімірава ды зборніка «Чатырохсотлецьце» 1926 году, а ўлікам усіх новых архіўных знахадак, зробленых пераважна самым аўтарам, ды дадзенай, вялікай лікам, бібліяграфіяй скарынаведнае літаратуры, істотна іх дапаўняе.

І ў гэтай апошняй, як і ў папярэдніх працах Фларо̆ўскага, даецца заўважыць адну паважнейшую загану: частае, хоць і не кансэквэнтнае, тарнаваньне перастарэлае расейскае тэрміналёгіі для азначэньня ўсходнеславянскіх народаў ды іх моваў. У ўводзінах да працы, напрыклад, аўтар кажа: «Чэская біблія аказала свой уплыў і сярод усходніх славянаў, сярод рускіх» (б. 154), з чаго вынікае, што поймы «ўсходнія славяне» й «рускія» аўтар ужывае як раўназначныя. Далей у працы тэрмін «русский» Фларо̆ўскі часта тарнуе ў значэньні «расейскі» ці «вялікарускі». Гэтым-жа тэрмінам аўтар адначасна часта азначае й беларусоў ды ўкраінцаў, удакладняючы толькі часам у дужках, што думае ў дадзеным выпадку якраз пра іх. Гэткае блытаньне ўсяго ў вадным пайме «русский», зразумела, не памагае яснасьці. Праца толькі скарыстала-б, калі-б аўтар як агульным назовам карыстаўся азначэньнем «усходнеславянскі», а для паасобных на-

родаў гэтае групы й іх моваў ужываў сучасныя шырака прынятыя азначэньні.

Ведама, што з моўнага гледзішча, калі пакінуць на боку некаторыя чэхізмы, у Скарыны сплятаюцца дьве стыхіі — беларуская ды царкоўнаславянская. Гэткі выдатны знавец моваў беларускай, расейскай і царкоўнаславянскай, як Аўхім Карскі, не знайшоў у Скарыны моўных расейскіх асаблівасьцяў. У наяўнасьці гэтага, няма асноваў зьвязваць Скарыну й ягоную літаратурную спадчыну з расейскім літаратурным працэсам самою тэрміналягічнаю блытанінай, што толькі на шкоду навуковае дакладнасьці. Неапраўдвае гэтага й факт, што Скарына мову сваіх кнігаў называў «рускай». Яшчэ Пічэта правільна адзначыў, што «слова рускі» ў мове Скарыны мела іншы сэнс і значаньне, як мы разумеем іх цяпер»,[54] ды напэўна ня мела значаньня сучаснага «расейскі» ці «вялікарускі».

Пасьля «Чэскае бібліі» Фляроўскі толькі раз, хоць цяпер ужо пабежна, крануў дзейнасьць Скарыны ў рэфэраце, які быў чытаны на IV Міжнародным зьезьдзе славістых 1958 году. Ніякіх новых фактаў гэтым разам Фляроўскі ня даў. Тут яшчэ раз, ды ў шырэйшай фармулёўцы, паўторанае азначэньне Скарынавага гуманістычнага сьветагляду: «Скарына (каталік па дакумэнтах) быў чалавекам свайго веку, чалавекам шырокіх культурных сымпатыяў, гуманістым, і ў гэтай агульнай яго ўстаноўцы трэба шукаць выясьненьня ягонага вялікага культурнага пачыну». Адначасна Фляроўскі станоўка адкінуў дапушчэньні некаторых дасьледнікаў, што Скарына быў «прыладаю прапагандных замыслаў чэскіх братоў ды гусытаў наагул».[55]

Падагульняючы вынікі навукова-дасьледнае працы А. В. Фляроўскага пра доктара Скарыну, трэба адзначыць яе нязвычайна важнае значаньне дзеля вялікага ліку выяўленых новых біяграфічных дадзеных. Сваймі архіўнымі ды летапіснымі знахадкамі Фляроўскі выдатна пашырыў нашую веду пра жыцьцё доктара Скарыны. Гэта ён раскрыў факт паўторнага прабываньня Скарыны ў Празе ды нязнаную перад гэтым галіну Скарынавае дзейнасьці на становішчы каралеўскага садоўніка-батаніка. Гэта Фляроўскі расшукаў ды із Скарынавай біяграфіяй зьвязаў чэскія архіўныя й летапісныя весткі пра двух Скарынавых сыноў — Франьцішка ды Сымона. Гэта Фляроўскі ўзьняў нанава калісьці знойдзены, ды загублены ізноў, сьлед, што вёў да ўстанаўленьня важнага біяграфічнага эпізоду — падарожжа Скарыны да Масквы ды спаленьня там ягоных кнігаў. Шмат каштоўнага дакінуў Фляроўскі й да розных іншых пытаньняў скарынаведы і, асабліва, шмат прычыніўся для раскрыцьця цывілізацыйна-культурных вытокаў Скарынавае дзейнасьці. Фляроўскі аўтар і найбольшае бібліяграфіі скарынаведнае літаратуры.

Важна нязвычайна тое, што каштоўныя навуковыя працы Фляроўскага ў галіне скарынаведнай зьявіліся якраз у пару, калі на бацькаўшчыне Скарыны была яна пад партыйнай забаронай. Калі ўсе іншыя аўтары за межамі СССР, што пісалі тады пра доктара Скарыну, падыходзілі да тэмы

---

[54] Пічэта, Ул. Scoriniana (Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1926, б. 300).

[55] Флоровский, А. В. Чешские струи в истории русского литературного развития (IV Международный с'езд славистов. Славянская филология. Сборник статей. Академия наук СССР. Москва, 1958, б. 236).

найперш журналістычна ды толькі паўтаралі, або камэнтавалі пагляды папярэднікаў, адзін Фляроўскі апіраўся заўсёды на першакрыніцах — на актах, дакумэнтах, летапісных вестках. Ён гэтым часам, блізу сам адзін, рупнаю дасьледнаю працай узбагачаў далей паважную навуковую «скарыніяну».

7

Ад выступу 1928 году першага сакратара ЦК КПБ (Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі Беларусі) В. Кнорына супроць «сярэднявяковага манаха» Скарыны мінула звыш 15 год, пакуль афіцыйнымі ізноў вуснамі партыі, і ў васобе ізноў сакратара ЦК КПБ, Масква наважыла зрабіць уступку ды дазволіла вярнуць Скарыну ў лік выдатных дзеячоў старое беларускае культуры. Уступка гэтая была абумоўленая ваеннымі падзеямі ды зробленая была ў часе, калі ўся тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад акупацыяй арміяў Гітлера ды й сам Цэнтральны Камітэт КПБ прабываў у Маскве ў «бежансьцьве».

Гістарычныя абставіны савецкае рэгабілітацыі доктара Скарыны наступныя: Пры канцы 1943 году мілітарная сіла Нямеччыны вычэрпвалася. Нямецкі ўсходні фронт на ўсёй сваёй даўжыні сударагава выгінаўся, корчыўся, ламаўся, перасоўваўся на захад. Аступленыя пераважаючымі масамі савецкіх войскаў дагаралі нямецкія арміі ў Сталінградзе. Дзеля гэтага ў партыйных валадароў імпэрыі расла вера, што пры дапамозе Захаду Нямеччына будзе зламаная, а разам у межы СССР можна будзе вярнуць і ўсе страчаныя тэрыторыі на захадзе, між імі й беларускія землі. Вось да павароту на землі Беларусі пры канцы 1943 году й пачала рыхтавацца Масква ды ейны твор — Цэнтральны Камітэт КПБ. Тады гэта ў Маскве пачалі вызначаць і галоўныя вехі будучае нацыянальнае палітыкі ў рэакупаванай Беларусі. Да гэтага, I студзеня 1944 году прыпадалі 25 ўгодкі апавешчаньня ў 1919 годзе ў Смаленску Беларускае ССР — вельмі зручная прапагандна нагода для пачаткаў палітычнае акцыі на беларускім адрэзку. У Маскве да 25-х угодкаў БССР рыхтаваўся да друку грамадзка-палітычны й літаратурны двумесячнік «Беларусь», першы нумар якога ў пачатку студзеня 1944 году й паказаўся.

Перадавічным у першым нумары новага часапісу быў артыкул сакратара ЦК КПБ Г. Гарбунова «25 год Беларускае ССР». У гэтым артыкуле, міжіншым, Скарына ўжо ня толькі згадваўся, але навет і славіўся. Ды згадваўся ён з аднэй вельмі характэрнай зьменай: імя *Франьцішак* у яго ня было. Называўся ён цяпер *Георгій*. У тымсамым нумары часапісу друкаваўся й артыкул пра Скарыну М. Ларчанкі. Артыкул меў загаловак: «Вялікі прасьветнік *Георгій* Скарына». З розных гледзішчаў цікавы вельмі сам сказ Г. Гарбунова зь ягонай перадавіцы ў якім згадваецца *Георгій* Скарына:

> «Беларускі народ спарадзіў імёны каторыя навекі ўвойдуць у гісторыю. У вякох нашай нацыянальнай славы, побач з слаўнымі імёнамі вялікага беларускага прасьветніка Георгія Скарыны, Васіля Цяпінскага, Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, побач з

славнымі імёнамі змагароў за народную справу Кастуся Каліноўскага, Галоты, Крывашапкі, Вашчылы, узвышаныя вобразы беларускіх войнаў і партызанаў . . .».

З прыведзеных радкоў відаць, што калі Скарыну сакратар ЦК КПБ імя *Франьцішак* зьмяніў на *Георгій*, дык у Багушэвіча, таксама *Франьцішка*, падставіць якому нейкае іншае імя ня было ўжо ніякіх падставаў, імя гэтае наагул прапушчанае.

Зь перадавога артыкулу сакратара ЦК КПБ у першым нумары новага часапісу зьмена становішча Масквы да Скарыны беларускім падсавецкім чытачом была ясная: у спадзяваньні павароту на землі Беларусі, каб крануць патрыятычныя пачуцьці беларускага народу, каб зрабіць «добрае ўражаньне», яна зьнімала із Скарыны колішнюю, кінутую вуснамі В. Кнорына, партыйную анатэму, і дазваляла вярнуць яго ў нацыянальны пантэон слаўных мужоў беларускае гісторыі.

Становішча занятае ў справе доктара Скарыны й ягонага ймя найвышшым, прызначаным Масквою для Беларусі, партыйным аўтарытэтам, ды ў часапісе, што пачаў выдавацца ў пару Сталінскае безагляднае дыктатуры ў самым цэнтры імпэрыі, была раўназначная афіцыйнай зьмене палітычнага курсу ды абавязваючай усіх партыйнай інструкцыі-загаду, якому зразу-ж і сталі падпарадкавацца падсавецкія беларускія журналістыя, пісьменьнікі, навуковыя працаўнікі.

Цікава адцеміць, што незважаючы на вайну ў поўным яе тады разгары й на ваенныя франты, факт наважанае Масквою падмены імя Скарыны быў тады-ж заўважаны й «сыгналізаваны» і ў беларускім эміграцыйным друку. Паведаміў пра гэта ў бэрлінскай «Раніцы» ўжо 2 красавіка 1944 году, ці ўсяго тры месяцы пасьля паявы першага нумару «Беларусі» ў Маскве, З. Крыцкі.[56]

Дык пасьля пятнаццаці год выгнаньня дазволена было вярнуць Скарыну ізноў на бачыны беларускага падсавецкага друку, вярнуць навет у «нацыянальнай славе», без абзываньняў «сярэдневяковым манахам» ды бяз прытыкаў пра не пралетарскае паходжаньне. Ды вярнуцца Скарына мог толькі як *Георгій*. Як Франьцішак ён і далей быў persona non grata — непажаданым. Ад гэтага вось часу й вядзе свой пачатак настойлівая падсавецкая, і асабліва ў БССР, «геаргізацыя» доктара Скарыны. Там ён у паваенную пару прапагаваўся ўвесь час як *Георгій*. Толькі часам і нясьмела, і толькі на другім месцы згадвалася ягоная запраўднае імя, якое сам Скарына праз усё сваё жыцьцё толькі ўжываў — *Франьцішак*.[57]

Падмена імя была аднэю, ды не адзінаю, умовай згоды Масквы на паварот у падсавецкую афіцыйную беларускую літаратуру й гісторыю выгнанага зь іх калісьці Скарыны, павароту ўжо як сьветлае гуманістычнае постаці, а ня нейкае рэакцыйнае цёмнае «сярэднявечнае» сілы. З агляду

---

[56] Крыцкі, В. Франьцішак — Георгі, або ворагавы сыгналы каля нашага Скарыны . . . (Раніца, Бэрлін, Нр. 14(176), 1944, б. 4).

[57] Справа падсавецкага «перахрышчваньня» Скарыны з Франьцішка ды на «Георгія» шырэй разгледжаная ў працы: Брага, Сымон. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (Запісы, кн. 4. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1966, б. 184—215). Таксама адбітка.

паваеннае літаратуры БССР пра Скарыну відаць, што падсавецкіх аўтараў абавязвалі й два іншыя вымаганьні. Адно зь іх — мус прадстаўляць ідэйнае накіраваньне й сьветагляд доктара Скарыны калі й не цалком супадаючымі з савецкага тыпу марксызмам, дык усё-ж вельмі яму блізкімі. У выніку, у БССР зьяўляецца колькі публікацыяў прысьвечаных сьветагляду Скарыны. Другая, яшчэ важнейшая Маскве ўмова, — канечнасьць давodзіць, што з нацыянальнага гледзішча ідэялёгія Скарыны супадае дакладна з сучаснай вялікадзяржаўнай тэзай Масквы аб быццам «спрадвечным імкненьні» беларускага народу да «яднаньня» зь «вялікім рускім народам» і Масквою. Гэткая думка навязвалася блізу ў кажным паваенным падсавецкім артыкуле пра доктара Скарыну. У першым томе «История Белорусской ССР» 1956 году Акадэміі навук БССР гэтая афіцыйная тэза сфармуляваная гэткімі словамі: «он (Скарына — В. Т.) отразил социально-политические устремления белорусского народа к единению с русским народом . . . ».[58]

Для выпаўненьня партыйнага заданьня ўбудовы доктара Скарыны ў гістарыяграфічную схэму вялікадзяржаўя Масквы былі прыцягнутыя ня толькі навуковыя працаўнікі, журналістыя й прапагандыстыя, але й пісьменьнікі ды мастакі. У выніку зьявіліся: драматычная трылёгія пра Скарыну М. Клімковіча, расейскі аб ім раман М. Садковіча й Е. Львова, кароткамэтражны фільм. У іх — прапагандны падбор і падтасоўка, а, калі трэба, дэфармацыя й хвальшаваньне біяграфічных і гістарычных фактаў, каб больш пераконліва давесьці вызначаныя партыяй тэзы. Тую самую палітычную дамэтнасьць паказваюць і паваенныя савецкія «навуковыя» публікацыі пра Скарыну. Зь іх адзначыць можна артыкулы У. М. Перцава,[59] папулярны нарыс пра Скарыну В. В. Чапко,[60] — пісаныя яны пра Скарыну як пра *«Георгія»*, усе яны выдадзеныя Акадэміяй навук ССР. Крыху большая памерамі кніжка «Скарына й яго сьветапогляд» М. А. Алексютовіча, выдадзеная Інстытутам філязофіі Акадэміі навук БССР. Кніжка Алексютовіча, як і вышэй згаданыя артыкулы пра доктара Скарыну, тыповае савецкае палітычна-прапаганднае выданьне. Абапертая яна не на актах, фактах і жаролах, а толькі на працах іншых, ды выходзіць з абавязваючых у СССР партыйных догмаў і прапагандных тэзаў.[61]

Больш цікавыя й вартасныя падсавецкія публікацыі, што закранаюць пытаньні Скарынавае мовы. Ніякіх абшырнейшых адмысловых працаў у гэтай галіне ў БССР, праўда, не зьявілася, але на паасобныя аспэкты мовы Скарыны часта зьвяртаецца ўвага ў працах зь гісторыі беларускае мовы, ці пры гістарычным разглядзе разьвіцьця паасобных зьяваў беларускае

---

58 История Белорусской ССР, т. I. Академия наук БССР. Минск, 1956, б. 106.

59 Перцаў, У. М. Грамадзкая дзейнасьць і сьветапогляд Г. Скарыны (Известия АН БССР, Минск, Нр. 6, 1948). Яго-ж: Гістарычная думка ў Беларусі ў XVI—XVIII стагодзьдзях (Весьці АН БССР. Сэрыя грамадзкіх навук. Мінск, Нр. 4, 1956, б. 6).

60 Чапко, В. В. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. АН БССР. Мінск, 1956, 40 б.

61 Алексютовіч, М. А. Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд. Інстытут філязофіі АН БССР. Мінск, 1958, 146 б. Крытычны разгляд: Брага, С. Запісы, кн. I. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, 1962, б. 265—269.

мовы. Крыху больш увагі Скарыну прыдзелена ў працы М. Судніка пра этапы разьвіцьця беларускай лексыкаграфіі.[62] Там шырэй разгледжанае значэньне Скарынавых глёсаў у гісторыі зачаткаў беларускае лексыкаграфіі ды іх уплыву на першыя беларускія слоўнікі — «Лексіса» Лаўрэнція Зызанія 1595 году ды «Лексыкона» Памвы Бярынды 1627 году. Зьявіліся й передрукі некаторых прадмоваў Скарынавых кнігаў ды некаторых разьдзелаў іх тэкстаў у хрыстаматыі беларускай літаратуры[63] ды хрыстаматыі гісторыі беларускай мовы.[64]

## 8

Вельмі мала пра доктара Скарыну друкавалася на працягу апошніх 40 год і ў СССР паза межамі БССР. Адзінае адмысловае выданьне якое паказалася ў паваенным часе, гэта выдадзеная ў Вільні малая брашурка Л. І. Валадзімірава.[65] У сталіцы імпэрыі, у Маскве, дзе ў бібліятэках сканцэнтраваныя ўсе выданьні Скарыны і, выглядала-б, існуюць вельмі спрыяльныя ўмовы для скарынаведных дасьледваньняў, за сорак год часу не зьвілася ніводнага Скарыну адведзенага выданьня, ніводнае кнігі, брашуры, ці хоць-бы ў нейкім навуковым зборніку ці часапісе друкаванае невялікае працы. Пасьля таго, як партыйная анатэма ў 1944 годзе была із Скарыны зьнятая, паказваліся толькі часам адведзеныя Скарыну бачыны, ці разьдзелы, у некаторых маскоўскіх выданьнях пра гісторыю расейскага друку, ці друку наагул, або, рэдчас, журналістычныя артыкулы. Колькі бачынаў з жыцьцяпіснымі дадзенымі ды цікавымі заўвагамі пра Скарынаву выдавецкую дзейнасьць дала, прыкладам, у сваей гісторыі пісьменнасьці й кнігі Е. І. Кацпржак.[66]

Пра Скарыну ды ягоныя віленскія выданьні ёсьць разьдзел і ў нарысе А. Анушкіна пра гісторыю віленскага кірылічнага друку.[67] Пісаны ён на аснове беспасярэдняга агляду Скарынавых віленскіх выданьняў, ды пісаны не з падыходам навуковым, а палітычна-прапагандным. Аўтар сьведама й кансэквэнтна ў нарысе ўвесь час блытае сучаснае паймо «русский» у значаньні «расейскі», з словам «рускі» Скарынавае пары, калі яно гэткага значаньня ня мела, асабліва ніколі ў Скарыны. Гэткія нечаканыя цьверджаньні аўтара, як «з расейскае народнае творчасьці, з багатай тэхнікі расейскіх рукапісных кнігаў, сіляў Скарына ўзоры для свае пісьменьніцкай і рэдак-

---

[62] Суднік, М. Р. Гісторыя ўзьнікненьня й этапы разьвіцьця беларускай лексыкаграфіі старажытнай пары (Працы Інстытуту Мовазнаўства АН БССР. Мінск, вып. IV, 1957, б. 81—96 ды іншыя).

[63] Коршунаў, А. Ф. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Інстытут літаратуры АН БССР. Мінск, 1959, б. 169—186, 412—425).

[64] Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы, ч. I. Інстытут мовазнаўства АН БССР. Мінск, 1961, б. 105—119, 131—135.

[65] Vladimirovas, L. Pranciškus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas. Vilnius, 1956, 30 b.

[66] Кацпржак, Евгения Ивановна. История письменности и книги. Москва, 1955, б. 144—149, 156, 166. Перавыдадзеная як: История книги. Москва, 1964, б. 188—193, 198, 209.

[67] Анушкин, А. Во славном месте виленском. Москва, 1962.

тарскай дзейнасьці» (б. 32), гэта прадукт аўтаравай фантазіі, а не вывад абаснаваны на фактах. У кнігах Скарыны ніякіх сьлядоў таго, каб ён, палачанін, запраўды знаў расейскую народную творчасьць, ці, хоць-бы, расейскую мову. Ніякіх сьлядоў у ягоных кнігах і аб тым, каб ён карыстаўся расейскай рукапіснай пісьменнасьцяй. Не на фактах абапертая й сьмелая аўтарава заява аб тым, што Скарына быццам знаў лятувіскую мову (б. 6). Ува ўсей літаратурнай спадчыне Скарыны знойдзем адно-два словы балцкага паходжаньня, як, для прыкладу, «дойлід». Ды й «дойлід» зусім ня сьветка таго, каб Скарына нейкую балцкую мову знаў, а гэта довад толькі таго, што слова гэтае — стары ў беларускай мове балтызм, які існаваў у ей ужо й у часы Скарыны.

Пара бачынаў для Скарыны адведзена й у нарысе пра гуманізм у Беларусі ды на Ўкраіне І. Н. Галенішчава-Кутузава.[68] Там няўдалая спроба залічыць Скарыну ў нейкія «дагуманістыя», ды яшчэ з гэткімі маскоўскімі «гуманістымі», як строга кансэрватыўна настроены князь Андрэй Курбскі. Колькі бачынаў пра Скарыну можна знайсьці й у юбілейным выданьні «400 лет русского книгопечатания» 1964 году, у першым томе якога пра Скарыну ды ягоныя выданьні коратка пішуць А. С. Зярнова ды Г. С. Гарбуноў.

З даволі добраю ведай з датычнай да доктара Скарыны літаратурай пісаныя бачыны адведзеныя яму й ягоным кнігам у працы Е. Няміроўскага,[69] хоць нечага новага аўтар там і ня даў. Падчыркнуў ён ведамы высокі паліграфічны ўзровень Скарынавых выданьняў ды выдатнае значаньне Скарыны для разьвіцьця кірылічнага друку. Пры нагодзе ўгодкаў расейскага друку адзін разьдзел артыкулу пра «вузлавыя пытаньні» гісторыі расейскага кнігадруку адвёў Скарыну й маскоўскі кнігавед А. А. Сідараў.[70] У Сідарава намога асэнсаваць істоту значаньня Скарынавага выдавецкага пачыну для гісторыі разьвіцьця ўсяго кірылічнага друку. Ён вельмі высака ацэнівае Скарынаву выдавецкую дзейнасьць, адзначае яе ўзвышаную патрыятычную ідэйнасьць, дэмакратычную народнасьць ды нязвычайна высокі графічны ўзровень ягоных выданьняў. Не ўсьцерагаецца аднак-жа аўтар і некаторых памылковых высноваў, калі, напрыклад, беспадстаўна ўпікае А. Флароўскага за ягоны пагляд, што імя «Георгій» у Скарыны «найхутчэй звычайнае непаразуменьне», ці, калі бязь ніякіх на гэта довадаў намёкамі дакарае Скарыну за ягоную быццам «здраду» праваслаўнай веры, а асабліва тады, калі ён увесь кірылічны друк, уключна з паўдзённаславянскім, загартае ў сваё «русское книгопечатание».

Гэта бадай і ўсё важнейшае, што за мінулых сорак год у Маскве й на прасторы ейнае імпэрыі паза тэрыторыяй Беларусі зьявілася ў друку пра доктара Скарыну. Лёгка зацеміць, што й тое нешматлікае, што ў Маскве пра Скарыну друкавалася, зьявілася пераважна пры нагодзе шырака заў-

---

[68] Голенищев-Кутузов, И. Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия. V. Международный с'езд славистов. АН СССР. Москва, 1963, б. 21—23 ды іншыя).

[69] Немировский, Евгений Львович. Возникновение книгопечатания в Москве. Москва, 1964, б. 89—97 ды іншыя.

[70] Сидоров, А. А. Узловые проблемы и нерешеные вопросы истории русского книгопечатания (Книга, сб. IX. Москва, 1964, б. 18, 19. 22—26, 27, 30, 33).

сёды ў СССР адзначаных угодкаў маскоўскага друку. Гэта, найчасьцей, кароткія прынагодныя даведкі пра Скарыну, раськіданыя ў моры юбілейнае літаратуры адведзенае Івану Хведаровічу. Дык згадваюць доктара Скарыну ў Маскве звычайна толькі ў другарадным пляне, пры Івану Хведаравічу, для зьвялічэньня славы ягонай, маскоўскага друку ды Масквы наагул.

## 9

Перагляд сьціплае лікам, а яшчэ больш зьместам, падсавецкае беларускае скарыніяны й савецкае за мінулых 40 год наагул, можна завяршыць паваротам да аўтара, зь якога гэты нарыс пачаты — да Ўладзімера Пічэты. У 1961 годзе ў выданьні Акадэміі навук СССР выйшаў у Маскве вялікі зборнік выбраных гістарычных працаў Пічэты датычных да Беларусі.[71] У гэтым зборніку перадрукаваныя, у расейскім перакладзе, і два Пічэтавы артыкулы із зборніка «Чатырохсотлецьце»: «Полацкая зямля ў пачатку XVI в.» ды, разгледжаная на пачатку гэтага нарысу, Scoriniana. Пры перадруку зробленыя й некаторыя, палітычна абумоўленыя, пропускі, прыкладам, тыя абзацы Scoriniana, дзе разгледжаныя пагляды пра Скарыну Уладзімера Ігнатоўскага й Вацлава Ластоўскага, аўтараў, што былі зьнішчаныя партыйным тэрорам Сталінскае пары як беларускія «нацыяналдэмакраты», пры передруку прапушчаныя й, зразумела, дзеля таго, што й Ігнатоўскага, і Ластоўскага партыя ў БССР і да гэтай пары не «рэгабілітавала». У прадмове да кнігі рэдактары зборніка таксама зазначаюць, што ня ўсе артыкулы Пічэты з «Чатырохсотлецьця» ў зборніку перадрукаваныя «дзеля таго, што разгледжаныя ў іх пытаньні былі аўтарам у апошнія гады ягонага жыцьця ізноў капітальна дасьледжаныя й увайшлі, як разьдзелы, у ягоную большую працу, якая першы раз у гэтым зборніку публікуецца пад назовам «Культура Беларусі XVI—XVII вв.».

У зборніку ёсьць і яшчэ адна, раней не друкаваная, праца — «Адраджэньне Украіны-Русі й Белай Русі у XVI — пачатку XVII в.», у якой колькі бачынаў пра Скарыну. Як з рэдакцыйнае прадмовы да зборніка вынікае, працы гэтыя былі пісаныя Пічэтам «у вапошнія месяцы жыцьця». Памёр Пічэта ў 1947 годзе, дык і вышэй названыя працы былі, відавочна, пісаныя ў гадох 1946—1947. Чаму надрукаваныя яны былі толькі 14 год па сьмерці аўтара, у годзе 1961, рэдактары зборніка не паясьняюць. Зазнаямленьне з выказваньнямі Пічэты пра доктара Скарыну ў гэтых працах пазваляе выявіць, ці запраўды ды наколькі «капітальна» перагледжаныя былі Пічэтам скарынаведныя праблемы, што ў перадсьмертных працах зьменена ды што новага ў прыраўнаньні да сказанага 20 год раней у зборніку «Чатырохсотлецьце».

Зьвяртае найперш увагу тое, што ў сваіх перадсьмертных працах Пічэта паклікаецца толькі на тую самую скарынаведную літаратуру, на якую ён апіраўся й год 20 перад тым. Аніводная навейшая публікацыя аўтарам на ўвагу ня ўзятая. Усе архіўныя адкрыцьці ў галіне скарыніяны пасьля 1926 году, уся навейшая навуковая літаратура да гэтага пытаньня, выглядае, засталіся яму няведамымі. І лёгка здагадацца чаму: дзеля апавешчань-

---

[71] Пичета, В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Москва, 1961.

ня Скарыны буржуазным «сярэдневяковым манахам» аніводнае паважнейшае працы пра Скарыну ў СССР гэтым часам і не зьявілася. А сваімі новымі адкрыцьцямі вельмі важная замежная скарыніяна гэтае пары, працы галоўна А. В. Фляроўскага, засталіся таксама паза полем увагі Пічэты дзеля тае гэрмэтычнае ізаляцыі навукоўцаў СССР ад навуковае літаратуры «буржуазнага» Захаду, якая існавала ў сталінскую пару.

У выніку, у перадсьмертных артыкулах Пічэты, у прыраўнаньні да ягоных ранейшых працаў, ня толькі нічога новага пра Скарыну ў галіне фактаў, але даецца часта заўважыць і рэгрэс: аб'ектыўныя ды дакладныя раней Пічэтавы цьверджаньні цяпер часта блытаныя, памылковыя. Прыкладам, Пічэта кажа, што «мэдычную адукацыю» Скарына атрымаў у Кракаве, ці што Скарына «паступіў» на Падуанскі ўнівэрсытэт, ды навет яго й «кончыў». Або, што яшчэ ў 1520 годзе друкаваў у Празе сваю Біблію — сьцьверджаньні, што ня маюць ніякога абгрунтаваньня ў фактах. Аднекуль у Пічэты зьяўляецца й зусім фантастычная ведамка пра тое, што быццам «родны брат» спаганяў ад доктара Скарыны судом нейкія даўгі. Нязгоднае з праўдай і цьверджаньне, што судовы працэс 1532 году за братавы даўгі закончыўся для доктара Скарыны няўдачна канфіскатаю маемасьці. Акты кажаць, што Скарына й гэты працэс выграў.

Падобных паважных недакладнасьцяў няма ў Пічэтавых артыкулах зборніка «Чатырохсотлецьце». Дык дваццацігодні перапынак у дасьледнай пра Скарыну працы бясспрэчна некарысна адбіўся на ўзроўні перадсьмертных нарысаў Пічэты. Зусім пэўныя, добра яму ведамыя раней факты, выглядае, зацерліся ў памяці, ці й зусім загубіліся. Расшукаць іх нанава ды ўдакладніць новым пераглядам літаратуры й жаролаў, ці ня было часу й магчымасьці, ці, пасьля перажытых перасьледаў, арышту, ссылкі, ужо й сілаў. Так ці накш, але перадсьмертныя нарысы сваім узроўнем стаяць ніжэй за такія-ж пары «Чатырохсотлецьця», хоць само замілаваньне да тэмы, захапленьне яскраваю постацяй выдатнага беларускага гуманісты, незважаючы на ўсё перажытае, захавалася ў Пічэты аж да сьмерці.

Зьяўляецца, праўда, і нешта новае — некаторыя зьмены становішча ў паасобных пытаньнях, ды зробленыя яны не на падставе нейкіх новых, узятых аўтарам на ўвет, фактаў, а гэта толькі дапасаваньне тэксту да новае партыйнае лініі. Найперш Пічэта Скарыну цяпер называе пераважна *Георгіем*, ці *Юрым*, і толькі часам — *Георгіем-Франьцішкам*. Далей, Пічэта цяпер станоўка выказваецца за тым, што па веравызнаньні Скарына быў праваслаўным, калі 20 год перад тым ён правільна падчырківаў, што для разьвязаньня гэтага пытаньня нестае пакульшто канкрэтных вырашальных довадаў.

Толькі ў ваднэй галіне ў Пічэтавых перадсьмертных працах можна зацеміць спробу пранікнуць глыбей у істоту пытаньня, гэта ў справе раскрыцьця асноўных элементаў Скарынавага сьветагляду. У 1926 годзе сваю Scoriniana Пічэта закончыў словамі:

> «Важна вывучаць Скарыну, яго сьветапагляд, яго ідэі — як фактары, што азначаюць яго месца й тое значаньне, якое Скарына меў у гісторыі культуры Беларусі, Украіны й, часткова, Масквы.[72]

---

[72] Чатырохсотлецьце беларускага друку, б. 327.

Вось да гэтага Пічэта й спробаваў вярнуцца ў сваей перадсьмертнай працы «Культура Беларусі XVI ст.». Гэтай тэме адведзена там колькі бачынаў. Уражае аднак-жа нязвычайная хаотычнасьць, блытанасьць аргумэнтацыі, частае запярэчваньне самому сабе. Прыкладам, Пічэта спачатку піша, што «Скарына стаіць на пазыцыях царкоўна-схалястычнага сьветагляду», каб колькі радкоў далей сказаць, што ён «у сваім філязафічным сьветаглядзе стаіць на пазыцыях індывідуалістычнага гуманістычнага руху», а яшчэ далей гэтыя разважаньні завяршыць цьверджаньнем, што «усё гэта дае падставу залічыць Скарыну да групы запраўдных гуманістых». Што пры гэтым Пічэта азіраўся й на палітычныя патрабаваньні савецкага рэжыму, можна бачыць з таго, што ў Скарыны ён пастараўся дашукацца й «свайго роду ўтапічнага камунізму».

Ды, незважаючы на гэтую сплачаную «цэзару» дань, ды паміма ўсяе хаотычнасьці, якая хіба паясьняецца тым, што сваю працу Пічэта не пасьпеў дакончыць і гэта, бадай, толькі чарнавыя накіды, Пічэтавы разважаньні пра Скарынавы сьветагляд, гэта адзінае, што можна было-б уважаць за новае ў перадсьмертных ягоных працах у прыраўнаньні да ўсяго раней ім напісанага.

## 10

Вонках СССР скарынаведная праца ў паваенныя гады вялася ў некаторых краёх Эўропы ды ў Амэрыцы. Асабліва паважны ўклад у галіне навуковае скарыніяны зроблены працаю апошніх год Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Ужо ў першай кнізе «Запісаў» Інстытуту 1952 году быў памешчаны артыкул пра партрэт доктара Скарыны ў Падуанскім унівэрсытэце; там-жа й фатарэпрадукцыя партрэту.[73] У тых-жа «Запісах» год пазьней дадзеныя ў беларускім перакладзе з лацінскае мовы др. Пётры Татарыновіча тэксты чатырох лістоў герцага прускага Альбрэхта, пісаных у травені 1530 году ў справах доктара Скарыны да Вільні.[74]

У гадох 1960—1962 у рымскім часапісе «Зьніч» памешчаныя былі фатарэпрадукцыі колькіх актавых запісаў пра доктара Скарыну з архіваў Падуі, зробленых зь мікрафільмаў, прыдбаных на просьбу Інстытуту. Адначасна быў надрукаваны лацінскі іх тэкст ды беларускі пераклад. Дадзеная тут і рэпрадукцыя нававыяўленага актавага запісу пра Скарыну падуанскага біскупскага палацу.[75] У часапісе тагосамага Інстытуту «Конадні» з 1963 году памешчаная рэпрадукцыя й вопіс нававыяўленага трэцяга варыянту дрэварытнага Скарынавага партрэту ў Кнізе Царстваў ягонае Біблії, у супастаўленьні з двумя ўжо ведамымі варыянтамі з Кнігі Сыраха й Кнігі Быцьця. Там-жа рэпрадукцыя партрэту доктара Скарыны на Падуанскім

---

[73] Тумаш, Вітаўт. Партрэт Скарыны ў Падуі (Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк, кн. I, 1952, б. 40—44).

[74] Брага, С. Кароль Альбрэхт і Скарына (Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк, кн. 2(4), 1953, б. 108—113).

[75] Žnič, Rym, Nr. 56, 1960, b. 8; Nr. 61, 1961, b. 7; Nr. 62—63, b. 10; 1962, Nr. 64—65, b. 12.

унівэрсытэце з удакладненымі весткамі пра прозьвішча мастака, што партрэт маляваў, ды час паўстаньня партрэту.[76]

Даволі шмат новых фактаў да жыцьцяпісу доктара Скарыны даюць тры працы Сымона Брагі, што былі друкаваныя апошнімі гадамі й у «Запісах» Інстытуту, і асобнымі адбіткамі: «Доктар Скарына ў Маскве»,[77] «Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны[78] і «Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры».[79] У першай зь іх — разгляд на шырэйшым культурна-гістарычным фоне архіўнае ведамкі пра падарожжа доктара Скарыны да Масквы ды публічнае спаленьне там, на загад маскоўскага князя Васіля Іванавіча, ягоных кнігаў Бібліі.

У другой — перагляд раней ведамых ды нававыяўленых архіўных і летапісных матар'ялаў да жыцьцяпісу доктара Скарыны, з паданьнем новых архіўных вестак пра прабываньне доктара Скарыны ў Даніі на становішчы каралеўскага сакратара, пра факты, што паказваюць на канфіскату праскіх Скарынавых кнігаў у Вроцлаве падчас іх перавозу з Прагі да Вільні каля 1520 году, на весткі нямецкае мэмуарнае літаратуры пра магчымую сутычнасьць зь Піліпам Мэлянхтонам ды Марцінам Лютэрам у Вітэмбэргу ў гадох 1532—1533, ды некаторыя іншыя.

У трэцяй — разгледжанае вычэрпваюча пытаньне існаваньня другога імя ў Скарыны — «Юры» — з высновам, што ніякіх канкрэтных паказаньняў на існаваньне імя «Юры» ў Скарыны няма ды што сам ён ніколі гэткага імя ня ўжываў. У тым-жа нарысе й гістарычны разгляд прычынаў і матываў паваенных падсавецкіх намаганьняў «перахрысьціць» доктара Скарыну з Францішка ды ў «Георгія». Там-жа абмеркаваная й справа паходжаньня прозьвішча «Скарыны», з абгрунтаваным шырэй паглядам, што прозьвішча гэтае выводзіцца ад слова «скара», назову скуры ў старабеларускай мове. Друкавалася апошнімі гадамі ў выданьнях Інстытуту й колькі абшырнейшых рэцэнзыяў тых працаў, што кранаюць розныя скарынаведныя пытаньні. Зь іх, для прыкладу, можна падаць рэцэнзыю на кніжку пра Скарыну М. А. Алексютовіча,[80] заўвагі пра кнігу Е. Няміроўскага,[81]разгляд нарысу А. А. Сідарава,[82] ды колькі іншых.

---

[76] Брага, С. Партрэты доктара Скарыны (Конадні, БІН і М. Ню Ёрк—Мюнхен, кн. 7, 1963, б. 138—151).

[77] Брага, С. Доктар Скарына ў Маскве (Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, кн. 2, 1963, б. 9—36). Таксама адбітка.

[78] Брага, С. Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны (Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, кн. 3, 1964, б. 9—33). Таксама адбітка.

[79] Брага, С. Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, кн. 4, б. 184—215). Таксама адбітка, 1967, 40 б.

[80] Брага, С. Рэцэнзыя на: М. А. Алексютовіч — Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд, 1958 (Запісы. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхен, кн. I, 1962, б. 265—269).

[81] Брага, С. Рэцэнзыя на: Е. Л. Немировский — Возникновение книгопечатания в Москве, 1964 (Запісы. БІНіМ. Мюнхен, кн. 3, 1964, б. 239—242).

[82] Брага, С. Рэцэнзыя на: А. А. Сидоров — Узловые проблемы и нерешеные вопросы истории русского книгопечатания, 1964 (Запісы. БІНіМ. Мюнхен, кн. 4, 1966, б. 265—268).

На скарынаведныя пытаньні накіраваная ўвага й дзьвёх дактарскіх дысэртацыяў Янкі Садоўскага. Першая, з галіны літаратуры, абароненая ў 1963 годзе на Рымскім унівэрсытэце, адведзеная пытаньням сувязі Скарыны з культураю Захаду. Другая, з галіны мовы, абароненая ў 1967 годзе на Лёнданскім унівэрсытэце, разглядае мову Скарынавых Кнігаў Царства.[83]

У 1967 годзе былі апублікаваныя лацінскія тэксты і зробленыя на просьбу Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва др. Пётрам Татарыновічам беларускія пераклады дзьвёх прывілейных граматаў караля й вялікага князя Жыгімонта, што выстаўленыя былі ў лістападзе 1532 году ў Кракаве.[84]

Не згадваюцца тут розныя газэтныя артыкулы ды зацемкі пра доктара Скарыну, што ў паваенныя гады зьяўляліся ў беларускім замежным пэрыядычным друку Эўропы й Амэрыкі, найчасьцей пры нагодзе рэфэратаў пра Скарыну, Скарынавых выставак ці розных угодкаў. Іх было даволі шмат.

## 11

Хоць рост скарыніяны ў ахопленым аглядам часе, у гадох 1926—1966, адбываўся й у вельмі няспрыяльных гістарычна абставінах, ды ўсё-ж даводзіцца сьцьвердзіць вельмі істотны поступ у галіне вывучэньня жыцьцяпісу, а навет і пісьменьніцка-выдавецкае спадчыны доктара Францішка Скарыны. Варта падсумаваць хоць-бы найважнейшае: выяўленьне гандлёвых сувязяў роду Скарынаў з Пазнанем, судовае там справы за даўгі брата Івана ды зьняволеньне доктара Скарыны. Знаход вестак пра двух Скарынавых сыноў, Францішка ды Сымона. Устанаўленьне факту падарожжа доктара Скарыны да Масквы ды публічнага спаленьня тамака ягоных кнігаў. Выяўленьне Даніі, як месца прабываньня й дзейнасьці доктара Скарыны.

Раскрытыя гэтым-жа часам новыя галіны Скарынавае дзейнасьці: праца на становішчы надворнага сакратара й лекара ў віленскага біскупа, праца сакратаром караля Даніі ды садоўнікам караля Аўстрыі, Чэхіі й Вугоршчыны Фэрдынанда І. Адзначыць тут трэба й выяўленьне вельмі цікавых фактаў, што паказваюць на канфіскату кнігаў Скарынавае Бібліі ў Вроцлаве. Важным вынікам раскрыцьця фінальнае праскае Скарынавае дзейнасьці было ўстанаўленьне прыблізнага часу сьмерці доктара Скарыны — другая палавіна 1540 году. Самых новых дакумэнтаў актавых запісаў ды летапісных вестак датычных доктара Скарыны, або ягонага роду, за мінулых сорак год было выяўлена звыш дваццаці — больш, чым ведама іх было перад гэтым.

Сам пералік, і толькі важнейшага, паказвае, што ў выяўленьні жыцьцяпісных фактаў доктара Скарыны за сорак мінулых год дасягнута больш, як за ўвесь час папярэдні ў стагодзьдзях XX ды XIX. Куды менш затое зроблена ў справе раскрыцьця й радзімых сваіх і заходняэўрапейскіх духова-цывілізацыйных асноваў Скарынавага сьветагляду, хоць некаторыя спробы адзначыць трэба й у гэтай галіне. Найменш было дасьледваньняў

---

[83] Абежнік, Нр. 13. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк, 1967, б. 3.
[84] Žnič, Rym, Nr. 94, 1967, b. 4—6.

у галіне вывучэньня кнігаў Скарыны, іх зьместу, іх мовы ды ў пытаньні азначэньня вагі Скарынавага ўкладу ў гісторыю беларускае літаратуры, мовы, друку, мастацтва, рэлігійнае ды філязафічнае думкі. Маруднейшы поступ у галіне вывучэньня Скарынавае пісьменьніцкае ды выдавецкае спадчыны абумоўлены фактам, што камплетны збор Скарынавых ведамых выданьняў знайсьці можна толькі ў бібліятэках СССР і яны сяньня недаступныя шырэйшаму навуковаму дасьледваньню. Ні ў БССР, ні ў СССР нічога ня зроблена, каб кнігі Скарыны ўдаступніць шляхам перавыданьня хоць-бы найважнейшага ў іх — поўнага збору Скарынавых прадмоваў, камэнтароў, паслоўяў. Гэта галоўныя прычыны таго, што дасьледная праца мінулых дзесяцігодзьдзяў канцэнтравалася найперш на вывучэньні жыцьцяпісу й дзейнасьці доктара Скарыны, а не на ягоных выданьнях, ягонай літаратурнай спадчыне, ягоным сьветаглядзе.

Паважны рост навуковае літаратуры пра доктара Скарыну ў гадох 1926—1966, у пару асабліва цяжкую для беларускага народу й няспрыяльную вельмі для беларускіх дасьледваньняў, выглядае на нейкі гістарычны парадокс. Паясьняецца гэта тым, што дзейнасьць доктара Скарыны не замыкалася ў межах толькі свайго краю, а мела шырокі эўрапейскі дыяпазон, была ўвязаная ў культурныя падзеі й духовыя працэсы ўсяе Эўропы. Цэлая чарада эўрапейскіх і краёў, і культурна-палітычных цэнтраў былі кранутыя Скарынавай актыўнасьцяй. Дык доктар Скарына — духовая вялічына ня толькі беларускага, а шырэйшага эўрапейскага засягу й значаньня. І таму, як гэта мінулыя гады й паказалі, нейкая спроба прымусовага спыненьня навукова-дасьледнае пра яго працы ў межах краю аднаго, калі гэта навет і Скарынавы родны край, ня ў стане спыніць цягласьці разьвіцьця навуковых пра яго зацікаўленьняў, а разам і росту літаратуры пра яго, росту «скарыніяны».

Калі прыраўнаць дасягненьні ў галіне скарынаведнае працы краёў Захаду да вельмі сьціплае скарынаведнае літаратуры мінулых сорак год падсавецкае, дык можна зацеміць, што ўсё новае, што гэтымі гадамі было выяўленьа й апублікавана пра доктара Скарыну, зьявілася на Захадзе. Толькі дзякуючы дасьледнай працы ў краёнах Захаду была раскрытая гэтымі гадамі цэлая чарада важных архіўных ды летапісных ведамак да жыцьцяпісу доктара Скарыны ды цэлыя новыя галіны Скарынавае дзейнасьці. Тымчасам публікаваныя пра Скарыну ў СССР нарысы, артыкулы, зацемкі, абапіраліся звычайна толькі на замежную або старую скарынаведную літаратуру, пераказвалі ці камэнтавалі толькі яе ў намозе асэнсаваць гістарычны пачын доктара Скарыны згодна з сучаснымі палітычнымі ўстаноўкамі Масквы. На тэрыторыі ўсяго СССР, улучна з БССР, гэтым часам ня было выяўлена ніводнага акту, дакумэнту, ніводнага новага, датычнага да жыцьцяпісу доктара Скарыны, факту.

Уражае гэта асабліва таму, што дасьледная праца на Захадзе была ведзеная толькі ахвярнаю працаю паасобных навуковых працаўнікоў ды ня мела за сабою ніякога матар'яльнага падтрыманьня нейкіх акадэміяў ці іншых навукова-дасьледных дзяржаўных установаў. Была яна затое вольная ад усякіх партыйных абмежаньняў, кантроляў ды цэнзураў, што й абумовіла яе рост ды паважныя навуковыя дасягненьні.

Гістарычны парадокс нашага часу, што пра доктара Скарыну ў галіне навукова-дасьледнай сяньня можна больш зрабіць на амэрыканскім кан-

тынэнце, як у сучаснай сталіцы Скарынавага радзімага краю, у Менску. Гэта, бясспрэчна, ня зь віны беларускіх падсавецкіх навукоўцаў. Гэта толькі адбітак тых ненармальных умоваў беларусаведнае працы, што створаныя сяньня ў Беларускай ССР дзеля завостранага вялікадзяржаўнага асыміляцыйнага націску Масквы на нерасейскія народы свае імпэрыі.

Агляд найнавейшае скарыніяны на месцы будзе закончыць пытаньнем: што трэ было-б зрабіць, каб пакласьці навуковыя падваліны для грунтоўнага вывучэньня жыцьця, дзейнасьці й культурна-духовае спадчыны доктара Франьцішка Скарыны? У вадказе на гэтае пытаньне адзначыць тут можна колькі важнейшых заданьняў:

1. Уклад ды друк збору тэкстаў усіх актаў, дакумэнтаў ды летапісных, датычных да доктара Скарыны, ці ягонага роду, вестак. Гэткіх архіўна-летапісных пазыцыяў ведама сяньня 47.

2. Уклад і выданьне камплетнае бібліяграфіі скарыніяны — бібліяграфіі ўсей існуючай пра Скарыну літаратуры, што раськіданая ў часе на працягу блізу пяці стагодзьдзяў.

3. Апрацаваньне на аснове ведамых сяньня актавых ды летапісных матар'ялаў ды друк грунтоўнае біяграфіі доктара Скарыны.

4. Прыгатова й друк поўнага збору Скарынавых прадмоваў, заўвагаў, паслоўяў да ўсіх кнігаў ятонага выданьня.

5. Уклад і друк альбому з рэпрадукцыямі ўсяе Скарынавае графічна-мастацкае спадчыны — усіх дрэварытных ілюстрацыяў ягоных кнігаў, якіх ведама звыш 50-ці, усіх заставіцаў у ліку колькідзесяці, усіх загаловачных бачынаў, усіх аздобных літараў-ініцыялаў, якіх колькісот, ды узораў усіхварыянтаў усіх літараў Скарынавых шрыфтоў ягонае й праскае й віленскае друкарняў.

6. Перавыданьне фатадрукам, у храналагічным парадку іх выхаду, усіх ведамых Скарынавых выданьняў і праскіх і віленскіх, — каля 4000 бачынаў друку, — што дае 8 тамоў поўнага «акадэмічнага» выданьня Скарынавае выдавецкае спадчыны, калі лічыць па 500 бачынаў на том. Гэта выданьне фундамэнтальнае навуковае вагі для ўсякіх скарынаведных дасьледваньняў, выданьне дыяпазонам свайго навуковага значаньня годнае нацыянальна-навуковых заданьняў беларускае акадэміі навук, а пры сучасных нізкіх коштах фатапередруку зусім рэальнае й пры абмежаных навет фінансавых магчымасьцях. Поўнае акадэмічнае перавыданьне ўсіх кнігаў Скарыны, гэта аснова-асноваў для ўсяе ды ўсякае скарынаведнае працы, гэта фундамэнтальнае жарало неабходнае для навуковых дасьледваньняў моваведам, літаратураведам, тэалёгам, кнігаведам ды гісторыкам друку.

7. Скласьці ды выдаць слоўнік мовы Скарыны. Слоўнік гэтакі важны вельмі ня толькі для вывучэньня гісторыі разьвіцьця беларускае мовы, але й іншых славянскіх моваў найперш — усходнеславянскіх. Трэба адзначыць, што слоўнік гэткі быў апрацаваны ўжо 80 год таму ведамым скарыністым П. В. Валадзіміравам, ды ня выдадзены ён і да гэтай пары. Валадзіміраў побач кажнага ўжытага Скарынам слова даў і яго адпавед-

нікі ў мовах лацінскай, чэскай і царкоўнаславянскай[85] Слоўнік гэты, калі ня зьнішчыў яго час, ляжыць нейдзе ў пасьмертных архівах П. В.Валадзімірава (1854—1902), прафэсара Кіяўскага ўнівэрсытэту. Трэ было-б яго адшукаць, перагледзець, а калі-б аказалася патрэбным, дапоўніць і выдаць. Ці — скласьці гэткі слоўнік нанава ды яго выдаць.[86]

8. Правесьці рэгістрацыю ўсіх ведамых месцаў былога існаваньня, карыстаньня й перахоўваньня кнігаў выданьня доктара Скарыны на працягу больш чатырох мінулых стагодзьдзяў, ды, адначасна, зрабіць дакладны ўлік ўсіх экзэмпляраў гэтых кнігаў, што захаваліся да нашага часу. Сыстэматычны іх перагляд, супастаўленьне, ды вывучэньне паробленых на іх прыпісак ды заўвагаў і чытачамі, і собсьнікамі кнігаў, дазволіць лепш пазнаць прастор пашырэньня Скарынавых выданьняў і выявіць тыя слаі грамадзтва, у якіх яны былі ў найбольшым карыстаньні і пашане.

Гэткія, выглядае, найважнейшыя заданьні сучаснае скарынаведы. Выкананьне іх створыць салідную навуковую аснову для будучага грунтоўнага вывучэньня жыцьця й вялікае культурна-гістарычнае спадчыны выдатнага вучонага й гуманісты Беларусі пары Рэнэсансу.

---

[85] Владимиров, П. В. Доктор Франциск Скорина, СПБ, 1888.

[86] Як паведаміў Ул. Анічэнка, у Інстытуце мовазнаўства АН БССР ужо складзеная картатэка слоўніка мовы Скарыны, якая налічвае каля 30 000 картак. Анічэнка, Уладзімір. Крокі гісторыі (Полымя, Мінск, кн. 5, 1968, б. 250).

У 1969 годзе Інстытут літаратуры АН БССР выдаў тэксты прадмоваў і паслоўяў Скарыны.

# Бібліяграфія скарыніяны

Акты — Скарынавы кнігі — Іх водпісы — Скарынаведная літаратура — Скарына ў літаратуры й мастацтве

1492—1967

Апрацаваў

*Вітаўт Тумаш*

## УВОДНЫЯ ЗАЎВАГІ

Згадкі пра датычную да доктара Франьцішка Скарыны літаратуру здараюцца ўжо ў аўтараў XVIII ды пачаткаў XIX стагодзьдзя — Рынґельтаўбэ (1744), Бакмайстэра (1776), Даброўскага (1814). У годзе-ж 1813 Сопікаў даў і бібліяграфічны пералік ды вопіс блізу ўсіх выданьняў самога Скарыны.[1] Першыя бібліяграфіі скарынаведнае літаратуры зьявіліся, аднак, толькі ў вапошняй чверці XIX стагодзьдзя. Яны пазьней папаўняліся літаратурай новавыяўленай і нарастаючай новай ды разгалініліся на бібліяграфіі двух тыпаў: магчыма поўныя на свой час сьпісы *паказьнікі* скарынаведнае літаратуры і крытычныя бібліяграфічныя *агляды* важнейшае толькі скарыніяны.

Першыя паважнейшыя паказьнікі скарынаведнае літаратуры дадзеныя ў «Описании» 1883 году Каратаева.[2] Там, побач камплетнага пераліку выданьняў самога Скарыны, пры канцы вопісаў паасобных кнігаў прыведзена каля паўсоткі бібліяграфічных пазыцыяў літаратуры пра гэтыя выданьні. Другі з чаргі, дапоўнены й пашыраны, ды паказьнік самое ўжо толькі літаратуры пра Скарыну быў надрукаваны ў 1904 годзе ў расейскім біяграфічным слоўніку А. Купаловым.[3] Тамака ўжо каля 80-ці бібліяграфічных пазыцыяў. Дапоўніў гэтыя два паказьнікі ў 1930 годзе С. Эстрайхер.[4]

Шмат больш, як ува ўсіх папярэдніх паказьніках, скарынаведнае літаратуры пры канцы надрукаванае ў 1946 годзе працы А. В. Флароўскага

---

[1] *Сопиков*, Василий. Опыт российской библиографии, ч. I. СПБ, 1813, б. 9—19, 25—45, 119—120, 183—184, 280—283.

[2] *Каратаев*, И. Описание славяно-русских книг напечатаных кирилловскими буквами, т. I. СПБ, 1883, б. 28—44, 56—67.

[3] *Купалов*, А. Скорина, Франциск (Русский биографический словарь, т. 18 СПБ, 1904, б. 602—603).

[4] *Estreicher*, Karol. Bibliografja Polska, t. 28. Kraków, 1930, b. 190.

«Чешская библия . . .».[5] Трэба мець, аднак, на ўвеце, што гэта ў запраўднасьці не паказьнік самое скарыніяны, а толькі сьпіс літаратуры да працы «Чешская библия . . .», у якім, умітусь, прыведзена й шмат публікацыяў, што маюць дачыненьне да тэмы працы, але ніякога беспасярэдняга да Скарыны. Выявіць дзеля гэтага ў сьпісе самую скарыніяну, якое там звыш 200 пазыцыяў, без перагляду самых выданьняў, не заўсёды лёгка. Пасьля друку сьпісу Флароўскага, паважнейшае дапаўненьне, пераважна бібліяграфіяй скарыніяны найнавейшай, можна знайсьці толькі ў кнізе 1959 году Drukarze dawnej Polski, больш 30-ці пазыцыяў.[6] Гэтаю публікацыяй і замыкаецца чарада даведачных *паказьнікаў* скарынаведнае літаратуры.

У галіне не паказьнікаў, а крытычных *аглядаў* важнейшае толькі скарынаведнае літаратуры, стаіць першым агляд П. В. Валадзімірава 1888 году, што дадзены пры пачатку ягонае манаграфіі пра Скарыну.[7] Агляд гэты абаперты найперш на літаратуры паказанай у 1883 годзе Каратаевым, хоць ёсьць у ім і публікацыі Каратаевым не адзначаныя. Другі, шмат ужо абшырнейшы й на сваю пару даволі вычарпальны, агляд даў Ул. Пічэта ў сваей Scoriniana, 1776—1926.[8] Пічэтаў агляд вартасны тым, што складзены ён паводле нарастаючых у скарынаведнай літаратуры спрэчных ды няясных пытаньняў, як месца друку Скарынавых кнігаў, веравызнаньне Скарыны, яго імя, сацыяльнае паходжаньне, ды іншых. Паважны яго недастатак той, што ахоплівае ён скарыніяну толькі ад году 1776, а выпускае зь віду ўсю вельмі цікавую і важную скарынаведную літаратуру пары папярэдняй, XVI—XVIII стагодзьдзяў. Пасьля Пічэты, абапіраючыся галоўна на пададзенай скарынаведнай літаратуры ў працах А. В. Фларoўскага, кароткі агляд старое й навейшае скарыніяны ў 1958 годзе даў у сваей кніжцы М. Алексютовіч.[9] Крытычны агляд найнавейшае літаратуры пра Скарыну, складзены як працяг, ды адначасна й дапаўненьне Пічэтавай Scoriniana, надрукаваны ў гэтым зборніку пад загалоўкам Scoriniana nova, 1926—1966.

Друкаваная гэтта «Бібліяграфія скарыніяны» ў сваей істоце тыпу папярэдніх паказьнікаў Купалова ды Фларoўскага. Ды ў XX стагодзьдзі на доктара Скарыну, ягоную літаратурную ды выдавецкую спадчыну, зьвернутая ўвага ўжо ня толькі навукоўцаў, але й мастакоў, пісьменьнікаў, публіцыстых, а ці раз і палітыкаў. Вось гэта й узята на ўвет пры складаньні друкаванай тут бібліяграфіі, і розьніцца яна ад папярэдніх сваім шырокім, татальным ахопам усяе ды ўсякае скарыніяны — актавае й кніжнае, рукапіснае й друкаванае, навуковае й публіцыстычнае, літаратур-

---

[5] *Флоровский*, Антон Васильевич. Чешская библия в истории русской культуры — Франциск Скорина и продолжатели его дела (Sbornik filologický, III. Třida Česke Akademie Věd a Uměni, sv. XII. Praha, 1940—1946, b. 249—258).

[6] *Kawecka-Gryczowa*, Alodja; *Koratajowa*, Krystyna, i *Krajewski*, Wojciech. Drukarze dawnej Polski. Zesz. 5: Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław—Kraków, 1959, b. 229—230.

[7] *Владимиров*, Петр Васильевич. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Общество Любителей Древней Писменности, т. XC. СПБ, 1888.

[8] *Пічэта*, Уладзімер. Scoriniana, 1776—1926 (Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926, б. 284—327).

[9] *Алексютовіч*, М. А. Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд. Мінск, 1958, б. 6—18.

нае й мастацкае. Куды шырэйшая яна за паказьнікі папярэднія й дыяпазонам ахопленага часу, бо абымае скарыніяну ад году 1492 да году 1967.

Каля 90% пазыцыяў паказьніка зарэгістравана de visu на аснове беспасярэдняга зазнаямленьня з тэкстам ці арыгіналаў, ці іх фатастатычных або мікрафільмавых рэпрадукцыяў. Паказьнік ахоплівае больш 1200 бібліяграфічных пазыцыяў, бо апрача чародна нумараваных, ёсьць у ім і колькі дададзеных у часе друку: 85a, 122a, 122b, 122c, 158a, 282a, 283a, 385a, 442a, ды іншыя. Паказьнік не падае скарыніяны радыёвых і тэлевізыйных перадачаў, хоць картатэка БІНіМ ахоплівае й гэтыя галіны.

Паказьнік складзены на аснове тае картатэкі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку ў якой ад колькіх год рэгіструецца сыстэматычна ўся нававыяўленая й нарастаючая новая скарыніяна. На дадзены час картатэка гэтая абымае каля 2000 пазыцыяў. Калі зарэгістраваная ў картатэцы скарыніяна XVI—XVIII стагодзьдзяў друкуецца тут у камплетнай паўніні, скарыніяна XIX—XX стагодзьдзяў у падборы. Выпушчаныя драбнейшыя зацемкі, артыкулы, весткі хронікі. Не самая карацiня, аднакжа, была вырашальнаю пры падборы матар'ялу да друку, а зьмест. Прыводзяцца часта й згадкі ды ведамкі вельмі кароткія, як, прыкладам, усе, і найдрабнейшыя, паказьнікі пра сучаснае, ці былое месцазнаходжаньне Скарынавых кнігаў, рукапісных іх копіяў, або — падражаньняў. Пададзеныя й падобныя бібліяграфічныя пазыцыі, як артыкул 1928 году сакратара ЦК КПБ В. Кнорына,[10] ці 1944 году, таксама сакратара ЦК КПБ, Г. Гарбунова,[11] хоць Скарына ў іх згадваецца толькі раз. Абодва гэтыя артыкулы мелі вырашальнае значаньне для гісторыі разьвіцьця падсавецкае скарыніяны. Пасьля першае — усякая дасьледная скарынаведная праца ў БССР і ўсім СССР была спыненая на год пятнаццаць. Пасьля-ж другое была яна ізноў дазволеная, але з абавязваючымі аўтараў палітычнымі ўстаноўкамі ды націскам на пераіменаваньне Скарыны з Францішка на «Георгія».

Складзены паказьнік прынцыпам храналягічным. Пазыцыі кажнага з разьдзелаў дадзеныя ў строгай часовай пасьлядоўнасьці. Храналягічны ўклад бясспрэчна выдатна дапамагае хуткаму асэнсаваньню дадзенага дакумэнту, актавага запісу, навуковае працы, артыкулу, ці мастацкага твору ў гістарычнай сузалежнасьці з падзеямі й фактамі часу свайго паўстаньня. Пры гэткім укладзе лёгка прасачыць і ўвесь працэс разьвіцьця ды росту скарыніяны.

Перад пачаткам бібліяграфіі дадзены альфабэтны сьпіс ужываных у паказьніку скаротаў, скаротаў пераважна назоваў навуковых установаў і арганізацыяў. Пры канцы памешчаны альфабэтны іменны паказьнік суstraканых у бібліяграфіі прозьвішчаў літаратуры кірылічнай, а па ім — лацінічнай.

Друкаваны тут паказьнік у сваіх пяці разьдзелах ахоплівае гэткія галіны скарыніяны: 1. актавыя, эпістулярныя й летапісныя матар'ялы; 2. выданьні доктара Скарыны; 3. рукапісныя водпісы й падражаньні кнігаў Скарыны; 4. скарынаведную літаратуру, ды, 5. скарыніяну ў літаратуры й мастацтве.

---

10 *Кнорын*, В. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні (Асьвета, Нр. 4. Народны Камісарыят Асьветы й Саюзу Працаўнікоў Асьветы. Менск, 1928, б. 4).

11 *Гарбуноў*, Г. 25 год Беларускае ССР (Беларусь, Нр. I. Масква, студзень 1944 г.).

## *1. Акты*

У разьдзеле гэтым пералік усіх ведамых дакумэнтаў, лістоў, граматаў, актавых і летапісных запісаў датычных да доктара Франьцішка Скарыны, ці да Скарынавага роду. Гэта першы падобны камплетны ўлік усяго ведамага актавага ды летапіснага матар'ялу пра доктара Скарыну. Калі Валадзіміраў у 1888 годзе выдаваў сваю манаграфію, было ведама яшчэ толькі 7 датычных да Скарыны актавых запісаў. Гэты-ж паказьнік падае іх 47, каля дзесяці з чаго, гэта акты выяўленыя апошнімі гадамі дасьледнаю працаю Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Гэта ці акты новаадкрытыя, як запіс падуанскае біскупскае курыі (Нр. 7), ці хоць і публікаваныя яшчэ ў XIX стагодзьдзі, ды толькі цяпер з асобаю доктара Скарыны зьвязаныя, як, прыкладам, 6 актаў праскага архіву (Нр. 36—41). Каля 20-ці іншых пададзена, на падставе фатаадбіткаў, бібліяграфічнаму ўліку й вопісу тут першы раз, як, прыкладам, 17 запісаў актавых кнігаў места Пазнаня (Нр. 10—16, 21—30). Дагэтуль, зь інфармацыі 1926 году М. Вайцяхоўскай,[12] было ведама толькі, што іх «даволі шмат», ды ніякога дакладнейшага іх уліку ніхто ня даў. Дык звыш палавіны зарэгістраванага ў гэтым разьдзеле матар'ялу ўліку ды вопісу паддаецца ўпяршыню.

Мець трэба на ўвеце, што адзін улічаны тут дакумэнт, — пісаны палацінску службовы кантракт праскага каралеўскага садоўніка «Містра Франьцішка» (Нр. 35), — сяньня яшчэ ў архівах ня знойдзены, хоць пра існаваньне й арыгіналу, і копіі, ведама зь ліставаньня праскае каралеўскае каморы. Тэксты-ж усіх іншых, бальшыні на мікрафільмах з арыгіналаў, знайходзяцца ў зборах скарыніяны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Трэба таксама адзначыць, што хоць апошняя (Нр. 47) рэгістраваная тут летапісная вестка гавора выяўна пра тагасамага «Сымона Руса з Полацка», Скарынавага сына, што й у летапіснай вестцы пад Нр. 46, ды гэта ўсё-ж вымагае яшчэ свайго пацьверджаньня.

Паказьнік актавых матар'ялаў дае, паводле магчымасьці, датаваньне дакумэнтаў, месца іх паўстаньня, аўтара, зьмест, мову, месца сучаснага, ці ведамага ранейшага месцазнаходжаньня, ды інфармацыі пра друк рэпрадукцыі арыгіналаў, іх тэкстаў, ці перакладаў тэкстаў, калі яны былі.

## *2. Кнігі Скарыны*

У гэтым разьдзеле камплетны пералік усіх ведамых сяньня 23-х праскіх і 2-х віленскіх выдадзеных доктарам Скарынам кнігаў з дакладным паказаньнем іх зьместу. Паказьнік побач назову кнігі, месца й часу яе выхаду, дае лік балонак кажнае кнігі й усіх яе складовых частак, ды лік памешчаных у кнігах дрэварытных ілюстрацыяў. Пададзены тут дакладна зьмест усіх чатырох частак Скарынавага Апостала ды 25-ці складовых частак Малое Падарожнае Кніжкі. Трэба мець на ўвазе, што Скарына ў кнігах свайго выданьня нумараваў не бачыны («страницы»), а толькі балонкі («листы»). Дзеля нястачы адпаведнага друкарскага шрыфта, якім можна

[12] *Wojciechowska*, Maria. Рэцэнзыя на: L. Abramowicz — Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (Kwartalnik historyczny, XL. Lwów, 1926, b. 473—474).

было-б перадаць усе ўжываньня ў Скарынавых кнігах літары, арыгінальныя назовы кнігаў і іх частак перадаюцца ў друку ўпрошчана сучаснымі кірылічнымі літарамі.

### 3. *Рукапісныя водпісы*

Гэты разьдзел рэгіструе 29 заўважаных у літаратуры водпісаў, пераймаńньяў, падражаньняў, плягіятаў з Скарынавых кнігаў, з паданьнем часу й месца іх паўстаньня, аўтара, калі яны ведамыя, ды месца іх сучаснага месцазнаходжаньня, а таксама літаратуру, дзе вопіс гэтага рукапісу, ці, найменш, даведка аб ім. Гэта першая спроба падобнага ўліку захаванае невялікае часткі тае нязвычайна багатае рукапіснае літаратуры, што калісьці паўстала на аснове кнігаў доктара Скарыны. Разьдзел гэтае важнае скарыніяны далейшаю дасьледнаю працаю над справаю пашырэньня Скарынавых кнігаў ды іх уплыву на беларускую і ўсю усходнеславянскую рукапісную пісьменнасьць XVI—XVIII стагодзьдзяў, яшчэ напэўна паважна павялічыцца, ды выявіць паўней той вялізны літаратурны ўзрух, які выклікалі на славянскім усходзе Скарынавы выданьні.

### 4. *Скарынаведная літаратура*

Гэта найбольшы разьдзел бібліяграфіі, абыймае больш 1000 бібліяграфічных пазыцыяў. Дае ён усю важнейшую скарынаведную літаратуру ад часу яшчэ за жыцьцём доктара Скарыны, бо ад 1522 году, і да году 1967. Літаратура XVI—XVIII стагодзьдзяў пададзеная тут паводле картатэкі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва камплетна, з анатацыямі. Літаратура XIX—XX стагодзьдзяў дадзеная ўся важнейшая й ўжо без анатацыяў. Правапіс усіх іншамоўных і старых беларускіх выданьняў захаваны ў арыгінале, у межах, як гэта дазваляюць сучасныя друкарскія шрыфты. Назовы беларускіх публікацыяў XX стагодзьдзя, дзеля вялікае правапіснае разрознасьці ў залежнасьці ня толькі ад пары, але й месца друку, падаецца адным уніфікаваным правапісам, тарнаваным цяперака ў выданьнях Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

### 5. *Скарына ў літаратуры й мастацтве*

У гэтым разьдзеле рэгістраваныя творы літаратуры й мастацтва тэма якіх — доктар Скарына. Гэта вершы, паэмы, драматычныя творы, апавяданьні, раманы, гравюры, абразы, скульптурныя творы, паштовыя маркі, кінафільмы. Літаратурная ды мастацкая скарыніяна мае паважны, бясспрэчна, — а ці раз важнейшы й за літаратуру навуковую, — уплыў на фармаваньне паглядаў сучасьнікаў пра дзеі жыцьця ды культурна-гістарычнае значаньне доктара Скарыны. На ёй у першую чаргу адбіваюцца й зьмены ў гэтых паглядах у залежнасьці ад грамадзка-палітычных абставінаў пары. Матар'ялы гэтага разьдзелу разьмешчаныя ў пяці падразьдзелах: Скарына ў літаратуры, у малярсьцьве й графіцы, у творах скульптуры, на паштовых марках і — кінафільмы пра доктара Скарыну.

*

Укладальнік пачуваецца да абавязку выказаць сваю ўдзячнасьць усім, хто чымнебудзь прычыніўся да ўкладу й паявы друкам гэтага паказьніка, а найперш др. *Вітаўту Кіпелю* за нястомную дапамогу пры выяўляньні скарыніяны ў Публічнай Бібліятэцы Ню Ёрку; праф. др. *Янку Садоўскаму* за такую-ж дапамогу ў бібліятэках і архівах Эўропы; прафэсару др. *Антону Васілевічу Флароўскаму* за дасланьне мікрафільму граматы 1552 г. караля Фэрдынанда I; Мансіньёру др. *Пётру Татарыновічу* за ласкавае пасярэдніцтва пры прыдбаньні мікрафільмаў падуанскіх актавых запісаў; сп. *Янку Запруднiку* за судзейнасьць пры рэгістрацыі сучаснае падсавецкае скарыніяны, а сп. *Янку Ніхаёнку* за безьінтэрэсоўную фататэхнічную дапамогу.

## СКАРОТЫ

АН БССР — Акадэмія Навук Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, Менск.

АН СССР — Академия Наук Союза Советских Социалистических Республик, Москва.

БДУ — Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Менск.

БІНіМ — Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Ню Ёрк/Мюнхен.

ВЕ — Вестник Европы, Москва (1802—1830), С.-Петербург (1866—1918).

ГБ СССР — Государственная Библиотека СССР, Москва.

ЖМНП — Журнал Министерства Народного Просвещения, С.-Петербург.

ІБК — Інстытут Беларускае Культуры, Менск.

ІМ АН БССР — Інстытут мовазнаўства АН БССР, Менск.

ИОНЛ — Историческое Общество Нестора Летописца, Киев.

ЛіМ — Літаратура і мастацтва. Орган праўленьня Саюза пісьменьнікаў і Міністэрства культуры БССР, Менск.

НТШ — Наукове Товариство им. Т. Шевченка, Львів/Ню Ёрк.

ОИДР — Общество истории и древностей российских при Императорском Московском университете.

ОРЯС — Отделение русского языка и словесности Императорской Академии Наук, С.-Петербург.

СПБ — Санктпетербург, Санкт-Петербург, С.-Петербург.

УИ — Университетские известия, Киев.

ЧБД — Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925 (зборнік). Інстытут Беларускае Культуры, Менск, 1926.

**ЗАЎВАГА:** Скаротам **б.** у бібліяграфіі перадаецца слова »бачына« — лацінскае pagina, ангельскае page, расейскае »страница«. Скаротам **бл.** — слова »балонка«, лацінскае folium, ангельскае leaf, расейскае »лист«.

# I. АКТЫ

**Храналягічны паказьнік ведамых дакумэнтаў, актавых ды летапісных запісаў, лістоў і граматаў датычных да доктара Франьцішка Скарыны ці да ягонага роду.**

1. **1492. V. 15. Масква.** Ліст Івана III, вялікага князя маскоўскага, да караля польскага й вялікага князя літоўскага Казімера Ягайлавіча, у якім скарга на полацкіх купцоў Лукіяна Скарыну й Пракофіева, якія быццам »паграбілі« ў Полацку купца Лучаніна Дароню Іванава, падданага князя маскоўскага.
**Перахоўваецца:** Масква, Главный Архив Министерства Иностранных Дел. Первая посольская книга польского двора (1487—1500), б. 151—169.
**Перадрук:** Сборник Императорского Русского исторического общества, т. 35. СПБ, 1882, Нр. 16, б. 67. »Сборник« перавыданы ў 1892 г.
2. **1504 г. Кракаў.** Запіс паступленьня на Кракаўскі ўнівэрсытэт у зімовым паўгодзьдзі »Франьцішка, сына Лукаша, з Полацка«, упіснoe — два грошы: Franciscus Luce de Ploczko 2 gr.
**Перах.:** Кракаў, Унівэрсытэцкая бібліятэка, рукапіс Nr. 258. Metrica, t. I, f. 500a.
**Перадрук:** Album studiosorum Universitatis Cracoviensis. Tomus II (ab anno 1490 ad annum 1551). Editionem curavit *Adam Chmiel*. Academia Litterarum Cracoviensis. Cracoviae, 1892, б. 91.
3. **1506. XII. 13. Кракаў.** Запіс у прамацыйнай кнізе філязафічнага факультэту Кракаўскага ўнівэрсытэту пра наданьне ступені бакаляўра «Франьцішку з Полацка, Ліцьвіну» — Fran. de Poloczko, Litphanus.
**Перах.:** Кракаў, Унівэрсытэцкая бібліятэка, Liber Promotionum philosophorum ordinis.
**Перадрук:** Statuta nec non Liber Promotionum philosophorum ordinis in Universitate studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Edidit *Josephus Muczkowski*. Cracoviae, 1849, б. 144. Таксама: Сымон Брага — Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры (ЗАПІСЫ, кн. 4, БІНіМ, Мюнхен, 1966, б. 195; адбітка: Ню Ёрк — Мюнхен, 1967, б. 18).
4. **1512. XI. 5. Падуя.** Пратакол паседжаньня ў царкве сьв. Урбана Калегіі Артыстых і Мэдыкаў Падуанскага ўнівэрсытэту ў справе дапушчэньня да экзаменаў на доктара лекарскіх навукаў «вучонейшага юнака, доктара навукаў, сына нябошчыка Лукаша Скарыны з Полацка, Русіча». Палацінску.
**Перах.:** Archivio antico della Universitá di Padova, Mstt., vol. 321. Sacri Collegii Dominorum Artistarum et Medicorum, 1512—1523, f. 5.
**Перадрук:** И. Шляпкин — К биографии Франциска Скорины (ЖМНП, Нр. 4, СПБ, 1892, б. 383—384). Фатарэпрадукцыя, лацінскі тэкст, беларускі пераклад — „Žnič", Nr. 61, Rym, 1961, b. 6. Расейскі пераклад: »Неман«, Нр. 8, Минск, 1967, б. 158. Рэпрадукцыя, тэкст, пераклад — ЗАПІСЫ, кн. 5. Мюнхен, 1970, б. 67—69.
5. **1512. XI. 6. Падуя.** Пратакольны запіс пра пробны экзамен Франьцішка Скарыны ў царкве сьв. Урбана. Пры канцы запісу — імі й прозьвішчы 14 прысутных прафэсароў. Палацінску.
**Перах.:** Падуя, тамсама.
**Перадрук:** И. Шляпкин, тамсама, б. 384. Фатарэпрадукцыя, лацінскі тэкст, беларускі пераклад — „Žnič", тамсама, б. 7. Расейскі пераклад: »Неман«, тамсама, б. 158—159. Рэпрадукцыя, тэкст, пераклад — Запісы, кн. 5, 1970, б. 69—72.

6. **1512. XI. 9. Падуя.** Пратакольны запіс Сьвятое Калегіі пра ход экзаменаў і прамоцыі Францішка Скарыны на доктара лекарскіх навукаў у падуанскім біскупскім палацы. Пры канцы запісу — імі й прозьвішчы 24-х прысутных прафэсароў Калегіі. Палацінску.

**Перах.:** Падуя, тамсама.

**Перадрук** (бязь імяў і прозьвішчаў прафэсароў Калегіі) — И. Шляпкин, тамсама, б. 385. Фатарэпрадукцыя, лацінскі тэкст — „Žnič", Nr. 62—63. 1962, б. 10; беларускі пераклад — „Žnič", Nr. 64—65, 1962, b. 12. Расейскі пераклад: »Неман«, тамсама, б. 159. Рэпрадукцыя, тэкст, пераклад — ЗАПІСЫ, кн. 5, 1970, б. 72—75.

7. **1512. XI. 9. Падуя.** Пратакольны запіс у актавай кнізе падуанскага біскупскага палацу пра ход экзаменаў і прамоцыі на доктара лекарскіх навукаў «сакратара караля Дацыі» Францішка Скарыны. Пры канцы дзесяць імяў і прозьвішчаў прафэсароў-прамотараў і сьветкаў. Палацінску.

**Перах.:** Падуя, Archivio antico della Curia Vescoville di Padova. Doctoratuum, vol. 49, f. 122.

**Перадрук:** Фатарэпрадукцыя, лацінскі тэкст, беларускі пераклад — „Žnič", Nr. 56, 1960, b. 8. Таксама: Запісы, кн. 5, 1970, б. 75—77.

**Вопіс:** Сымон Брага — Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны (ЗАПІСЫ, кн. 3, БІНіМ. Мюнхен, 1964, б. 19—21; адбітка, Ню Ёрк — Мюнхен, 1965, б. 17—19).

8. **1518. XII. Берасьце.** Дэкрэт караля й вялікага князя Жыгімонта, якім Іван Скарына Палачанін (брат доктара Францішка Скарыны) ды колькі іншых віленскіх купцоў, звальняюцца ад грашовых прэтэнсыяў Андрэя з Львова. Палацінску.

**Перах.:** Варшава, Archivum Główne, Księgi Metryki Koronnej, Nr. 33, 165, **Дакумэнт рэгістраваны:** Matricularum Regni Poloniae Summaria, excussis codicibus, qui in Chartophylacio Maximo Varsoviensis asservantur, contexuit indicesque adiecit *Theodorus Wierzbowski.* Pars IV. Sigismundi I regis tempora complectens. Volumen 2-um. Acta vicecancellariorum. Varsoviae, MCMXII, f. 195, Nr. 11992.

9. **1529 г. Вільня.** Судовая пастанова караля й вялікага князя Жыгімонта ды Паноў Рады Вялікага Княства Літоўскага, якою дом у Вільні «на рынку» прысуджаны жонцы доктара Францішка Скарыны Маргарэце й яе дзецям. Пабеларуску.

**Перах.:** Масква, Центральный Государственный Архив Древних Актов. Литовская Метрика, Книги судных дел, Нр. 4, бл. 203—231.

**Перадрук:** П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Общество Любителей Древней Писменности, т. ХС. СПБ, 1888, б. 321—322.

10. **1529. VII. Пазнань.** Запіс Кляўза Габэрлянда ў кнігі места Пазнаня пра нясплачаны яму памерлым Іванам Скарынам доўг у вышыні каля 500 флёрэнаў, з дамаганьнем забясьпечыць зварот доўгу маемасьцяй нябожчыка, што пад домам Якуба Корба. Вызначаныя тэрміны сплаты: першы 17 ліпеня 1529 г., другі 29 ліпеня. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, Archivum Państwowe, w depozycie — Archivum Miasta Poznania, Advoc. 1516 — 33, f. 54v.

11. **1529. VII. Пазнань.** Запіс Ешкі Фальковіча ў кнігі места Пазнаня пра нясплачаную яму памерлым Іванам Скарынам належнасьць у вышыні 200 флёрэнаў. Першы тэрмін сплаты — 8 жніўеня 1529 г. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1516 — 33, f. 54v.

12. **1529. VII. Пазнань.** Запіс Доктара Францішка (Скарыны) зь Вільні ў кнігі места Пазнаня пра нясплачаны яму памерлым Іванам Скары-

нам доўг у вышыні 400 флёрэнаў. Першы тэрмін сплаты 8 жнівеня 1529 г. Палацінску.
**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1516 — 33, f. 55.

13. **1529. VII. Пазнань.** Запіс жонкі Якуба Корба ў кнігі места Пазнаня пра нясплачаную ёй памерлым Іванам Скарынам належнасьць у вышыні 30 флёрэнаў. Першы тэрмін сплаты — 8 жнівеня 1592 г. Палацінску.
**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1516 — 33, f. 55.

14. **1529. VII. Пазнань.** Запіс у кнігі места Пазнаня пра нясплачаныя памерлым Іванам Скарынам даўгі. Палацінску.
**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1516 — 33, f. 58.

15. **1529. X. 23. Пазнань.** Пратакол судовага ўліку й ацэнаваньня 47 468 скураў на складох памерлага Івана Скарыны ды распадзел іх ягоным крэдытарам на пакрыцьцё нясплачаных даўгоў. Палацінску.
**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1521 — 33, f. 93 — 96.

16. **1529. X. Пазнань.** Паўнамоцтва выстаўленае Раманам Скарынам Міколе Лямскаму для справаў ліквідацыі даўгавых забавязаньняў ягонага нябошчыка бацькі, Скарыны Івана. Палацінску.
**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1521 — 33, f. 96.

17. **1530. V. 16. Каралевец (Königsberg).** Копія ліста герцага прускага Альбрэхта да ваяводы віленскага Альбрэхта Гаштаўта, з просьбай даць доктару Францішку Скарыну «помач і раду» ў ягоных маемасных клопатах у Вільні. Палацінску.
**Перах.:** Staatsarchiv Königsberg. Altpreussische Foliant 48, f. 528 — 529. Цяпер у: Staatliches Archivlager, Göttingen.
**Перадрук тэксту:** А. Миловидов — Новые документы относящыеся к био графии Франциска Скорины (Известия ОРЯС Российской Академии Наук 1917 г., т. XXII, кн. 2-я. Петроград, 1918, б. 223).
**Беларускі пераклад** др. П. Татарыновіча: С. Брага — Кароль Альбрэхт і Скарына (ЗАПІСЫ БІНіМ, Нр. 2/4), Ню Ёрк, 1953, б. 110—112).

18. **1530. V. 16. Каралевец.** Копія ліста герцага прускага Альбрэхта да віленскага Сэнату з просьбай ахаваць доктара Францішка Скарыну й ягоную сям'ю ад несправядлівых прэтэнсыяў і крыўдаў. Палацінску.
**Перах.:** Тамсама, f. 529 — 530.
**Перадрук тэксту:** А. Миловидов, тамсама, б. 224 — 225 (з памылковым датаваньнем — 18. V. 1530).
**Беларускі пераклад** д-р П. Татарыновіча, тамсама, б. 112—113.

19. **1530. V. 16. Каралевец.** Копія «Дарожнае граматы» — Literae passuum — выстаўленай герцагам прускім Альбрэхтам доктару Францішку Скарыну для вольнага пераезду з Каралеўца да Вільні. Палацінску.
**Перах.:** Тамсама, f. 530 — 531.
**Перадрук тэксту:** А. Миловидов, тамсама, б. 224. Беларускі пераклад др. П. Татарыновіча, тамсама, б. 112.

20. **1530. V. 26. Каралевец.** Копія ліста герцага прускага Альбрэхта да ваяводы віленскага Альбрэхта Гаштаўта, у якім скарга на доктара Францішка Скарыну за тое, што той, едучы з Каралеўца да Вільні, забраў із сабой жыда лекара й друкара. Палацінску.
**Перах.:** Тамсама, f. 535 — 537.
**Перадрук тэксту:** А. Миловидов, тамсама, б. 225 — 223. Беларускі пераклад др. П. Татарыновіча, тамсама, б. 113.

21. **1532. II. 5. Кракаў.** Копія каралеўскага мандату на арышт Францішка Скарыны за даўгі брата Скарыны Івана, выстаўлены ў выніку заха-

даў крэдытараў, варшаўскіх купцоў, Майсея Старога, ягонага сына Лазара ды зяця Майсея. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама (як і Нр. 10), Brul. Consul. 1531 — 32, f. 135v — 136.

22. **1532. IV. 12. Пазнань.** Паўнамоцтва варшаўскіх крэдытараў Івана Скарыны дадзенае Якубу Бшоско для справы спагону нясплачанага доўгу. Панямецку.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Advoc. 1512 — 33, f. 122.

23. **1532. IV. Пазнань.** Дамаганьне Рамана Скарыны звольніць з арышту ягонага дзядзьку доктара Франьцішка Скарыну, з адначасным пасуленьнем сплату бацькавага доўгу забясьпечыць залогам. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 118 — 118v.

24. **1532. V. 1. Пазнань.** Пратэст Рамана Скарыны супраць трыманьня ў зьняволеньні беспадстаўна арыштаванага доктара Франьцішка Скарыны. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul 1531 — 32, f. 121v — 123.

25. **1532. V. 1. Пазнань.** Устанаўленьне Раманам Скарынам паўнамоцніка для справы звальненьня з арышту доктара Франьцішка Скарыны. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 123 — 123v.

26. **1532. V. Пазнань.** Новае дамаганьне Рамана Скарыны звольніць доктара Франьцішка Скарыну з гваранцыяй сплаты доўгу. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 144 — 145.

27. **1532. V. 2. Кракаў.** Копія другога каралеўскага мандату, прадстаўленага варшаўскімі крэдытарамі Скарыны Івана Радзе места Пазнаня, у якім загад не звальняць доктара Скарыну з арышту, пакуль ён ня сплаціць даўгоў брата Івана. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 161v — 162v.

28. **1532. V. 24. Кракаў.** Копія загаду караля Жыгімонта, каб безадвалочна звольніць з арышту доктара Франьцішка Скарыну. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 163v — 164.

29. **1532. VI. 17. Пазнань.** Заява доктара Франьцішка Скарыны перад Радай места Пазнаня з высненьнямі беспадстаўнасьці ягонага арышту. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 162v — 163v.

30. **1532. VI. 17. Пазнань.** Дамаганьні доктара Скарыны кампэнсаты за панесеныя бясправўным арыштам шкоды яму й віленскаму біскупу, у справах якога, як ягоны сакратар і лекар, да Пазнаня ён прыяжджаў. Палацінску.

**Перах.:** Пазнань, тамсама, Brul. Consul. 1531 — 32, f. 164 — 165.

31. **1532. XI. 21. Кракаў.** Копія прывілейнае граматы караля й вялікага князя Жыгімонта, якою доктар Франьцішак Скарына звальняецца ад усякіх судовых прасьледаў за нясплачаныя даўгі памерлага брата Івана. Палацінску.

**Перах.:** Варшава, Archivum Główne, Księgi Metryki Koronnej, Nr. 48, f. 310.

**Перадрукі:** Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединеных с нею владений... изданое Виленскою Археологическою Коммиссиею под редакцией **Маврикия Круповича**, ч. I. Вильно, 1858, Нр. XXX, б. 36 — 37 (у Круповіча памылковае датаваньне — »1532 г. 5 Генваря«). Таксама: Acta Tomiciana. Tomus quartus decimus epistolarum, legationum responsorum, actionum et rerum gestarum Serenissimi Principis Sigismundi primi Regis Poloniae Magnis Ducis Lithuaniae. Edidit *Vladislaus Pociecha*. Posnaniae, Sumptibus

Bibliothecae Kornicensis, MCMLII, f. XVI, 790 — 792. Лацінскі тэкст, беларускі пераклад: „Žnič", Nr. 94. Rym, 1967, b. 4. Таксама ЗАПІСЫ, кн. 5, б. 116—118.

32. **1532. XI. 25. Кракаў.** Копія прывілейнае граматы караля й вялікага князя Жыгімонта, якою доктар Франьцішак Скарына выймаецца з пад юрысдыкцыі судоў і з пад улады ваяводаў, старастаў, гараднічых, ды іхных урадоўцаў і бярэцца пад беспасярэднюю юрыдычную ахову караля й вялікага князя. Палацінску.

**Перах.:** Варшава, тамсама, Nr. 48, f. 308.

**Перадрукі:** М. Крупович, тамсама, Нр. XXIX, б. 35 — 36 (з памылковым датаваньнем — »21 Ноября«). Таксама, V. Pociecha, тамсама, f. 795 — 796. Лацінскі тэкст, беларускі пераклад: „Žnič", Nr. 94. Rym, 1967, b. 5. Таксама ЗАПІСЫ, кн. 5, б. 118—120.

33. **1535. VI. 18. Полацак.** Акт судовае справы між зяцямі Івана Скарыны, Міхнай Аўсяньнікам і Еськай Сьцяпанавічам, за радавую зямлю Скарынаў на замку ў Полацку. Пабеларуску.

**Перах.:** Масква, Центральный Государственный Архив Древних Актов. Литовская Метрика, Нр. 16. Книги судных дел (1530—1538), Нр. 372, б. 263—264.

**Перадрукі:** П. В. Владимиров — Доктор Франциск Скорина, СПБ, 1888, б. 323 — 324. Таксама: Беларускі Архіў, т. 2, ІБК, Менск, 1928, б. 263.

34. **1535. X. 4. Полацак.** Судовая пастанова, якою радавая зямля Скарынаў на замку ў Полацку, што была ў карыстаньні Еські Сьцяпанавіча, перадаецца ў валаданьне Міхну Аўсяньніку. Правы доктара Франьцішка Скарыны на ягоную часьць гэтае зямлі судом засьцярэжаныя. Пабеларуску.

**Перах.:** Масква, тамсама, Нр. 373, б. 264 — 264б.

**Перадрукі:** П. В. Владимиров, тамсама, б. 324 — 325; Беларускі архіў, тамсама, б. 263 — 264.

35. **1535. Вена?** Службовы кантракт «Містра Франціско», праскага садоўніка караля Фэрдынанда І. Палацінску.

**Перах.:** Сучаснае месцазнаходжаньне ня ведамае.

**Згадка** пра гэты кантракт і яго копію ў лісьце з 27. VI. 1538 г. праскае каралеўскае каморы да караля Фэрдынанда І (гл. Нр. 36).

36. **1538. VI. 27. Прага.** Копія ліста Чэскае Каморы да караля Фэрдынанда І, у якім скарга на «Містра Франціско», праскага каралеўскага садоўніка, што ён мала дбае пра каралеўскі парк на Градчанах. Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 15, f. 156 — 160.

**Перадрук:** Urkunden, Regesten und Inventare aus dem K. K. Statthalterei Archiv in Prag. Herausgegeben von *Karl Köpl*, K. K. Statthalterei-Archivar (Jahrbuch der Kunsthistorischen Sammlungen des Allerhöchsten Kaiserhauses. Zehnter Band. Wien, 1889, f. 88 — 90, Nr. 6004).

37. **1538. VII. 4. Крэмс (Аўстрыя).** Ліст караля Фэрдынанда І да Чэскае Каморы, у якім загад «Містру Франціску, нашаму садоўніку ў Празе», каб ён больш рупіўся пра парк на Градчанах ды пільней і хутчэй садзіў у ім дрэвы й краскі. Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 19, f. 31 — 33.

**Перадрук:** K. Köpl, тамсама, б. 80, Nr. 6005.

38. **1539. II. 6. Прага.** Копія рапарту Чэскае Каморы каралю Фэрдынанду І пра стан парку на Градчанах, у якім сьветчаньне садоўніка «Містра

Францішко», што данос каралю пра быццам масавае ссяканьне дрэваў у парку, ня згодны з праўдай. Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 15, f. 261 — 263.

**Перадрук:** K. Köpl, тамсама, б. 91, Nr. 6030.

39. **1539. IV. 4. Прага.** Копія ліста Чэскае Каморы да караля Фэрдынанда I, у якім запытаньне, зь якіх сумаў, пакрыць каля 200 гульдэнаў задоўжанасьці садоўніку «Містру Францішко». Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 15, f. 279 — 280.

**Перадрук:** K. Köpl, тамсама, б. 92, Nr. 6035.

40. **1540. V. 2. Ґент (Фляндрыя).** Ліст караля Фэрдынанда I да Чэскае Каморы ў Празе з пагрозаю, што калі да яго ізноў дойдзе скарга «ад нашага садоўніка», ці ад каго іншага, пра тое, што гончыя сабакі італіянскіх майстроў, што працуюць пры будове летняга палацу ў парку на Градчанах, нішчаць і далей краскі й садовыя дрэўцы ў каралеўскім парку, дык вінаватыя будуць строга пакараныя й безадвалочна звольненыя з працы. Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 19, f 175

**Перадрук:** K. Köpl, тамсама, б. 95, Nr. 6043.

41. **1540. VI. 10. Прага.** Копія ліста Чэскае Каморы да караля Фэрдынанда I, у якім пацьверджаньне, бачанага садоўнікам ды іншымі факту, зробленых у каралеўскім парку на Градчанах гончымі сабакамі італіянскіх майстроў шкодаў. Панямецку.

**Перах.:** Прага, Дзяржаўны Архіў, Copialbuch Nr. 15, f. 354 — 355.

**Перадрук:** K. Köpl, тамсама, б. 96, Nr. 6047.

42. **1541. VI. Прага.** Ведамка хрaністы Гаека зь Лібачан, што падчас пажару Прагі 2 чэрвеня 1541 году ў доме сьвятара Яна з Пухава на Градзе Праскім згарэў «хлопчых Франьцішак, сын колішняга доктара Руса». Пачэску.

**Друк:** Wacslaw Hájek. O nesstiasne przihodie, kteraž jse stala skrze ohen w Mensim Mieste Pražském, a na Hradie Swatého Wacslawa y na Hradczanech, etc., leta MDXXXXI. Wyd. B. Netholický. Praha, 1541.

**Перадрук:** Jan Beckovský. Poselkyně starých příbehov českých. Díl Druhý Vydal Antonin Rezek. Svazek 1. Praha, 1879, b. 100.

43. **1552. I. 29. Прага.** Копія адкрытага ліста караля Фэрдынанда I, выстаўленага Скарынаваму сыну Сымону Русу, з загадам дапамагаць яму ў ягоных пошуках ды спагоне бацькавае маемасьці ды кнігаў. Пачэску.

**Перах.:** Прага, Archiv čsl. ministerstva vnitra v Praze. Registra (kopiaře), sv. 51. f. 27b.

**Перадрук:** Ant. Vas. Florovskij. Nové správy o pobytu Františka Skoryny v Praze (Časopis Národního Musea, Oddíl Duchovědny. Ročnik CX. Praha, 1936, b. 11 — 12.

44. **1552. III. 9. Полацак.** Полацкая рэвізыя (перапіс), у якой вопіс маемасьці полацкіх Скарынаў ды зяця Скарыны Івана, Еські Сьцяпанавіча. Пабеларуску.

**Перах.:** Бібліятэка графоў Браніцкіх. Другі сьпісок: С.-Петербург, Военно-Ученый Архив Главнаго Штаба, отд. 5, Нр. 78.

**Перадрукі:** Сьпісок Бібліятэкі Браніцкіх — J. Szujski. Rewizya Województwa Połockiego z roku 1552 (Scriptores Rerum Polonicarum, t. V. Archiwum Komisyi Historycznej, t. 2. Wyd. Komisyi Historycznej Akademyi Umiejętności w Krakowie. Kraków, 1880, b. 176, 184). Сьпісок Архіву Галоўнага Штабу — И. И. Лаппо — Полоцкая ревизия 1552 года (Чтения ОИДР, кн. 2-я (213). Москва, 1905, б. 2, 4, 16, 42).

45. **1553. I. Кракаў?** Копія інструкцыі караля й вялікага князя Жыгімонта Аўгуста свайму пасланцу пры папе ў Рыме, Адальбэрту Крыску, у якой паведамленьне, што за жыцьця й панаваньня ягонага бацькі, караля Жыгімонта, адзін з бацькавых падданых пераклаў на «рускую мову» й надрукаваў кнігі Бібліі ды павёз іх у Маскву, дзе кнігі гэтыя былі, на загад маскоўскага князя, публічна спаленыя. Палацінску.

**Перах.:** Вена, былыя K. K. Archive.

**Перадрук:** Joseph Fiedler. Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte (Sitzungsberichte der Philosophisch-Historischen Classe der Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften. Vierzigster Band, Heft I. Wien, 1862, Nr. IV, b. 110). Лацінскі тэкст і беларускі пераклад: Сымон Брага — Доктар Скарына ў Маскве (ЗАПІСЫ, кн. 2, БІНіМ, Мюнхен, 1963, б. 19. Адбітка, Ню Ёрк — Мюнхен, 1963, б. 15).

46. **1577 г.** Ведамка чэскага храністы Вацлава Бжэзана, што на паўдні Чэхіі, у Крумлёве, гэтым часам практыкаваў як лекар «паляк Сымон, па прозьвішчы Рус, з Полацка». Пачэску.

**Друк:** Wacslaw Březan. Žiwot Wiléma z Rosenberka (Stáročeska Bibliotheka, čislo II. Nákladem Českého Museum, Praha, 1847, b. 227).

47. **1584 г.** Ведамка, што на паўдні Чэхіі, у Інджыкова Градцэ, садоўнікам гэтым часам працаваў «Сымон Рус з Полацка», праўдападобна той самы «Сымон, па прозьвішчы Рус з Полацка», якога згадаў і Вацлаў Бжэзан (гл. Нр. 46). Пачэску.

**Згадваецца:** František Teplý. Dějiny města Jindřichova Hradce. Dil II, č. 1. Jindřichova Hradce, 1929, b. 354. Таксама: F. Teplý. O poslednich novokřtěncich v jižních Čechach (Čas. přatel. starožitnosti, XXXVIII).

## II. КНІГІ ВЫДАДЗЕНЫЯ ДОКТАРАМ ФРАНЬЦІШКАМ СКАРЫНАМ

### Прага, ад 6 жніВеня 1517 году да 15 сьнежаня 1519 году

**БІВЛИЯ РУСКА выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, Богу кочти и людем посполитым кдоброму научению: —** У выдадзеных доктарам Скарынам у Празе 23-х біблійных кнігах усіх разам 1202 балонкі (2404 бачыны) і 49 дрэварытаў.

Пад пададзеным вышэй агульным загалоўкам доктар Франьцішак Скарына выдаваў у гадох 1517 — 1519 у Празе паасобныя кнігі Старога Запавету. Ведама, што надрукаваў ён там найменш 23 кнігі. Усе яны ніжэй пералічаныя. Выхадная балонка да ўсей Бібліі, зь якое ўзяты прыведзены тут загаловак, пакладзеная доктарам Скарынам перад Кнігаю Быцьця (Нр. 61), дзе ён памясьціў і сваю прадмову »во всю Бівлию«.

### Прага, 1517 год

48. ПСАЛТЫРЬ. Прага. 6 жніВеня 1517 г., балонак 142 (284 бачыны). Зьмест: Прадмова, тэкст, 10 раньнішніх рэлігійных песьняў, паслоўе, 3 дрэварыты.
49. КНИГА СВЕТОГО ИОВА. Прага, 10 верасьня 1517 г., бл. 51 (102 б.). Зьмест: Прадмова, уводны артыкул «О житіи светого Иова иороде его», тэкст, паслоўе, 2 дрэварыты.
50. ПРИТЧИ ИЛИ ПРИСЛОВИЯ ПРЕМУДРАГО САЛОМОНА. Прага, 6 кастрычніка 1517 г., бл. 48 (96 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 2 дрэварыты.

51. КНИГА ИСУСА СЫНА СИРАХОВА. Прага, 5 сьнежаня 1517 г., бл. 82 (164 б.). Зьмест: Прадмова Ісуса Сыраха, прадмова доктара Скарыны, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт і, пры канцы кнігі, дрэварытны партрэт доктара Скарыны, пазначаны годам «1517» угары, з напісам вітым пісьмом унізе: «Доктор Франциско Скорина», ды з манаграмай мастака «МЗ».

**Прага, 1518 год**

52. КНИГА ЕККЛЕСИАСТЕС ИЛИ СОБОРНИК. Прага, 2 студзеня 1518 г., бл. 18 (36 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

53. КНИГА ПЕСНЬ ПЕСНЯМ ЦАРЯ САЛОМОНА. Прага, 9 студзеня 1518 г., бл. 12 (24 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

54. КНИГА ПРЕМУДРОСТИ БОЖИЕЙ САЛОМОНА. Прага, 19 студзеня 1518 г., бл. 32 (64 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

55—58. КНИГИ ЦАРЬСТВ. Прага, 10 жнівеня 1518 г., бл. 242 (484 б.).

КНИГИ ПЕРВЫИ ЦАРЬСТВ. Зьмест: Прадмова да ўсіх Кнігаў Царств, прадмова да Першае Кнігі Царств, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

ВТОРЫИ КНИГИ ЦАРЬСТВ. Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

ТРЕТИИ КНИГИ ЦАРЬСТВ. Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 8 дрэварытаў.

КНИГИ ЧЕТВЕРТЫИ ЦАРЬСТВ. Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе да Кнігі Чацьвертае Царств, паслоўе да ўсіх Кнігаў Царств, 1 дрэварыт і, на апошняй балоне кнігі, дрэварытны партрэт доктара Скарыны.

59. КНИГИ ИСУСА СЫНА НАВИНА. Прага, 20 сьнежаня 1518 г., бл. 48 (96 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

**Прага, 1519 год**

60. КНИГИ ІУДИТ ВДОВИЦЫ. Прага, 9 лютага 1519 г., бл. 27 (54 б.) Зьмест: Партрэт доктара Скарыны, прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

61. КНИГИ БЫТЬЯ. Прага, 1519 г., бл. 95 (190 б.). Зьмест: Загаловачная балонка да ўсей Біблії, партрэт доктара Скарыны, прадмова «во всю Бівлию», прадмова да Кнігі Быцьця, тэкст, паслоўе, 3 дрэварыты.

62. КНИГИ ИСХОД. Прага, 1519 г., бл. 76 (152 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 6 дрэварытаў.

63. КНИГИ ЛЕУВИТ. Прага, 1519 г., бл. 54 (108 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 3 дрэварыты.

64. КНИГИ ЧИСЛА. Прага, 1519 г., бл. 74 (148 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

65. КНИГИ ВТОРАГО ЗАКОНУ. Прага, 1519 г., бл. 66 (132 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

66. КНИЖКА ПЛАЧУ ЕРЕМІИНА. Прага, 1519 г., бл. 13 (26 б.). Зьмест: Партрэт доктара Скарыны, прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

67. КНИГИ ДАНИИЛА ПРОРОКА. Прага, 1519 г., бл. 40 (80 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

68. КНИГА ЕСТЕРА ЦАРИЦИ. Прага, 1519 г., бл. 26 (52 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, I дрэварыт.

69. КНИГА РУТ ПРАБАБЫ ДАВИДОВА. Прага, 1519 г., бл. 8 (16 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

70. КНИГИ СУДЕЙ ИЗРАИЛЕВЫХ. Прага, 15 сьнежаня 1519 г., бл. 48 (96 б.). Зьмест: Прадмова, тэкст, паслоўе, 1 дрэварыт.

**Вільня, 1525 год**

71. КНИГА ДЕАНИЯ И ПОСЛАНИЯ АПОСТОЛЬСКАЯ ЗОВЕМАЯ АПОСТОЛ, З БОЖИЮ ПОМОЧЬЮ СПРАВЛЕНА ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ СПОЛОЦЬКА: — Доконана ест сия книга... лета... тысещнаго, пятьсота, идвадесет пятого. Месяца марта: — ...Вославном месте виленском выложена, и вытеснена. Бл. 80 + 36 + 187 +48 (разам бл. 351 = 702 б.). Зьмест кнігі:

I. ДЕАНИЯ СВЕТЫХ АПОСТОЛ, 80 бл.

1. Деания светых апостол книг предмова.
2. Книги деания светых апостол.

II. СОБОРНЫЕ ПОСЛАНИЯ, 36 бл. Перад кажным пасланьнем ёсьць уводнае «сказание» доктара Скарыны даўжыні ад колькіх радкоў да колькіх бачынаў. Пералік пасланьняў:

1. Іаковлево соборное послание.
2. Послание соборное Петрово первое.
3. Петрово второе послание соборное.
4. Іоаново первое соборное послание.
5. Послание Іоаново второе.
6. Іоаново соборное третее послание.
7. Послание Іудина.

III. ЕПИСТОЛЫ СВЕТОГО СЛАВНОГО ИВЕРХОВНАГО ВНЕБЕ НАВЧЕНАГО АПОСТОЛА ХРИСТОВА ПАВЛА: — 187 бл.

1. К Римляном епистола.
2. Первое послание к Коринтом.
3. Второе послание к Коринтом.
4. К Галатом послание.
5. Послание ко Ефесием.
6. Послание к Филипписием.
7. Послание к Коласаем.
8. Первое послание к Селуняном.
9. Второе к Селуняном послание.
10. Первое ко Тімотею послание.
11. Второе ко Тімотею послание.
12. Послание к Тіту.
13. Ко Філимону послание.
14. Послание ко Евреом.

Паслоўе: Доконана ест сия книга зовемая апостол...

IV. СОБОРНИК, 48 бл.
1. Прадмова.
2. Починаетсе соборник двунадесят месец.
3. Пятдесятница во светую неделю пасхы и на всю тую седмицу.
4. Четырдесятница.
5. Различьная.
6. Прокимны воскресныи.
7. Общие светым.

**Вільня, каля 1525 году**

72. МАЛАЯ ПОДОРОЖНАЯ КНИЖКА: — Вільня, каля 1525 году. Кніга складаецца з 25-х друкаў, 22 зь якіх маюць сваю асобную нумарацыю балонак, а тры зусім бяз нумарацыі. Агульны лік балонак кнігі 428 (856 бачынаў). У кнізе 5 дрэварытаў. Ніжэй пералік усіх 25 частак «Малое падарожнае кніжкі», што складаюць шэсьць разьдзелаў кніжкі (разьдзелы пазначаныя рымскімі лікамі), з паказаньнем іх зьместу й ліку балонак. Колькі Малая Падарожная Кніжка мела ўсіх балонак — ня ведама, бо ніводзін камплетны яе экзэмпляр не захаваўся. Нехапае колькі балонак пасхаліі.

I. ПСАЛТЫРЬ ИЛИ ПЕСНИ СВЕТОГО ПРОРОКА БОЖИЯ ДАВЫДА ЦАРЯ ЕРУСАЛИМСКА, О ХРИСТЕ: — 140 бл. Зьмест:
Предсловие во Псалтырь.
Псалтырь (150 псальмаў згрупаваных у 20 кафізмаў).
Псалом особно писан Давидов внегда сам изяте оубити Голияфа. А ест вне числа иных псальмов.
Песни избраныи:
1. Песнь Моисеова воисход.
2. Песнь Моисеева юже пишеть вовтором законе.
3. Песнь Анны матере Самуіловы.
4. Молитва Аввакума пророка.
5. Песнь Ісаіа Пророка.
6. Молитва Ионы пророка внегда был вочреве рибы кит.
7. Песнь светых триех отрок.
8. Песнь триех отрок.
9. Песнь Пречистиа Богородице.
10. Песнь Захарии отца Предтечева.

II. ЧАСОСЛОВЕЦ ИМЕЯ НОЩНУЮ И ДНЕВНУЮ СЛУЖБУ ПО УСТАВУ ЕРУСАЛІМСКОЕ ЦЕРКВИ И ПРОЧИХ ВОСТОЧНЫХ ОБИТЕЛЕЙ: — 60 бл. Складаецца з трох частак, дзьве першыя маюць сваю нумарацыю балонак, трэцяя — бяз нумарацыі зусім:
1. Полунощница повседневна. Другая полунощница. Утреница. Тропари повседневныя. Кондаки повседневныя. Светилны чрез всю неделю. Обедница. Усіх 28 бл.
2. Канон покаяльный. Вечерня вседневная. Повечерьница великая. Повечерница мала. Полунощница повсенедели. Усіх 28 бл.
3 Канон-молебен пресвятей Богородици певлемы напавечерници. 4 ненумараваныя балонкі.

III. АКАФІСТЫ Й КАНОНЫ, 168 бл. Разьдзел складаецца з 16-ці асобнае нумарацыі кніжачак:

1. Акафіст Живоносному Гробу Господню, 12 бл. У рамцы загаловачнай бачыны дрэварыт з выбражэньнем Багародзіцы й двух сьвятых.
2. Канон Гробу Гасподню, 8 бл.
3. Акафіст светому архангелу Міхаілу івсем небесным чином, 12 бл.
4. Канон архангелом, 8 бл.
5. Акафіст чесному ивсехвальному пророку Предтечи икрестителю Господьню Иоанну, 12 бл.
6. Канон Иоанну Предтечи, 8 бл. На загаловачнай бачыне дрэварыт з надписам: «Светый Іоан Предтеча крещает воиордани Господа нашего Ісуса Христа».
7. Акафіст Пренасветейшей девици матери Божией Марии, 12 бл. На загаловачнай бачыне дрэварыт з подпісам: «Благовествует Гавриіл Пречистой Девици Богородици Марии».
8. Канон благодарствен Пречистей Богородици, [redacted] бл.
9. Акафіст светому верховному апостолу Петру і Павлу ивсем дванадесети, 16 бл.
10. Канон светым верховным апостолом Петру и Павлу ивсем дванадесети, 8 бл.
11. Акафіст великому чудотворцу Николе архиерею Мирликиіску, 12 бл.
12. Правіло акафіста и молитва светому великому чудотворцу Николе епископу Мирликийских, 8 бл.
13. Акафіст чесному и животворному Кресту Господню, 16 бл.
14. Канон чесному и животворящему Кресту Господа нашего Ісуса, 8 бл.
15. Акафіст пресладкому імени Господа нашего Ісуса Христа глаголемы повся дни, 12 бл. На загаловачнай бачыне дрэварыт: Багародзіца зь дзіцяцем-Хрыстом на каленях і ў вакружэньні ангелаў.
16. Стихеры Господу Ісусу певлемы со акафістом повся дни, 8 бл. На загаловачнай бачыне дрэварыт з надпісам: «Господь наш Ісус Христос вохраме навчаеть законовчителей іудейских».

IV. ШЕСТОДНЕВЕЦЬ, 44 бл.

1. Шестодневець краткий навсу неделю, поченши отсуботы, по обычаю всех восточных церквий, 36 бл.
2. Канон покаяльный глаголемы наўтрени, 4 бл.
3. Всуботу канон глаголемый на утрени, 4 ненумараваныя балонкі.

V. СВЕТЦИ КРАТКИИ, 13+? бл.

1. Последование церковнаго собрания вселетняго от месеца септеврия до месеца августа повставу Ерусалимское Церкви.
2. О паскалі или о пасце.

VI. ПИСАНЫИ РЕЧИ В СЕЙ МАЛОЙ ПОДОРОЖНОЙ КНИЖЦЕ (зьмест кніжкі), 3 ненумараваныя балонкі.

**ПАДСУМАВАНЬНІ:**

Дзьве друкаваныя ў Вільні кнігі маюць разам 779 балонак (1558 бачынаў) і 5 дрэварытаў. Усе ведамыя сяньня 25 кнігі Скарынавага праскага й віленскага выданьня маюць разам 1981 балонку (3962 бачыны) друку, 54 дрэварыты, шмат вялікіх і малых заставіцаў ды вялікіх аздобных ініцыяльных літараў — »буквіцаў«.

## III. ВОДПІСЫ СКАРЫНАВЫХ КНІГАЎ

### Храналягічны паказьнік ведамых рукапісных копіяў, падражаньняў і перайманьняў кнігаў выдадзеных доктарам Франьцішкам Скарынам

73. **1543. VIII. 8. Псалтыр.** Кніга пісаная паўуставам, у ліст, 177 бл. Скарынінскі толькі тэкст Псалтыра, прадмова-ж — Мікіты Іраклійскага. На адвароце 167 балонкі запіс: »Под лето Божего народжения 1543. року індыкта I, авгоуста 8 докончана ест сия псалтырь з росказанія его милости велможного пана Ивана Михайловича, старосты пинского, и кобрынского, клецкого, городецкого, рогачевского, державцы быховского и селецкого. Писал Парфен«.
**Перахоўваецца:** Рукапісныя зборы Барсава. Масква. Исторический Государственный Музей.
**Вопіс:** Барсов Е. Описание некоторых южно-русских і западно-русских рукописей находящихся в рукописном собрании Е. В. Барсова, 1884, б. I — 13. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 208 — 209. П. В. Владимиров. Обзор южно-русских и западно-русских памятников письменности от XI до XVII ст., 1890, б. 125.

74. **Першая палавіна XVI ст. Кніга Товіт,** памешчаная ў большым рукапісным зборніку, займае 15 бл.
Гэта, як і кнігі біблійныя Скарынавы, пераклад з чэскае Бібліі 1506 году. Паводле Я. Карскага, пераклад гэты «ў значнай ступені веругоднасьці можна прыпісаць Скарыну«, бо ён »вельмі нагадвае прыёмы Скарыны ў тых выпадках, калі ў яго пад рукамі ня было царкоўна-славянскага перакладу дадзенае кнігі«.
**Перах.:** Бібліятэка Красінскіх, Варшава, рукапісны зборнік Нр. 82/3701/, бл. 77 — 91.
**Вопіс:** Е. Карский. Белорусы, т. III, ч. 2, б. 29 — 30. Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1926, б. 171. А. В. Флоровский. Чешская библия . . ., 1946, б. 221.

75. **1556—1561 гг. Перасопніцкае эвангельле.** Дзьве першыя эвангельлі пісаныя Міхалам Васілевічам з Санока ў Троіцкім Дварэцкім манастыры князёў Заслаўскіх (Луцкі павет на Валыні), дзьве апошнія, архімандрытам Перасопніцкага манастыра на Валыні (Ровенскі павет).
Гэта ці перапрацаваньне перапішчыкамі незахаванага Скарынавага перакладу Эвангельля, ці пераклад новы, але зроблены пад уплывам Скарынавых перакладаў. Сувязь із Скарынавымі перакладамі асабліва відавочная ў прадмовах і паслоўях, пісаных на ўзор, а часта навет і словамі Скарыны. Мова больш народная за Скарынаву, мае ў сабе ўкраінізмы.
**Перах.:** Дзяржаўная Публічная Бібліятэка Акадэміі Навук УССР.

**Вопісы:** М. А. Максимович. Книжная старина южнорусская (Временик, 1849, б. 2 — 3). Я. Ф. Головацкий. Несколько слов..., 1865, б. 233. П. И. Житецкий. О Пересопницкой летописи, 1878, б. 43 — III, 221 — 222. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 234 — 237. А. В. Флоровский. Чешская библия, 1946, б. 227.

76. **1568 г.** Водпісы кнігаў **Ёвы, Прыслоўяў Салямона, Эклезіясты, Песьні Песьням, Ісуса Сыраха, Прамудрасьці Божай Салямона.** Паўустаўны рукапіс, пісаны ў Яраслаўлі, на Украіне, Васілём, Жугаевым сынам. 340 бл.

Апрача самога тэксту, сьпісаныя тут і прадмовы ды пасьлоўі біблійных кнігаў выданьня доктара Скарыны, і ягоныя навет паясьненьні пад дрэварытамі, хоць самыя дрэварыты неперарысаваныя. На мясцох, дзе імя й прозьвішча доктара Скарыны, перапісчык падстаўляе ўсюдых свае, прысабечваючы, пры гэтым, навет і Скарынаў дактарскі тытул і прафэсію. Для прыкладу: «Скончалася книга св. Іова... працею и накладом избранного мужа в лекарских науках Доктора Василія Жугаева сына изь Ярославля, у Старом месте Ярославском...« Правапіс рукапісу бэўгарскі й малдава-валоскі.

**Перах.:** Зборы графа Талстога, I, 62. Публічная Бібліятэка, F. I. 4. Ленінград.

**Вопісы:** К. Калайдовіч и П. Строев. Обстоятельное описание, 1825, б. 30. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 219 — 220.

77. **1568 г. Апостал.** Рукапісная копія Апостала Скарынавага, пісаная «у доме Семиона Борщевского».

**Перах.:** Дзяржаўны Музэй у Кіяве.

**Вопіс:** В. Перетц. Отчет о работах, 1924, б. 625.

78. **1569 г. Біблійны кодэкс** «худаго человека» **Лукі** «з неславного града Тернополя». Захаваўся пачатак Бібліі да Кнігі Ісуса Сыраха ўлучна. У вялікшай сваей частцы гэта копія, зь некаторым перапрацаваньнем, кнігаў Бібліі Скарынавага выданьня, у меншай — новы пераклад.

**Вопісы:** S. B. Linde. M. Grecza — rys literatury rosyjskiej, 1823, b. 76. M. Wiszniewski. Historya literatury polskiej, t. VIII, 1851, b. 479 — 480. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 222 — 224. З. Ю. Тиховский. Южнорусский библейский кодекс, 1905, б. 337.

79. **Перад 1570 годам. Сьпісак Генадзіеўскай Бібліі,** у якім памешчаныя, у расейскім перакладзе, усе Скарынавыя прадмовы да кнігаў Бібліі, за выняткам прадмоваў да Кнігі Плач Ярэмін і Кнігі Прарока Данілы.

**Перах.:** Московская Синодальная Библиотека, Нр. 30. Цяпер: Государственный исторический музей, Москва.

**Вопісы:** Описание... Московской Синодальной Библиотеки, I, 1885, б. 2 — 3. И. Каратаев. Описание славяно-русских книг, I, 1883, б. 30. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 242 — 243.

80. **1573—1577 гг. Біблія.** Рукапіс Сьвятаануфрыеўскага манастыра ў Львове. Рукапіс у ліст, 745 бл., пісаны пісарчуком Дзьмітром із Зенкова на Падольшчыне й іерэем Іоанам, «пастыром Хрыстовых овец... в неславном граде Маначине».

Побач тэксту перапісаныя тут і ўсе Скарынавы прадмовы. Магчыма гэта копія з рукапіснага арыгіналу Скарынавае Бібліі, бо ў рукапісе памешчаныя тэксты з прадмовамі ўсіх тых кнігаў Бібліі, якія ў друкаваным Скарынавым выданьні ня ведамыя. Прозьвішча Скарыны ў прадмовах не падаецца.

**Перах.:** 356 пачаткавых балонак у Сьвятаануфрыеўскім манастыры ў Львове, 385 балонак канцавых у Пагодзінскім Древлехранилище, Нр. 85, Публічная Бібліятэка, Ленінград.

**Вопісы:** Я. Ф. Головацкий. Ліст да Шафарыка, 1856, б. 47 — 49. Я. Ф. Головацкий. Несколько слов, 1865, б. 225 — 257. П. В. Владимиров, Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 221 — 234.

81. **Між 1563—1581 гг. Крэхіўскі Апостал.** Пісаны паўуставам, на заходнім Палесьсі, мае 332 бл. Знойдзены ў Крэхіўскім манастыры, павет Жоўква, Галіччына.

У васнове гэта пераклад зь берасьцейскае польскае Радзівілаўскае Біблії 1563 г., зроблены нейкім пратэстантам. Перакладнік карыстаўся, аднак-жа, і тэкстам Скарынавага Апостала, на які паклікаецца, падаючы прозьвішча Скарыны.

**Перах.:** ?

**Вопісы:** І. Огіэнко. Українська літературна мова XVI-го ст., 1930. І. Огіэнко. Крехівський Апостол 1560-х років, 1932.

82. **1593 г. Апостал.** Копія Скарынавага Апостала, пісаная Ермагенам Теслугоўскім, паўуставам, у ліст.

**Перах. (у 1911 г.):** Волынское Епархиальное Древнехранилище.

**Вопіс:** В. Н. Перетц. Отчет об экскурсии, 1911, б. 125.

83. **XVI ст. Псалтыр талковая.** Кніга пісаная паўуставам, у ліст, 216 бл. Паходзіць з Супрасьльскага манастыра.

Тэкст Псалтыра, гэта пераклад з гэбрайскае мовы, толькі папраўлены па Псалтыры скарынінскім. Прадмова із скарынінскага Псалтыра, з захаваньнем прозьвішча Скарыны.

**Перах.:** Віленская Публічная Бібліятэка.

**Вопісы:** Ф. Добрянский. Описание, 1882, Нр. 49, б. 61. П. В. Владимиров Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 242. П. В. Владимиров. Обзор, 1890, б. 130

84. **XVI ст. Кнігі Прыслоўяў Салямона, Прамудрасьці Божай Салямона, Песьні Песьням, Эклезіясты, Ісуса Сырахавага.** Гэта копіі кнігаў Скарынавага перакладу, памешчаныя ў большай рукапіснай кнізе.

У водпісе скарынінскі тэкст і прадмовы, з паданьнем ягонага прозьвішча, ёсьць адхіленьні толькі ў правапісе.

**Перах.:** Зборы графа Талстога, II, Нр. 267. Публічная бібліятэка, Q. I. 6. Ленінград.

**Вопісы:** К. Калайдовіч и П. Строев. Описание, 1825, II, б. 428 — 429. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 219.

85. **XVI ст. Эклезіяст,** з паясьненьнямі. Рукапіс пісаны паўуставам. Тэкст супадае з астроскай Бібліяй 1581 году, але сустракаюцца ў ім цытаты й Скарынавага перакладу з паданьнем яго прозьвішча.

**Перах.:** Зборы Ундольскага. Государственная Библиотека СССР, Масква.

**Вопісы:** Славяно-русскія рукописи Ундольского, 1870, Нр. 13, б. 15. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина, 1888, б. 242.

85а. **XVI ст. Кніга Данілы.** Пераказ зьместу кнігі прарока Данілы з паясьненьнямі.

Цытаты тэксту паводле Вульгаты, мова на ўзор Скарынавай. Паясьненьні, гэта пераказ прадмовы Скарыны да Кнігі Данілы з прапушчаным аднак-жа прозьвішчам Скарыны й набліжэньнем мовы да мовы расейскай.

**Перах.:** Зборы Ундольскага, рукапіс Нр. 18, бл. 274—279. Государственная библиотека СССР, Масква.

**Перадрук:** И. Е. Евсеев — Толкования на книгу пророка Данила в древнеславянской и старинной русской письменности (Древности. Труды Славян-

